4С (Бел)
Ж 67

Рэдактары:
Ю. Ф. Мацкевіч, І. Я. Яшкін

Рэцэнзенты:
кандыдаты філалагічных навук
Я. М. Камароўскі і Е. С. Мяцельская,
А. А. Крывіцкі, В. Б. Хацкевіч

Ж 67 **Жывое** слова. [Рэд. Ю. Ф. Мацкевіч, І. Я. Яшкін] — Мн.: Навука і тэхніка, 1978.— 288 с. (АН БССР. Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа). У перапл.

Кніга змяшчае падборкі мясцовых народных слоў з розных раёнаў Беларусі. Кожны артыкул афармлены ў выглядзе невялікага слоўніка. Прыводзіцца багаты ілюстрацыйны матэрыял. Даюцца кароткія паведамленні аб з'явах з народнага жыцця. У канцы падаецца адзіны алфавітны спіс усіх рэестравых слоў.

Разлічана на моваведаў, літаратараў, этнографаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца родным словам.— Бібліягр. у падрадк. заўвагах.

Ж $\frac{70105-085}{М 316-78}$ 49—78 4С (Бел)

# УСТУП

Народная (дыялектная) лексіка, яе багацце, сінанімічная разнастайнасць з кожным годам становяцца ў айчынным мовазнаўстве прадметам больш дэталёвай рэгістрацыі і больш глыбокага вывучэння. Лексічныя матэрыялы шырока выкарыстоўваюцца разнастайнымі даследчыкамі ў іх працах пра Беларусь, пра ўзаемадзеянне беларусаў з іншымі народамі. Тэхнічны прагрэс, хуткае развіццё эканомікі і культуры прыводзяць у нябыт старую рэчаіснасць. Успаміны аб ёй захаваліся толькі ў памяці старэйшага пакалення. Таму выяўляць семантыку традыцыйнай лексікі робіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Змяняецца лексічны склад, адбываецца пераасэнсаванне старых слоў, фарміраванне новай моўнай сістэмы. Так, слова *лагýн* 'заднёная з двух бакоў бочка або кадушка з накрыўкай збоку' стала абазначаць *бітóн* для малака на ферме (Любанскі раён), а *страхóй* сталі называць на тэрыторыі ўсёй рэспублікі толькі *капёж* у шыфернай ці цынкавай *крышы* і г. д.

У дадзенай кнізе, як і ў трох папярэдніх («З народнага слоўніка» — 1975, «Народнае слова» — 1976, «Народная лексіка» — 1977), падаюцца падборкі традыцыйнай лексікі, якія запісаны ў сучасных гаворках розных раёнаў Беларусі. Пераважную большасць складаюць малавядомыя ці зусім невядомыя народныя тэрміны, назвы з розных галін старых мясцовых заняткаў, разнастайных адносін паміж людзьмі, рэшткі старажытнага светаўспрымання. Упершыню даецца лексіка народнай харэаграфіі.

Мясцовыя словы і прыклады да іх пададзены ў фанетычным запісе графічнымі сродкамі беларускага літаратурнага пісьма і ўпарадкаваны па алфавіту. Ва ўсіх загалоўных словах адзначан націск. Дадаткова ўведзен

знак *ъ*, які абазначае ненаціскны рэдукаваны галосны няпэўнай якасці (знак *ь* абазначае толькі мяккасць папярэдняга зычнага). Паміж прыстаўным *д* і карэнным *з* ставіцца апостраф (*над'зялянь, над'земны* і г. д.). Выбухное *г* у ілюстрацыйных прыкладах выдзелена графічна: **г**. Дыфтонгі і закрытыя галосныя *ô, ê* перадаюцца літарамі *о, е, э*. У рэестры некаторых слоўнікавых артыкулаў падаюцца відавыя пары дзеясловаў, абсалютныя сінонімы і словаўтваральныя варыянты. Новыя словы сустракаюцца і ў ілюстрацыйным матэрыяле. Знайсці любое новае слова дапамагае ў канцы кнігі агульны індэкс. У выніку транслітэрацыі ўсе лексемы, вынесеныя ў індэкс, набліжаны да «літаратурных». Асобна пададзены алфавітным спісам агульнапрынятыя скарачэнні. У матэрыялах некаторых артыкулаў маюцца свае скарочаныя ўказальнікі.

## СПІС АГУЛЬНАПРЫНЯТЫХ СКАРАЧЭННЯЎ

*абразл.*— абразлівае
*адз.*— адзіночны лік
*асудж.*— асуджальнае
*выкл.*— выклічнік
*груб.*— грубае
*дзеепрым.*— дзеепрыметнік
*дзеепрысл.*— дзеепрыслоўе
*ж.*— жаночы род
*займ.*— займеннік
*зак.*— закончанае трыванне
*зборн.*— зборны
*злучн.*— злучнік
*зневаж.*— зневажальнае
*іран.*— іранічнае
*лаянк.*— лаянкавае
*м.*— мужчынскі род
*мн.*— множны лік
*н.*— ніякі род
*нов.*— новае (слова, якое раней не ўжывалася ў лексіцы дадзенай вёскі)
*незак.*— незакончанае трыванне
*непахв.*— непахвальнае
*памянш.-ласк.* — памяншальна-ласкальнае
*перан.*— пераноснае значэнне
*прым.*— прыметнік
*прыназ.*— прыназоўнік
*прысл.*— прыслоўе
*рэдк.*— рэдкаўжывальнае
*Т.*— творны склон
*у знач.*— у значэнні
*часц.*— часціца
*экспр.*— экспрэсіўнае

# Лексічныя асаблівасці гаворак

*Г. М. Аляксейчык*

## ДА СЛОЎНІКА НАВАГРУДЧЫНЫ

Змешчаныя ў артыкуле словы сабраны ў в. Азяраны Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці ў час дыялекталагічнай экспедыцыі па збору матэрыялу для Лексічнага атласа беларускай мовы.

Вёска Азяраны, паводле паданняў, узнікла ў XVII ст., яе жыхары, акрамя земляробства, займаліся яшчэ ткацтвам. Гаворка вёскі па фанетычных і марфалагічных рысах тыповая для Навагрудчыны [1]. Лексічны матэрыял прадстаўлен у артыкуле падборкай мясцовых слоў, якія не зафіксаваны «Беларуска-рускім слоўнікам» (1962) ці маюць у ім паметы «абласное», «простанароднае», «размоўнае».

Таксама не ўключаны ў падборку словы, змешчаныя хаця б у адным з такіх збораў лексікі, як «Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці» (1972) Т. Ф. Сцяшковіч, «Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» (1970 і 1974), «З народнага слоўніка» (1975), у дыялектных слоўніках П. У. Сцяцко (1970 і 1972).

АБДЗЁРКА *ж.* Крупы хатняга вырабу. *Калі мы крупэ́ са́мы абдзіраям ці аббіваям, гэта абдзёрка, або яшчэ кажам, адабітыя крупэ́.*

АДЖЫ'М *м.* Астаткі мокрага попелу ад лугу. *Учора бялізну мыла, потым аджым у гарот выкінула.*

АЗО'ЛЫ *толькі мн.* Гл. *аджым. Палатно золяць лугам, а пасьля азолы выкідваюць.*

АЗЫРАВА'ТА *прысл.* Сыра. *Неяк сёднячы на вуліцы азырава́та, мо́кро.*

АЗЫРАВА'ТЫ *прым.* Сыры. *Надочы* [пазаўчора] *такі дзень быў азыраваты.*

---

[1] З народнага слоўніка. Мінск, 1975, с. 64.

АПА′РА *ж.* Частка ракі, якая зімой не замярзае. *Глядзі, не ўваліся ў тую апару, што за вёскай, табе па́ра паткажа, дзе яна.*

АПСУЮ′СКІ *мн.* Саюзкі. *У ботах Міколы трэба апсуюскі рабіць.*

АПЦЁГІНЫ *толькі мн.* Мяккія адходы пры апрацоўцы льну. *Апцёгіны — тое, што астаецца мяккае, калі бабы труць лён.*

АСМА′ЛКІ *мн.* Падгарэўшыя часткі варанай бульбы. *Вельмі асмалкі люблю, але каб не зусім чорныя былі.*

АСО′ЧНІК *м.* Асака. *Улес учора мой малы ў асочнік — парэзаўсё.*

АТРЭ′ПІНЫ *толькі мн.* Гл. *апцёгіны. Атрэпіны застаюцца, калі трэш лён, яны мяккія.*

АЦЯ′ГІЧЫ *толькі мн.* Гл. *апцёгіны. Ацягічы — мяккія атходы, а кастрама́, ці кастра́ — цьвёрдыя.*

АЧАЯ′ *ж.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў, куды засыпаюць зерне. *Вытры з ачаі добра, будзям зарас сыпаць збо́жо.*

БАГУНЕ′Ц *м.* Багун.

БАЛАЦЯ′НЬКІ *мн.* Маленькія чырвоныя мурашкі. *Гэтыя балацянькі вельмі кусачыя.*

БАНЯ′К *м.* Бітон для малака. *Вунь баняке́ Маруся паве́зла — калгас малако здае.*

БАЎТАЛА′НКА *ж.* Яечня, прыгатаваная з дамешкай малака і мукі і запечаная ў чыгуне. *Калі такую яешню спячы на патэльні, а не ў цагане ў печы, то будзя ўжо не баўталанка, а грыбок.*

БІ′ТАЎКА *ж.* Ахапак сухога льну. *Бітаўкі бабы нясуць, трэба ісьці лён церці.*

БЛУ′ДЗЯНЬ *м.* Той, хто блудзіць. *Ты што, як блудзянь, сваёй хаты не пазнаеш, торкаешся ў розныя баке́.*

БО′НДЗІНА *ж.* Жывёла, якую бацькі давалі ў пасаг дачцэ. *Гэта раней было, бондзіну за дачкой да́валі, а зарас бондзінаў ніхто і не просіць, так ідуць.*

БРАШЧА′ЦЬ *незак.* Брынчаць (пра гук надбітай пасудзіны). *Талерка брашчыць, калісьці даўно трэснула.*

БРЫЗГО′ТА *ж.* Сырая пагода з мокрым снегам; слота. *Брызгота, як вам сказаць, гэ́то і сьнех мокры ідзе, і вільгаці мно́го, адным словам, на печы трэба ляжаць у такую пагоду.*

БРЫЗГУЛЕ′ *мн.* Махры вакол хусткі. *Налажы хуст-*

*ку на галаву як трэба, каб брызгуле было відаць, а то акруціла абы-як.*

БУ'БЛІКІ *мн.* Бутоны. *Вунь якія бублікі на кусьце! На бублікі ў нас яшчэ кажуць пупяхé.*

БУНТ *м.* Скрутак ільноваланкна пасля апрацоўкі на грэбені. *Пасьля грэбеня валакно скручваяцца ў бунтэ́, ці зьвяскі.*

ВАДЗЯ'К *м.* Дажджавы чарвяк. *Пайду вадзякоў накапаю, вадзяк до́бро на рыбалку.*

ВА'ХТА *ж.* Вір, падводная яма. *Вунь, глядзі, нейкая вахта, дна не відаць.*

ВЕРАЎЧА'НКА *ж.* Ручка ў вядры, зробленая з вяроўкі. *У нас вераўчанкі да вёдраў вельмі добра робяць, крапчэй за жалезныя. На іх кажуць і по́чапкі, але рэ́тко.*

ВЕ'ЯНЬ, ВІ'ЯНЬ *м.* Белая намаразь, якой пакрываюцца дрэвы зімой. *Калі ўзімку велькія маразэ́, веянь на дрэвах вісіць.*

ВО'ПАЦЬ *ж.* Эпілепсія. *Вопаць — гэта падучая хвароба, цяшкая вельмі, яна кідая чалавека, ён ляжыць і б'ецца.*

ВУ'СЯЛЬНІЦА *ж.* Вусень (матыля). *Матыль робіцца з вусяльніцы.*

ВУШЛА'ЧКА *ж.* 1. Курыца, у якой па баках галавы вырастае чубок. *Вушлачка і чуба́тка — яны падобны адна да аднэй, толькі ў вушлачкі чупкі вырастаюць па баках галавы, а ў чубаткі сьпераду чубок.* 2. Зімовая шапка з вушамі. *У нас зімову шапку з вушамі называюць вушлачкай.*

ВЫБО'Й *м. часцей мн.* ВЫБО'І. Яма, выбоіна на саннай дарозе. *Каля Дварца такія выбоі на дарозе, што і алтобус можа перакуліцца.*

ВЫ'ГРАБІНЫ *толькі мн.* Амецце.

ВЫДА'ЧА *ж.* Пасаг (маёмасць і грошы). *Я выходзіла замуш, дак бацька доў добру выдачу, а цяперачы ляхчэй выходзіць дзяўчатам.*

ВЫ'ДЫМІЦЬ *зак.* Вытрымаць цыбулю зімою ў цёплым месцы (каля печы). *Кап цыбуля не пайшла ў стрэлкі, яе патрэбна выдыміць каля печы, трымаць яе там, яна будзя крапчэйшая.*

ВЫ'ДЫМЛЕНЫ *прым.* Вытрыманы зімою ў цёплым месцы (каля печы). *Для пасаткі лепяй выдымленая цыбуля, якая выдымілася каля печы.*

ВЫ'КАШЧЫЦЬ *зак.* Выгарнуць (жар з печы). *У нас кажуць і выгарнуць і выграпці, але часьцей мы гаворым, што с печы жар трэба выкашчыць.*

ВЫ'СМАЛКІ *толькі мн.* Выжарына. *У прошлым годзе быў недалёка ад нас пажар у лесе — так зарас такія высмалкі!*

ВЫ'ШАЛІЦЬ *зак.* Прагнаць. *Во юрдыка сабралася, хопіць вам качацца па падлозе, а то ўсіх у момант вышалю.*

ВЫШЫВА'НКА *ж.* Вышыты ніткамі малюнак, які вешаюць на сцяну для ўпрыгожання. *Вышыванку бяруць у рамку і вешаюць на сьцяну.*

ВЯЗА'ЛЬНІК *м.* Тоўсты драўляны кручок для вязання. *Цяперачы вязальнікаў у продажы німа. Гэта ў мяня быў вязальнік калісьці — тоўсты, добра ім вязаць, і акуляры не патрэбны.*

ВЯТРУ'ЖЫНА *ж.* Моцны вецер. *Во, разыгралася вятружына, можа і дрэва паваліць.*

ГАРЭ'ЛЬНІК *м.* Гл. *вы́смалкі. Так глядзець на гарэльнік цяшко — лесу ж німа.*

ГЛІНЯ'НКА *ж.* Гліняная міска. *Ідзі пазыч глінянку ў сусецці, я сваю недзя згубіла.*

ГЛУХІ' *прым.* Пусты (пра хату). *У Азеран некалькі глухіх хатаў стаіць: німа нікога там ці адзін чалавек жыве.*

ГЛЫКНУ'ЦЬ *зак.* Глытнуць. *Паспрабуй сьмятанку, глыкні, хаця адзін глык зрабі — спадабаецца.*

ГНАЯ'К *м.* Жук-гнаявік. *У гнаі гнаяк водзіцца. Бачыш, гнаяке́ вылазяць.*

ГНІ'ДНІК *м.* Свінакроп. *Гнідпік — гэта такая трава, другія кажуць сьвінакроп, хто як назаве.*

ГНІЛЯ'К *м.* Драцянік. *Гніляк бывая ў картоплі, ён вельмі цьвёрды, жаўтаваты ш чорнай галоўкай.*

ГРУЧО'ЛЫ *мн.* Кавалачкі цвёрдай бульбы ў стоўчанай бульбяной кашы. *Во зрабіла кашу — які ж гэта ком! Адны грycholы ў ім.*

ГУ'БІНА *ж.* Грыб, які расце на ствале, на пні дрэва. *У лесе мно́го можна знайсьці гэтых губінаў, але якая карысьць с тых грыбоў.*

ГУ'ШТА'ЛКА *ж.* Гушкалка. *Калісьці мае малыя гушта́ліся на гэтай гушталцы, потым яна зламалася.*

ДАЖЫ'НЬНІК *м.* Кавалак хлеба, які закопвалі пры дажынках. *Дажыньнік закапвалі ў зямлю, а потым яго*

*давалі яшчэ маломy дзіцяці, кап яно хуччэй пачало гаварыць — так, старэнькія казалі, трэба рабіць.*

ДАКАЗА'ЦЯЛЬ *м.* Сведка. *Калі ў Дзятлаве быў сут, мой стары быў за даказацяля, казалі, што до́бро гаварыў.*

ДАРЫ'ЎКІ *толькі мн.* Заканчэнне ўборкі льну. *Дарыўкі хутко будуць — тады і атсьвяткуям іх. А яшчэ кажуць дабіркі.*

ДАСЕ'ЯЛКІ *толькі мн.* Святкаванне заканчэння асенняй сяўбы. *Мо́жно казаць дасеялкі, а старыя часьцей кажуць дасеўкі, але ўсе гаворaць, калі ўжо заканчваяцца асеньняя сяўба.*

ДАТЫ'ЧКІ *толькі мн.* Канцы асновы, якія адразаюцца пасля датыкання кроснаў. *Адрэш ты гэтыя датычкі, мо на што спатрэбяцца. На датычкі яшчэ кажуць датыка́льныя канцэ́.*

ДЗІКА'Р *м.* Камень для млына. *Дзікар — цьвёрды камянь, яго шукалі ў гарах для млына, ён шоў на пшанічны памол, а просты камянь — на ржаны памол.*

ДЗЫБА'К *м.* Прамая сцяблiна розных траў. *Глядзі, як аргіня ў мяне расьце, дзыбак, як той салдат. Дзыба́к — гэ́то мы завем бады́льлё, калі яно стаіць пра́мо.*

ДЗЫБАКЕ' *мн.* Казюлькі, якія бегаюць па паверхні вады. *Дзыбаке маюць доўгія ногі і ху́ценько бегаюць па вадзе.*

ДЗЯ'ПКА *ж.* Матыка з зубцамі. *Дзяпка вельмі падыходзіць картоплю абрабляць.*

ДЗЯРНО' *н.* Пырнік. *Дзярно — гэта хоць дзяры яго, хоць не, уся роўна лезя.*

ДРАКУ'ЦЬ *м.* Драсён.

ДРА'ПКА *ж.* Гл. *дзяпка. Васіль, пайдзі да Гэлі драпку пазыч мне.*

ЖА'БНІК *м.* Від шчупака. *Жабнікам у нас завуць шчупака, які доўгі і тонкі, а крыжня́к — кароткі і тоўсты.*

ЖМА'КІ *толькі мн.* Макуха. *Патаўклі се́м'ё, і жмакі асталіся, кудысьці на́до спатрэбіць.*

ЖУ'ЖАЛЕМ *прысл.* Вельмі хутка, моцна (цячы). *Учора я неяк на цьвік стала, так кроў жужалем шла, так мо́цно, ніколі не бачыла.*

ЖЫЧКО'ВЫ *прым.* Ярка-чырвоны. *Жычковы коляр вельмі прыгожы, ярка-чырвоны; я ўсё купляю жычковае. А кажуць так, жычковы ат слова жычка* [стужка], *як*

*агонь чырвоная, яе калісьці завязвалі жарабяці, кап яно не баялася ўрокаў.*

ЗАКАТУ'ЛАК *м.* Прамежак паміж печчу і сцяной. *Куды гэ́то я сваё ганучы паклаў? Мабыць, у закатулак засунуў, кап сушыліся.*

ЗАКАШЧЫ'ЦЬ *зак.* Загарнуць (жар). *Ужо час печ закрываць, закашчы жар у ямку.*

ЗА'КРУТНЯ *ж.* Вяроўка ці скручаны дубец, чым прымацоўваецца аглобля да саней. *Закрутню дрэ́нно зрабіў, неяк свабо́дно аглабля ходзіць.*

ЗА'ЛАЎКА *ж.* Заліў на рацэ ці возеры. *Часьцей кажуць залаўка, але можно і затока.*

ЗАПАПРЫ'СКА *ж.* Палачка, пры дапамозе якой закручваецца вяроўка на возе з дрывамі. *Запапрысак бывая дзьве, з імі ляхчэй увязаць вяроўкай ці ланцугом вос, на якім вязуць дровы.*

ЗАПАПРЫ'ШЧЫЦЬ, ЗАПУПРЫ'ШЧЫЦЬ *зак.* Закруціць вяроўку на возе з дрывамі пры дапамозе спецыяльных палачак. *Канешне, увязваюць дровы вяроўкай ці ланцугом, але калі есьць запапрыскі, то ямчэй з імі ўвязваць.*

ЗАПІ'НЬКА *ж.* Кнопка. *Запінька адляцела, трэба новую прышыць.*

ЗАСЕ'ЯЛКІ *толькі мн.* Пачатак сяўбы азімых. *Засеялкі пачаліся, мо́жно будзя пагуляць.*

ЗАСУЛІ'ЦЬ *зак.* Зрабіць што-н. дрэннае. *Ён мне такое засуліў, што ўсё жыццё пла́чу і пла́чу.*

ЗАХА'БІНА *ж.* Ухаба. *У нас каля дома такая захабіна, што могуць сані не толькі занесьці, але перавярнуцца.*

ЗА'ШЧАПІЦА, ЗА'ШЧАПКА *ж.* Клін для ўмацоўвання пярэдняга навоя. *Нешта ко́ло свабодно ходзіць, трэба зашчапіцай прыціснуць.*

ЗАШЧЫ'ТА *ж.* Загарадка вакол каменя ў млыне.

ЗДУ'ХА *ж.* Выжарына. *Здуха чыстая, там травы німа, але як да яе дабрацца па балоце?*

ЗДУ'ХАВІНА *ж.* Гл. *здуха. У нас на балоце есьць здухавіны, мо́жно ў іх нават глядзецца, але дайсьці да іх цяшко.*

ЗЕ'ЛІВА *н.* Раска. *Наша возера азеранскае амаль усё пакрыта зелівам, а некаторыя кажуць жабурэ́нням.*

ЗНО'ЙКА *прысл.* Ярка. *Гарыць знойка, гаварылі раней пра лучыну, а зарас так кажуць пра лампачку.*

ЗЬЛІ'ПАК *м.* Дрэва з двума стваламі. *Зьліпак — гэта калі два ствалэ́ з аднаго кораня тырчаць, але такія дрэвы рэтко бываюць.*

ЗЬЛІ'ПКІ *толькі мн.* Гліняныя гаршчочкі-спарышы. *Зьліпкі, ці спарышэ, калісьці ў мяне былі, вы бы пaглядзелі, але, на жаль, зарас не робяць зьліпкаў.*

ЗЯВА'НЯ *н.* Пазяханне. *Нешта зяваня разьбірая, мо класьціся спаць?*

І'ВЯНЬ *м.* Гл. *веянь. Была на вуліцы, такі там івянь на бярозе.*

ІКРА'Ч *м.* Ікра рыбы.

КА'ДАЎБЯНЬ *м.* Лодка, выдзеўбаная з суцэльнага тоўстага ствала дрэва. *Кадаўбянь — гэта даўней казалі, а зарас больш кажуць човен, але ўсё — лотка з дзеравіны.*

КАЛЬЦО' *н.* Абручы ў нераце. *У нас ма́ло кажуць каблук, а ўсё кальцо ў нераце.*

КАМО'РКІ *толькі мн.* Складкі (у смаржках). *У смаржко́х заўсёды бываюць каморкі, як складачкі нейкія.*

КАНО'ПНЫ *прым.* Канапляны. *Канопнае семяно добро на масло, калі выціскаць яго.*

КА'НЯ *м.* Гл. *баняк. Гэта такі бідон — каня, у ім малако возяць.*

КАПЯ'НКА *ж.* Малая капа сена. *Вунь капянка стаіць, і яе патрэбна ўбраць, а то дошч находзіць.*

КАРАБЭ' *толькі мн.* Маршчыны на твары. *Колькі табе гадкоў, дзяўчына? Нешта і карабоў не відаць.*

КАРЧУ'ШКА *ж.* Недагарэлае палена дроў. *Выкінь ты гэту карчушку, а то печ до́ўго не закрыяш.*

• КАСТРАМА' *ж.* Цвёрдыя адходы пры апрацоўцы льну. *Адны кажуць на цьвёрдыя атходы кастрама, а другі скажа кастра́, кастры́ца.*

КАЦУБЕ'ШКА *ж.* Гл. *карчушка. Як гэта ты паліш у печы — адны кацубешкі ляжаць.*

КАЧА'НКА *ж.* Калыска, якая стаіць на падлозе. *Кап дзіця не пла́кало, калыску гэту качаюць, таму іназываюць качанка.*

КАШУ'ЛЬКА *ж.* Абалонка лічынкі пчалы. *Кашулька ад лічынкі ідзе толькі ў ашчыны.*

КО'ШЧЫЦЬ *незак.* Драпаць зямлю (пра курэй). *Вунь, куры граткі кошчаць, ідзі выгані, а то нічога не вырасьце.*

КРЫЖНЯ'К *м.* Від шчупака. *Кароткі і тоўсты шчупак — гэта крыжняк.*

КРЫ'ЖЫК *м.* Палка з ручкай або з крыжыкамі, якой б'юць масла ў бойцы. *Масло б'юць у нас крыжыкам — тады хутко.*

КУ'ЗЬНЯ *ж.* Прыстасаванне з кары для збірання ягад. *Калі зьбіраямся ісьці ў лес, загадзя робім такія каробачкі с кары, для ягат вельмі спадру́чно — кузьняй завем.*

КУРА'НКА *ж.* Хата без коміна. *Калісьці яшчэ ў куранцы жылі, у ей коміна не было, дым праз вакно выходзіў, кажуць яшчэ дымная хата.*

КУСУ'ЧКА *ж. экспр.* Сляпень. *Вунь, кусучкі каня абляпілі.*

ЛА'ЙБУШКА *ж.* Праснак. *Для лайбушкі цесто павінно быць кіслым, і пячы яе на паніве толькі.*

ЛАМА'НЯЦ *м.* Кавалак булкі з грэцкай ці пшанічнай мукі. *Калі чалавек памрэ, трэба пячы бонду грэцку, мо пшанічну, і ламаць яе рукамі і раздаваць. Вось гэтыя адламаныя кускі і называюць ламанцамі ў нашай вёсцы.*

ЛУЖЫ'ШЧА *н.* Поле, дзе раней было балота. *Гані цёлку на лужышча, там ужо су́хо, балота болей німа.*

ЛУК *м.* Дзяржанне ў кошыку. *Столькі накідала ў кошык картоплі, што лук злама́ўсё.*

ЛУПЕ'Ш *м.* Перхаць. *Памый галаву, вунь які лупеш.*

ЛУ'СТА *ж.* Харч у дарогу. *Гатуй мне ў торбу лусту: хлеп, гурке́, сала, яшчэ што-небудзь.*

ЛУШПА' *ж.* Грэцкія высеўкі. *Пасьля прасейваньня грача́най мукі астаецца мно́го лушпы. Мы лушпу даем скаціне.*

ЛЯЖА'К *м.* Палеглы лён. *Ляжак — дрэнны палёхшы лен, ён ляжыць.*

ЛЯПЯ'К *м.* Гл. *лайбушка. Ляпяке́ пякуць толькі на патэльні.*

МАКЛЯ'К *м.* Гл. *вадзяк. Маклякоў пасьля дажджу мно́го вылязла.*

МАЛАЧА'Й *м.* Малако (у самцоў рыб). *Не люблю я малачай, заўсёды выкідваю, калі рыбу чышчу.*

МАРТУ'ШКА *ж.* Невялікі скрутак лык.

МАР'Я'НКА *ж.* Марьяннік.

МАСКАЛЕ' *мн.* Падасінавікі. *Колькі маскалёў я ў гэтым годзе назьбірала! Люблю смажыць маскале. Але*

*ў нас кажуць часьцей краснагалóвікі ці падасіньнікі, а маскале гаворацъ у Кажухóўцах.*

МЕ'ШАЛЬНІЦА *ж.* Заараное на зіму поле. *Ужо ў нас мешальніцу гаруць.*

МЛЫНА'Т *м.* Той, хто меле на жорнах. *Мой мужык млынат з малых гадоў, але ад вайны ўжо не робіць.*

МЛЫНА'ЧЫЦЬ *незак.* Працаваць млынаром. *Усё жыццё я млыначыў, а цяперачы во сяджу на печы, німа здароўя, дзе тут млыначыць.*

НА'ВЯСЬ *ж.* Снег на дрэвах. *Калі мнóго сьнегу на дрэвах ляжыць, кажуць, во, навясь якая!*

НАГЛЯ'ДЗЯНЫ *толькі мн.* Абрад знаёмства бацькоў жаніха і яго сваякоў з нявестай. *У нас і зарас робяць наглядзяны, як і раней.*

НАДЗЯВА'ЛЬНІК *м.* Напарстак. *А чаго гэта вы без надзявальніка шыяця? З ім жа ляхчэй. А мой надзявальнік закаціўсё пат шафу.*

НА'Д'ЗЯЛЯН, НА'Д'ЗЯЛЯНЬ *прым.* Зеленаваты. *Купіла ўчора ў Дзятлаве хустку над'зялян, така прыгожа, на зелянцовым полі маленькія кветачкі чырвоныя.*

НА КО'КІШКАХ *прысл.* Згібаючы ногі ў каленях і трымаючыся на насках (садзіцца, прысесці і г. д.). *Чаго сеў на кокішках? Бачыш, хадзіць мне тут трэба.*

НАЦІ'РКА *ж.* Націранне. *Мой малы захварэў на запаленя лёхкіх, націрку ночу рабіла, ляхчэй будзя.*

НЕДАКУ'САК *м.* Недаедзены кавалак хлеба. *Чаго ты недакусак пакінуў, пан ты гэтакі.*

НІЦЯ'НЬКІ *толькі мн.* Сплецены з вяровачак абутак. *Ніцянькі раней насілі, як не было на што купляць лепшы абутак, мой бацька і яго бацька плялі з вяровак ніцянькі.*

ПАБО'ІЧ *м.* Біла ў церніцы. *Пабоіч у церніцы зламáўсё. У нас кажуць вяршнік, а ў Ёлянцы — пабоіч.*

ПАДГА'ЛІСТЫ *прым.* Сухарлявы (пра карову). *Падгаліста карова мáло есьць, яна не пражорліва, німа трыбуха ў яе, але сільная.*

ПАДГАЛУ'БЛЯНЫ *прым.* Блакітнаваты. *Вось у цябе шалік: не галубы і не шэры, не сіні, так, мáло галубы, мы кажам падгалубляны.*

ПАДДАЁНІК *м.* Даёнка. *Прынясі мне паддаёнік, забылася ў кладоўцы яго.*

ПАДДВО'ЙНІКІ *мн.* Дубэльты. *Мы ўжо паддвойнікі ўставілі — вельмі хóланно ў хаце.*

ПАДДЗЕ′ЎКА *ж.* Дзяўчына-падлетак. *У мяне падзейка расьце, вунь якая вымахала, вышэй за бацьку.*

ПАДМЁТАК *м.* Падэшва. *Падмётак — гэта зьнізу на ўсю нагу частка абутка, а падэшва — толькі да каблука.*

ПАКЛЁКНУЦЬ *зак.* Палегчы (пра пасевы). *У гэтым годзе збо́жо паклёкла — зусім палягло.*

ПАЛЯНЫ′ *прым.* Палявы (пра калыску). *Калісь у майго Пеці была паляная калыска. Ішла ў поля і палянную калыску з ім цягнула.*

ПАРНІ′К *м.* Пара ў лазні. *Вельмі ў лазьню хадзіць люблю, і кап парніку было мно́го.*

ПАРЭ′ПУШКА *ж.* Гл. *лайбушка. Мае малыя парэпушкі любяць. Усё просяць: ма́мо, спячы парэпушку.*

ПАСА′ЖНІЦА *ж.* Гл. *бондзіна. Раней, калі бацькі не дадуць у пасах дачцы пасажніцу, гэта значыць якуюнебудзь жывёлу, яна астане́цца ў дзеўках.*

ПАТПО′РВАЦЬ *незак.* Падганяць, прыспешваць (да работы). *У мяне Стась ленаваты, усё яго трэба падганяць, патпорваць, неяк марудна робіць.*

ПАТХВА′ТКА *ж.* Ручная лавушка з сеткі ў выглядзе сачка на доўгім шасце. *Малыя рыбаке́ робяць патхваткі і з імі ідуць рыбачыць.*

ПАЧА′ТКІ *мн.* Бутоны ў кветках. *Глядзі, якія пачаткі на кветках, вось-вось раскрыюцца.*

ПАЧЧЭ′П *м.* Вяроўка з пятлёй у шыбеніцы. *Толькі ў шыбяльніцы бывая паччэп.*

ПАЧЧЭ′ПНІК *м.* Вісельнік. *Не дай божа сасьніць ночу паччэпніка!*

ПЕРАСЫПА′ЦЬ *незак.* Рамантаваць агарожу. *Вунь частакол паваліўсё, трэба перасыпаць яго, а то сьвіні лезуць у гарот.*

ПЛЕТНЯЧО′К *м.* Гліняны гаршчок, аплецены бяростай, дротам. *Я вам плетнячок паказала бы, дык сястры аддала.*

ПЛЫВА′К *м.* Рагоз. *Плываке́ бываюць толькі на балотах, а шышкі на плываку называюць таўкача́мі.*

ПО′ТРАЙКІ *толькі мн.* Тры ніці, якія складаюць пасму. *У пасьме ро́ўно тры ніці, гэта чы́сьліна, або потрайкі.*

ПРАСЕ′КА *ж.* Аддушына. *Лёт трэба прасячы і будзя прасека, а прало́мка — гэта аттуліна, якая сама праломіцца, калі ступіш, калі трошкі зашэрхла.*

ПРА'ТАЦЬ *незак.* Хаваць (нябожчыка). *Трэба заўгра ісьці на хаўтурэ́, сусет памёр — будуць пратаць.*

ПРЫ'ВАРАЧНЫ *прым.* З сумесі ячнай і грэцкай мукі. *Прыварачну муку яшчэ называюць про́сто пры́варкам.*

ПРЫГО'ЖВАЦЦА *незак.* Прыхінацца пры сустрэчы. *Зарас каля магазіна Валю сустрэла, яна з Дварца прыехала, падыходзіць да мяне, прыгожваяцца — не забыла, відаць.*

ПРЫ'ЛІПКІ *толькі мн.* Бакавыя нарасці ў печаным хлебе. *Як ты хлеп пякла, куды глядзела? Вунь прыліпкі ў яго з бакоў.*

ПРЫПА'СЬВІЦЬ *зак.* Падкарміць (пра карову). *Прыпасьвіць трэба трошкі карову на полі, паткарміць, каб яна потым цішэй была, не лётала па полі.*

ПУ'ГІ *мн.* Расшырэнне вен. *Пугі баляць, паглядзі на ногі.*

ПЫЖЭ' *мн. перан.* Гл. *бублікі. Вой, якія пыжэ ў мяне ў букеце; як распусьцяцца, будзя вельмі прыгожа ў хаце.*

ПЫ'РЫН *м.* Гл. *дзярно. Пырыну ў гародзе шмат.*

РАЖО'К *м.* Невялікая вышытая сурвэтка для ўпрыгожання. *Ражок, калі выш'юць, вешаюць на дзьверку шапы, на ложак, дыван, сьцяну вуглом наверх, каб быў ражок.*

РАЗВАДЗЕ'ЛЬНІК *м.* Мужчына, які развёўся з жонкай. *Разводзельніка яшчэ называюць разлу́чнік, разво́днік.*

РАЗВАДЗЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Жанчына, якая развялася з мужам. *У нас па сусецтву развадзельніца жыве, нічога, спраўная жанчына.*

РАЗЬНІ'ЦА *ж.* Від асакі. *Разьніца — гэта трава такая з вострымі краямі, можна лёхка парэзацца.*

РАСКАВЕ'ЗІЦЬ *зак.* Разбіць да крыві. *Чаго равеш? — Губу раскавезіў? — Не трэба было лесьці да Толіка.*

РОЎНІЦА, РУ'НІЦА *ж.* Раўніна. *Каля Азяран роўніцы німа.*

РУБІ'ЦЬ *незак.* Нарошчваць (пра кругі на рагах у каровы). *Карова рубіць рысэ́, так гаворaць у нас.*

РУ'ЛЯ *ж.* Лапатка без мяса. *Ідзі ў кладовачку і прынясі рулю, можа як наскрабем трохі мяса з яе.*

РУПЦЭ' *мн.* Кругі на рагах у каровы, па якіх вызна-

чаюць узрост. *Колькі рупцоў на рагах каровы, значыць столькі ёй гадоў.*

РЫСЭ′ *мн.* Гл. *рупцэ. Колькі гот карове, столькі нарубіла рысуў, гаворым мы ў Азяранах.*

САБА′КА *м.* Палка для ўмацоўвання кола задняга навоя.

САРАКАВІ′К *м.* Дзень 9 сакавіка (па ст. ст.). *У каго пчолы, пякуць на саракавік сорак маленькіх булачак і носяць па суседзях, каб раіліся пчолы.*

САРЖА′ТКА, СЯРЖА′ТКА *ж.* Шаршатка. *У сар жатку тоўсту нітку засадзіць ляхчэй, яна спецыяльна прызначана для тоўстых нітак.*

СІНЯ′ЎКА *ж.* Агульная назва травяністых раслін, якія цвітуць сінім колерам. *Мы ўсялякую траву называям сіняўкай, калі ў ёй сінія кветкі, калі яна цьвіце сінім цьветам.*

СКАБУРЫ′НА *ж.* Рабрына ў свінней, авечак. *У каня і каровы рабро называюць рáбрынай, у авечкі, у сьвіні скабурынай, а калі скаціна худая — тады гавораць, дрáбы вунь якія.*

СКАС, СКА′ЗІК *м.* Бяльмо на воку. *Сказік з'явіўся, кажуць у нас. Скас гаворaць мáло.*

СКУЁТНІК *м.* Хваёвыя і яловыя іголкі. *Бач, сколькі скуётніку ў гэтым лесе, у нядзелю прыду назьбіраю.*

СЛУЖБО′ВІК *м.* Чарка без ножкі. *Падай, гаспадыня, службовік, вып'ям за сьвя́то. Мне службовік больш падабаяцца, ляхчэй трымаць яго ў руцэ, тут ножкі німа.*

СЛЫХ *м.* Рэха. *Сусет таку вяліку хату пабудаваў, што слых ідзе ў ёй, не раўнуючы, як у лесе.*

СМО′ЛЬНЯ *ж.* Смалакурня. *Тут калісьці жыў памешчык Дамэйка, дык гэта яго смольня была.*

СМЫРО′ДНІЦА *ж.* Лясны клоп. *Смыродніца пах дае дурны, ашчэ смыродніцу сьмердзюхóй называюць.*

СОС *м.* Вадкая частка стравы. *Мой стары сос пакідая, не п'е; яму давай мя́со.*

СО′СІК *м. ласк.* Вадкая частка стравы. *Гушчу я ў блёне не люблю, а вось сосік п'ю заўсёды.*

СПА′ТКІ *толькі мн.* Аб'едкі. *Спаткі ў нас ідуць скаціне, але іх мáло астаецца.*

СПРАКУ′ДЗІЦЬ *зак.* Гл. *вышаліць. Трэба спракудзіць усю гэту араву, каб не мяшала нам з вамі гаварыць.*

СТАРЫ′ЗЬНІНА *ж.* Старое парванае адзенне. *Што ты ўсё старызьніну носіш? Новага ў шапе пóўно.*

СТАЯ′К *м.* Непалеглы лён. *Стаяк — гэта добры лён, ён не палёх, як ляжáк, ён стаіць.*

СУ′ТАНЬКІ *толькі мн.* Прамежак паміж печчу і сцяной у хаце. *Калі будуюць хату, амаль заўсёды робяць сутанькі.*

СУХІ′: СУХА′Я СЕРАДА′. Серада веліконднага тыдня. *У сухую сераду, ці ў градóвую, нельга нічога было рабіць.*

СУШЫ′НА *ж.* Сухастоіна. *Гэту сушыну трэба сьпілаваць, нічога з яе не будзя, толькі сьвет закрывая.*

СЬЛЕ′ПЯЦЬ *ж.* Гл. *брызгóта. Сьлепяць — вельмі ж дурная пагода, мóкро, азыравáто, сьнех ідзе, адны хваробы ад гэтай сьлепяці.*

СЬПІЧА′К *м.* Малаток, якім абрабляюць камень для млына; клявец. *У сьпічаку вельмі вострыя канцэ́, яны сыходзяць на ноль. Сьпічак мая чаранок ці чарашок, за які трымаюць гэты малаток.*

СЬЦЕ′ЛІВА *н.* Сцелішча. *Час ужо лён са сьцеліва падымаць — даўно паслалі.*

СЬЦЕ′НІЦЦА *незак.* Хмарыцца. *Нешта сьценіцца сёньня, каб дошч не пайшоў.*

СЬЦІСК *м.* Камень, якім націскаюць сыр. *Трэба палажыць сыр у чыстую трапачку, аццісньць ваду, а потым на сыр пакласьці сьціск, каб ён ляжаў, гэты сьціск, і сыр гатовы.*

СЯДЗЯ′К *м.* Дзіця, якое позна пачынае хадзіць. *Дрэнна, калі дзіця пóзно пачыная хадзіць; мой старшы быў сядзяк, так зарас столькі хвароп у яго!*

ТА′ДНЫ *прым.* Танны. *У нашым магазіне багáто тадных таварай.*

ТАЎКА′Ч *м.* Катах рагозу. *Чорныя шышкі называюць таўкачамі, і растуць яны на расьлінах на балоце.*

ТРО′СЬНІК *м.* Асот. *Тросьнік расьце на ціхай вадзе, але на балоце яго німа.*

ТРУБА′ *ж.* Вялікі скрутак лык. *Калі много лык, скручваям іх у трубу, менш — у мартýшку.*

ТРУХЛЁ *н.* Гнілое дрэва. *Глядзі, якое трухлё стаіць, зарас паваліцца.*

ТЫ′ЛЬНІК *м.* Кароткая дошка, якой закрываюць уваход у вулей з тылу. *Даўжнік закрывая бакавы ўвахот, а с тылу — тыльнік.*

УЗЛУ'ЖЖА *м.* Месца каля луга. *На ўзлужжы можа быць мóкро, не хадзі туды, сядзі ў хаце.*

УКО'ШЧВАЦЬ *незак.* Украбаць гной у баразну перад пасадкай бульбы. *Трэба пайсьці ўкошчваць гной — сёднячы картоплю будзям садзіць.*

УПЕ'КІШЧА, УПЕ'КІШЧО *н.* Папрок. *А потым ты мне ўпекішча зробіш; не, лепяй сама думай, як сказаць яму.*

УСТУ'ПКІ *толькі мн.* Сандалі. *Уступкі — так кажуць, бо ў іх лёхка ўступіць, улесьць.*

УТАРА'К *м.* Другі рой. *Першы рой у нас называюць пяршáк, другі — утарак, ну, а на трэці рой кажуць трацяк.*

УЦІКАНЕ'Р *м.* Уцякач. *У вайну па лясах мнóго ўцікнераў было. Некаторыя кажуць зьбяглéц.*

УЮ'ШВАЦЦА *незак.* Раз'юшвацца, вельмі злавацца. *Мой стары, калі толькі пажаніліся, як уюшваяцца, хоць с хаты бягі, такі страшэнны быў.*

ФА'НДЫ *мн.* Гл. *каморкі. Смаршкі находзяць па фандах, яны як склаткі на іх.*

ЦЫБУ'ЛЬКА *ж.* Асака светла-зялёнага колеру, якая пачынае расці ранняй вясной. *Цыбульку добра ядуць коні і каровы, гэта такая асака.*

ЦЫБУ'ЛЬНІК *м.* Гл. *цыбулька. Цыбульнік — гэта асочнік сьветла-зялёны, яго любяць каровы.*

ЦЬВЁРДЫ *прым.* Густы, круты (пра кашу). *Цьвёрду кашу зварыла, трэба цяперачы малаком разбаўляць.*

ЦЯ'МЯР *м.* Цемра. *Які цямяр, можна галаву зламаць у гэтым калідоры.*

ЧА'ТА *ж.* Чарада птушак. *Вунь гараб'і ляцяць — цэлая чата, так у нас гаворадь.*

ЧАЧО'ТКА *ж.* Ствол бярозы з кручанымі валокнамі. *Ствол у бярэзіне вельмі цьвёрды і ўвесь кручаны, як бы ў квяткох — такую бярэзіну называюць у нас чачоткай.*

ЧХА'ЧКА *ж.* Чханне. *Напала на мяне чхачка, мо разоў дзесяць чхнула, так і ехала са сваёй чхачкай да Навáгрутка.*

ША'РПІНА *ж.* Драпіна. *Дзе гэта ты бадзяўсё, мой міленькі? Ат чаго гэта шарпіны ў цябе на твары?*

ШАТРО'ВІНЫ *толькі мн.* Адходы памолу ад круп і ад шатраванай мукі. *Калі мелям крупэ́, што астаецца — гэта шатровіны.*

ШАХАЦЕ'ЦЬ, ШАХЦЕ'ЦЬ *незак.* Шастаць (пра

мышэй). *Трэба ката ўзяць, каб мышэй палавіў, а то вунь як шахацяць пат падлогай.*

ШЛЯМАВА'ЦЬ *незак.* Аздабляць (пра жаночае адзенне). *Давай буду тваё пла́цё шлямавацъ, а то нейкае яно про́стаё, ніякай шлямоўкі.*

ШЛЯМО'ЎКА *ж.* Аддзелка на жаночым адзенні. *Хачу зрабіць шлямоўку каля шыі на плаці Вольгачкі, заўтра яна ідзе на день нараджэння.*

ШНАРЭ' *мн.* Гл. *рупцэ. Шнарэ — гэта кругі ў каровы на рагах, яшчэ кажуць рысэ́.*

ШПА'РАВІНА *ж.* Прамежак паміж пальцамі на нагах. *Ты пратры гэту шпаравіну, а то папарыцца яна.*

ШРАП *м.* Шрам. *Вунь які шрап аста́ўсё ў нашага Тузіка — с сусецкім сабакам падраліся.*

ШЧАПАКЕ' *мн.* Трэскі. *Трэба вячэру гатавацъ, пайду шчапакоў нашчапаю.*

ШЧАРСУ'Н *м.* Жыхар в. Шчорсы і яе аколіц. *Калі чалавек жыве ў Шчорсах, яго дражняць шчарсун. Вунь, шчарсунэ́ паехалі.*

ШЧЫКІТА'ЦЬ *незак.* Крычаць (пра сароку). *Нешта мне не падабаяцца, як сарока шчыкіча.*

ШЫ'БЯЛЬНІЦА *ж.* Шыбеніца. *Ніколі ў сваім жыцці шыбяльніцы не бачыла.*

Ю'РДЫКА *ж. экспр.* Група гарэзлівых дзяцей. *Юрдыка — так гаворацъ у нас на малых дзяцей, калі яны зьбіраюцца грумадой.*

Я'ТКІ *прым.* Злосны (пра каня). *Не патхадзі да каня, вельмі яткі, можа ўкусіць.*

*А. М. Булыка*

# З ЛЕКСІКІ в. СЕЛІШЧА НАВАГРУДСКАГА РАЁНА

Вёска Селішча знаходзіцца ў 12 км ад Навагрудка па дарозе на Любчу. Гаворка гэтай вёскі, як і ўсёй Навагрудчыны, вельмі блізкая да беларускай літаратурнай мовы. Разам з тым у ёй выразна вылучаюцца некаторыя асаблівасці — захаванне канцавога ненаціскнога *о* ў назоўніках і прыслоўях (*жы́то, се́но, ма́мо, та́то, ке́пско, мно́го*), наяўнасць прыстаўнога *г* перад пачатковым *а* (*гану́ча, гарэ́х*), адсутнасць падаўжэння зычных у інтэрвакальным становішчы (*вясе́лё, зе́лё, сьвіня́*), наяўнасць канчатка *-а* ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў ніякага роду (*во́кна, гнёзда, кураня́та, цяля́та*) і інш. Ёсць адрозненні і ў галіне лексікі. У прыватнасці, тут ужываюцца словы, якія не знайшлі адлюстравання ў «Беларуска-рускім слоўніку» (1962).

АБО′ЛТУС *м. абразл.* Асталоп, тупіца. *Гэты аболтус трэці год у адном класе сядзіць.*

АБШЧАПЕ′РЫЦЬ *зак.* Абняць. *Ён яе як абшчаперыў, дак і трымае.*

АБЭ′РЖА *ж.* 1. Вялікае няўтульнае памяшканне. *Колькі ні палі ў гэтай абэржы, уся роўна холадно будзе.* 2. *перан. абразл.* Тоўстая нязграбная жанчына. *Каб такую абэржу накарміць, трэба цаган картоплі наварыць.*

АДПЫНІ′ЦЬ *зак.* Адагнаць. *Адпыні карову, бо зараз у канюшыну залезе.*

АДЫ′МАЧ *м.* Ануча, якой бяруць гаршкі з печы. *Занасіў рубашку, як адымач, можно гаршке з печы даставаць.*

АЖЭ′ВІНЫ *мн.* Ажына. *Столько ажэвін за гумном наеліся, аж кісло ў роце.*

АПА′ЛКА *ж.* Праснак. *Я сёння нічога не варыла, только апалак напякла.*

АПЛЮ'К *м.* Аплік. *Трэба прышыць аплюк у каптан, бо холадно ў шыю.*

АПО'ЛЕЦ *м.* Кавалак (сала). *За гэту работу я яму даў два апольцы сала.*

АСАЛАВЕ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца сонным, ачмурэць. *Я яму гавару, а ён саўсем асалавеў, нічога не панімае.*

АСМЫ'ЧО *н.* Адходы валакна пры трапанні льну. *Сабяры гэто асмычо, бо чапляецца за адзежу.*

АТАТУ'РЫЦЦА *зак.* Прывыкнуць да чаго-н.; абабіцца. *Ататурыўся на гэтай печы, нават на надворак высьці лянуецца.*

АШУ'ШКАЦЦА *зак.* Цёпла адзецца. *Ашушкалася, як капа, што і павярнуцца не можа.*

БАБЗДЫ'Р *м. абразл.* Мужчына, які ўхіляецца ад мужчынскай кампаніі і больш знаходзіцца ў жаночай. *Гэты бабздыр вечно каля бабаў аціраецца.*

БАЛДАВЕ'ШКА *ж.* Патаўшчэнне на канцы кія. *Бяры кіёк з балдавешкаю, будзе чым ад сабак адбівацца табе.*

БАЛЁНІК *м.* Шарык (гумавы ці са свінога мачавога пузыра). *Надзьмі балёнік, бо ў мяне духу мало.*

БАЦ *м.* Пацук. *Як пачнуць бегаць па сенях бацы, страшно робіцца.*

БЁЗ *м.* Бэз. *У нас каля хаты шмат бёзу, вясною доўго цвіце.*

БІ'ЛО *н.* Спінка ў ложку. *Кароткаё ложко, цёнгля стукаесся галавою аб біло.*

БО'ЖАЯ КАРО'ЎКА. Земляны клешч. *Божая кароўка маленькая, але чырвоная-чырвоная, на траве добро відаць.*

БРЫЧ *м.* Мужчынскія штаны, звужаныя знізу і шырокія вышэй кален. *Шапка кругла, порткі брыч — гэто хлопец з Клюкавіч.*

БУ'ЛБАТКА *ж.* Бурбалка. *Калі ідзе дошч, у калюжынах шмат булбатак.*

БЫЧКІ' *мн.* Чорная парэчка. *Такая аскома ад бычкоў, што не ўкусіш хлеба.*

БЭ'ЙБУС *м.* Дарослы хлопец, які нічога не робіць. *Такі бэйбус у хаце, а сама па воду ходзіш.*

БЭНСЬ *м.* Байструк. *Прывяла бэнся ў хату і нікого не саромяецца.*

ВА'ЛАК *м.* 1. Прылада з ручкай і зубамі, якой качаюць бялізну. *Вазьмі ў каморцы валак і качалко і па-*

*качай плацё.* 2. Валок сена. *Сено зграбалі ў валкі, а потым копы рабілі.*

ВА'ЛЯН *м.* Вэлюм (вясельны). *У валяне яна была такая харошая, што ўся вёска прыходзіла глядзець.*

ВАРО'К *м.* Агароджаны поплаў у канцы сядзібы. *На варку вырасла высокая атава.*

ВО'ГРАДКА *ж.* Бакавая дошка на возе (якую закладаюць, калі возяць гной). *Калі знімеш воградку, до́бро скідаецца гной.*

ВУ'МЯНЁ *н.* Вымя. *Вунь якóё тóўстаё вýмянё ў каровы, мусіць дае шмат малака.*

ВУ'РДА *ж.* Вяртушка, зробленая з бярцовай касці свінні (калі нацягвалі за прымацаваныя да касці ніткі, яна круцілася і гула). *Жэня казаў, што калі я буду слухаць яго, зробіць мне вурду.*

ВЯТРО'ЎКА *ж.* Ятроўка. *Мая вятроўка прыходзіць да мяне кажны аўторак.*

ВЯТРО'ЎКІ *мн.* Басаножкі. *У вятроўках па такой гразі не пройдзеш.*

ГАЙДА'ШКА *ж.* Гушкалка. *У нас была ліпа з велькаю лапаю, добро было гайдашкі рабіць.*

ГАЛАВА'Ч *м.* 1. Апалонік. *У сажалцы развяліся галавачэ.* 2. *перан.* Чалавек з вялікай галавой (звычайна хлапчук). *Гэты галавач вечно ў сад лазіць.*

ГАРГА'РА *ж. абразл.* Вялікі нязграбны чалавек. *Мужык, такая гаргара, што ў дзверы не ўлезе.*

ГАРШЧЭ'НІК *м.* Вілы, якімі вымаюць гаршкі з печы.

ГАРШЧЭ'ШНІК *м.* Вілы, якімі вымаюць гаршкі з печы. *Гэтым гаршчэшнікам можно вымаць только малыя гаршке.*

ГА'ЧКА *ж.* Матыка. *Трэба самым гачкаваць бураке, а Зоська гачку як пазычыла, дак і не прыносіць.*

ГІЧА'НЁ *н.* Бацвінне з буракоў. *Навары гічаня, бо сьвіня аж равуць.*

ГРАБО'ЎКА *ж.* Вялікая каляровая святочная хустка. *Грабоўку завязваюць, калі ідуць на фэст.*

ГРАЗМО'ЛІЦЬ *незак.* Пэцкаць паперу; неакуратна пісаць. *Што ты ўсё гразмоліш? Награзмоліў так, што і праз акуляры не прачытаеш.*

ДЗЯРЖА'К *м.* Дзяржанне ў рыдлёўках і вілах. *У вілках дзяржак зламаўся.*

ДНУ'ШКА *ж.* Кухонная дошка. *Пакрышы цыбулю на днушцы.*

ДО′ЙЛО *н. перан.* Клін у штанах, цвікля. *Порткі хоць падперазаў бы, а то ходзіш, дойло адвесіўшы.*

ДРА′НКА *ж.* Бабка з цёртай бульбы. *З дранай картоплі пякуць аладкі, дранку і робяць галушкі.*

ДРАПКА′Ч *м.* Дзяркач. *Падай драпкач, трэба ў кухні замесці.*

ДРА′ПЦІ *мн.* Матыка з зубамі. *Драпцямі асыпаюць картоплі.*

ДУ′ЛЬКА *ж.* Пыл пры трапанні і часанні льну. *Завяжы хусткаю нос, а то дулькі налезе.*

ДЭ′РБІНА *ж.* Высокая тонкая дзяўчына. *Такая дэрбіна вырасла, а з дзецьмі ходзіць.*

ЁТАХ *м.* Ветах. *После ётаха будуць цёмныя ночы.*

ЖА′БЯРНІК *м.* Жабурынне. *Не купайся, тут адзін жабярнік.*

ЖЫГА′ЛО *н.* Джала. *Пчала ўпусціла жыгало ў лытку.*

ЗАБЭ′РСАЦЬ *зак.* Зашыць абы-як. *Давай зашыю рубашку, а то забэрсаў, як папало.*

ЗАСУКА′ЦЬ *зак.* Закасаць. *Калі месіш цесто, трэба засукаць рукавы.*

ЗАТАРАБА′НІЦЬ *зак.* Зацягнуць, завезці залішнюю колькасць чаго-н. *Затарабаніў два мяшке жыта, а яму ўсё мало.*

ЗМА′ЗАК *м.* Подмазка. *Калі тоўсты змазак, то аладкі добро пякуцца.*

ЗМЫ′ДЗГАНЫ: ЯК ЗМЫ′ДЗГАНЫ. Прысаромлены. *Ён ходзіць, як змыдзганы, нават глянуць на наш надворак баіцца.*

ЗРАЧЫ′ *зак.* Сурочыць. *Дзіця плача і плача,— мусіць, нехто зрок.*

ЗЯКРА′ТЫ *прым.* Вірлавокі, зіркаты. *Такі зякраты, а голку знайсці не можаш.*

КАВА′НКА *ж.* Кульба. *У яго каванка з закручанаю ручкаю.*

КАЛАБО′К *м.* Малы хлябок (магчыма, слова запазычана ў бежанстве з рускай ці ўкраінскай мовы ў час першай сусветнай вайны). *Не плач, я табе спяку калабок.*

КАЛАТО′ЎКА *ж.* Сварлівая жанчына. *Куды гэта калатоўка прыпрэцца, там заўсёгады сварацца.*

КА′НЯ *ж.* 1. Глухая сцяна ў хаце. *Настаўляў кулёў каля кані, а яны мокнуць, бо страха вузкая.* 2. Высокая

тоўстая груша. *Трэба зрэзаць каню, бо на ёй ужо грушы не растуць.*

ҚАПШУ'Қ *м.* Мёрзлая бульба, якая праляжала зіму на полі. *Қалі мы былі малыя, збіралі капшуке на аладкі і пяклі.*

ҚА'ЎҚА *ж.* Галка. *У коміне каўкі зрабілі гняздо.*

ҚІСЛА'Ч *м.* Тоўстая аладка з кіслага цеста. *Не плач — спяку кіслач, маслам памажам і нікому не пакажам.* (Дзіцячая прыгаворка.)

ҚЛЫПА'ВЫ *прым.* Қульгавы. *Қлыпавыя людзі ходзяць з каванкаю.*

ҚЛЫ'ПША *м., ж.* Қульгавы чалавек. *Гэты клыпша пакуль прыклыпае, то вечар будзе.*

ҚО'ЛАМАЗЬ *ж.* Мазь для калёс. *Қалі памажаш ко́ламазю, то коло не скрыпіць.*

ҚОМ *м.* Қамы. *Наесся ко́му і не кажы нікому.* (Дзіцячая прыгаворка.)

ҚРЭ'СЛО *н.* Қлін у штанах, цвікля. *Крэсло парва́ласё, а залапіць не ўмею.*

ҚРЭ'СЬВІЦЬ *незак.* Здабываць агонь пры дапамозе крэсіва. *Даўней крэсьвілі агонь крэсьвам.*

ҚРЭ'СЬВО *н.* Крэсіва. *Мне каваль быў зрабіў крэсьво з нажа, яно добро крэсьвіло.*

ҚУ'ДАСА *ж.* Мяцеліца, непагадзь. *Такая кудаса на дварэ, а ён недзе пацягнуўся.*

ҚУЛЬБА'ЧҚА *ж.* Падсядзёлак. *Без кульбачкі каня не запражэш.*

ҚУ'ЛЬҚА *ж.* Ручка на кассі ў выглядзе абагнутага лучка. *Қаб не памазоліць руку, трэба каб кулька гладкая была.*

ҚУНДЗЮ'Қ *м.* Қіндзюк; страўнік, начынены сечаным мясам. *Паршукоў кундзюк напхалі мясам. Пакаштуй, ці смашны я зрабіла кундзюк.*

ҚУРА'ЎҚА *ж.* Порхаўка. *Қалі наступіш на кураўку, яна лопае і курыць.*

ҚУ'РЦА *ж.* Қурыца. *Рабая курца добра нясецца, а белую трэба засячы.*

ЛАБА'С *м.* Будынак для сена з плеценымі з лазы сценамі і страхой. *Раней мой бацько складаў сено ў лабас.*

ЛА'НТУХ *м.* Тоўстая гультаяватая жанчына. *Гэты лантух нічога не робіць, а ходзіць, выставіўшы чэраво.*

ЛАПАНО'СЫ *прым.* З шырокім пляскатым носам.

*Янко дайганосы, а Міхась удайся па мацеры, бо лапаносы.*

ЛА'ПІНА *ж.* Латка на адзенні; кавалак тканіны. *У яго не рубашка, а адны лапіны. Вазьмі лапіну і вытры стол.*

ЛАТА'ШКА *ж.* Лотаць. *Вясною на балоце много латашкі, аж жойто.*

ЛЮБЯ'К *м.* Мяса без тлушчу. *Калі зварыш мясо, ён выбірае только любяк, а дзе яго набярэшся.*

ЛЮ'ХТА *ж.* Дымавы ход у грубцы. *Муляр паставій печку на тры люхты, павінно цёпло быць.*

МАЙНА'ЧЫЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што, без толку. *Майначыць светам, а талковаго слова ад яго не пачуеш ніколі.*

МАННА'РКА *ж.* Кароткае на кудзелі мужчынскае паліто. *Без маннаркі на таком холадзе здубянець можно.*

МАЦЁРА *ж.* Свінаматка. *Мацёра праз мяжу не пералезе — цыцкі па зямлі валочацца.*

МЫ'ЗА *ж.* Пыса. *У каровы на мызе балячкі.*

НАМЭ'ДРЫКІ *мн.* Шляя. *Парваліся намэдрыкі, пазвязвай хоць шнурком.*

НАСТРАПАЛІ'ЦЬ *зак.* Падвучыць, падбухторыць. *Цімох настрапаліць, а Пайлюк брэша як сабака.*

НЕЗГРАБО'ЦЁ *н.* Нязграбны чалавек. *Гэто незграбоцё вечно расхвошча што-небудзь.*

НЕ'МАРАСЦЬ *ж.* Псіхічнае расстройства, выкліканае моцным жаданнем дасягнуць чаго-н., зайздрасцю і інш. *Як убачыць у каго што новаё, дак пнецца сама купіць, аж яе немарасць бярэ.*

НІ'ЧАЛЬНІЦЫ *мн.* Ніты. *Збіраюся ткаць, парабіла нічальніцы.*

НЮ'ХАЎКА *ж. абразл.* Нос. *Маўчы, а то як дам ў нюхайку.*

ПАДБІ'ЦЁ *н.* Падкладка ў вопратцы. *Палажый каптан на печы, а ў ім падбіцё згарэло.*

ПАДНЯБЕ'НЁ *н.* Скляпенне ў печы. *Паднябенё ў печы патрэскаласё.*

ПАЛО'ЙКА *ж.* Жменя льновалакна. *Натрапала чатэры палойкі лёну.*

ПАЛО'ЎНЯ *ж.* Гаспадарчая пабудова для складвання мякіны. *У хаце горачо, дак я заваліўся ў палойні і выспаўся добро.*

ПАРШУ'К *м.* Парсюк. *Прадалі аднаго паршука, а другого карміць будзем.*

ПАШЧЭ'НКА *ж.* Сківіца. *Яблыко такоё кіслаё, што пашчэнкі звяло.*

ПЕ'РХАЦЬ *незак.* Залішне часта кашляць. *Выпі паранага малака, бо перхаеш, як авечка.*

ПЕ'ЧАНКА *ж.* Печаная бульба. *Смашно есці печанкі з варанаю капустаю, а можно пасыпаць солю.*

ПЛА'ЦЁ *н.* Бялізна. *Наша мама пайшла на ручай мыць плацё.*

ПЛАЦЯНКО'ВЫ *прым.* Палатняны. *Я саромеюся ісці на гулянё ў плацянковай сукенцы.*

ПО'СІК *м.* Надзьмуты мачавы пузыр свінні (дзеці звычайна насыпалі ў яго гарох і гулялі, як з шарам). *У нас учора калолі свіню, і я зрабіў посік.*

ПРАЛО'МКА *ж.* Палонка. *Ён ішоў па лёдзе і ўваліўся ў праломку.*

ПРЫ'ШЧЫЦЬ *незак.* Пражыць (гарох). *Пайду прышчыць гарох, бо дзеці бяруць прышчаны гарох у школу есці.*

ПУ'ЛЬВАР *м.* Пушок, наскубаны з вопраткі для здабывання агню крэсівам. *Каб выкрасьвіць агонь, трэба да крэменя прылажыць пульвар, а пульвар мяккі.*

ПЯЧА'ЙКА *ж.* Пякотка. *Я не магу есці дранкі, бо потым цэлы дзень пячайка пячэ.*

РАСХЛЯ'ШЧЫЦЬ *зак.* Адчыніць насцеж (дзверы, вокны). *Што ты расхляшчыла вокны, мухі наляцяць.*

РАСЧВА'ЛІЦЬ *зак.* Глыбока разрэзаць. *Тато вастрыў касу і расчваліў руку да касці.*

РАШЧЫ'НА *ж.* Рошчына. *Трэба паставіць рашчыну, заўтра буду хлеб пячы.*

РО'СЛІ *мн.* Парасткі бульбы. *Картоплю з рослямі можно даваць только сьвіням, а сабе варыць не гадзіцца.*

РУМЯ'НАК *м.* Рамонак аптэчны. *Ад жывата трэба варыць румянак.*

РЫЖЫ'ШЧО *н.* Іржышча. *Пакуль адпыніш на рыжышчы карову, усе ногі паколеш.*

РЫ'ХЦІК, РЫ'ХТЫК *прысл.* Акурат, абсалютна, дакладна. *Маня падобна на Параску, а Лёнік рыхтык Апанас.*

РЭ'ЙДАЦЬ *незак.* Гаварыць лухту, бязглуздзіцу. *Гэты вечно прыпаўзе і рэйдае, слухаць няма чаго.*

САРО′ЧКА *ж.* Нацельная кашуля. *Сарочку надзяваюць пад рубашку.*

СА′ЧАК *м.* Жаночая куртка на ваце ці кудзелі. *Сачак на локці парваўся, а новы надзела Стэпка.*

СВЭ′ДАР *м.* Світэр. *Надзень свэдар, бо ў адным летніку холадно будзе.*

СКАЛАМБУ′ХА *ж.* Страшная пачвара, здань, якой палохалі дзяцей. *Не дурэй, а то скаламбуха ў акно паглядае.*

СКВАРАДА′ *ж.* Скаварада. *На скварадзе пякуць аладкі з мукі і картоплі.*

СКУПЯНДЗЯ′ *м., ж.* Скнара. *Ён такі скупяндзя, што гнілога яблыка не дасць.*

СНЯГО′ЎЦЫ *мн.* Гумавыя жаночыя боцікі. *У снягоўцах ходзяць, калі ідзе мокры снег.*

СО′ЛЯНКІ, САЛЁНКІ *мн.* Вараная ачышчаная бульба. *Адцэджаныя салёнкі трэба падсушыць на пліце, каб сопкія былі.*

СПРЫНЖЫНАВА′ЦЬ *незак.* Культываваць папар перад ворывам. *Бацько паехаў спрынжынаваць поле пад жыто.*

СПРЫНЖЫНО′ЎКА *ж.* Культыватар. *Спрынжыноўкай абраблялі зямлю, калі яна моцно дзірванела.*

СПУ′ШЫЦЬ *зак.* Уздуць. *Карову спушыло, бо залезла ў канюшыну, а велькая раса была.*

СТАГА′Н *м.* Сараканожка. *Паляжала ў кутку мокрая лапіна, і развяліся стаганэ.*

СТУПА′К *м.* Ступня. *Ішоў па калючках і загнаў стромку ў ступак.*

СУ′ЧКА *ж.* Дадатковыя санкі пры возцы лесу. *Без сучкі дзерава па зямлі валочыцца.*

СЭ′ПЕЛЬ *м.* Лядзяш, які звісае са страхі. *Абабі ты якім кійком гэтыя сэплі — усё акно закрылі.*

ТАКВЕ′ЛЯ *прысл.* Столькі. *Таквеля і сёння рабіла людзей на полі.*

ТАКРО′К *прысл.* Летась. *Такрок наша карова была перадойка, а ў гэтум годзе прывяла два бычке.*

ТРАПА′ШКА *ж.* Станок, на якім трэплюць лён. *Без трапашкі цяжко трапаць лён.*

ТРЫВУ′ШЧЫ *прым.* Трывалы, моцны. *Ён трывушчы, ніякая хвароба яго не бярэ.*

ТУ′РМУС *м.* Турнэпс. *Турмус ядуць увосень, але мы больш любілі брушку.*

ФАЕ'РКА *ж.* Канфорка. *Зрабілі пліту на дзве фаеркі.*

ЦАГА'Н *м.* Чыгун. *Трэба купіць новы цаган варыць картоплі.*

ЦАДЗІ'ЛАК *м.* Цадзілка. *Цадзілак робяць з мэрлі.*

ЦВІК *м.* Цвік. *Без абцэнгаў цьвік з сьцяны не выдзераш.*

ЦЕ'ПЯРСЯ *прысл.* Даўно. *Цепярся, як пайшоў, а тут чалавек чакае.*

ЦЁНГЛЯ *прысл.* Заўсёды, пастаянна. *Яна цёнгля прывалачэцца і сядзіць тут.*

ЦЫМБУ'Р *м.* Кветаноснае сцябло буракоў, цыбулі. *Цыбуля ў цымбурэ пайшла ўжо.*

ЦЯЛЁСКАЦЬ *незак.* Прагна есці, уплятаць. *Цялёскае капусту, аж за вушамі пішчыць.*

ЧАРАНО'К *м.* Дзяржанне ў рыдлёўцы і вілах. *У рыдлёўцы шурпаты чаранок — усе рукі змазоліў.*

ЧАХА'РНЯ *ж.*Ваўначоска. *Наш дзядзько меў чахарню, усе война часалі ў яго.*

ЧУ'ЧАНКІ *мн.* Суставы пальцаў рук. *Пакуль прыбіў дошку, усе чучанкі абабіў.*

ШАЛАХНА' *м., ж.* Шалапут, ненадзейны чалавек. *З гэтым шалахною не дагаворышся.*

ШЧАПА' *ж.* Драніца. *Даўней крылі хату саломаю, а цяперака шчапою і гонтаю.*

ШЧО'ЛАК *м.* Вадкая частка стравы. *Налі шчолаку, бо гушчы я не люблю.*

ШЧЫН *м.* Пласт сена, які збіваецца граблямі. *Сено ў капу носяць шчынамі.*

Я'ДЗЯРКО *м.* Божая кароўка. *Ядзярко бывае рыжы, а спінка ў кропачкі.*

Я'ЗЬБІН *м.* Язмін. *Язьбін вельмі добро пахне.*

ЯСЁНКА *ж.* Асенняе жаночае паліто. *Без ясёнкі сёння будзе холадно.*

*А. П. Груца, І. І. Паўлоўскі*

# З ЛЕКСІКІ ГАВОРКІ в. СВЯТАЯ ВОЛЯ

Гаворка в. Святая Воля Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці адносіцца да паўднёва-заходняга дыялектнага масіву і характарызуецца наяўнасцю рада адметных фанетыка-марфалагічных асаблівасцей — пераходнае памякчэнне *д, т* перад галоснымі пярэдняга рада ў *дз, ц (целя́, цебэ́, пэ́йдзем),* што ў некаторых іншых гаворках брэсцка-пінскага Палесся не наглядаецца; вымаўленне цвёрдых губных *б, в, м, п* у пазіцыі перад *е (на пэ́чы, мэ́сці, вэ́чор),* гуку *ч* на месцы спрадвечнага *т* у слове *што* і спалучэння *мн'* на месцы *м'* перад *а (мня́кіш, се́мне);* прыкметнае пашырэнне пратэтычнага *в (вона́, вого́нь, вадзьмэ́дзь, вэ́спа, вэ́рса, вокно́, во́зеро, во́бласць, ву́здзер* і інш.), ужыванне ўнаследаванай ад старабеларускай мовы сінтэтычнай формы будучага часу дзеясловаў незаконченага трывання *(піса́цьму),* а таксама націскнога канчатка *-ове* ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду *(бацько́ве, куму́ове, пано́ве, сыно́ве).*

Звяртае ўвагу выкарыстанне запазычанага з польскай мовы суфікса *-іско* — асабліва ў складзе назваў поля, утвораных ад найменняў вырашчаных на ім хлебных злакаў, некаторых тэхнічных культур і кармавых раслін *(бульбо́віско, вэ́ўсіско, горо́шыско, какуру́зніско, коно́пліско, лу́бніско, льніско, пшані́ско, ржы́ско, я́чніско).* Выключэнне складае назва поля, на якім расла грэчка *(грэцко́ўе).*

Па той жа мадэлі ўтвораны словы *пры́звіско,* якое ўжываецца для абазначэння месца, дзе ў часы панскай Польшчы сялянам наразалі зямлю (*бач, дзе ужэ бу́дзе пры́звіско*), і *па́тбіско* як назва месца для выпасу жывёлы *(там под ле́сом вэ́льмі до́брэе па́тбіско і пасьвіці корэ́ў на ім можна вэзь дзень.*

З іншых асаблівасцей лексікі разглядаемай гаворкі трэба адзначыць ужыванне рада такіх слоў, якія ў найбольш вядомых працах, прысвечаных вывучэнню слоўнікавага складу беларускай дыялектнай мовы, як правіла, не адзначаюцца[1]. На гэтай падставе іх можна аднесці да ліку мясцовых вузкадыялектных утварэнняў.

БАБІ′Ч *м.* Сын павітухі, які нарадзіўся пасля таго, як яна стала бабіць. *Ты знаеш, дохна, у Ганны зародзіўся бабіч.*

БАДУЛЬКІ′ *мн.* Апалая ігліца. *Нагрэб бадулькоў, а цепэр корову подсьцелю.*

БАРМАКІ′ *мн.* Вілы для насыпання бульбы. *Возьмі бармакі да насып бульбы ў кошэль.*

БЛЯ′ХІ *мн.* Юшка. *Засунь бляхі, а то дым на хату йдзе.*

БЭЛЕЛЕ′МКАЧ *м. экспр.* Вельмі непаслухмяны чалавек. *Послухай мэне, бэлелемкач, ні йдзі сёгоння з домы.*

БЭ′ЛЁН *м. экспр.* Непаслухмяны хлопец. *Вух ты, бэлён, я ж тобе ўрэжу ў косці за гэтэ.*

ВЕ′ЯНКА *ж.* Савок, якім набіраюць муку. *Зроблю новую веянку, а то німа чым муку браці.*

ВІЛКА′ *мн.* Ухват. *Поламаліса вілка мое і німа чым чыгуны доставаці з пэчы.*

ВІШЭ′Й *м.* Старая пажоўклая трава, якую косяць на подсціл. *Накосю вішью, а то німа чым подослаці скоціну.*

ВРУ′НА *ж.* Рунь. *Ужэ з восені вэльмі добрая вруна поросла.*

ВУ′ЗДЗЕР *м.* Ніжняя частка снапа. *Усе снопы я постаўляла вуздзерамі ўніз.*

ВЭ′ЛЁН *м.* Фата. *Вот хорошы вэлён у молодзіцы.*

ВЭНДЗІ′ЛКА *ж.* Вяндлярня. *Повесь усе мнясо ў вэндзілку дай ніхай вэндзіцца.*

ГАРУНКІ′ *мн.* Карункі, карункавыя фіранкі. *Помыла гарункі, трэбо повесіці на вокна.*

---

[1] Маюцца на ўвазе Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мінск, 1963; Бялькевіч К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мінск, 1971; Лексіка Палесся. М., 1968; Сцяшковіч Т. Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мінск, 1972; Сцяцко П. У. Дыялектны слоўнік. Мінск, 1970; Народная лексіка. М., 1970; Юрчанка Г. Ф. Дыялектны слоўнік. Мінск, 1966; Янкоўскі Ф. М. Дыялектны слоўнік, вып. I. Мінск, 1959; вып. II. Мінск, 1960; вып. III. Мінск, 1970.

ГРЭБЛЕ'ЎКА *ж.* Рыдлёўка. *Трэба ямчыну выкопаці, а грэблеўку Цімох забраў.*

ГЭ'БЫ *злуч.* Нібы, быццам. *Заваліўся, гэбы тая быдліна, дай седзіт.*

ГЭ'НЬДЗЕ *прысл.* Там. *Вунь гэньдзе стоіт. Гэньдзе на столе.*

ДЗІРБА'К *м.* Зуб бараны. *Во гострые дзірбакі ў мое бороны.*

ДОХНА' *ж.* Дачка. *Моя дохна ўжэ замуж выходзіт.*

ДРАПАЧЭ' *мн.* Вілы з загнутымі зубамі для выграбання гною. *Для вытурзвання гною от коровы прымэняюцца драпачэ.*

ЗА'ЛЕЖ *м.* Папар. *Залеж — гэто запушчанэе поле.*

ЗАНО'ЗЫ *мн.* Кручкі для віцця вяровак. *Бач, як занозамі добрэ вэроўкі віці.*

ЗАШМЭ'РКАЦІСА *зак.* Вымазацца. *Во як зашмэркаўса хлопец у Волі.*

ЗОЛЬНІ'ЦА *ж.* Бочка, у якой адбельваюць палотны, бялізну. *Покідаю ў зольніцу да ніхай парацца.*

КАДЭ'БЭЦ *м.* Каробка для ягад, зробленая з кары альхі. *Зроблю кадэбэц, да набэру ў ёго ягод.*

КАЛЯ'НКА *ж.* Кавалак; луста. *Вэлікую калянку сала ні рэж, а то ні з'есі.*

КАПЛУ'Н *м.* Абрадавая страва з хлеба і салодкай вады або малака. *На кóледы каплуна нароблю.*

КЛУ'НЯ *ж.* Хлеў. *Зажэні корову ў клуню, а то ўсю траву потопчэ на дворэ.*

КОЗА' *ж.* Агрэх. *Вох як нідобрэ зробіў, узяў да козу покінуў.*

КОМНЯКІ' *мн.* Камы. *Узаўтра, мамо, комнякэй натоўчэш.*

КОРЖЫ' *мн.* Водціскі пальцаў пры фармаванні хлеба. *Як буду хлеб пэкці, той коржэй нароблю.*

КРУК *м.* Вілы з загнутымі зубамі для сцягвання з воза гною. *Возьмеш да круком поскідаеш гнэй і поедзеш дáлей.*

КУПА'ЙЛО *н.* Вялікае вогнішча, якое раскладаецца моладдзю на купалле. *От купайло вэлікэе зробілі.*

КУ'СТА *ж.* Жанчыны, якія ходзяць і спяваюць, увешаныя лісцем і галінкамі (звычай у перыяд цвіцення бэзу). *Вонь куста до нас ідзе, трэба ўстрэціці.*

КУЦЯ' *ж.* Вараны боб. *Ох і смачная ў цебэ куця, дохнá.*

ҚЭ́ЛЬЗА *ж.* Цуглі. *Дасі коню кэльзу, а потóм горы́.*

ҚЭ́ПҚА *ж.* Пячурка, невялікая ніша ў печы. *Ступіў ногою ў кэпку і залез на печ.*

ҚЭ́ШҚА *ж.* Вельмі стары падасінавік. *Ну й кэшкэ́й мнэго на Ра́чку.*

ЛА́НҚА *ж.* Постаць, паласа, якую займае адна жняя. *Моя дохна́ за водзін дзень прогнала пяць ланок.*

ЛЫСУ́ХА *ж.* Неўрадлівая пясчаная глеба. *Лысуха — гола мэ́сціна, пэсок.*

МАЧЫ́НА *ж.* Қаліва, маласць. *І я б хоцела мачы́нку солэ́мкі* [саломы] *узяці.*

МЭНЦІ́ЛҚА *ж.* Мянташка. *Пошоў косіці, а менцілку забыў.*

МЭ́ЛЬҚОЦЕНЬ *м. экспр.* Вельмі неўгамонны чалавек. *Но й і мэлькоцень ты, Гарцем.*

НАХА́БІЦА *ж.* Назола. *Вуй якая нахабіца, колі ты од мэне одчэпісса.*

ОҚЭ́ЖАЦІ *зак.* Ачнуцца, ачуняць. *Ужэ окэ́жаў ся́кота́ко.*

ОПІНА́ЧҚА *ж.* Вялікая суконная хустка. *Вэльмі ж холоднó сёгоння, трэ опіна́чку наложыці.*

ОПЭ́ЎЗІНЫ *мн.* Апоўзіны. *Ідзі да зсечы дзве бэрозкі на опэўзіны.*

ПОЗОЛЬНІ́ЦІ *зак.* Адбяліць шчолакам палотны, бялізну. *Пэрэд святом трэба позольніці гарункі да радзюжкі.*

ПОМЭ́Т *м.* Дзірван; абложная зямля. *На тым помэ́ці, што коло крóшанкі, нічого не выросце.*

ПО́СВІСТ *м.* Пуга. *Пожэнéш коровы́ да посвіста ні забудзь узяці.*

ПО́ЦЕСЬ *ж.* Прасніца. *У вэчоры, ба́ло, собэруцца жонкі з поцеся́мі і прадут лён.*

ПРО́СҚОЎҚА *ж.* Просвіра.

ПЭ́ЙСА *ж.* Дзявочая каса. *Во, якіе пэйсы поодгодоўвалі нашы дзеўкі.*

ПЭРЭ́ЧАНОҚ *м.* Ахапак. *Вязку сена трэба класці пэрэчанкамі.*

РАТА́Й *м.* Араты. *Хутко ўжэ ратай прыедзе.*

РЫ́НДЗАЦІ *незак.* Дурэць, гарэзаваць. *Ні рындзўй, а то вунь скэлькі пылу нагнаў.*

РЭ́ЙЗА *ж. экспр.* Назола. *Гэбы тая рэйза піліш мэне, колі ты одчэпісса, колі ты дасі мне спóкой? Мусіт, ужэ до могілы будзеш грызці.*

РЭМЗА'ЦІ *незак.* Надакучваць размовай. *Вот будзе рэмзаці да рэмзаці, покуль шлункі ні пэрэгрызе.*

РЭПЦЮ'Х *м.* Аброчная торба. *Як поедзеш у Гэшча* [Гошчава], *то ні забудзь узяці рэпцюха коню.*

РЭПЭ'ХА *ж. экспр.* Неахайная жанчына. *Вуй, якая рэпэха, гаж дзівіціса гадко.*

СМАГОРЭ'ЛЬЦЫ *толькі мн.* Падгарэўшая вараная бульба. *Вэльмі ж смачная бульба з смагорэльцамі. Напэчы, мамо, ў вэчоры.*

СОПЛЯ'К *м.* Лядзяк. *Побач, скэлькі соплякэй за нэч стало, мусіт, вэсна хутко.*

СТРАМІ'НЫ *мн.* Лесвіца. *Як полезеш на покэт, то постаў страміны.*

СТРЭПА'Ч *м.* Пасма льну. *Я ўжэ зробіла стрэпача.*

СТЭ'РЭЦ *м.* Частка ўзаранага поля ад мяжы да баразны пры ворыве ўраскідку. *Ужэ стэрца погорау.*

СЦЕ'ЖАР *м.* Плошча скошанай сенажаці, сена з якой дастаткова для ўкладкі аднаго стога. *За два дне я скосьвау поўтора сцежара.*

ТЫ'ЧКА *ж.* Крук, якім дастаюць вядро з калодзежа. *Поламаласа моя тычка да й воду німа чым доставаці.*

ХВА'ЙНЫ *прым.* Добры, прыгожы. *Вот хвайны ў цебэ кубэльчык.*

ХОЧА' *злучн.* Хоць. *Хоча прыдзі ў вэчоры, бо доўга ждаці не будзем.*

ЦЕЛЕ'ПКАЦІ *незак.* Разумець. *Нічога ты ні целепкаеш, скажу тобе я.*

ЦЫБАХІ' *мн.* Пер'е цыбулі. *Пойду нарву цыбахэй да нароблю квасу.*

ШАРАБА'НДА *ж.* Вялікая скрыня для перавозкі бульбы. *Насыпаў цэлую шарабанду бульбы.*

ШВЭ'ДЭР *м.* Світэр. *Во, якого швэдра купіў, вох і цёплы вэн.*

ШКВЭ'ДЫ *мн.* Скваркі. *На снеданне нажарыла цэлую сковороду шквэдэй.*

ШЛУ'НКІ *мн.* Нервы. *Ты ўжэ мне ўсе шлункі пэрэгрыз.*

ШПАНА' *ж.* Тонкія асінавыя лучынкі, з якіх плятуць кашолкі. *Надраў шпаны, а цепэр кошэлей наплету.*

3. Зак. 170

*М. Я. Грынблат*

# МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Слоўнікавы матэрыял, які змешчаны ў гэтай падборцы, збіраўся ў фальклорна-этнаграфічных экспедыцыях на працягу 1945—1976 гг. Вывучэнне любой этнаграфічнай з'явы немагчыма без фіксацыі адпаведнай народнай тэрміналогіі. Гэта ў значнай меры вызначыла характар сабранай лексікі. У пераважнай большасці яна звязана з рознымі з'явамі і прадметамі матэрыяльнай і духоўнай культуры народа, яго звычаямі і абрадамі, вуснапаэтычнай творчасцю, харэаграфіяй.

## Прынятыя скарачэнні назваў раёнаў

Барыс.— Барысаўскі; Валож.— Валожынскі; Віл.— Вілейскі; Дзярж.— Дзяржынскі, Кап.— Капыльскі; Круп.— Крупскі; Крыв.— б. Крывіцкі; Кур.— б. Кураненцкі; Лаг.— Лагойскі; Люб.— Любанскі; Маладз.— Маладзечанскі; Мін.— Мінскі; Мядз.— Мядзельскі; Пух.— Пухавіцкі; Смал.— Смалявіцкі; Старад.— Старадарожскі; Стаўб.— Стаўбцоўскі; Чэрв.— Чэрвеньскі.

АБ *прыназ.* Каля, прыблізна. *Кіламетраў аб шэсцьдзесят да Барысава будзець.* Калачы Лаг.

АБЛЕ'КАВАЦЬ *незак.* Выцвітаць, страчваць колер. *Наш настольнік рысаваны зусім аблекаваў.* Балашы Мядз.

АБРА'ДЗЕНЫ *прым.* Народжаны. *Яна абрадзена с-пад Смаргоню.* Цынцавічы Віл.

АБРЫВА'ЦЦА *незак.* Разбурацца, асыпацца. *Абрылася, нет каму ўправіць* [пра калодзеж]. Сяляткі Мядз.

АГЛО'БА, ГЛО'БА *ж.* Гарызантальная жэрдка ў азяродзе. Палессе Віл., Лускава Лаг.

АГУ'ЛЬНЯ *прысл.* Агульна, разам, супольна. *Яны ў нас згадзіліся агульня* [хату будаваць]. *На тэй хаця мы іх згадзілі.* Сырмеж Мядз.

АДДА'ЛЬВАЦЦА *незак.* Ухіляцца, адвільваць. *Ён на яго ўсьсеў; нет, гаворыць, ніхто ад работы ні аддаліцца. Па адным, па адным, вышпулігаваў* (гл.) *усіх.* Каракулічы Мядз.

АДКЛАДНЯ' *ж.* Паліца ў драўлянай сасе. Палачаны Маладз.

АДНА'-АДНЫ'МАЧКА. Зусім адзінокая. Даўгінаў Віл.

АДРЫ'НЯ *ж.* Вялікая гаспадарчая сялянская будыніна для жывёлы, сена. *Табе не шкода адрыні, бо ты не рабіла.* Каракулічы Мядз.

АЖЭ'ВІСТЫ *прым.* Чэрствы, кіслы (пра хлеб). *Ёсьць троху хлеба, але ажэвісты ўжо.* Калачы Лаг.

АЗЯРО'ДА *ж.* Азярод. Лускава Лаг.

АЗЯРЭ'ДЗІЦЬ, АЗЯРО'ДЗІЦЬ *незак.* Сушыць на азяродзе. Касцюкі Барыс., Рабунь Віл.

АКАЗА'ЦЦА *зак.* Паказацца. *А калі ты дома, акажыся.* (З валачобнай песні.) Юрава Смал.

АКО'РАК *м.* Шынка, кумпяк. Хутар Чэрв.

АЛАВЯНЫ' *прым.* Алавяны. *Спяшок* (гл.) *робім з бульбы ці* [яно бывае] *алавяное.* Семежава Кап.

АНДРЭ́ЙКА-БАЖО'К *м.* Божая кароўка. Мацеева Лаг.

АНІЧО'ГА *прысл.* Нічога. *Каб сын быў жывы, так ні хацела б анічога.* Сырмеж Мядз.

АНЯ'ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Пусці ката ў хату, не чуеш,— аняўчыць.* Даўгінаў Віл.

АПА'Л *м.* Дровы. *І апалу не дае прывесці.* Семежава Кап.

АПАЛО'ЦЬ *зак.* Выпалаць. *І гарод пасаджу і апалю.* Саланая Валож.

АПЛЫВА'ТЫ *прым.* Рыхлы, вялы. *Сын у яе недачупалы* (гл.) *быў, малы, аплываты.* Хутар Чэрв.

АРТА'Й *м.* Араты. *Як саха арала, гэта залежала ад артая.* Сырмеж Мядз. *Артай усіх корміць — і паноў, і пісароў, бо хлеб яго ядзяць.* Палессе Віл.

АСАВІ'К *м.* Падасінавік. Нежын Люб.

АСА'ДЗЬБІШЧА *н.* Сядзіба. *Асадзьбішча ў яго вялікае.* Сырмеж Мядз.

АСПАДА'Р *м.* Гаспадар. *Дай, божа, аспадарок, табе здаровья!* Сакаўшчына Валож.

АСЯ'ДЛЫ *прым.* Статны чалавек. *Яна красівая, тонкая такая, асядлая была.* Палессе Віл.

АТКО′САК *м.* Пры варыўні невялікі складзік з падлогай для куфра. Сырмеж, Каракулічы Мядз.

АТ ТАГО′ *прысл.* З таго часу, з той пары. *Як была там ў пілінаўку перад калядамі, ат таго не была.* Хутар Чэрв.

АТТАПІ′ЦЬ *зак.* Затапіць, заліць вадой. *Як дождж, так усё і аттопе.* Сакалавічы Круп.

АТХІНУ′ЦЦА *зак.* Адлучыцца, паехаць у заработкі. *Атхінуўся на гот, зарабіў і купляй сабе.* Каракулічы Мядз. *Мне атхінуцца няма як, а то пайшлі б у лес, насеклі лат.* Хутар Чэрв.

АХРЫСТА′ЦЬ *зак.* Перавязаць цераз плячо наўскасяк. *Пярэдняга свата-маршалка рушнікам ахрыстаюць.* Сырмеж. Мядз.

БА′ВІЦЬ *незак.* Расказваць. *Бай басьні!* Кіржына Крыв.

БАЖО′К *у знач. выкл. Дык я пазіраю, бажок мой!* Хутар Чэрв.

БАКА′ЦІНА *ж.* Ялавічына, бакавіна. Палессе Віл.

БАЛО′ТЛІВЫ *прым.* Балотны. *Сенажаці, а такія былі балотлівыя, то прыдзеш увесь макруткі.* Сырмеж Мядз.

БАЛЯ′ЎКА *ж.* Болька. *Яшчэ набярушся балявак гэтых.* Калачы Лаг.

БАНДАРА′НКА *ж.* Бандароўна, дачка бондара. *Маладая бандаранка валы выганяе.* (З нар. балады.) Рум Валож.

БАХУРО′К *м.* Пазашлюбнае дзіця. *У яе некалькі бахуркоў было.* Саланая Валож.

БЕ′ЛЬ-БЕ′ЛЬ-БЕ′ЛЬ *выкл.* Хутка, паспешліва рваць траву. *Крапіву пайду ірваць, дык бель-бель-бель нарву для свіньні.* Саланая Валож.

БЕРЛО′ВЫ *прым.* Хлеб з нявеянага збожжа. *Пяклі мы берловы хлеб, не веяны, сь мякінай. Зьмеляць, так і кушалі; харошы хлеб, але коліцца.* Палачаны Маладз.

БІЧО′ЎКА *ж.* Біч у цэпе. Палессе Віл.; Лускава Лаг.

БЛАГАВЕ′ШЧЫНА *ж.* Дзень 25 сакавіка (па ст. ст.). *Благавешчыну трэба запомніць дзень, то мышы не будуць есці сена.* (Прыкмета.) *Чысла аднаго пільнуецца.* Калачы Лаг.

БЛІШЧО′НЫ *прым.* Шліфаваны, бліскучы. *На тым баку Бярозы рускі памятнік быў блішчоны.* Студзёнка Барыс.

БОГ *м.* Абраз. *У нас ужо ў каго бог е, а ў каго няма, але рушнік вісіць* [традыцыя ўпрыгожваць кут у хаце ручніком]. Хутар Чэрв.

БО'МА: ПАД БО'МУ. Крыць страху пад стрыхоўку (гл.). Лускава Лаг.

БРЫДКІ' *прым.* Непрыстойны. *Не, гэта песня брыдкая, пра дзіця знайдзёнае.* Рум Валож.

БРЫТВА'Н, БРЫТВАНО'К *м.* Формы для выпякання хлеба. Палессе Віл.

БУ'ДУШЧЫ *прым.* Мінулы, прошлы. *Што прайшоў, у будушчым гаду. У будушчым гаду пасадзіла яблыню. У будушчым гаду было макрэйшае лета.* Пронькі, Балашы Мядз. (б. Свірскі).

БУЛЬБЕ'ШНІК *м.* Бульбоўнік (націна бульбы). Балашы Мядз.

БУ'ЛЬМА *ж.* Бульба. *Не было ні хлеба, ні бульмачкі. У цябе няма каня бульму заскародзіць?* Хутар Чэрв.

БУМЧЭ'ЦЬ *незак.* Бурчаць, увесь час выказваць сваю незадаволенасць. *Гэта старая, яна вечна бумчэла, то яны яе не любяць.* Мацеева Лаг.

БУ'РЫ *прым.* Смуглявы (пра чалавека). *Чорны такі, буры ў ліцы.* Калачы Лаг.

БУТЭЛЬКО'ВЫ *прым.* Бутэлечны. *Піва бутэльковае, закаркована.* Палессе Віл.

БЫЧО'К *м.* Беларускі народны танец, з'яўляўся таксама часткай, асобным «каленам» кадрылі. *Бычок — гэта ў кадрылі.* Роспы Кап.

ВАЛАЧО'МНІК *м.* Валачобнік. *На пасху валачомнікі ходзяць і пяюць па дварах, маладзёш і жанатые. Так было раней.* Рабунь Віл.

ВАЛАЧЭ'ЎНІК *м.* Валачобнік. *Ідуць, гудуць валачэўнікі.* (З песні.) Першаі, Рум, Саланая Валож.

ВАЛАЧЭ'ЎНЫ *прым.* Валачобны. *Валачэўная песьня, гаспадаром, сыном, дзеўцы пяюць.* Рум, Бомбала Валож.

ВАЛЕЛЮ'Я *ж.* Так называюць даўні звычай абходу валачобнікаў, ад аднаго з прыпеваў да велікодных песень алілуя. *На вельканоц валоўнікі* (гл.) *хадзілі. Ну, пайдзём, кажа, у валелюю.* Каракулічы Мядз.

ВАЛО'ЎНІК *м.* Валачобнік. *На вельканоц валоўнікі хадзілі. Музыку бяруць, зьберацца чалавек дзесяць-пітнаццаць, ходзяць і пяюць алялюю, а ім даюць яйкі.* Каракулічы Мядз.

ВАНГО́Р *м.* Вугор. *Вангор — сама смашна рыба.* Сырмеж Мядз.

ВАНЭ́ЛІ *толькі мн.* Велікодныя малітоўныя вершыкі ў католікаў (гл. *жакі*). Першаі Валож.

ВАРО́ПАЎКА *ж.* Вялікая жаба, рапуха. (З былой нар. дэманалогіі.) *На Купалле аберніцца гэта ведзьма ці сабакам, ці жабай такой вялікай, варопаўкай, і сьсе карову, узьлезе па назе і сьсе. Бывае, заб'еш, дык настаяшчае малако пальецца. Варопаўка тоўстая такая, плёская, шэрая, шэрая. У зямлі сядзіць, норка такая ёсць, яна сядзіць там.* Лускава Лаг.

ВАСЬМІ́Т *м.* Ручнік, тканы ў восем нітоў. *Васьміты, гэта ручнікі ў восем нічальніц* (гл.). Рум Валож.

ВЕЛІКО́ННЫ *прым.* Валачобны. *Яна ведае і веліконныя, усялякія песьні.* Сакаўшчына Валож.

ВЕЛЬКА́НОЦ *ж.* Вялікдзень. Каракулічы Мядз.

ВЕРХАВО́ДКА *ж.* Верхняя вада ў калодзежы. *Халодная, як верхаводка.* (Прымаўка.) Слабада Стаўб.

ВО́ЙРА *ж.* Назва танца на матыў вядомых даўніх куплетаў «Ой-ра». Роспы Кап.

ВО́СЯНЬ *ж.* Восеньская песня. *Восянь пяем, як бульбу капаюць, ляны рвуць.* Рум, Сакаўшчына, Валож. *Як жыта пажнуць, восянь пачынаем пець.* Саланая Валож. *Як ужо халады́, каля пакрова, тагды восянь пелі.* Бабровічы Валож.

ВУСА́ТЫЕ КАЛЁСЫ. Даўнейшы воз з драўлянай воссю. Сырмеж Мядз.

ВЫ́ЛУПІЦЦА *зак.* Прачнуцца. *Што гэта вы так рана вылупіліся?* Хутар Чэрв.

ВЫМЯРЭ́ЖЫВАНЫ *прым.* З тканіны, упрыгожанай мярэжкай. *Не, тыя вымярэжываныя рушнікі.* Калачы Лаг.

ВЫ́ПРАВЫ *толькі мн.* Провады ў армію, застолле. *У сястры маёй выправы былі, от пелі хараша.* Рум Валож.

ВЫ́ШПУЛІГАВАЦЬ *зак.* Вымуштраваць, выхаваць, правучыць. *Ніхто ад работы ні аддаліцца* (гл.). *Па адным, па адным, добра вышпулігаваў усіх.* Каракулічы Мядз.

ВЫ́ШЧАРКА *м.* Рагатун. *Вышчаркі вы, годзе вам рагатаць.* Калачы Лаг.

ВЭНЬ *часц.* Вунь там. *Вэнь клець была. Вэнь, як тыя дзе́рава.* Хутар Чэрв.

ВЯСНА′ *ж.* Веснавая песня, вяснянка. *У маі пелі вясну, а ўжо ў юні — Пятра* (гл.). Рум Валож.

ГАРТ *м.* Моц, сіла. *Ён яшчэ ў самым гарце* [пра чалавека гадоў 60]. Калачы Лаг.

ГАРУ′ТКА *ж.* Працавітая жанчына. якая не цураецца ніякай работы. *Я гарутка, дык сьвет ні відзеў. Я сьвінку маю, дык крапіву пайду ірваць, дык бель-бель-бель* (гл.) *нарву для сьвінні.* Саланая Валож.

ГАРУ′ТНЫ *прым.* Працавіты. *Я гарутная была. Думаю, пайду служыць.* Саланая Валож.

ГАРУ′ШЧЫ *прым.* Чалавек, які пераэжыў многа гора ў жыцці, нагараваўся. *Яна, ох, гарушчая была.* Семежава Кап.

ГАСПАДА′Р: ГАСПАДАРА′ ЗАЖА′ЦЬ. Звычай перавязваць і ставіць на покуце першы снапок збожжа ў час зажынак. *І цяпер. Прыяжджае старшыня, зажнуць, звяжуць перавясло, перавяжуць снапок, называецца «гаспадара́ зажа́ць». Прынясуць «гаспадара» і — на кут нясуць, дармо, што калгаснае, у канцылярыю.* Лускава Лаг. *Аспадара зажаць: зажынаюць жменю, звязваюць, прынясуць у праўленне ці брыгадзіру, сьпяюць песьню.* Плябаня Маладз.

ГВАЛД *м.* Гвалт. *Гвалду крычу, гэта боль пераберыць міне.* Каракулічы Мядз.

ГЛЕ′ЙНА *ж.* Звяно плыта. *У плыцё некалькі глейн.* Студзёнка Барыс.

ГЛЮ′МА *ж.* Непрыгожая нязграбная дзяўчына. *Ну й выбраў сабе нявесту, такую глюму.* Калачы Лаг.

ГНАІ′НЫ *прым.* Прызначаны для гною. *Крукам гнаіным гной сьцягваем з воза.* Балашы Мядз., Палессе Віл.

ГНА′ЦЬ КАТЛЫ′. Выганяць дзёгаць, здабываць шкіпінар. *У нас тут была смалярня, гналі катлы.* Сакаловічы Круп.

ГО′ЛАС *м.* Мелодыя песні, матыў. *Гэту песьню у нас сьпяваюць на другі голас.* Рум Валож.

ГРА′БЕЛЬКІ *толькі мн.* Назва народнага танца. Роспы Уздз.

ГРАБЕ′НКА *ж.* Счапленне некалькіх плытоў, кожны з якіх складаецца з 2 — 3 *глейн* (гл.) Студзёнка Барыс.

ГРАДЗІ′ЦА *ж.* Жэрдка або тонкая бэлька папярок хаты і ніжэй столі для сушкі адзення. Вял. Бор Старад.

ГРАМО′ЎКА *ж.* Невялікая шкляначка ёмістасцю ў 100 г. *Як вып'юць адну грамоўку, другую, дык пяюць*

*яшчэ і Пятра* (гл.), *і восянь* (гл.), *усяго намяшаюць.* Сакаўшчына Валож.

ГРЭ'ЙЗА, ГРЭ'ЙС-ПО'ЛЬКА *ж.* Танец, від полькі. *Гэту польку мы называлі грэйзай або грэйс-полькай.* Роспы Кап.

ГУЖА'КА *ж.* Вужака, гадзіна. *У нас было многа гужакаў, не можна было прайсьці.* Лускава Лаг.

ГУТАПАРЧО'ВЫ *прым.* Гутаперчавы. *Каўнер гутапарчовы.* Палессе Віл.

ГЫР! *выкл.* Сюды! *Госці — за косці! А вы, дзеткі,— гыр! — за мяса!* (Застольны жарт пра дзіцячую нястрыманасць у час прыёму гасцей.) Усохі Круп.

ДАБРАВА'ТА *прысл.* Мнагавата. *Дабравата ўрэзаў бліноў.* Роспы Кап.

ДАБРО' *н.* Збожжа. Вяшэўка Бярэз.

ДАБРЫ' *прым.* Добры. *Яна прыяжджала летась. Якая ена́ простая, якая ена дабра́я.* Сырмеж Мядз.

ДАК *злучн.* Дык. *У мяне бранфіт, каб у тыя гады, дак раўла б* [голасна пела б] *на ўсю хату.* Рум Валож.

ДАЛІПА'Н *выкл.* Далібог. *Даліпан! Мы яе пелі ізмалку.* Саланая Валож.

ДАЛО'ШКА *ж.* Далонь. *Як дзьве далошкі ўшыркі.* Плябаня Маладз.

ДАМІ'НКІ *мн.* Святкаванне пасля таго, як скончылі мяць, церці лён. *Як памнуць лён,— дамінкі спраўляем. Зьвенавая давала на гулянне.* Сакалавічы Круп.

ДА'ЎНЫ *прым.* Стары. *Ужо да́ўна хата наша.* Каракулічы Мядз.

ДВАРЫ'ШЧА *н.* Двор. *На дварышчы, на чыстым мейсцы быў паваліўшы.* Сырмеж Мядз.

ДЗЁР-ДЗЁР-ДЗЁР *выкл.* Моцна патузваць, ірваць да сябе. *Яна прышла ды замок дзёр-дзёр-дзёр.* Рогава Мін.

ДЗІРВАВА'НЫ *прым.* Зарослы валасамі, барадой. *Старыя, дзірваваныя дзяды былі прышоўшы да нас.* Каракулічы Мядз.

ДЗЯДЗІ'НЕЦ *м.* Сялянскі двор. Сяляткі Мядз.

ДЗЯ'ЛКА *ж.* Участак засеянага поля. *Бяру дзялкі, буракі для поліва. Пытаецца: Гэлечка, будзеш дзялкі браць? Я кажу: не-а, я інвалідка.* Саланая Валож.

ДЛІНІНА' *ж.* Даўжыня. *Пляц у мяне быў восемдзесят мэтраў дліні́ною, а восемнаццаць шырынёю.* Палачаны Маладз.

ДО *прысл.* Досыць, хопіць. *Мо до будзе?* Сакаўшчына Валож.

ДО'БРЫЦА *ж.* Правы бок тканіны. Осава Крыв.

ДРО'МНЫ *прым.* Дробны, невысокага росту. *Ён трохі драмнейшы за вас.* Хутар Чэрв.

ДРУЖБА'НТ *м.* Шафер у жаніха. *У маладога хлопцы-дружбанты, маршалкі — два, тры, пяць, і дзяўчатысвашкі, пара.* Саланая Валож.

ДУСТЭ'П *м.* Тустэп. *Танцавалі ў нас даўней дустэп, месяц* [на матыў рускай песні «Чудный месяц»], *сербіянку* [на матыў аднайменнага цыклу прыпевак], *чэрдаш, кадрыль, вангерку, полькі ўсякія.* Роспы Кап.

ДУХ I *м.* Дыхавіца. *Ужо не танцы, калі дўху многа.* Роспы Кап.

ДУХ II *м.* Настрой. *Калі пад добры дух, дык сын пакліча.* Рум Валож.

ДЫ'МКА *ж.* Узор тканай посцілкі — квадраты рознай велічыні. *Пасьцілкі ў нас ткуць дымковыя.* Касцюкі Барыс. *Ёсць прастыя дымкі і рагатыя дымкі.* Сакалавічы Круп.

ДЭКЛЯРАВА'ЦЬ *незак.* Абяцаць. *Ён, як дэкляруе, то дась, а той быў манюка.* Сырмеж Мядз.

ДЭ'НКА *ж.* Дошчачка для адціскання сыру. Юрава Смал.

Е'ГДЗІЦЬ *незак.* Ездзіць. *Цяпер на машынах егдзяць. Да дачкі не егдзіла яшчэ ні разу.* Каракулічы, Сырмеж Мядз.; Цынцавічы Кур.; Рум Валож. *Ужо раз прыегджаў сюды.* Саланая Валож.

ЖАКІ' *толькі мн.* Дзеці, што хадзілі на каталіцкі вялікдзень з вітаннямі і рацэямі па хатах. *Жакі ходзяць. Дзеці хадзілі ў жакі, да родных і так. Каторы ўмее, ванэлі чытае, рацу (рацэю) скажа, а каторы так увойдзе. Дадуць яйко найболей.* Першаі Валож.

ЖАРНЫ' *н.* Жорны. *У нас ёсьць жарны.* Юрава Смал.

ЖАЎТА'ЧКА *ж.* Жаўтуха. *Усе казалі — жаўтачка гэта.* Каракулічы Мядз.

ЖНІ'ВА *н.* Жніўная песня. *Як будзем жаць, тады будзем жніва пець.* Бабровічы, Рум Валож.

ЖЫ'ЦЕЛНЫ *прым.* Жылы. *Жыцелны дом паставілі.* Балашы Мядз.

ЗАЗУБЕ'ЦЬ *зак.* Аслупянець ад страху. *Я летась пашла з дзяўчынай у ягады. Глядзь яна: шась, шась,*

*шась, а ўся гэта дзяўчына зазубела, а тады ў плач — да хаты і да хаты. Нічога гуорэй німа, як гады гэтыя.* Сырмеж Мядз.

ЗА'ПІСЫ *толькі мн.* Этап сучаснага вясельнага абраду, рэгістрацыя шлюбу. *Як на запісы едуць, пяюць.* Рум Валож.

ЗАПІ'ЦЬ *зак.* Адбыць адзін з пачатковых этапаў традыцыйнага вясельнага рытуалу — запоіны, калі нявесту «запіваюць», г. зн. бацькі пацвярджаюць сваю згоду на шлюб. *Галя ўжо за Пётрам запіта. Запіта, заручона, завянчона.* (З вясельнай песні.) Сакаўшчына Валож.

ЗАРЫВА'ЦЦА *незак.* Бурыцца, асыпацца. *Калодзесь ужо зарываецца, так для сябе ўжо бяром ваду.* Сяляткі Мядз.

ЗАСМЫ'КАЦЬ *зак.* Забаранаваць смыкам. *Засмычыш, бывала, то смык не растрасае зямлю, а суне.* Палессе Віл.

ЗАХІКНУ'ЦЦА *зак.* Спатыкнуцца. *Узялася чытаць і захікнулася, чытаючы.* Саланая Валож.

ЗАШЧА'СЦІЦЦА *зак.* Пашанцаваць, пашчасціць. *Нашай дзярэўні зашчасьцілася: кругом гарэла, а наша не.* Лускава Лаг.

ЗБУНТАВА'ЦЬ *зак.* Зблытаць. *Гэтак мы збунтуемся, трэба на голас сьпяваць.* Рум Валож.

ЗВО'ДЗІЦЬ *незак.* Настройваць скрыпку перад тым, як пачаць іграць. *Зараз, я зьвяду скрыпку.* Роспы Кап.

ЗІМНАВА'ТА *прысл.* Халаднавата. *Хата не агледжана, зімой зімнавата.* Сырмеж Мядз.

ЗМАРЫНАВА'ЦЦА *незак.* Змарыцца, стаміцца. *Змарынаваліся на полі, вот і ляжым.* Ачыжа Чэрв.

ЗМУЛІ'ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Каб не змуліцца толькі.* Пляўбаня Маладз.

ЗНАЙДЗЁ'НЫ *прым.* Пазашлюбны. *Дзіця знайдзёнае.* Рум Валож.

ЗНА'ЙНІЦА *ж.* Адваротны бок тканіны. Осава Крыв.

ЗВЯРНУ'ЦЬ *зак.* Разбурыцца. *Гэтай вайной хату зьвярнула.* Сырмеж Мядз.

ЗЬВЕНАВА'Я *ж.* Звеннявая. *Зьвенавая казала — дасьць прэм'ю.* Сакалавічы Круп.

ЗЯРО'ДЗІЦЬ, ЗЯРЭ'ДЗІЦЬ *незак.* Гл. *азярэдзіць. Зяродзім гарох на пярэплатах* [азяродах]. Рабунь Віл. *Як мокры год,— і жыта зярэдзілі.* Палессе Віл.

І'ГА *ж.* Ярмо для запрагання валоў. *Ігу накладвалі*

*на дышаль*. Балашы Мядз. *Іга было на пару валоў*. Рабунь Віл.

ҚАГА' *займ*. Қаго. *Жорны ў сянёх, многа ў кага ёсць*. Балашы Мядз.; Ізбішча Лаг. *У кага тры гектары былі, у кага пяць*. Рабунь Віл.

ҚАЛАТУ'ХА *ж*. Яечня з раскалочаных яец. Юрава Смал.

ҚАЛЯ'ДНІ *прым*. Қалядны. *Қалядніе песьні*. Сакаўшчына Валож.

ҚАМАСАВА'ЦЦА *незак*. Рассяляцца на хутары [у час «камасацыі», якую праводзіў буржуазны польскі ўрад у Заходняй Беларусі]. *Қамасаваліся ў трыццаць пятым року*. Сляткі Мядз.

ҚАН *м*. Бітон для малака. *У кане трыццаць осем літраў*. Қаракулічы Мядз.

ҚАНЕ'Ц *м*. Жылая частка хаты. *У яго дом на два канцы: дзьве хаты, пасярэдзіне калідор* [сенцы], *шэсьць сьцен*. Рум Валож.

ҚАНСЕ'РВАНЫ *прым*. Қансервавы. *Муж працуе на кансерваным заводзе*. Плябаня Маладз.

ҚАНЬ *ж*. Қапітальная перагародка з бярвення ў жылой хаце. Хутар Чэрв. *Қань, канявая сьцяна,— то з бярвеньняў*. Суцін Пух.

ҚАРАДУ'ШКА *ж*. Добрая, ласкавая жанчына. *Жоначка-карадушачка. А мая ты карадушачка*. Бомбала Валож.

ҚАРАЎЛО'Т *м*. Қалаўрот. Балашы Мядз.

ҚАРТО'ПЕЛЬ *м*. Бульба. Семежава Қап.

ҚАСТРАБ'Ё *н*. Ствол дрэва (астроўка) з не цалкам адсечанымі галінамі для сушкі гароху, канюшыны. Палачаны Маладз.

ҚАСТРО'ЧҚІ, ҚАСТРО'ШҚІ *толькі мн*. Прыстасаванне ў выглядзе сукаватых дручкоў, пастаўленых конусам для сушкі бульбоўніку. *Қастрочкі — каб бульбешнік сушыць*. Балашы Мядз.

ҚАХА'НАЧҚА *ж*. Беларускі народны бытавы танец. Роспы Қап.

ҚВА'СҚА *ж*. Вялікая бочка для захоўвання мукі, жыта (вышыня — каля 1,5 м, дыяметр — каля 1,0 м). Семежава Қап.

ҚІ'ДЛЫ *прым*. Жвавы, увішны (пра чалавека). *А ён кідлы быў такі,— туды, сюды, туды, сюды і гатова*. Қалачы Лаг.

КЛА'ЦАЦЬ *незак.* Моцна стукаць, ляпаць. *Яна дзьвярмі клацае.* Калачы Лаг.

КО'РАБ: КОРАБАМ СТАЦЬ. Павялічыцца, расшырыцца (пра галаву). *Як наглядзешся, наслухаешся, дак галава аж корабам стане.* Хутар Чэрв.

КО'СЫ *мн.* Пасмы доўгіх валасоў. *Хлопец ко́сьмі паабрастаў.* Сакаўшчына Валож.

КРАПІ'ВА: КРАПІ'ВА ШЫШКА'ВАЯ. Жыгучка. *Крапіва шышкавая, яна беленькая, дробненькая.* Плябаня Маладз.

КРУК *м.* Вілы на два жалезныя зубы, загнутыя, для скідвання гною. Першаі Валож. *Крук жалезны, гнаіны, на два ражкі, скапваць гной.* Лускава Лаг.; Палессе Віл.

КРУЛЬ: ТРЫ' КРУЛЕ'. Назва свята вадохрышча ў католікаў, а таксама тэатралізаванага абходу-калядавання. *На тры круле адзенуцца за д'ябла, ківаецца, а гэтыя прыбе́раць сабе шапкі, званочкі папрычэпліваюць, запяюць каляду.* Сырмеж Мядз.

КРЫ'ЖЫК *м.* Аўсяны мэндлік з 15 снапоў каласамі да цэнтру. *Аве́с заўсёды ставілі ў крыжыкі.* Палачаны Маладз.

КУБА'ТКА *ж.* Кураня, выведзенае ў інкубатары. *О, яны спрытныя, кубаткі гэтыя, с куба́тара* [інкубатара]. Лускава Лаг.

КУБЕ'Л *м.* Кубел. Хутар Чэрв.

КУБЁ'Л *м.* Пасаговы кубел. *Кубёл даўнейшы, яшчэ сьвякроўка прывязла́ сваю паса́гу, я ўжо — куфар, а ціпер ужо шкафы.* Сяляткі Мядз. *Як ішлі замуж даўней, то везьлі кубёла, кублы́ зваліся.* Балашы Мядз.

КУЗІ'КА *ж.* Від бручкі. *Кузіку садзіць будзем.* Сакаўшчына Валож.

КУКАБА'КА *ж.* Кульбака, кіёк у валовым ярме. Палессе Віл.

КУКО'ЛЬНІК *м.* Валачобнік. *Кукольнікі на вялікадне хадзілі.* Роспы Кап.

КУЛЯ'ЦЦА *незак.* Хадзіць, пераваліваючыся з боку на бок. *Яго матка нагамі бальная, ходзя куляючыся.* Калачы Лаг.

КУСА'ШЧЫ *прым.* Шарсцісты (пра грубую суконную тканіну). *Гэта кусашчая посьці́лка, саматканка.* Рум Валож.

ЛА'ВА, ЛА'ЎКА *ж.* Доўгая палоса з 9 — 10 счэпле-

ных плытоў або каля 20 *глейн* (гл.). *Згадзіўся лаўку зaгнаць.* Юрава Смал.

ЛА′ВАЧНЫ *прым.* Куплены ў краме. *Зварыла кісель красны, лавачны.* Рум Валож.

ЛАГУ′Н *м.* Калядная гульня-карагод. *На каляду лагун гулялі.* Роспы Кап.

ЛА′ДНЕ *прысл.* Даволі многа, парадкам, многа. *Яна за мяне ладне старэйшая, але харошая яшчэ.* Сакаўшчына Валож.

ЛАПАЦЕ′НЬ *ж., м.* Асоба, якая многа лапоча і маніць. *Яна манюка тая, лапацень.* Калачы Лаг.

ЛА′ЎНІК *м.* Плытагон. *У лаўнікі ішлі, плыты ганялі. На Паліку брaлі, і да Барысава.* Студзёнка Барыс.

ЛАХУ′ДРЫЦА *ж.* Неахайная, апушчаная жанчына. *Лахудрыца йна, больш нічога.* Мацеева Лаг.

ЛЁ′ЗНЫ *прым.* Адзінокі, без пары. *Усе хмарачкі да й па парачкі, адна хмарачка лёзна.* (З восеньскай песні.) Рум Валож.

ЛІ′НЬНІШЧА *н.* Скура вужа. *Хто знойдзе ліньнішча, забірае дахаты; кідаюць у стопку, каб мышы не елі бульбу, бо вужы ядзяць мышэй, то яны баяцца.* Рум Валож.

ЛІ′ПАЎКА *ж.* Выдзеўбаная цыліндрычная бочка з ліпы (да 2 м вышыні). Вяшэўка Бярэз.

ЛО′ТРА *м., ж.* Гультай (гультайка). *Гультай, лотра, до нічэ́го.* Палессе Віл.

ЛОХ *м.* Лог, аблога, запушчаная, неараная зямля. *Былі рэзакі як луох дзёрці трэба.* Палессе Віл.

ЛУ′БКА *ж.* Круглы кошык, сплецены з саломы і лазы. Балашы Мядз.

ЛУЧЫ′НКА *ж.* Назва народнага бытавога танца. Роспы Кап.

ЛЮБА′ВА *ж.* Нятлустае свіное мяса. *Маладзёж ганяецца цяпер больш за любавай, за любавенькім,— от кумпячок, лапатка, а тлустага, сала не хоча, дай любáвае.* Сакаўшчына Валож.

ЛЮБЯ′ *прысл.* Да спадобы. *Любя́ яму заяўле́нне — зробіць, а не любя́ — кінець.* Каракулічы Мядз.

ЛЮ′ШКА *ж.* Юшка (у печы). Рум Валож.

ЛЯДА′ШЧЫ *прым.* Ледзяны, дужа халодны. *Лядáшча вада.* Хутар Чэрв.

ЛЯЖЭЯ′ *ж.* Папярочная палка-ворчык у сасе, да якой прымацоўваюцца аглоблі. *Пярэчная палка ляжэ́я,*

*у яе, у ляжэю, удзелваюцца дзьве аглоблі, вобжы.* Першаі Валож.

ЛЯ′НЫ *прым.* Льняны. *Колісь хлеб с ляной мякінай еў, яшчэ бялейшы.* Палачаны Маладз.

ЛЯШЧЭ′ЦЬ *незак.* Дружна квакаць. *Жабы гудуць, дошч прайшоў, дак яны і сталі ляшчэць.* Хутар Чэрв.

МАЗЛІ′ВЫ *прым.* Маркі, мазкі. *Такая мацерыя мазлівая.* Негарэлае Дзярж.

МАЗУРКО′ВАЯ ПО′ЛЬКА *ж.* Від полькі-мазуркі. *Мазурковую польку во гэдак танцавалі.* Роспы Кап.

МАЛО′КІ *мн.* Малако. *Ведзьмы адбіраюць у кароў малокі* [з даўняга купальскага павер'я]. Сырмеж Мядз.

МАРУШЫ′ЦЬ *незак.* Церушыць. *Сёньня рана дождджык марушыў.* Рум Валож.

МАРША′ЛІЦА *ж.* Дружка нявесты. Саланая Валож.

МАТАРО′ВЫ *прым.* Даўжынёй 1 м. *Дровы матаровые даўжыні.* Палессе Віл.

МАТРУ′ШКА *ж.* Маточак каляровай пражы, які служыць дадатковым чаўнаком з утком пры закладной тэхніцы ткання. *Ткáна ў матрушкі.* Семежава Кап.

МЕНША′К *м.* Меншы, малодшы сын. *Большы сын ажаніўся, а меншак ішчэ не.* Каракулічы Мядз.

МЕ′СЯЦ *м.* Народны танец на матыў рускай песні «Чудный месяц». Роспы Кап.

МЖА′ЧКА *ж.* Імжа, дробны заця жны асенні дождж. *Мжачка, не выйсці с хаты.* Усохі Круп.

МІ′ЖЫ *злучн.* Паміж, між. *Пасяджу я міжы вас.* Сырмеж Мядз.

МІЛАТА′ *прысл.* Вельмі добра. *Барануюць на яць, мілатá.* Вял. Бор Старад.

МО′РГВА, МО′РГАЎКА *ж.* Морква, моркаўка. Сырмеж Мядз.

МО′ТУЗ *м.,* МАТУЗЫ′ *мн.* Шнуркі, суканыя льняныя ніткі, на якіх па аснове набіраецца рысунак тканіны пры перабіранай тэхніцы ткання. *Ткáна ў сто дваццаць матузоў.* Семежава Кап.

МУТНЫ′ *прым.* Каламутны. *Вада сёння гразная, мутнáя-мутнáя.* Калачы Лаг.

МЯ′ЛЬНІЦА *ж.* Мяліца. Балашы Мядз.

МЯРЗО′ТКА *ж.* Благая жанчына, нягодніца. *Йна такая мярзотка, гáдасць.* Семежава Кап.

НАВЯРНУ′ЦЦА *зак.* Павярнуцца. *Не магу навярнуцца на ягá* [на левы бок]. Каракулічы Мядз.

НАГРЭ′ЙЗАЦЬ *зак.* Начаўпці, наблытаць (у песні). *О, вы ўсякае нагрэйзаеце, як не ведаеце гэту песьню.* Рум Валож.

НАКА′З *м.* Запрашэнне. *Тут суседка памёрла, дык пайду з наказам на пахаванне. Тут такое дзела, што чужога-чужаніцу трэба паслухаць.* Рум Валож.

НА′КЧЫ *займ.* Іншы, інакш. *У Бакшты маціў накчы.* Рум Валож.

НА′КШЫ *прысл.* Інакш. *Было зусім накшы, егдзілі на конях, цяпер на машынах егдзяць.* Каракулічы Мядз.

НАПАЛАВІ′НУ *прысл.* Больш у два разы. *От быў другі заўклўбам, дык весялей напалавіну было.* Саланая Валож.

НАРО′Г *м.* Нарог, лемех, сашнік. Назвы нарогаў: НАРО′Г ВЕ′РХНІ. *Верхні ставіўся вышэй, а сподні ніжэй. Формы неадзінакавыя: верхні — просты, трохі сьпіцаваты, а сподні шыракаваты, круглейшы. Верхні падразаў, а сподні лез у зямлю.* Першаі Валож. НАРО′Г-ВЕРХНЯ′К. Крамок Старад. НАРОГ ЗАКРО′ЙНЫ. Верхні. *Нарогі ўзьбіваюцца жалезныя. Адзін прамой, закройны, рэзаў скібу, выгнуты немношка, левы. Другі — ніжні, правы.* Лускава Лаг. НАРО′Г-ПАДЗЯМЕ′ЛЬНІК. У сасе палескага тыпу з несіметрычна пастаўленымі нарогамі — нарог ніжні, які роўна ляжыць. Юрава Смал. НАРО′Г-РАЗА′К. У той жа сасе палескага тыпу — нарог верхні, пастаўлены пад некаторым вуглом. Юрава Смал. НАРО′Г РАЛЕ′ЙНЫ. У сасе з несіметрычна пастаўленымі нарогамі — нарог ніжні, які роўна ляжыць. Сырмеж Мядз.; Рабунь Віл. НАРО′Г-СПАДА′К. Ніжні. Крамок Старад. НАРО′Г СПО′ДНІ. Ніжні. Першаі Валож. НАРО′Г ЦАЛІ′ННЫ або ЦАЛЕ′ЙНЫ. Верхні, пастаўлены пад некаторым вуглом. Рабунь, Палессе Віл. НАРОГ ЦЭЛЕВО′Й. Верхні, пастаўлены пад некаторым вуглом. Сырмеж Мядз.

НА СА′МЫ ПЕ′РАД. Раней за ўсе іншыя. *На самы перат паявілася гэта сяло ў гэтым краі.* Першаі Валож.

НАСЕ′НАВАЦЬ *зак.* Убраць, упарадкаваць сена. *Трэба ш і бульбу прапалоць і сена насенаваць.* Сакаўшчына Валож.

НАСІ′ЛЫ *мн.* Каромысел для нашэння вёдраў з вадой. *Вазьмі насілы, прынясі вады.* Балашы Мядз.

НА СВЕТ. Выдатна, найлепшае ва ўсім свеце. *Гэта была сьпявачка на сьвет.* Рум Валож.

НА ЦЁМНУЮ НО′Ч. На выпадак смерці. *Маю ўсё, і на цёмную ноч, гроб абабіць.* Рум Валож.

НЕВЫДЗЕРЖО′НЫ *прым.* Нястрыманы. *Боль у мяне невыдзержоная.* Каракулічы Мядз.

НЕДАСТО′ЙНЫ *прым.* Такі, які не заслужыў спрыяльнасці, ласкі, спагады, паблажлівасці. *І чаму я такая недастойная ў госпада? Штодзень малю сьмерць, а не ідзе. Гэта доля такая — сіроцтва, бядоцтва.* Бабровічы Валож.

НЕДАЧУПА′ЛЛЕ *н.* Недарэка. Хутар Чэрв.

НЕДАЧУПА′ЛЫ *прым.* Недаразвіты, мізэрны. *Сын у яе недачупалы быў, малы, аплываты* (гл.). *Недачупальле нейкае.* Хутар Чэрв.

НЕЙЛО′НКА *ж.* Нейлонавая мужчынская сарочка. *Што яму купіць, нейлонку?* Калачы Лаг.

НЕПАКА′ЗАНЫ *прым.* Неймаверна вялікі. *Такая боль непаказаная, балючая. Была палепшыўшы, стала есьці.* Каракулічы Мядз.

НЕРАЗГАРА′КА *м., ж.* Нязграбная, няўмелая асоба. *Ёсць спраўныя хлопцы, но есьць такія неразгаракі.* Семежава Кап.

НІЗО′ВІНА *ж.* Нізіна. *Бульба ўся павымакала, тут нізовіна.* Сакаўшчына Валож.

НІМА′ШАЦЬКА. Няма. *Німашацька анічога.* Сакалавічы Круп.

НІ′ЦІКІ *мн.* Гл. *нічальніцы.* Хутар Чэрв.

НІ′ЧАЛЬНІЦЫ *толькі мн.* Ніты, частка кроснаў, з дапамогай якіх утвараецца зеў у аснове. *Ткана ў восем нічальніц.* Рум Валож.

НО′ЧЭЙ *прысл.* Ноччу. *Ночэй яна сцеражэ скаціну.* Сакаўшчына Валож.

НУ *часц.* Так, але. *Пойдзеш у клуб? — Ну.* Каракулічы Мядз.; Хутар Чэрв.

ПАВА′Л *м.* Валка. *Робе на павале лесу.* Плябаня Маладз.

ПАВЕРХАНО′СНА *прысл.* Павярхоўна, глыбока не ўдумваючыся. *Паверханосна ён усё гаворыць.* Каракулічы Мядз.

ПА′ДАНЫ: ПА′ДАНАЯ БАЛЕ′ЗНЬ. Эпілепсія. *У яе была паданая балезьнь, з гэтага і памерла ў маладым веку.* Сырмеж Мядз.

ПАДАЯ′НКА *ж.* Міласціна. *Цяпер у нас няма, што просяць падаянкі.* Валожын.

ПАДВО́РЫШЧА *н.* Двор. *У падворышчы ляжаць трэскі, схадзі прынясі. Маладых пераймаюць на дарозе, перад падворышчам.* Сырмеж Мядз.

ПАЗЕ́МАЧКІ *мн.* Суніцы. *Сабрала троху пtriумачкаў.* Калачы Лаг.

ПАЗМІРА́ЦЬ *зак.* Вымірацъ. *Тут мала асталося, пазьміралі.* Каракулічы Мядз.

ПАКО́СНІК *м.* Хлопец у дружыне нявесты. *У нявесты хлопцы-пакосьнікі і дзяўчаты-маршаліцы* (гл.). Саланая Валож.

ПАПА́РНІ *прым.* Папарны. *Трава папарняя, кароўка добра есь.* Рум Валож.

ПАПА́СЦІ Ў СКУ́РУ. Патрапіць, дагадзіць каму-н.; быць на сваім месцы. *У прошлым гаду паставілі яго прэсядацелем за Свірам, у тую старану. У скуру папаў, то людзі яго хваляць.* Сырмеж Мядз.

ПАПЕ́ЛЯЦ *м.* Другі дзень вялікага посту ў католікаў, забава. *У пост, на папеляц, мужчыны зьбіраюцца, дзеці, цягнуць калодку. Яе попелам пасыплюць, другім канцом дасьць па калодцы, попел пойдзе па хаце. Гаспадар дае плату, пойдуць у другую хату.* Першаі Валож.

ПАПРА́ДУХІ *толькі мн.* Вячоркі. *Папрадухі, па-прастэ́му — вячоркі.* Сакаўшчына Валож.

ПАРЫ́ГАЦЬ *незак.* Іграць на гармоніку (звычайна абыякава). *Мо адну й парыгае польку. Ідзі, мо польку парыгаеш.* Роспы Кап.

ПАСА́ГА *ж.* Пасаг. *Яшчэ свякроўка прывязла сваю пасагу.* Сяляткі Мядз.

ПА́СЕКА *ж.* Участак зямлі, ачышчаны ад лесу і апрацаваны для пасеву. *Сеялі на пасеках, дзе зямлю разраблялі.* Каракулічы Мядз.

ПА́СКА *ж.* Кадушка. *На каравай трэба тры паскі мукі.* Сакаўшчына Валож.

ПАСЬПЕ́ШКА *ж.* Бульба-скараспелка. Даўгінаў Віл.

ПАТРЭ́САЮЧЫ *дзеепрысл.* Трасучыся. *Мазур-польку патрэ́саючы танцавалі.* Роспы Кап.

ПАЎРЭ́З *м.* Высокая бочка (1,5 м вышыні) з асінавых клёпак для захоўвання жыта. *Насыпаў поўны паўрэз дабра* (гл.). Вяшэўка Бярэз.

ПАЦЕЛЕФАНАВА́ЦЬ *зак.* Пазваніць, пагаварыць па тэлефону. *Ён пацелефанаваў, каб гасьцініцу закрапілі.* Рум Валож.

ПАЮРГО'НІЯ *ж.* Герань, вазон. *Гэты цьвет паюргонія цьвеціць красіва.* Сырмеж Мядз.

ПЕКЛАВА'ЦЦА *незак.* Клапаціцца, даглядаць каго-н. *Я ўжо пяклуюся аб ім.* Саланая Валож.

ПЕНСІЯНО'РАЧКА *ж.* Пенсіённая кніжка. *У мяне ёсьць пеньсіянорачка, магу паказаць.* Бабровічы Валож.

ПЕРАБЕ'РЫЦЬ *зак.* Замучыць. *Гэта боль пераберыць мяне.* Каракулічы Мядз.

ПЕРАБІРА'НКА *ж.* Посцілка, вытканая перабіраным спосабам. *Перабіранкі, посьцілкі ў 4—6—8—12 нічальніц* (гл.) *з дошчачкамі з цьвятамі.* Рум Валож.

ПЕ'РАД *прысл.* Уперад, раней, у мінулым. *Пе́рад пелі, дык умелі. Бес маціфу не будзеш і слоў помніць.* Палачаны Маладз.

ПЕРАЖЫ'ТАК *м.* Перажыванне, тое, што ў жыцці давялося перажыць. *І выгнаны былі, і па лесе бадзяліся, многа перажытку было.* Рум Валож.

ПЕРАПЛО'Т *м.* Азярод. Палессе Віл.

ПЕ'СЕЛЬНІЦА *ж.* Спявачка. *Якая я песельніца была!* Саланая Валож.

ПЕСКАВЫ' *прым.* Пяшчаны. *Зямля наша пескавая, благая.* Сырмеж Мядз.

ПЕ'ЧАНІ: ПЕ'ЧАНІ ЦЯЖКІ'Я. Хворая печань. *Прызнаюць дахтары́, што пе́чані цяжкія.* Каракулічы Мядз.

ПЕ'ЧКА *ж.* Грубка. Каракулічы Мядз.

ПІГУ'ЛКА *ж.* Пілюля, таблетка. *Пігулкі прынімаю, задышка ў мяне.* Палессе Віл.

ПІЛО'ЎКА *ж.* Бервяно, ствол дрэва на дошкі. *Тут быў зрэзаўшы пару піловак.* Каракулічы Мядз.

ПЛАЗЕ'Й *прысл.* Больш плоска. *У сасе нарогі былі пастаўлены: левы рабром, правы — плазей.* Палачаны Маладз.

ПЛАСТО'К *м.* Бярэмя, ахапак сена. *А што там накосіш, пласткоў пяць-шэсьць.* Палессе Віл.

ПЛЕ'СКАЦЬ *незак.* Плявузгаць, гаварыць абы-што. *Што ты плешчаш? Ідзі ляж.* Саланая Валож.

ПЛЯЦЕ'НЬ *м.* Вязанае пакрывала на ложак. Семежава Кап.

ПО'ВЕНЬ *прым.* Поўны. *Набрала повень кошык маслятаў.* Рогава Мін.

ПО'ЛЬКА *ж.* Танец полька. Назвы відаў полькі: ПОЛЬКА-МОРКВА. *Танцавалі ў нас і такую польку — польку-моркву, красівая полька;* ПОЛЬКА-ПАЎЛІ'НКА;

ПОЛЬКА-СМЕХ; ПОЛЬКА-ХАСЭ′ або ПОЛЬКА-ХУ′-СЯ. *Чаму хасэ́, то я не ведаю, раней называлі полька-ху́ся, а чаму — хто яго ведае.* Роспы Кап.

ПО′РАМ *м.* Паром. *На Яна з дзерава сабʼюць по́рам, дзе́рна нарэжуць, накладуць і па рацэ едуць, агня накладуць.* Палессе Віл.

ПО′СТАВАЦЬ *незак.* Пасціць. *Перад калядамі поставалі шэсьць нядзель.* Плябаня Маладз.

ПО′СТАЦЕЛАК *м.* Кавалак нязжатага поля, постаці. *Бывала, постацелак астаецца, дзіця пад сноп пакладзеш і дажынаеш.* Саланая Валож.

ПРАБАЧАНО′ *прысл.* Даравальна. *Старому прабачано пытацца.* Путчына Дзярж.

ПРАВА′ДЫ *толькі мн.* Назва рэлігійнага свята вадохрышча (6 студзеня) у католікаў. Першаі Валож.

ПРАГЛЯ′ТЫ *прым.* Пракляты, ненавісны. *Праглятые фашысты, штук с трыццаць прыехала іх, калі ні болі. Усё бралі і зь ежы і з адзежы. Адны адойдуць — другіе...* Сырмеж Мядз.

ПРАКЛЫНА′ЦЬ *незак.* Праклінаць. *Сваю долю праклынала.* Сакаўшчына Валож.

ПРЫ′ВЕН *м.* Сенцы. Балашы Мядз.

ПРЫГА′РАК, ПРЫГА′РАЧАК *м.* Падгарэлая бульба. Рум Валож.

ПРЫМА′КА *м.* Прымак. *Не любіць мужчына, як так называюць яго,— прыма́ка.* Рум Валож.

ПРЫПЛА′Ч *м.* Галашэнне па нябожчыку. Цынцавічы Віл.

ПРЫЧАЛАВЕ′ЧЫЦЦА *зак.* Прыбрацца, умыцца, прычасацца. *Трэба ўжо прычалавечыцца.* Хутар Чэрв.

ПУНКТ *м.* Страфа, куплет песні. *Харошая песьня, далікатная, на пяць пунктаў. Ёсьць песьняў гэтых, ай-ай, мора!* Сакаўшчына Валож.

ПЭ′ЛЕХ *м.* Пушок, поўсць. *Пачакай, і твае вылезуць* [валасы], *што не будзе пэлеху.* Негарэлае Дзярж.

ПЯКЕ′ЛЬНІЦА *ж.* Халадэча. *Хоць прывязець моху, а то такая пякельніца была.* Каракулічы Мядз.

ПЯСТО′ТА *ж.* Спешчаны, збалаваны чалавек. *Гэта ўжо такая пястота нейкая, твая дзеўка.* Рогава Мін.

ПЯСЦІ′ЦЬ *незак.* Песціць, балаваць. *І пясціць дужа нягодна жэншчыну. Бывае, і с пястоты разыйдуцца.* Калачы Лаг.

ПЯТРА′ *ж.* Пятроўская песня. Сакаўшчына Валож.

ПЯХО'ТАЙ *прысл.* Пехатой. *Пайшла я пяхотаю ў Валожына.* Сакаўшчына Валож.

РА'БУНЕЦ *м.* Жыхар вёскі Рабунь. *Як вошчыкі славіліся рабуньцы.* Рабунь Віл.

РАДЗІ'ВЫ *прым.* Добры (пра род). *Я й роду радзіва, і на ліцо красіва.* (З нар. песні.) Рум Валож.

РАДЗІ'ЦЕЛЬ *м.* Родзіч, сваяк. *Яго радзіцелі тут: браценьнік, пляменьнік.* Крамок Старад.

РАДЫ'СТЫ *м.* Радыст. *Ашчэ ж гот, як радыстым служыць.* Хутар Чэрв.

РАЗА'К *м.* Драўляная саха з адным жалезным разаком, якой падымалі навіну або аблогу. *Разаком наразалі, ён рэжыць, а саха атсьцілае ззадзе.* Палессе Віл.

РАПУ'ХА *ж.* Гл. *варопаўка. Рапуха такая ёсьць, з бальшой галавой, малако сьсе. Раз як далі* [ударылі] *ёй, дак малако, як сьвісьне.* Плябаня Маладз.

РАСКІСЯЛІ'ЦЦА *зак.* Раскіснуць. *Паспаў і раскісяліўся.* Саланая Валож.

РАСПЛІКА'ЦЦА *незак.* Расшпільвацца, распранацца. *Як холадна, барджэй адзяесься, а як горача, расплікаесься.* Хутар Чэрв.

РАСПО'ХНУЦЬ *зак.* Распухнуць. *Мусі ўкусіў вуж, то распохла нага. Яна распохшы ляжыць. Ляжыць і похніць.* Сырмеж Мядз.

РАСЛЕ'СТВА *н.* Расследаванне. *Прыходзілі на расьлества.* Плябаня Маладз.

РАСТО'МЛЯЦЬ *незак.* Здымаць стомленасць. *Песьні то добра для чалавека, яны растомляюць.* Рум Валож.

РА'ТА *ж.* Чарга пасвіць кароў. *Заўтра ўжо Настасіна рата, яна пагоніць.* Саланая Валож.

РАЧЫ'ЦЦА *незак.* Бажыцца, адгаворвацца, адракацца. *А казалі-гаварылі, ходзіць Базыль да Марылі. Ён божэцца і рачэцца, адойдзецца і сьмяецца.* (З хрэсьбіннай песні.) Сырмеж Маладз.

РАШАЦЕ'НЬ *м.* Слуп у азяродзе. *У пераплоце тры рашатні, у іх зацягваюць глобы.* Палессе Віл. *Азярода* (гл.) *мае тры рашатні.* Лускава Лаг.

РО'ШВА *ж.* Паласа вышыўкі. *У нас усе рушнікі с рошвамі.* Семежава Кап.

РУБІ'НА *ж.* Шво ў сарочцы. *Такі дошч ішоў, ні рубіны сухой не было.* Рум Валож.

РЭ'ПКА *ж.* Клубок лыка для лапцей. *Рэпкі гэтыя на лапці; былі панаплятаўшы такіх моцных.* Балашы Мядз.

САЛО′НІЦА *ж.* Абіраная бульба, звараная з соллю. Сакаўшчына Валож.

САЛХВЕ′ТА *ж.* Настольнік. *Салхветы ў ніцікі ткуць.* Хутар Чэрв.

САМАТКА′ЛКА *ж.* Спадніца-андарак, вытканая з адной льняной пражы. Сакалавічы Круп.

САМАТКА′НКА *ж.* Жартоўная назва самагонкі. Ракаў Валож.

СА′РА *ж.* Назва танца, які называецца яшчэ яўрэйскі танец. Роспы Кап.

САРАКІ′ *толькі мн.* Дзень 9 сакавіка (па ст. ст.). *На саракі гушкаюцца ў пуні.* Юрава Смал.

САЎСЁ′М, СУСЁ′М *прысл.* Зусім. *Сын пакінуў нас саўсём. Саслабела сусём.* Сырмеж, Каракулічы Мядз.

СУХАВІ′ЛКІ *толькі мн.* Драўляныя вілы для накідвання гною. *Вілкі, а за Валожынам сахавілкі, лапатка з дзеравянымі ражкамі. Пазьней — жалезныя ражкі, ляхчэй пароць гной.* Першаі Валож.

СВА′ШКА *ж.* Дружка жаніха. *У маладога дзяўчатысвáшкі, пáра.* Саланая Валож.

СВЕ′ТЫШ *м.* Прыстасаванне для палення лучыны. *У вайну свяцілі лучынай, у сьветыш устаўлялі, і гарыць.* Сырмеж Мядз.

СВЯНЦО′НКА *ж.* Прадукты (яйкі, сыр, печыва, мяса), якія былі пасвячоны на вялікдзень у царкве, касцёле. *Валоўнікі* (гл.) *хадзілі на вельканоц* (гл.), *як прынясуць сьвянцонку.* Каракулічы Мядз.

СЕСТРУХА′ *ж.* Дваюрадная сястра. *Яна Міколе сеструхóй даводзіцца.* Хутар Чэрв.

СІВАЧО′К *м.* Стары, сівы чалавек. *Стары, во гэтакі, сівачок.* Палессе Віл. *Старычок-сівачок.* Рум Валож.

СКАКУ′Н *м.* Блыха. *Дайней скакуны́ от кусалі, спаць ні давалі.* Сырмеж Мядз.

СКРЫ′НЯ *ж.* Куфар з роўным векам. *Скрыня з роўчай крышкай, а куфар дугой* [выпуклым векам] *закрываецца.* Семежава Кап.

СКРЫЦІКАВА′ЦЬ *зак.* Пакрытыкаваць. *Гэта я ў сваіх прыпеўках скрыцікую зладзеяў.* Сакаўшчына Валож.

СЛО′МАЧНІК *м.* Сланечнік. Семежава Кап.

СЛО′НКІ *мн.* Гарбузікі сланечніку. *Дай слонкаў трохі.* Хутар Чэрв.

СМУ′ТНЫ: СМУ′ТНЫ БА′ЛЬ. Памінкі, жалобнае

застолле. *Без воткі нічога не дзёлаецца, ні вясёлы, ні смутны баль.* Рум Валож.

СНО'ЎКА *ж.*, СНО'ЎКІ *мн.* Калкі, якія ўбіваюць у сцяну для снавання пражы. Балашы Мядз.

СПАЖА' *ж.* Дзень 15 жніўня (па ст. ст.). *На спажу сьвёнцілі вуголле, моргаўку, капусту і лёну. Няхай карова захварэе, вугольлем курацъ* [з успамінаў пра даўнія народныя забабоны]. Сырмеж Мядз.

СПАЛЬШЧЫ'ЦЬ *зак.* Сказаць па-польску. *Гэта яна ўжо спальшчыла.* Рум Валож.

СПАСІ'БАВАЦЬ *незак.* Дзякаваць. *От іна́ ўжо спасібавала яму, ай-я-яй.* Мацеева Лаг.

СПЕ'ЎКА *ж.* Выдатная спявачка. *От была сьпеўка, лепшая ад усіх.* Рум Валож.

СПІЦАВА'ТЫ *прым.* Завостраны, звужаны на канцы. *Нарог верхні просты, трохі сьпіцаваты.* Першаі Валож.

СПРАКУ'ДЗІЦЦА *зак.* Правініцца, зманіць; знявериыцца. *Раз есьлі спракудзіўся яму, ну, прапаў.* Каракулічы Мядз.

СПЯВУ'ХА *ж.* Добрая спявачка. *Сьпявухаў у нас многа ёсьць.* Сакаўшчына Валож.

СПЯШО'К *м.* Прасліца (грузік на верацяне). *Спяшок робімо з бульбы ці алавяное.* Семежава Кап.

СТАВО'К *м.* Мэндлік. *Ставок — дзевяць снапоў ставім, а дзесятым накрываем.* Рабунь Віл.

СТА'ЛЫ *прым.* Старэйшы па ўзросту. *Яна была сталейшая, а я маладзейшая.* Лускава Лаг.

СТАНІНА' *ж.* Палатно. *Маладая цалуе бацьку ў руку, кідае на каня станіну́.* (З апісання вясельнага абраду.) Сырмеж Мядз.

СТАНПАВА'ЦЬ *незак.* Кіпяціць тканіну для надання ёй большай трываласці. *Сама шыю і станпу́ю.* Сырмеж Мядз.

СТАРЭ'ННА *прысл.* Стаанна. *Рушнік сваe работы, ткала старэнна.* Лускава Лаг.

СТАРЭ'ННЫ *прым.* Старадаўні. *Гэта старэнныя песьні.* Сакаўшчына Валож.

СТРАДА'ЦЬ *незак.* Шкадаваць, даглядаць. *Але натта яны добрыя, мае пасынкі, за мной страдаюць усе.* Саланая Валож.

СТРА'ШКА *прысл.* Страшна. *Ой, страшка!* Хутар Чэрв.

СТРОЙ *м.* Суадносіны тонаў у музычных інструментах. *Я іграю на высокім страі* [вышэй звычайнага, агульнапрынятага на скрыпцы]. Роспы Кап.

СТРОМГАЛО́М *прысл.* Стрымгалоў. *Прывезьлі маладую, то паляцелі стромгалом глядзець, якая яна.* Балашы Мядз.

СТРУЖНІ́ЦА *ж.* Прыстасаванне для стругання спіц да колаў з падрыхтаваных загатовак. Палачаны Маладз.

СТРУНА́ТКА *ж.* Дробная птушка. *Дробныя птушкі-струна́ткі, яны добра пяюць, як на струнах.* Рум Валож.

СТРЫХМЕ́ЛЬЦА *н.* Стрэмя. *Сядзельца, а пры сядзельцы стрыхмельцы.* (З нар. песні). Сакаўшчына Валож.

СТРЫХО́ЎКА: ПАД СТРЫХО́ЎКУ. Спосаб пакрыцця страхі саломай каласамі ўверх. *Пад стрыхоўку, дык па камлёх вада зьбягае, і ўсегда суханька.* Лускава Лаг.

СТУРЧМЯ́К *м.* Сухастой. *Былі стурчмякі такіе па пасеках, сохі такія* [г. зн. з разгалінамі]. Скобраўка Пух.

СУБО́ТА *ж.* Назва народнага бытавога танца. Роспы Кап.

СУЛА́ДНЕ *прысл.* Суладна. *Вот яны ж добра жывуць, суладне, як адзін.* Палачаны Маладз.

СЦЕ́РХНУЦЬ *зак.* Моцна спужацца, абамлець ад страху. *Глядзіць, аж чалавек стаіць, дак яна і сьцёрхла, як вобмарак.* Рум Валож.

СЦІШО́К *м.* Вуснае вершаванае апавяданне. Рум Валож.; Ачыжа Пух.

СЫПНІ́К *м.* Вялікая бочка для збожжа (вышыня больш 1,5 м). Вял. Бор Старад.

СЭРЦО́ВЫ *прым.* Хворы на сэрца. *Я вот нервова і сэрцова.* Палачаны Маладз.

СЯГА́ННЕ *прысл.* Сягоння. *Пэўне, што сяга́нне ён не заявіцца.* Сырмеж Мядз. *Сяга́нне зьбіралася ў ягады.* Рабунь Віл.

ТЛЮМА́ *ж.* Вялікі клунак. *Свайго гора дос, тлюма.* Сакалавічы Круп.

ТОР *м.* След, дарожка. *У баране зьдзелана такая рама, каб не ішла адным торам, каб кожны зуб баранавай асобна.* Палессе Віл.

ТРАСКА́ *ж.* Дранка для пакрыцця страхі. *Траска на кругу́ рэжацца.* Лускава Лаг.

ТРУІ́ЦЬ *незак.* Атручваць. *Ёсьць трынаццаць сартоў грыбоў, што труюць.* Першаі Валож.

ТРЫ́МКАЦЬ *незак.* Падыгрываць другому музыканту. *Гарманіст адзін іграе, а мне трэба трымкаць* [на скрыпцы]. Роспы Кап.

ТУ́МАРНІК *м.* Маўчун. *А ён, тумарнік такі, сядзіць цэлы дзень і маўчыць.* Калачы Лаг.

УБІНДУЖАВА́ЦЬ *зак.* Забінтаваць. *Ён як пачаў рваць рубаху, каб іна́ яго нагу ўбіндужава́ла.* Сырмеж Мядз.

УБО́ІНА *м., ж.* Упарты, непаваротлівы. *Такая ўбоіна, што, як той казаў, ні шла, ні ехала.* Саланая Валож.

УЗМАТЫ́ЧЫЦЬ *зак.* Апрацаваць зямлю, градку матыкай. *Матыкай узматычуць, а тады, бывала, смычком па́шуць.* Сакалавічы Круп.

УЗНО́ВА *прысл.* Ізноў. *Тры тыдня ўзнова не стала есьці.* Каракулічы Мядз.

УКАБА́КА *ж.* Гл. *кукабака.* Рабунь Віл.

У КЛЮ́НКУ *прысл.* Дасыта, па горла. *Ужо так наясіся, у клюнку.* Палессе Віл.

УЛЕ́ГЧЫ *зак.* Легчы. *Улёж ты ўжо, будзець табе круціцца.* Каракулічы Мядз.

УЛЕ́ЗЦІ *зак.* 1. Пасяліцца ў новую хату. *Да сенакосу мы ў гэту хату і ўлезьлі.* (Параўн. *ула́зіны* 'наваселле'.) Сырмеж Мядз. 2. Зайсці, увайсці ў хату. *Гэтак тлумлюся цэлае раньне: ключ згубіла, у хату не ўлезьці.* Хутар Чэрв.

УЛІЎНЫ́ *прым.* Заліўны (дождж). *Сёньня быў добры ўліўны́ дошч.* Рум Валож.

У ЛІ́ШКУ. Няцотны лік. *У лішку — ілі дзевяць, ілі адзінаццаць.* Юрава Смал.

У ПА́МКІ. У памяці. *Я не помню, натта мне ў па́мкі, старому.* Рабунь Віл.

УПРА́ВІЦЬ *зак.* Паправіць, адрамантаваць. *Развальваецца печ, нет каму ўправіць.* Сяляткі Мядз.

УРО́К *м.* Школьны прадмет, пераэкзаменоўка. *Адзін урок астаўся на восень, ізноў экзамен здаваць.* Сяляткі Мядз.

УСКРЫВЕ́ЦЬ *зак.* Сагнуцца ад цяжкай працы. *Я ўскрывела, усё рабіла, рабіла.* Саланая Валож.

ФІЛІНГО́ВЫ: ФІЛІНГО́ВЫЯ ДЗВЕ́РЫ. Дзверы ў хаце, паверхня якіх сіметрычна выкладзена планкамі, утвараючы просты геаметрычны ўзор. Семежава Кап.

ФУ'ТАР *м.* Хутар. *За Польшчай многа вышла на футарэ́.* Каракулічы Мядз.

ХАВА'ЦЬ *незак.* Трымаць, гадаваць скаціну ў гаспадарцы. *Авечкі хавалі, стрыглі іх, аўчыны выраблялі.* Юрава Смал.

ХАЗАВА' *ж.* ФЗВ. *Хлопцы з хазавы́ прыяжджалі.* Хутар Чэрв.

ХАРАШЭ'ЙШЫ *прым.* Лепшы, прыгажэйшы. *Нашы песьні харашэйшыя.* Бор Валож.

ХЕНЬЦЬ *ж.* Жаданне, імкненне, схільнасць. *Хе́ньці не ма́е ўжо ні да чога.* Сырмеж Мядз.

ХЛЁ'ПКАЦЬ *незак.* Хлябтаць. *Было даўней, дзеці, як ядзя́ць, то вуж падымецца і хлёпкае разам зь імі.* Рум Валож.

ХЛЯБО'ВЫ: ХЛЯБО'ВА ПЕ'Ч. Руская ці варыстая печ. Палачаны Маладз.

ХМУРА' *ж.* Хмара. *Але ж хмура́ пайшла старaной.* Саланая Валож.

ХРА'ПКА *ж.* Ноздра. *Нос кароткі, але хра́пкі шыракаватыя.* Калачы Лаг.

ХРЫПЦЕ'ЦЬ *незак.* Хрыпець, сіпець. *Хваціць, замарылася* [спяваць], *ужо ў горле хрыпціць, трэба замачыць.* Рум Валож.

ЦЁНГ *м.* Цягучы матыў песні. *Яны пяюць нейкія старадаўнія песьні, нейкім адным цёнгам.* Рум Валож.

ЦЭНТУ'РА *ж.* Цвінтарэй. *Цэнту́ра добрае зелле, як у грудзях баліць.* Сырмеж Мядз.

ЦЭПІ'ДЛО *н.* Цапільна. *Бярэш цэпідло́ і рукамі ца́паеш.* Палессе Віл.

ЦЭПІЛНО' *н.* Цапільна. Лускава Лаг.

ЦЯПЛІ'ЦЬ *незак.* Грэць (пра печ). *Печ нізенька добра цёпліць.* Пронькі Мядз.

ЧАПА'ЦЬ *незак.* Чапляць, прычэпліваць, прымацоўваць. *У сасе́ паліца стаўляецца на нарог; прыжмецца во гэдак і чапа́іцца.* Каракулічы Мядз.

ЧО'НСТАК *м.* Пачастунак. *Валоўнікі* (гл.) *сьпявалі за чо́нсткі.* Каракулічы Мядз.

ЧУДАВА'ЦЦА *незак.* Сваволіць, займацца балаўством, вытвараць розныя штукі. *Чуду́юцца ўсе хлопцы, аж на галовах ходзяць.* Каракулічы Мядз.

ЧЫ'СЦІНА *ж.* Мясцовасць роўная, бязлесная. *Пад Ме́дзела* [пад Мядзелем] *ні на́йдзеш лесу,— чысьціна.* Сырмеж Мядз.

ШАЙМО́РЫ *толькі мн.* Мёрзлая бульба, якая перазімавала ў зямлі. Калачы Лаг.

ШАЛУЦІ́ЦЬ *незак.* Здагадвацца, разумець, кеміць. *Нешта ш яно шалуціць, малое гэта, разумée.* Баброві́чы Валож.

ШАРУ́ЎКА *ж.* Зборышча дзяўчат пад вечар на вуліцы для спявання. *Раней сьпявалі на вуліцы, так, ша́рай гадзінай. Гаварылі — пойдзем на шару́ўку.* Рум Валож.

ШНУРО́ЎКА *ж.* Кабат, гарсэцік. *У сарочцы, у шнуроўцы, па-старасьвéцкі ўсе бабы раней хадзілі.* Семежава Кап.

ШО́СНІК *м.* Ушэсце. *Перад шосьнікам, на шостым тыдні пасьля вельканоцы, сьвеньцяць зюолкі.* Сырмеж Мядз.

ШПАРА́ГУС *м.* Расліна мірт (Myrtus); падвешаны да столі вазон. Сырмеж Мядз.

ШТРОП, ШТРОФ *м.* Частка танца — калена. *У кадрылі мо штрафоў шэсць было.* Роспы Кап.

ШЧЫТО́К *м.* Гл. *печка.* Сырмеж Мядз.

ШЧЭПА́НЫ *прым.* Плод з прышчэпленага дрэва. *У нас простые вішні, а там шчэпа́ные.* Лускава Лаг.

ШЫТКАЎНІ́ЦА *ж.* Шаткоўня. Калачы Лаг.

ШЫ́ШАЛЬНІК *м.* Ігліца. *Мурашкі нацягалі шы́шальніку таго цэлу гару.* Саланая Валож.

ЯГА́ *займ.* Яго. *Не магу навярну́цца на ягá, на левы бок.* Каракулічы Мядз. *Я ягá брала ў прымы да дачкі.* Плябаня Маладз.

ЯГЛІ́, ЯГЛЫ́ *мн.* Толькі ў каламбуры: *Што вы елі? — Яглі, што ня еўшы спаць ляглі́.* Усохі Круп.

ЯЕ́ЧНЯ, ЯЕ́ШНЯ *ж.* ЯЕ́ЧНЯ-БАЎТУ́ХА — яечня з раскалочаных яец з малаком. Рум Валож. ЯЕ́ШНЯ БО́САЯ — тое, што і яечня-баўтуха. *Яéшню раскалацíла, то яешня босая.* Юрава Смал. ЯЕ́ШНЯ НА ГУ́ЗІКАХ — яечня з нераскалочаных яец. Юрава Смал.

ЯН *м.* Купалле. *На Я́на не работалі. Агнёў у нас не палілі. Я́нава ночка малéнька.* Сырмеж, Каракулічы Мядз. *На Я́на, на пасху і благавешчанне сонца гуляéць. Узы́йдзе, расьсяéцца і апяць сыйдзецца.* (З даўніх народных павер'яў). *Шчытáлася, грэх глядзець, але я 'ткі паглядзéла.* Рабунь Віл. Я́НА ПЕЯ́ЦЬ — спяваць купальскія песні. *Як пойдзеш у лес па ягады, дык Я́на ш пяюць.* Сакаўшчына Валож.

*Н. Ц. Кажура*

# З ЛЕКСІКІ в. ГОЛЬЧЫЧЫ СЛУЦКАГА РАЁНА

Вёска Гольчычы знаходзіцца ў 15 км ад Слуцка. Найбольш яркімі асаблівасцямі гаворкі з'яўляюцца: наяўнасць моцнага якання *(будзя, ня дай бог, пабудзьця тут)*, наяўнасць канчатка *-а* ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў ніякага роду *(парасята, цялята)*, дысімілятыўная мяккасць зычных *(есьці, посьля, сьвет, сьмешна, сьпіца)*, наяўнасць чаргавання зычных *ц—ч* *(цялесьнікі—чалесьнікі, цыкацца—чыкацца)* і інш. Параўнальна нешматлікія адрозненні ў галіне лексікі. З ліку найбольш цікавых можна прывесці наступныя словы, не зафіксаваныя ў «Беларуска-рускім слоўніку» (1962).

АБА'ПАЛАК *прысл.* Абапал. *Бывала пасядуць абапалак, з аднаго боку і з другога, ды яшчэ ззаду, кожнаму трэба даць есьці, а дзе узяць?*

АБАПІНА'НКА *ж.* Вялікая хустка, якой накрываюцца ў дарозе ў халоднае ці мокрае надвор'е. *Холадна ж вельма сёння. Вазьмі абапінанку ў дарогу — цяплей будзя ехаць.*

АБІРЫ'ЧЫЦЬ *зак.* Коратка падстрыгчы, абрэзаць. *Ён заснуў і спаў, а я абірычыў, як захацеў, пад гаршчок, самому сьмешна стала.*

АБНЯХА'ЯЦЦА *зак.* Апусціцца. *Гэта ж так абняхáялася я, нічога рабіць не хочацца, нічога мяне ня радуе.*

АБША'Р *м.* Некалькі сельскагаспадарчых будынкаў пад адным дахам. *У вайну усё пагарэла, сатлела, адны галавешкі асталіся. Тут цэлы абшар стаяў: і хлеў, і стопка, і падпавець, і другія прыбудоўкі,— прышлося занава адбудоўвацца.*

АГЛЯ'ДЗІНЫ *мн.* Агледзіны. *Мірон зруп прадае, учора прыяжджалі на аглядзіны, мабыць, нічога ня вышла, дорага просіць, завярнуў вялікую цану, праўда ж, і зруп новянькі, да й стольки труда ўложана.*

АГУ'РАЦЬ *зак.* Апусціцца, стаць абыякавым. *Агурала, нічога мне не на ўме, здэцца б са сьветам папрашчаўася.*

АГЫ'ЛЯ *выкл.* Воклічы, якімі адганяюць гусей. *Агыля! Гыля, куды ты! Агыля! Краа-а-а! Агыля!*

АКА'РАК *м.* Карак (у свінні). *Удалося сала ў гэтым годзя, а акарак рукамі не абхопіш, таўшчэзны, жырам заплыў.*

АМЕ'ЦІ *мн.* Амецце. *Вязі сюды, тут жа амеці, а не салома, ні на што ня варта.*

АПІВО'ШЫНА *м., ж.* Задзіра. *І твой добры апівошына, гэта ж так біцца, ні стыда ні совясьці німа яму.*

АПРЭ'СЬЛІВЫ *прым.* Ацесліві, прэсны. *Недапечаны хлеп, апрэсьлівы палучыўся, нядобра ў роця, а толькі маленячкі кусочак зьела.*

АСТАДО'ЛІЦЦА *зак.* Уціхаміріцца, угаманіцца. *Пара ўжэ астадоліцца і ўзяцца за розум, колькі ж можна скакаць туды-сюды.*

АСТО'ПАК *м.* Атопак. *Ён жа твайго астопка ня варт, а яшчэ ж сьветам круціць, і што ён толькі думая.*

АТВЕ'ТКІ *мн.* Адведзіны. *Нявестка ж мая радзіла, учора ў атветкі хадзіла, харошы хлопчык радзіўся.*

АХУ'ХЛІЦЦА *зак.* Цяжка адзецца, ухутацца. *На каго ты толькі пахожы стаў, ахухліўся, наўзьдзяваўся, як сноп, яшчэ повадам падпяражыся, тады больш нічога ня трэба.*

БАРЖДЖЭ'Й, БАРЖДЖЭ'ЯЧКІ *прысл.* Хутчэй, хуценька. *Баржджэй, барджэячкі зьбегай у магазін, а то закрыюць.*

БАЦІСТОЎ'КА *ж.* Хустачка з батысту. *Знасіла ўжэ, ліхенькая стала, а такая хароша была бацістоўка, тонянькая, мякянькая, як павуцінка, на галаве не чуваць.*

БРЫ'ЗГЛЫ, ЗБРЫ'ЗГЛЫ *прым.* Абрызглы. *Ад брызглага малака жывот баліць. Збрызглае малако ўжэ, з учарашняга стаіць, няхай скісьне.*

БРЫ'НДА *м., ж.* Неахайны, неакуратны ў рабоце чалавек. *Атыдзіся, брында, я лепш сама, а то сь цябе толку як с казла малака.*

БУЛДАВА'ЦЦА *незак.* Перабівацца, цярпець нястачы. *Булдўецца ўсю сваю жызьню. Што яна бачыла? Нічога. Перабіваецца с хлеба на воду.*

БЭ'СТА *м., ж.* 1. Зневажальнік. *Ой, бэста, ні ведае, ні знае, а гэтак жа збэсьціць чалавека!* 2. Неахайны, не-

акуратны ў рабоце чалавек. *От, бэста, нічога ня ўмееш зрабіць акуратнянька: ні сабе паглядзець і ні людзям паказаць.*

БЯЗГРОʹШЫЦА *ж.* Безграшоўе. *Німа ні капейкі, хоць ты крычы, у іх такая бязгрошыца ўвесь час, але бывала ж перабіваюцца.*

ВАЖАГІʹ *мн.* Качарэжнік. *Памый мне, дзіцятка, харашанька, у важагах вада мылкая стаіць.*

ВАʹЛЯН *м.* Вэлюм. *От, у Маньчынай дзеўкі харашэзны валян быў, гэта ж ёй прыслаў дзядзька.*

ВАНДЗЭʹЛАК *м.* Клунак. *Куды ты з такімі вандзэлкамі, мо ў прочкі сабралася?*

ВАЎКАЧЭʹЧА *м. зневаж.* Злосны, ненавісны чалавек. *От, ваўкачэча ты пракляты, вочы б мае не глядзелі.*

ВЕʹРЧЫК *м.* Невялікі скрутак лыка, ільну. *Ой, колькі верчыкаў дзед нарабіў, аж у балеі ня месьцяцца. От вычашу лён харашэнячка і ў верчыкі паскручваю, няхай ляжаць, мо калі што сатку.*

ВОʹПСЫС *прысл.* Раптам. *І напалі на мяне ўсе вопсыс, што гэта будзя, я ня ведаю, канец прыходзіць.*

ВЫʹДЗІРКІ *мн.* Раскарчаванае месца. *На выдзірках добра трава расьце, хоць каровы будзя дзе пасьціць.*

ВЫДРЫГОʹЎВАЦЬ *незак.* Дагаджаць. *От, ужэ выдрыгоўваеш сваім дзеткам, ці скажуць посьля дзякуй.*

ВЫʹПАСАЖЫРЫЦЬ *зак.* Выгнаць. *Чуць выпасажырыла з хаты, надаеў так, галаву надурыў.*

ВЫʹПРАХНУЦЬ *зак.* Спрахнуць. *А няхай яна выпрахне, такая доля стрэла мяне, што ўвесь век булдавацца прыходзіцца, і канца гэтаму гору німа.*

ВЫСТАНЧАʹЦЬ *незак.* Дагаджаць. *Надаела мне ўжэ выстанчаць, няхай сам па сабе як хоча.*

ВЫЦІРАʹННІК *м.* Уціральнік. *Ты забыла яшчэ выціраннік памыць, перачухлі трохі хоць у пазалках, а тады ў гарачай вадзе, там у чыгуне яшчэ есь.*

ВЫЦЯНГАʹЧ *м.* Вымагальнік. *Добры выцянгач, так і глядзіць, дзе б што пацягнуць, бяссовясны некі.*

ВЫЦЯНГАʹЧКА *ж.* Вымагальніца. *Але ж і выцянгачка, адны толькі мысьлі, каб што пабольш выцыганіць, пацягнуць сабе пабольш.*

ВЫʹШЫНКАВАЦЬ *зак.* Растранжырыць. *Вышынкавала ўсё бяс толку, растыцкала, а цяпер хоць кулак сьсі.*

ВЭʹДЛЯ *прысл.* Паводле. *Вэдля яго ён нікуды ня варты, той жа куды харошы і добры такі чалавек.*

ВЯРЭ'ПАЎКА *м., ж. перан.* Няўклюда. *От, вярэпаўка, абязацяльна трэба панаразьліваць, панараскідаць, хіба ж няможна акуратней!*

ГАМЯНУ'ЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць, піхнуць. *Гамянуў, што чуць падняўся, яшчэ і сёння, чую, плячо баліць.*

ГЕ'СТАРКА *ж. экспр.* Вострая на язык, бесклапотная, шустрая жанчына. *Гестарка гэта, крыху перахрысьціць агарод і ўжэ гатова бегчы языком малоць.*

ГНЯВЫ' *мн.* Гнеў, крыўда. *От, яшчэ некія гнявы тут, каб было з-за чаго, а то ж з-за ярунды гневацца, па году не хадзіць адзін к другому.*

ГРЭ'ЛЬМА *прысл.* Нечакана, раптоўна. *Ішла я с поля, а сабака выскачыў аднекуль і грэльма кінецца на мяне, аж язык адняло.*

ДАЎНА' *м., ж.* Надакучлівы чалавек, зануда. *Гэта ж такі даўна, галава ўжэ забалела ад адных і тых жа размавораў.*

ДЖВА'ГАЦЬ *незак.* Стукаць, бразгаць. *Паціхеньку джвагае на дварэ, трэба ж нечым заняцца, от і джвагае.*

ДЗЬВІЖЭ'ЦЬ *незак.* Трымцець (ад напружання). *Яна высока залезла, мацуецца, што аж гальлё дзьвіжыць.*

ДЛЯ'КАЦЬ *незак.* Гаманіць. *Пакуль длякалі, стаялі, і час прайшоў.*

ДО'ДАЛЬ *м.* Гультай. *Ну і додаль ты, заняўся б чымнібудзь, а то ходзіш з вугла ў вугал.*

ДРАСЬЛЁ'Н *м.* Драсён. *Асьцярожна — драсьлён горкі, і ня дай бог вочы ня тры, а то спасу ня будзя.*

ДРЫ'НДА, ДРЫНДУ'ЛЯ *ж.* Шалахвостка. *Ну і дрында, калі ты ўжэ асьцяпянісься. А ты дрындуля, ужэ лажыся, хваціць, пара спаць.*

ДРЫНДАВА'ЦЬ *незак.* Шалець, заўзята танцаваць. *Ну і надрындаваўся, мо сто патоў выступіла, гэта ж трэба так дрындаваць.*

ДУ'БЕЛЬТЫ *мн.* Дубэльты. *У нас у мыцяльнум акне дубельты стаяць, трэба даўно ўжэ выняць, а то і лета пройдзя так.*

ДУ'НДЗІЦЬ *незак.* 1. Бубніць. *Дундзіць сабе пад нос, што нічога нельга разабраць.* 2. Ссаць. *О, дундзіць, як парася, аж смокат раздаецца.*

ЗБУ'ЦЯЦЬ *зак.* Згніць. *Трэба растрэсьці салому, а то ўся збуцяе.*

ЗЬДЗЯ'ЖЫЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць, стукнуць. *Як*

*зьдзяжыў па сьпіне палкаю, дак па сёняшні дзень астаўся знак.*

КАЗЛЫ′ *мн.* Сталюга. *Возьмам казлы і да вечара парэжам усе дровы.*

КАЧАРГЕ′ШНІК *м.* Качарэжнік. *Вазьмі там у качаргешніку шчотку і пазьнімай павуцінне са столі, анучаю мокраю абкруці, каб не пыліць.*

ЛАДАВІ′ТЫ *прым.* Сабраны, акуратны чалавек, які любіць парадак. *Іш, якая ладавітая ты, усё акуратнянька, маладзец!*

ЛАНЦА′К *м. экспр.* Псіх, псіхоз. *Схапіў ланцак, раззлаваўся, ні за што ня хоча слухацца нікога.*

ЛАНЦАКАВА′ТЫ *прым.* Псіхаваты, запальчывы. *Ну, ланцакаваты некі, не разьбярэцца, а зразу кідаецца, як самашэтшы, аж сьліна з рота пырскае.*

ЛІХЕ′НЬКІ *прым.* Вынашаны, старэнькі. *Такі ўжо ліхенькі жакецік стаў, што аж локці сьвецяцца.*

ЛЭ′ПТА *м., ж.* Няўклюда. *Ты куды лезеш, лэпта, увесь бурачнік патаптаў, не, каб разоркаю іці, табе майго труду ня шкода.*

ЛЮДАЕ′ЖЛІВЫ *прым.* Пераборлівы ў ядзе. *Мой жа не такі людаежлівы, трошкі лепш, як сьвіням, наварыў, ды й добра.*

ЛЯДА′ШЧЫ *прым.* Злы, запальчывы чалавек. *Гэта ж такі лядашчы, аж страшна, тады лепш не падыходзь.*

ЛЯ′ПАЎКА *ж. экспр.* Зяпа. *Закрый сваю ляпаўку і не крычы, бес цябе галава баліць.*

МІ′ГАТАМ, МІ′ГАТКАМ *прысл.* Мігам. *Пабуцця тут, а я мігатам ухажуся ды й пойдзям. Мігаткам зьбегай прынясі дроў, а то патухня ў печы ўсё.*

МІКДА′ЛІНА *ж.* Дрэва міндаля. *У нас пад акном расла мікдаліна, але як хату раскідалі, дак яна й прапала, смачныя ягады былі.*

МІКДА′ЛЫ *мн.* Прысмакі, плады міндаля. *Што табе мікдалаў захацелася, ці што яшчэ?*

МЫ′ЦЯЛЬНЫ *прым.* Кухонны. *Паглядзі там, павінна ляжаць на мыцяльнум акне.*

НАБІКРЭ′НЬ *прысл.* Набакір. *Шапку набікрэнь — і пайшоў гуляць.*

НАКО′ЛЬНІЦА *ж.* Круцёлка, гарэза. *Чаго ты носісься, як накольніца.*

НЯХЛЮ′Й *м.* Няўклюда. *Няхлюй ты, хіба ж можна так паказвацца ў людзі.*

НЯХЛЮ'ЙКА *ж.* Няўклюда. *Няхлюйка, прыбярыся трохі, на цябе ж нельга глядзець, ідзі хоць памыйся, ня бойся вады.*

ПАДВО'ДЗІЦЬ *незак.* Выводзіць, выцягваць гук, добра спяваць. *Зіна была на вяселлі, яна ж вельмі хараша падводзіць.*

ПАДСВІНА'КА *ж.* Падсвінак. *Купілі ў Марфы дваіх падсвінак, стольki грошай убухалі.*

ПАКРЫ'ШКА *ж.* Накідка. *Яшчэ Галя Мішава калісьці выгафтавала пакрышкі на падушкі і на вокна фіранкі.*

ПАРЫГАЦЕ'ЦЬ *зак.* Пакіпець. *Вот яшчэ трошачкі парыгаціць, дойдзе і можна вымаць.*

ПАСТО'ЯЛКА *ж.* Вяршок. *Ліцо спаліла каровы пасучы, пастоялкаю змазалі.*

ПАТРАША'НКА *ж.* Вантрабянка. *Яшчэ трохі есь патрашанкі, нядаўна закалолі сьвіню.*

ПАХО'ЛАК *м. экспр.* Служка, слуга. *Што я табе пахолак які, ці што, што ты на мяне крычыш.*

ПЕРАЧУ'ХЛІЦЬ *зак.* Зрабіць што-н. неахайна. *А яна ж ня глядзіць: перачухліць, перахрысьціць гэтыя грады і носіцца тады да вечара.*

ПІСУ'ГА *ж.* 1. Шрам на целе. *Гэта ж бацька так пугаю апаясаў па нагах, што яшчэ пісугі асталіся.* 2. Рыска ад карандаша. *Што ты навадзіла некіх пісугаў, спорціла ўсё.*

ПРАНЦАВА'ТЫ *прым.* Нягодны, дрэнны. *От пранцаваты ж чалавек, ніякага з ім зладу німа, хіба ж можна нармальнаму чалавеку жыць с такім.*

ПУ'ШКІ *мн.* Суставы пальцаў. *Так моцна пушкамі выцялася аб вядро, аж рука зайшлася.*

ПЫ'ШКА *ж.* Мёрзлая, перазімаваўшая на полі бульбіна. *У вайну зьбіралі пышкі на полі вясною, пяклі скавароднікі, елі ва ўсю.*

ПЯРЭ'БІРКА *ж.* Саматканая посцілка. *Выткала дзьве пярэбіркі: адна чорная з зялёным, а другая вішнёвая з чорным.*

РАДО'ЎКА *ж.* Жанчына, якая любіць хадзіць па хатах. *Ужэ пайшла ў абход радоўка гэтая, як зыдзе з раніцы, чуць у печы ўспея выпаліць, да вечара ня сышчаш, затое ўсе навасьці ў яе.*

РЫ'ЖА МЯ'СА. Мяса без тлушчу. *Адно рыжа мяса, сала саўсім мала.*

СІБЕ′РНЫ *прым.* Злосны, дрэнны. *Ня дай бог які сіберны, халерны чалавек.*

СМАКТУ′Н *м.* 1. П'яніца. *А гэты ж смактун быў саўсім сьпіўся, вочы ўжэ на сьвет божы ня глядзяць, ня дай божа нікому добраму.* 2. *перан.* Вымагальнік. *Такі смактун, што ўсе сокі высмактаў з мяне і ўсё мала.*

СПРО′НЧЫКА *ж.* Спражка. *От, начысьціў спрончыку — аж зіхціць.*

СТРЫМЕ′ЦЬ *незак.* Тарчаць, аціраццa. *Годзе табе стрымець тут, ідзі лажыся.*

СТУДЗЯНІ′НА *ж.* Квашаніна. *Студзяніны наварыла, каўбасы купіла, усяго патрошкі да й сабярэцца на стол.*

СУКНЯКІ′ *мн.* Буркі. *Мо адзеняш сукнякі, цёпла будзя картоплі выбіраць.*

СЬЛІМБА′ТЫ *прым.* Слінявы. *Некія яны ўсе сьлімбатыя, але ж пападростаюць — вылюдзяюць, яшчэ якімі людзьмі будуць.*

ТРЫСЬЦІ′ЦЬ *незак.* 1. Перабудоўваць. *Мужчыны сёння пачалі трысьціць хату.* 2. Крыць. *Бацька пайшоў трысьціць крышу, саломы ў яе німа.*

ТЭ′НДАЛЬ *м.* Гультаяваты дзяцюк. *Тэндаль ты, увесь дзень прашляўся з вугла ў вугал бяз работы, палец аб палец ня стукнуў.*

УВАДЗЕ′ЦЦА *зак.* Цёпла апрануцца, ухутацца. *Увадзейся, як сноп, зато цёпла будзя.*

УДЗЬВЕ′ЙГУ *прысл.* У дзве столкі. *Зацягні нітку ўдзьвейгу, каб не парвалася.*

УЗЬДЗІБЕ′РЫЦЦА *зак.* Узабрацца, залезці. *Ну й узьдзіберыўся, на самы вяршок, глядзі зваліськя.*

УЗЬДЗІБЕ′РЫЦЬ *зак.* Нацягнуць з цяжкасцю. *Цесныя бацінкі — чуць узьдзіберыў на ногу.*

УСЫРЫ′ЧЫЦЬ *зак.* Адлупцаваць. *Усырычыў дак усырычыў — век помніць будзя.*

ЦЁМНАЧЫ *прысл.* Папацёмку. *Задлякалася, цёмначы ішла дадому.*

ЦЫ′КАЦЦА, ЧЫ′КАЦЦА *незак.* Важдацца. *Я с табою дойга цыкацца не сабіраюся, раз-два — і гатова. Хваціць чыкацца с табою, надаела мне, ужэ пара падумаць самой.*

ЦЯЛЕ′СЬНІКІ *мн.* Чалеснікі. *Пастаў тут у цялесьніках, я яшчэ буду вымаць крупнік парасятам.*

ШАНБЕ′РКА *ж. абразл.* Жанчына, якая адносіцца

абыякава да работы. *От, шанберка, перахрысьціла абыяк і пусьціла, а не, каб хорашанька прыбрала, а то ж ні сабе паглядзець, ні людзям паказаць.*

ША́ПКА, ША́ПАЧКА *ж.* Макаўка. *На самай шапцы баліць. Уздулася шапачка і так баліць, нельга вытрываць.*

ШВЫДЭ́ЛАК *м.* Шыдэлак. *Я ўмею вязаць толькі швыдэлкам, а сьпіцамі не навучылася.*

ШЛЯГАВА́Я ДАРО́ГА. Людная, бойкая дарога. *Дарога шлягавая, у самым цэнтры магазін, то ўсё паразьбіраюць: і рыбу, і хлеп, і мяса.*

*І. І. Крамко*

# З ЛЕКСІКІ в. БЕРАЖНА

Гэты артыкул з'яўляецца дапаўненнем да раней надрукаваных пад назвай «Мясцовыя словы адной прынёманскай гаворкі»[1]. Сюды ўвайшлі словы, якія не зафіксаваны «Беларуска-рускім слоўнікам» (1962), або адрозніваюцца значэннем, ці маюць іншую фонамарфалагічную структуру.

АЛО'Х *м.* Канец. *Бліско ні падлась, бо дзяравяка можа атскочыць, дасьць па галаве — і алох табе будзя!*

А'ЙКАЦЬ, О'ЙКАЦЬ *незак.* Енчыць. *Пярастань ты ойкаць, ні так ужо табе і баліць!*

АПІВО'Ш *м.* Абдзірала. *Ён нідзе свайго ні папусьціць, і беднаго ні пашкадуя, апівош такі.*

АРШЭ'НЦЫ *мн.* У выразе: *Каб цябе (яго) аршэнцы з'елі — каб на цябе* (яго) *ліха. Хай яго аршэнцы з'ядуць, калі ён г э т а г о н і х о ч а е с ь ц і!*

АСЯНЧУ'К *м., н.*, АСЯНЧУ'ЧКА *ж.* Ягня асенняга акоту. *Гэтыя ягнята — парка, абоё асянчукé, але адно за зіму трохі закажаняло, дак меншаё, а другоё вунь якоё вырасло.*

АХА'ЙВАЦЬ *незак.* Ганіць. *Чужую работу ён прывык ахайваць, а сваю нябось заўсюды захвальвая.*

АХА'ЯЦЬ *зак.* Заганіць. *Ты так ахаяла маю работу, што ўжо й рукі ні ляжаць да яе.*

БАЛЭ'ХТАЦЦА *незак.* Плюхацца. *Вы ні вельмі балэхтайцяся ў вазярні, бо яшчэ рыбінаі кароСты набярацéся!*

БАРАБО'ЛЯ *ж.* Бульба. *Як паехаў зяць да цёшчы,— запрасіла сесці, паставіла бараболю з мундзярамі есці.* (З песні.)

---

[1] З народнага слоўніка. Мінск, 1975; Народнае слова. Мінск, 1976; Народная лексіка. Мінск, 1977.

БАЦ *м.* Пацук. *Старыя бацэ́ ката ні баяцца, ды і кот ні заўсюды адважваяцца іх лавіць.*

БЕ'ЙБУС *м.* Вялікі няўклюдны юнак. *Вунь які ўжо бейбус вырас, а да работы ні вельмі кідаяцца.*

БЕРАГУ'ЛЬКА *ж.* Ластаўка, якая робіць гняздо ў абрывістых берагах ракі. *Бярагулькі і ў полё далёко ад Нёмна ні ляцяць, і ў сяло ні залятаюць: яны ўсё над вадою мошак ловяць бліско ад сваіх гнёздаў.*

БЕРАГУ'ЛЬЧЫН *прым.* ад *берагулька. У бярагульчыно гняздо кот ніколі не залезя.*

БІ'ТКА *ж.* Стары знясілены конь (які часцей за ўсё падлягаў забою). *На гэтуй бітцы ты ўжо свайго поля ні ўробіш, вядзі ў Круганэ, на конскія моглiцы, а сабе купляй другого.*

БО'ЖКАЦЬ *незак.* Бедаваць, часта паўтараючы «а божа-божа!» *Чаго ты ўсё бошкаяш? Велькай і бяды тут німа, нек жо ш будзя.*

БРЫЗЬГА'Ч *м.* Гл. *драпка́ч.*

БУ'КІШ *выкл.* Гл. *дзёшкі.*

БЭ'РСАЦЬ *незак.* Блытаць. *Ні бэрсай так нітак, бо потым на клубок кепско будзя навіваць!*

ВАЛАСЕ'ННЕ *н. зборн.* Валоссе. *Чуць ні ўсе птушкі свае гнёзда ў сярэдзіні высьціляюць валасеньням, кап галышнятам цёпло было.*

ВУЖЭ'ЛАК *м.* Свавольнік (пра дзіця). *Ты свайго Колі, глядзі, з вока ні спускай, бо ён, як вужэлак, усюды лезя!*

ВУ'ПАР *м.* Маўчун. *Я да яго гавару, а ён сядзіць, як вупар, толькі пазірая с-пад ілба.*

ВЫ'ЛАГ *м.* (часцей *мн.* ВЫ'ЛАГІ). Штрыфель. *Каб вылагі ні закручваліся, трэба іх рабіць на ворсі з суравым палатном.*

ВЫЛІВА'ЦЬ ПЯРЭ'ПАЛАХІ. Лячыць ад пярэпалахаў шляхам якога-н. чарадзейства. *Нешто ён саўсім пярастаў есьці і пазялянеў. Трэба завясьці і папробаваць пярэпалахі выліць — можа дзе спалохаўсё.*

ВЫМО'ШЧВАЦЬ (ВЫ'МАСЬЦІЦЬ) ЗЛОСЦЬ. Спаганяць злосць. *Як німа да каго прычапіцца, дак ён умея сваю злосьць і на скаціні вымасьціць.*

ВЫ'ПЕТРАЦЬ *зак.* 1. Высахнуць, выгараць. *На гэтум пяску ніколі нічого ні вырасьця. Зь вясны бярэцца расьці, а потым усё выпятрая, нават насеньня ні зьбярэш.* 2. *перан.* Высахнуць, пахудзець (пра чалавека).

*Мусіць ні лёхко табе там было, вунь увесь выпятраў — адно зубы і вочы блішчаць.*

ВЫ́СКРАБАК *м.* 1. Паскрэбак (пра хлеб). *На гэты рас ні много хлеба будзя — чатэры баханкі і выскрабак нівялікі.* 2. *перан.* Апошняе дзіця ў пажылых бацькоў. *Усе думалі, што ў іх ужо больш дзяцей ні будзя, але вот яшчэ палучыўсё выскрабак, Вася, як Машцы самой было пат підзьдзісят гот.*

ВЫ́ХІЛКІ *мн.* Выбрыкі. *Здаецца, ён ужо дзяцюк з розумам, а часам выхілкі ў яго бываюць, як у малого.*

ВЯСНЯ́К *м.*, ВЯСНЯ́ЧКА *ж.* Ягня вясенняга акоту. *Вясьнякé часто скарэй растуць, як асянчуке, бо ў цёплы час родзяцца, ды і корм лепшы, трава — гэто ні сухоё сено.*

ГАЛАВА ЯМУ (МНЕ) УГАРЭЛА. Няма (не было) яму (мне) ніякай справы. *Ці паглядзела ж яна табе кнігі ў магазіні? Але, галава ёй угарэла!*

ГА́ЛКА *ж.* Снежка. *Ты ні лезь з большымі ў галкі біцца, бо нос расплешчуць!*

ГАНДЛЯВА́ЦЬ *незак.* Быць у перыядзе цечкі (пра сабак). *Наш сабака, як шчуя, што дзе сучка гандлюя, дак заўсюды сарвецца с прывязі і ўцячэ з двара.*

ГАРАХВЕ́ННЕ *н.* Сцяблы і салома гароху. *У гэтум годзі гарох добры парос. Ні ведаю, колькі намалоцім, але гарахвеньня вазоў два добрых будзя.*

ГАРБУЗЕ́ННЕ *н.* Гарбузнік. *Ты гарбузеньнё з разоры пяралажы на граду, бо, як растопчам, гарбузэ ні высьпяюць.*

ГАРШЧЭ́СНІК *м.* Вілкі, якімі ставяць гаршкі ў печ. *Гаршчэсьнікаў мы раней ні куплялі: бацько сам рабіў с тоўстаго дроту.*

ГАЦІ́ЦА *ж.* Лічынка аўсяніка. *На гаціцу вельмі добро любая рыба бярэцца.*

ГІЗ *м.* Шал, гарэзлівасць. *Ты сядзі і спакóйно рабі ўрокі, ато некі гіс цябе разабраў!*

ГНЯВЫ́Ш *м.* Той, хто гневаецца. *Ого, які ты гнявыш! Я ш толькі сьмехам сказаў, гневацца німа чаго.*

ГРАЗМО́ЛІЦЬ *незак.* Брыдка і нячыста пісаць. *Чаму ты ні стараясься, а толькі гразмоліш? Дóбраі атметкі за гэто ні паставяць. Награзмоліў ты, як курыца лапаю.*

ГРЭ́БЕНЬ *м.* Вільчык. *Наша хата ў грэбяні ўжо працякая. Увосянь трэба будзя выплажыць кастрыцаю.*

ГУ'КАЦЬ *незак.* Быць у перыядзе цечкі (пра свінней). *Наша сьвіня мусіць усхадзілася гукаць, бо нешто есьці ні бярэ.*

ГЭ'ТТА, ГЭ'ТТАКА *прысл.* Тут, тутака. *Навесну тут пасадзім картоплю, а гэтта трэба будзя зрабіць грады.*

ДАРО'ГА *ж.* Развод у піле. *Бясь сьпіцыяльнаго ключа дарогу ў разаку разьвясьці цяшко.*

ДАЦЬ МАХНІДРА'ЛА. Кінуцца наўцёкі. *Яны пабаяліся, каб ні зарабіць па вушах, і такого махнідрала далі, што і сабакі ні дагналі б.*

ДАЦЬ ЧА'ПАЛАСУ. Даць дыхту. *Чаму ты ні глядзеў карой, што ўвесь канец аўса стапталі? Дасьць табе бацько чапаласу.*

ДЗЕЛЯСПЁР *м.* Назва рыбы. *Да вайны часто можно было злавіць велькую рыбу — дзялясьпёра, цытру ці марского гялба, а цяпер яны вельмі рэтко пападаюцца.*

ДЗЁШКІ *выкл.* Ужываецца для заахвочвання барана, бычка біцца рагамі (галавою).

ДЗЯНЯ'ШНІ *прым.* Дзённы. *Ты і дзяняшняё малако пастаў у пограп, бо цяпер гэдак горачо, што да вечара скісьня.*

ДРА'НКА *ж.* Бабка (страва з дранай бульбы). *На пліце дранка добрая ні палучаяцца. Яе лепш тушыць у глінянум гаршку ў печы.*

ДРАПКАЧЭ' *мн.* Махры ў ручніку, звітыя ў вяровачкі.

ЖА'БІНЫ НАЧО'ЎКІ *мн.* Гл. *лупок.*

ЖАЛАПА'ЦЦА *незак.* Гарлапаніць. *Чаго ты на ўсё полё жалапаясься, падыдзі бліжай і скажы!*

ЖА'ЛКА. Шкада. *Гэтыя клёпкі жалко пускаць на цэбар, з іх добрая бочачка будзя.*

ЖМЕ'НЬКА: НА ЖМЕ́НЬКІ. Спосаб уборкі збажыны, калі кожная нажатая жменя рассцілаецца для поўнага высыхання. *На жменькі мы жалі, як пагода сырая, або вельмі травяністая салома.*

ЖУ'ЙКА *ж.* 1. Жвачка. *Авечкі, гэдаксамо як і каровы, як палягуць — жуйку жуюць.* 2. Пажованая страва. *Што? Цябе, як дзіця малоё, жуйкамі карміць, ці што?*

ЗАБЭ'РСАЦЦА *незак.* Заблытацца. *Клубок зваліўсё с паліцы і забэрсаліся ніткі.*

ЗАБЭ'РСАЦЬ *зак.* Заблытаць. *Асьцярожно навівай ніткі, каб ні забэрсала маток.*

ЗАВО'РКА *ж.* Заворванне. *На насёньнё лубіну я сеяў мало, большая часць — пад заворку.*

ЗАКАПЁРШЧЫК *м.* Завадатар. *Гэто ён дома ціхянькі, а ў кампаніі — першы закапёршчык ва ўсём.*

ЗАКА'ТНА *прысл.* Зацята. *Ён так закатно ўзяўсё, што я й ні спадзявалася.*

ЗАКА'ТНЫ *прым.* Зацяты. *Мой большы да работы вельмі закатны, а вучыцца ляну́яцца.*

ЗАО'ЙКАЦЬ *зак.* Заенчыць. *Ён ішоў трохі ўперадзі ад мяне, а потым раптам як заойкая: чуць ні наступіў на вужа.*

ЗАРЭ'ЙПАНЫ *прым.* Запэцканы. *Яна саўсім ні глядзіць за сабою, заўсюды некая зарэйпаная ходзіць, нават у сьвято.*

ЗАСІВІ'ЦЬ *зак.* Чуць прыбяліць малаком страву. *Малака ў нас німа, каб добро паесьці, вот толькі хватая засівіць зацірку.*

ЗАШЫ'ЕК *м.* Патыліца. *Ты много яго ні ўгаворвай, дай па зашыйку — і няхай ідзе робіць, калі сам ні панімая!*

ЗБЛУДЗІ'ЦЬ *зак.* Збіцца з курсу. *Мы, здаецца, дзяржаліся лініі, але трохі зблудзілі, ні вышлі, куды дагаворваліся.*

ЗЛЫ'БЕДЗЬ *ж.* Злыбеда. *Гэто ні чайка, а злыбяць некая, на ёй наўрат ці пяраедзям на той бок.*

ЗУЙ' *м.* Адходы пры часанні воўны. *З гэтаго зую, добро спраўшы, палучацца шкарпеткі, а ў сукно гэтыя ніткі ні пойдуць.*

ЗЬВЯ'ГІ *мн.* Сківі́цы. *Ты тут моцно свае зьвягі ні распасьцірай, ніхто цябе ні баіцца!*

ЙІ'МПАТ *м.* Паветра, пах, дух. *Некім халодным йімпатам зь дзьвярэй цягня, мусіць, велькі марос на дварэ. Ты ранавато закрыў юшку, бо йімпат чадны ў хаці.*

ҚАЗІ'НЕЦ *м.* Сівец. *Қазіняц авечкі добро ядуць пака ён малады, а старо́го — не.*

ҚАСМЫ'Қ *м.* Қасмыль. *Як ты ў школу ідзеш?! Парасчэсвай хоць трохі касмыке́ свае, ато як куст ялаўцовы!*

ҚАШТА'Н *м.* Қонь каштанавай масці. *Гэтаго каштана я нідаўно купіў, а свайго прадаў.*

ҚАШТА'НҚА *ж.* Қабыла каштанавай масці.

ҚЕ'ЛЗЫ *мн.* Цуглі. *Қонь то быў закелзаны, але ён*

*так заціснуў пашчэнгамі келзы, што трудно было спыніць яго.*

КЕ'ПАЛА *м., ж.* Капун, капуха. *Яна такоё кепало, што ў любой рабоці ў хвасьце цяляпаяцца.*

КЕ'ЎКНУЦЬ *зак.* Здохнуць, памерці. *Тоё парася нешто сохло, сохло ды саўсім кеўкнуло.*

КЛЕНЬ *м.* Рыба, падобная да язя.

КЛЯНЧУ'К *м.* Малы *клень.*

КО'НСКІ *прым.* Вялікі, большы за свае звычайныя памеры. *Ты пішы лепш, ато ў цябе палучаюцца некія конскія буквы!*

КО'НЧА *прысл.* Абавязкова. *Конча табе там трэба быць? Абыдуцца бясь цябе.*

КОЎЦЬ *выкл.* Пра глытанне. *Трэба было малако с хлебам зьесьці, а ты — коўць-коўць і выпіў. Еш цяпер сухі хлеп!*

КРАЖ *м.* Патоўшчаныя і больш цвёрдыя слаі ў дрэве, якія ўтвараюцца з сонечнага боку ствала, асабліва на яго выгнутай частцы.

КРА'ЖАВАТЫ *прым.* З вялікім працэнтам кражу. *Як бўдзяш рэзаць гэтую дзяравяку, дак кражаватыя роўныя куске аткідай — на клёпкі згадзяцца!*

КРАТО'ВІНА *ж.* Кучка зямлі, вырытая кратом. *Касіць на гэтум грудзі кепско, бо пападаюцца ўсё то кратовіны, то муравейнікі, то купіны.*

КУЛЬБА'ЧКА *ж.* Падсядзёлак. *Бяс кульбачкі каню цяжэй, бо аглоблі моцно хамут да шыі ціснуць.*

КУНДЗЮ'К *м.* Страўнік. *Здаецца кундзюк набіў добро, а нешто есьці хочацца.*

ЛА'ПА *ж.* Галіна. *У той яблыны ніжнія лапы трэба паабразаць, бо канцамі аж зямлі дастаюць.*

ЛА'СНЕ *часц.* Хіба. *Ласне я ведала, што гэдак выйдзя? Каб ведала, ні пашла бы да іх.*

ЛО'ГМА ЛЯЖАЦЬ. Ляжаць не падымаючыся. *Трэба было ні ляжаць логма, пакуль сонцо ў бок прыпячэ, а касіць росную траву, а цяпер ужо надрывай жывот, каб ні асталосё на заўтра.*

ЛО'ПАЦЕНЬ *м.* Выгіб на лязе касы. *Як ні ўмеяш кляпаць касы, то і ні бярыся, бо лопатняў нагоніш!*

ЛУПО'К *м.* Ракавіна бяззубкі. *Лупкоў у Нёмні найбольш бывая на гакох посьлі паводкі.*

ЛЮБІ'ВЫ *прым.* Нятлусты. *Ты мне адрэж любіваго мяса, бо я жырнаго не хачу есьці.*

ЛЯПЯ'НКА *ж.* Мазанка. *Трахімаў бацько зрабіў ляпянку, але ў ёй ні жыў, бо сырая і халодная.*

МАЛІБО'НЫ *мн.* Непатрэбныя натацыі. *Пакінь ты чытаць яму малібоны, прыкажы — і няхай робіць!*

МА'РАЦ *м.* Перыяд цечкі ў катоў. *Нешто кот ужо каторы дзень саўсім дадому ні прыходзіць — мусіць марац на яго напаў.*

МАРКАВЕ'ННЕ *н.* Маркоўнік. *Нешто маркавеньнё пачало жаўцець: мусіць чарвячок точыць морку.*

МАРТАПЛЯ'СЫ *мн.* Махры, касмылі. *Тая дзярушка саўсім ужо парвалася, адны мартаплясы асталіся.*

МА'СЯ: МАСЯ СЛЯПАЯ. Слепавокі. *Гаша, колькі тут картопяль ляжыць? — Мася ты сьляпая, хіба ні бачыш, што цэлая куча!*

МУСО'ВА *прысл.* Абавязкова, вымушана. *Хочаш, ці не — мусово трэба ісьці, бо ніхто за цябе гэтаго ні зробіць і само ні зробіцца.*

МУШТЫ'К *м.* Цуглі ў выглядзе суцэльнай выгнутай жалезнай пласціны.

НАГДО'Я *прысл.* Надоечы. *Здаецца, нагдоя прыходзіў некі чалавек пытацца, ці прадасі ты зруб.*

НАГРА'НЫ *прым.* Аплоднены. *Гэты рас ні с усіх яец вышлі куранята: мусіць ні ўсе былі награнargyя.*

НАПАШЭ'ЎКУ *прысл.* Пад рукамі. *Былі ў мяне тут напашэўку ножніцы і недзя прапалі.*

НАРАВІ'ЦЬ *незак.* Імкнуцца, намагацца. *Ён да вучобы нічого сабе, а ў другой рабоці — то наровіць, каб ні пярарабіцца.*

НА'ДСЫР *прым.* Сыраваты. *Сено было яшчэ натсыр, але зложылі ў копы, можа ні сапрэя.*

НАДЧЭ'КВАЦЬ *незак.* Чакаць. *Нек мы сядзелі, натчэквалі яго і разгаварыліся пра пагоду.*

НАШАТЫ'РАНЫ *дзеепрым.* Натапыраны. *Гэто пака нашатыраная салома, дак выглядáя много, а як утопчацца, дак паменшая.*

НІЗГО'РШ *прысл.* Нядрэнна. *Задачы яна нізгорш рашая, а пісаць ні стараяцца.*

НІ ЗНАЙСЦІ' (НЕ ЗНАХО'ДЗІЦЬ) ПАМЕ'СТА. Не ведаць, дзе дзецца. *Ты спачатку ўсё добро абдумай, ато будзяш каяцца і ні знаходзіць сабе паместа.*

НІПО'РНЫ *прым.* Дачасны. *Зь дзецьмі ёй нешто ні вязе: пéршаё хваравітаё, а другоё ніпорнаё радзіласё.*

НІ СЕРАГА НІ БЕЛАГА. Нічагусенькі. *Я ёй усё вы-*

*лажыла, а яна ні сераго ні белаго — адвярнулася і пайшла.*

НІ Ў СЕЧ НІ Ў ПЕЧ. Ні на што, нікуды не варты, не гадзіцца. *Твае гэтыя граблі ні ў сеч ні ў печ: і грабавільно зацяшкае, і стаўбец ні моцны.*

ПАБЭ'РСАЦЬ *зак.* Паблытаць (пра ніткі, вяроўкі). *Кот гуляў с клупком і так пабэрсаў ніткі, што цяшко разбэрсаць.*

ПАД ЗЛАМА'НІЦУ. К чорту. *Калі ні хочаш памагаць, то ідзі пад зламаніцу, абыдзямсё бясь цябе!*

ПАМАЦАВА'ЦЬ *зак.* 1. Перамагчы. *Калі ў чарадзе акажацца нескалькі бараноў, дак яны будуць біцца, пакуль каторы ні памацýя астальных.* 2. Здолець. *Ты яшчэ малы — ні памацуяш падняць гэту дзеравяку на вос.*

ПАПОЎСКАЕ ВОКА. Завідлівы, прагны. *Ці ты яго ні знáяш? Гэто такоё папоўскаё воко, што ўсё яму мало.*

ПАРАСТЫ'ЦКВАЦЬ *зак.* Патраціць марна. *У іх трохі былі запасы, але парастыцквалі бяс толку.*

ПАСКО'БЛЕНЫ *прым.* Паскрэбены, акораны. *Паскóблянаё дзéраво трэба накрыць, бо ат сонца палопаяцца.*

ПАСО'ЛЬНІК *м.* Сцяблы фасолі. *Пасолю лепш за ўсё рваць з пасольнікам і ў пучкох павесіць на гары, а лушчыць можно аж зімою.*

ПАСЯДЗЕ'НЬКІ *мн.* Зборы з якой-н. працай (радзей без яе) у суседзяў. *Сёння трэба трохі лепш у хаці прыбраць: можа дзяўчата прыдуць на пасядзенькі.*

ПАХО'ЛАК *м.* Завостраная палка для прыціскання *повяскі* (гл.). *Бяс пахолка ні прыцісьняш як трэба повяску да латы.*

ПЕРАБАЛЭ'ХТАЦЬ *зак.* Перабоўтаць. *Ні еў ён тоі капусты, толькі пярабалэхтаў і пакінуў.*

ПЕ'СІК *м.* Каташок. *Бярозавыя песікі, як маладыя, можно есьці.*

ПЛАЦЯНКО'ВЫ *прым.* З тонкага даматканага палатна. *На сянакос заўтра ты адзень сваю плацянковую сукенку: у ёй ні будзя горачо.*

ПЛЮШЧО'М ЛЕЗЬЦІ. Нахабна ціснуцца, лезці. *Ты яму ці гавары, ці ні гавары — ён плюшчом будзя лесьці і свайго дамажацца.*

ПЛЯ'ГА *ж.* Макрота. *Павінно скоро паляхчэць, бо трохі аткашліваяцца пляга.*

ПО'ВАЛАКАМ *прысл.* Поцягам, волакам. *Бліскія*

*копы можно паднясьці, а дальшыя — поваланкам прыцягнуць.*

ПО′ВЯСКА *ж.* Тонкая жардзінка, з дапамогай якой прымацоўваецца ў саламянай страсе рад саломы. *Трэба будзя насекчы новых повяскаў, бо тыя са старой страхі саўсім ні гадзяцца.*

ПО′КАТ: ПОКАТ КАЛЁС. Камплект колаў. *Трэба купляць новы покат калёс, бо гэтыя правіць ужо німа рашчоту.*

ПОРТ *м.* Трут (спаленая льняная тканіна). *Порт ад грэсьва загараяцца лепш, як губа, але яго насіць у кішэні горай, бо ён трэцца.*

ПО′СПАЛ *прысл.* Побач, каля. *Яго дзялка ў гэтум годзі поспал з нашаю.*

ПРЫКУСНЫ′ *прым.* Тонкі, гнуткі, які добра прыстае, пякуча б'е. *Вазьмі гэты дубец, ён добро гнецца — будзя прыкусны. Кап пуга была прыкусная, трэба кончык тонкі рабіць.*

ПРЫЧО′ЛАК *м.* Нешырокая стрэшка (часцей з дошак) перад шчытом будынка. *Бяс прычолка дошч заліваў бы сьцяну і ў вокна зацякало п.*

ПУК *м.* Кветаножка цыбулі. *Цыбуля як пойдзя ў пуке, то добрых галовак ні будзя.*

ПУСТАК *м.* Пустацелы блок з цэменту (невялікіх памераў). *С пустакоў хаты раней ні рабілі, а толькі хлявэ, ці адрынкі.*

ПУСТАПА′САМ *прысл.* Без пастуха, без нагляду. *Восяньню, як атавы пакосяць, мы каровы ні пасём, а пускаям за Нёман пустапасам.*

ПУХА *ж.* Частка яйца, запоўненая паветрам. *Пуха ў яйцы заўсюды ў таўсьцейшум канцы, але бывая нават з боку яйца.*

ПЭ′РКАЛО *м., ж.* Капун, капуха. *Ён такоё пэркало, што ні ў адной рабоці ні пасьпяшаяцца.*

ПЯРЭ′ДАЙКА *ж.* Ялаўка. *Колькі там ад яе малака?! Яна ш пярэдайка.*

РАЗБАЛЭ′ХТАЦЦА *зак.* Расслабіцца, раскалывацца. *Сьпіцы ў заднюм калясе саўсім разбалэхталіся. Ці даедзям да места?*

РАД: ПАШЛА′ КІШКА РАДО′М. Хутка перадалася, панеслася (пра вестку, паведамленне). *Я ні ўсьпела ёй сказаць, як пашла кішка радом — назаўтра ўжо ўсё сяло ведало.*

РАЗАК I *м.* Піла (папярочная). *Нешто разак кепско ў дзераво ідзе, мусіць дарога сьціснулася.*

РАЗАК II *м.* (часцей *памянш. разачок*). Альяс.

РАЗБЭ'РСАЦЬ *зак.* Разблытаць. *Маток гэты спачатку трэба разбэрсаць, а потым зьвіваць у клубок.*

РАЗВАЛІ'НЫ *мн.* Развалкі. *З развалінамі ў лес ехаць кепско: за кожды куст і пень чапляюцца.*

РА'НІЦА *ж.* Перыяд пасьбы ад усходу сонца да абеду. *Як прыгоніш з раніцы каровы, нарві сьвіням зелья! Ужо на раніцу пасьвіць пярасталі — гонім на ўвесь дзень.*

РАСПЭ'ЙКАЦЬ *зак.* Распусціць, растраціць.

РАССУСО'ЛЬВАЦЬ *незак.* Доўга гаварыць, разважаць. *Ты много тут пра гэто ні рассусольвай, а вазьміся і на дзелі пакажы!*

РАСТЫ'ЦКВАЦЬ *незак.,* РАСТЫ'ЦКАЦЬ *зак.* Гл. *распэйкаць.*

РО'СКІДКА: АРАЦЬ У РОСКІДКУ. Від ворыва, калі барозны кладуцца ў напрамку краёў загону.

РУМ *м.* Месца, дзе складваліся шліхты дрэва. *Дзень зімою кароткі, а дарога зь лесу да руму кепская, так што больш як два кубэ́ ні справісься вывясьці.*

РЭ'ЙПАНЫ *прым.* Цёмны, забіты (пра чалавека). *Гэто толькі зь віду ён мужык рэйпаны, а на самум дзелі яго ні ў чом ніхто ні правядзе, чалавек бывалы, растаропны.*

САПСЕ'ЦЬ *зак.* Адрахлець, састарэць. *Наш сабака ўжо стары, саўсім сапсеў: толькі ляжыць і нават мух абагнаць лянуецца.*

СКЛАД: АРАЦЬ У СКЛАД. Від ворыва, калі барозны кладуцца ў напрамку сярэдзіны загону.

СКУДЗЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Праля, якая са сваёй работай прыходзіць да сяброўак. *Ты скарэй патхадзіся, бо скоро пачнуць збірацца скудзельніцы, трэба быць дома.*

СМЫЧКА *ж.* Падвей. *Смычку, як маладая, ранняю вясною каровы трохі ядуць, а пазьней, як атцвіце, і ў рот ні бяруць.*

СТРЫХА'РКА *ж.* Прылада, пры дапамозе якой падраўноўваюць канцы кулявой саломы ў час крыцця ёю будынкаў.

СТУ'ДЗЯНЬ *ж.* Халадзец. *Студзянь добрая палучыцца з двух нох, а дзьве няхай паляжаць надаляй.*

СХО'ДА *ж.* Апошняя квадра месяца.

СЫРО'МЛЯ *ж.* Сырызна. *Бяс прывычкі много ні еш гэтаі сыромлі, бо жывот забаліць.*

ТАКВЕ'ЛЯ *прысл.* Столькі. *Ці много ты сёння накасіў? Такверя, як і ўчора.*

ТАКРО'К *прысл.* Летась. *Яшчэ такрок Сулку* [былую рэчку] *цяшко было пяраехаць, а цяпер саўсім сухо, яшчэ ніхто ні ўграс.*

ТАКРО'ШНІ *прым.* Леташні. *Сена на карову павінно хваціць, ды і такрошняё, што асталосё, яшчэ будзя гадзіцца і на гэтую зіму.*

ТАРНО'ЎКА *ж.* Тонкая шарсцяная хустка з кветкамі.

ТРАЦЯГО'ЛЯТНІ *прым.* Пазалеташні. *Гэтую зіму нек трэба будзя сабрацца і шчасаць воўну, ато яшчэ трацяголятняя ляжыць, калі моль ні зьела.*

УГА *выкл.* Ого. *Ці паробіш ты да вечара ўсе ўрокі? Уга, дзе там!*

УЗЯ'ТАК *м.* Збор мёду ў пчол. *Гэты год некі мокры ўдаўсё: кепскі будзя ўзятак у пчол.*

УЗЯЦЬ НА АНТА'БЫ. Прыціснуць, заставіць. *Нябось, як узялі яго на антабы, дак прызнаўсё, што ён тыя бумагі ўкраў.*

УМА'ЗАЦЦА *зак.* Абысціся, укласціся, задаволіцца. *На такую падлогу трэба много досак, а гэтымі, што ў цябе, ні ўмажасься.*

УПО'ПУСКІ *прысл.* Кідком. *Ты гэтым калом уппускі па карові ні кідай, бо як канцом пападзеш, дак скалечыш.*

У СЬВІНЫЯ ГАЛАСЫ'. Не ў сваю пару, запозна. *Якія там грыбэ́! Мы выбраліся ў сьвіныя галасэ́, як там ужо много людзей прайшло, канешне, нічого ні назьбіралі.*

УТО'РЫЧ *м.* Прылада для наразання ўтораў у бандарскіх вырабах.

ХАЛЁСТАЦЬ *незак.*, ХАЛЁСНУЦЬ *зак.* Хвастаць, сцябаць. *Як ні будзяш слухаць, па вушах халёсну.*

ХАЛЭ'МУС *м.* Канец, капут. *Ні стой с таго боку, куды хваіна будзя валяцца, бо як зачэпіць лапаю, дак будзя табе халэмус!*

ХРАСТО'К *м.* Парастак. *Як прыдзя вясна, дак картопля і ў халоднум пограбі храстке папуская.*

ЦЕ'ПЯРСЯ *прысл.* Даўно. *Ці цепярся яна пашла па воду, а нешто ні нясе.*

ЦІП-ТОП! *выкл.* Выдатна, здатна, як належыць. *Ай і цабэрак у цябе палучыўсё, ціп-топ!*

ЦЫ'ТРА *ж.* Рыбец. *У цытры верхняя губа даўжэйшая за ніжнюю, а ў астальном яна падобная на марского гялба.*

ЦЯ'МЦЮ-ЛЯ'МЦЮ. Пра непаваротлівую, марудлівую асобу. *Такі цямцю-лямцю, ва ўсякуй рабоці пасьледні, нідзе ні пасьпяшаяцца.*

ЧЫНІ'ЦЬ *незак.* Чысціць, скрэбці (рыбу). *Скарэй чыні і пасалі рыбу, ато яна даўно злоўляная, каб ні патпорцілася!*

ШАЛДУ'-БАЛДУ'. 1. *У знач. наз.* Недарэка, дурань. *Такого шалду-балду туды пасылаць ні трэба, там трэба акуратны чалавек.* 2. *У знач. прысл.* Абы-як. *Гаворыш ты нешто шалду-балду, ні дабяру я толку, што да чаго.*

ШАМО'ЛЬ *выкл.* Шась. *Сядзелі ўсе, гаманілі, а яна шамоль-шамоль і нізаметно вышла з хаты.*

ШКЫ'РА *выкл.* Вокліч, якім падганяюць ці адганяюць авечак. *А шкыра! куды ты палезла, кап ты здохла!*

ШПЫ'РКА *ж.* Скварка. *О, табе сёння жонка добрую шпырку с сабою дала! Ты павінян добро касу цягаць.*

ШТЫНЬЦЬ *м.* Невялікі шчупак. *Што ты до́браё сёньня злавіў? Нічого добраго: два штыньцё і драбязы трохі.*

ШЧО'ПЦІ *мн.* Мера сыпкіх рэчываў, роўная таму, колькі можна ўзяць у пальцы адной рукі. *Сколькі на гэты кусок сала трэба солі? Вазьмі добрыя шчопці — і хваціць.*

ЯГЛЫ' *мн.* Нічога (толькі ў жарце). *А што ты на вечар зварыла? — Яглы, што ні еўшы спаць ляглі!*

*В. Д. Лабко*

# З ЛЕКСІКІ в. ЦІТВА ПУХАВІЦКАГА РАЁНА

Прыведзеная ніжэй лексіка запісана ў 1975 г. у Пухавіцкім раёне Мінскай вобласці. Сюды ўвайшлі словы, якія не зафіксаваны ў дыялекталагічных працах па дадзенай тэрыторыі, патрабуюць удакладнення, або з'яўляюцца толькі паказчыкам пэўнага фальклорна-этнаграфічнага тэксту.

АБА'БЕЦЬ *зак.* Аблупіцца, пачырванець, зморшчыцца. *А каб цябе нос абабей!*

АБІВА'НІК *м.* Гладыш без верху. *Як паб'ецца гладыш, абрэжуць верх чым-нібудзь і кажуць абіванік.*

АБМО'Л *м. зневаж.* Балбатун.

АДСКО'К I *м.* Тое, што вылучаецца сваім ростам, памерамі і г. д. *Бывае пасеюць роўненька, а адно выткнецца вялізазнае, эта адскок.*

АДСКО'К II *м.* У выразе *адскóк калядú.* Гл. *паскок каляды.*

АСКАБО'ЛАК *м. абразл.* Прайдзісвет. *У нас пастух быў, аскаболак нейкі. І выганшчыну сабраў, яец карзіны дзьве прадаў, і мікольшчыну сабраў да і ўцёк.*

АПЕЛЮ'ХА *ж. экспр.* Вялікі кавалак. *Эта кажуць, як скварку вялікую, ці мяса кусок вялізазны схопіш, што не з'есці. От схапіў апелюху! Ці ты яе за вечар з'еш?*

АПЛЯВУ'ШЫНА *ж. экспр.* Гл. *апелюха.*

АПРАМЕ'ТНІЦА: КАБ ЦЯБЕ КІНУЛА АПРАМЕТНІЦА. Параўн. тое ж: *вопрамець.*

АХЛА'ПАК *м. экспр.* Гл. *апелюха.*

БАБА' *ж.* Прыстасаванне для малацьбы калосся ў выглядзе бервяна на ножках, да адной пары якіх прыбіваюцца дошкі.

БАРАДА' *ж.* Апошнія нязжатыя сцяблíны збожжа. *Маці казала, што бараду нельга голай рукой палоць, трэба пярэднікам.*

БЛІСКУ'ХА *ж.* Трава, якую цяжка касіць. *Бліскуха толькі на балоце расьце, сярод харошай травы. Як ты яе не касі, бліщчыць усё раўно на пакосе. Паглядзі назад на сенакош — стаіць уся, каса яе не бярэ.*

БО'ЕЦ *м.* Яйка-мацак. *У мяне боец выбіў тры яйцы.*

БУ'БАЧКІ *мн.* Ягадкі. *Бубачкі такіе чорные бываюць, як бэз цьвіце, іх, кажуць, як даць, вельмі любоў бывае.*

БУ'КІШ *выкл.* Воклік, якім падбухторваюць да бою бараноў. *Малому дзіцяці паманіваюць «Букіш, букіш!» І барана, калі паманіваюць, тожа гавораць. І бычка, калі ад цыцкі аднімеш, каленам у лоба даш: «Букіш», ды вельмі ж б'еццa патом.*

БУ'СЕЛ *м.* Бусел. *Раней казалі, як першы раз бусла бачыш, то трэба грошы ў кармане пакратаць, да грошы будуць заўсегда.*

ВАЗЮ'Р *м.* Візнік.

ВАЛАСНЯ' *ж.* Лёска.

ВАРГО'ЛЫ *мн.* Толькі ў выразе: *Што ты варыш? — Варголы. У суседа жонка паехала, а ён і кажа, паглядзі, што я вару.— Варголы! Я гляжу, а там кіпяцень...*

ВО'ПРАМЕЦЬ *ж.* Эпілепсія. *Як хто кіне, калі трэба паставіць, кажуць: «Нашто кінуў, каб цябе кінула вопрамець!»*

ВЫ'ГАНШЧЫНА *ж.* Гасцінец пастуху ў дзень першага выгану жывёлы. *Калі пастух кароў выганяе першы дзень, яец даюць яму, сала, грашэй назьбіраюць — выганшчыну даюць.*

ВЫ'ГАРЫНА *ж.* Выжарына; дрыгва. *Выгарына — балота, дзе весь торф выгарэў і дна няма. Мохам зверху зарасце і прорвы палучаюцца. Дзе стаіць вада сярод балота, эта выгарыны, выгáры.*

ВЯРЭ'НЯ *ж.* Торбачка ў пастуха з лыка. *Павесіць вярэню на плоце* [ён у хату не насіў] *і людзі знаюць, дзе пастух. Казалі, у каго вярэня залегла* [зазімавала], *той памрэ. Дзе вярэня зазімуе, ілі прыбытак, ілі ўбытак будзе.*

ГАРУ'ШЧЫ *прым.* Гаротны. *У мяне маці даўней, як пралі, толька гарушчые песні пела. Такіх цяпер не паюць.*

ГНАЯ'ЎКІ I *мн.* Шампіньёны.

ГНАЯ'ЎКІ II *мн.* Бакавыя дошкі ў возе для перавозкі гною.

ГНІЛЕ′Ц *м.* Хвароба карэння пладовых дрэў. *І нілец завёўся пад ігрушэй — з гарбуз таўкач вырас і карэння ад яго няма.*

ГРОМ *м.* Гром. *Маці казала, як першы гром грыміць, то трэба куляцца, камень падымаць, што цяжэлейшы, і дужы будзеш.*

ГРУНТ *м.* Род, племя, парода. *Эты хлопец з плахога грунту. Добрая сям'я, добры грунт.*

ДАСУ′ЖНЫ *прым.* Здольны.

ДО′СУГ *м.* Здольнасць.

ЕЖА′ *ж.* Трава, якую немагчыма скасіць. *Ежа, шту дрот усё роўна,— не скосіш.*

ЖВА′КА *ж.* Жвачка. *Бывае, што карова жваку не жуе. Тады навязываюць сала салёнае на аборцы і завязываюць за галаву, штоб сала папала ў рот. І тады яна пачынае жвакаваць.*

ЗАЗІ′МАК *м.* Першы снег; снег на прадвесні. *Так на першы снег гаворацъ. Бывае і на буслоў, вясной. Прыляцяць буслы, а тады сняжок выпадзе, і кажуць — зазімак на буслоў.*

ЗАКАПЫТАВА′ЦЦА *зак.* Памерці.

ЗАМЫЗО′ЎВАЦЬ *незак.* Залыгваць. *А Панасіна карова была галамоўза, ёй жа вяроўку не завязаць, замызоўваюць за шыю.*

ЗАНЫ′ЦЬ *зак.* Затужыць.

ЗАСКІ′ЛІЦЦА *зак.* Прыжмурыцца. *Гэта ж, мусіць, нядобра стаяць так да сонца, заскіліўшыся.*

ЗДЫ′РДЗІЦЦА *зак.* Пахудзець, змарнець. *Як чалавек ледашчы стане, то кажам, што здырдзіўся.*

ЗДЫ′РДЗІЦЬ *зак.* Украсці.

ЗО′РЫ *мн.* Зоркі. *Зоры палыхаюцца к марозу.*

ЗУБЫ′ *мн.* Спарыння. *Зубы на жыце растуць.*

КАЖУ′Х, КАЖУШО′К *м.* Пенка на малацэ.

КАЛЯЮ′ГА *ж.* Каляіна. *У нас, дзе калёсы едуць, кажуць калюга. У калюгу ўехаў.*

КАТА′НКА *ж.* Жаночая безрукаўка. *А ў нас кажуць: як парвецца катанка на грудзях, бэньдзя родзіш.*

КАЎТУ′Н *м.* Каўтун. *У мяне пазногці былі карабатыя, так людзі казалі, што ета ў цябе каўтун б'ецца. Каўтун самому нельзя знімаць. А то б'ецца абы куды!*

КА′ШАЛЬ *м.* Кашаль. *Калі кашляў хто, казалі: «Каб узяўся б за судзіну, да пакашляў гадзіну, от каб цябе эты прапаў, ды авечы напаў».*

КЕ′ПЕЛЬ: ДАЦЬ У КЕ′ПЕЛЬ. Пабіць, даць лупцоўкі.

КЛЯХАТА′ЦЬ, КАЛЯХАТА′ЦЬ *незак.* Кіпець. *У нас кажуць ляхуе, але ж правільна была б казаць кляхуе.*

КРАТАЎЁ *н.* Кучы зямлі, якія нарыў крот. *Плоха касіць — адно кратаўё на лугу.*

КУГА′КАЛА *н.* Дзіцянё. *Дай жа, божэ, мне кугакала, яно ж бы мне заплакала, села б я і скалыхнула, сярэдзінка б атдыхнула.* (З песні.)

КУПА′ЛКА *ж.* Кветка, па якой калісьці варажылі на Купалле. *Цвяты такіе, як рвеш, то пупшыны такія зверху. Як ее засадзіш дома, то за ноч така зробіцца, як адуванчык.*

КУПА′ЛЬЕ *н.* Купалле. *На Купалье, як сьмеркнецца, на поплаў хадзілі цьветы рваць. Да вілі вянкі і гадалі.*

ЛАБЭ′ЦІНА *м. экспр.* Здаровы, але ні да чаго не здольны хлопец. *От лабэціна, хоць ты парасяты бі!*

ЛАНО′ *н.* Бярэмя. *Дроў як на руку накладзеш, усе ў нас гаворацъ лано. Лано дроў. Дроў набярэш лано і вядро вазьмі. У нас лано дроў, а ў Кавалевічах кажуць: на лано дзіця ўзяць, дзіця на лане.*

ЛАТО′ШЫЦЦА *незак.* Варушыцца. *У мех злавіў ката, да засадзіў, да от толькі латошыцца, не хоча сядзець.*

ЛАТО′ШЫЦЬ *незак.* Біцца (аб сэрцы). *Сэрца латошыць. Так бегла, утамілась, што сэрца латошыць.*

ЛУЖЫ′ЦЦА *незак.* Лупіцца. *Капала б я картошку на зіму, але ж яшчэ лужыцца, маладая.*

ЛЭ′СКА *ж.* Хатняя кветка фуксія.

ЛЯХАВА′ЦЬ *незак.* Кіпець. *Бульба асобенна, як раскіпліваецца, як бы шпокае, на эта кажуць ляхуе. Бульён ляхуе, бульба ляхуе — кіпіць.*

МАРО′К *м. экспр.* Той, хто дурыць галаву.

МІКО′ЛЬШЧЫНА *ж.* Назва дня 23 ліпеня і назва гасцінца пастуху ў гэты дзень. *Мікольшчына ў нас называлась, калі на Міколу зьбіралісь да жыта, пілі там, гулялі. Як пастух на Міколу трубіў уранку, яму на трубу яйкі выносяць, хто два, хто чатыры. А патом табунам людзі сабіралісь і шлі на жыта. На Міколу, як затрубіць у трубу, давалі пастуху мікольшчыну, а да таго не трубіць.*

МІР *м.* Мноства. *У нас жа мір народаў, мір бабоў, а мужыкоў няма зусім пасля вайны.*

НАБО′ВІЧ, НАБО′ІЧ *ж. абразл.* Жанчына, якая набілася выйсці замуж.

НАДАГО′РКНУЦЬ *зак.* Надакучыць, абрыднуць.

НА′ЕДЗЬ *ж.* Хвароба коней. *Бывае, што ў каня наб'ецца мяса ў уровень з зубамі, так што траву не можа сціснуць і тады эту наедзь сольлю сціраем.*

НАЛІВА′ЦЬ *незак.* Настойваць.

НАПРУ′ГАЦЦА *зак.* Нахлябацца. *Напругалась вады, аж жывот трашчыць.*

НАСТАЎНІ′К, НАСТАЎНІ′Ч *м.* Талакнянка. *Кладзеш настаўнік у бутылку, водкай настоіш і п'еш, як жывот баліць.*

НЕДАРЭ′КІЙ *прым.* Косназыкі.

НЕДАРЭ′ЧЧА, НЕДАРЭ′ЧЧЫНА *м., ж. зневаж.* Асоба, якая дрэнна размаўляе, заікаецца.

НЕДАТО′ПАК *м.* Атопак, стаптаны лапаць. *Баба казала, што ўсе недатопкі трэба было паўкідаць на сметнік, бо як хто спаліць недатопка, то прусы будуць весціся.*

НЕДАЧУПА′ЛЛЯ, НЕДАЧУПА′ЛЬНЯ *м., ж.* Назва някемлівага чалавека.

НО′РКА, НАРЫ′ЦА *ж.* Назва рухавай, непаседлівай асобы. *На чалавека так кажуць, які вельмі пранорлівы.*

ПАГА′НКА *ж.* Дзіцячая хвароба поласці рота, якую раней лячылі лапкай жабы.

ПАДВЕ′Й I *м.* Скавыш, скразняк, віхар. *Тое, што мы віхар кажам. Як ідзеш па вуліцы, і дзе пыл круціць, то падвей, віхар.* Параўнай, аднак: *На віхар падвей не гаворыць. А падвей — гэта гадкі вецер.*

ПАДВЕ′Й II *м.* Прастудная хвароба, якую лячылі раней толькі чараўнікі.

ПАДЖУ′РАЦЬ *зак.* Падрумяніцца. *Пірох толькі жоўценькім стаў — паджураў.*

ПАКАВЕРА′ЦЬ *зак.* Пакалупаць, папсаваць. *Мяжу пакавераў.*

ПАМЫЗО′ЎНЫ *прым. экспр.* Шкадлівы.

ПАМЫШКО′ЎНЫ *прым. экспр.* Пранырлівы. *От памышкоўны! Усюды мышкуе! Памоўзлівы які!*

ПАРАЎНЯ′ЦЬ ГАРБЫ′. Правучыць. *Параўняў бы ёй гарбы, знала б, пачом сыры ў Мазыры.*

ПАСКО′К: ПАСКО′К КАЛЯДЫ′. Святочны дзень пасля вадохрышча.

ПАТАРМА′ХА *ж. экспр.* Неслухмяная жанчына.

ПЕНЧУ'К *м.* Ржышча. *Як жыта жнуць, пенчукі застаюцца, ражны такія, і касіць вельмі цяжка.*

ПЛЮ'СЫ, ПЛЮ'СКІ *мн.* Радоўка шэрая.

ПРАНО'РЛІВЫ *прым.* Пранырлівы.

ПРАЧ, ПРА'ЧЫК *м.* Скручаная пасма льну, пянькі, прыгатаваная для віцця вяроўкі. *Вяроўкі, аборкі, лапці плялі з прачоў. Прачы пралі із пенькі, кручкамі рабілі, а бывае пальцамі. Скруціў прачыка, да і вероўку із трох зробіць.*

ПРУ'ГАЦЬ *незак.* Хлябтаць. *От пругае ваду каля ведра.*

ПРУСА'К: АСТА'ЦЦА Ў ПРУСАКЕ'. Не выканаць задуманае.

ПРЫШАВО'РЫ *мн.* Зачараваныя рэчы; забабоны. *Прышаворы ў каляюгу брасалі ці на крыжавые дарогі. Прышаворы — усякіе выдумкі.*

ПРЫШАВО'РЫХА *ж.* Асоба, здатная на забабоны.

ПУСЦІ'ЦЬ НА ВЕ'ЦЕР. Зачараваць, праклясці, выкарыстоўваючы вецер як сродак пераносу праклящця.

РАЗГІРА'ТЫ *прым.* Растапыраны. *Нейкі яшчык разгіраты. Пашла баба разгірата. Хада ў яго, як у разгіратага: ідзе і ногі растаўляе.*

РАЗГІРЭ'ЧЫЦЬ *зак.* Растапырыць. *Вочы вытрашчыў, рукі разгірэчыў.*

РАСАМА'КА *м., ж. абразл.* Няўклюда.

РЫГАЛЫ *мн.* Спецыяльная рама на возе. *Жэрдзі паставяць, збіваюць і на воз прывязваюць яшчыкі перавозіць на рыгалах.*

РЫЗЫКА'НТКА *ж. асудж.* Фарсістая асоба.

РЭ'ПАЎКА *ж.* Жаба. *Зялёная рэпаўка, яна такая карабатая.*

САЛАПЕ'НДА, САЛАПЭ'НДА *м. абразл.* Разява, разявака. *От салапенда! Такі ўжо раззяваты чалавек быў у нас.*

САРАКІ' *мн.* Дзень 24 сакавіка. *Маці казала, што на Сараки ў нас абязацельна трэба было вешаць гушкалку і гушкацца, і каб сорак вузлоў было на вяроўцы. Пяць дзевак пасядзе, абарвуцца, вяжуць — і цэлы дзень так гушкаліся.*

СВІ'РНЯ *ж.* Свіран. *Людзі даўней казалі, што некаторым чорт пёк яечню да ўстаўляў у свірню, і там хлеба багата будзе.*

СМОЛЬ. Адна смала. *Пне даўней у лесе бралі і з гэ-*

*тых пней адсекалі дрэўкі, а аны смоль-смоль. Кладом іх ля комінку і прадом.*

СМОЎЖ *м.* Смоўж. *Бывае перад даждзём мы на сенажаці косім. І так высока яны лезуць другі раз на траве, што старые кажуць: «Смоўжы высока палєзлі, паводка, відна, будзе».*

СМОЧ *ж.* Балотная ранняя асака, падвей. *Вясной яна расце, кароў перва гоняць на смоч. Яна — як асака, а як адцвіце, сперва чорная галоўка, патом зробіцца, як вата. Яна с-пад лёду расце такімі таўкачыкамі. Мы, як малые былі, падушачкі з яе рабілі.*

СМУГА′ *ж.* Брудны налёт, паласа пены на вадзе і інш. *Бывае вецер будзе к берагу ваду прыхінаць і з вады такое сабярэцца ля берага, як кажушок із малака, яно засыхае і астаецца гразь брудная, як накіп на гаршку, і на эта старыя гаворацъ смуга. Як после зімы снег прапаў і на зямле астаецца плесень такая, і старые гаворацъ: «От як бы пайшоў бы дождзь, змыў бы эту смугу і трава за тыдзень вырасце. Як дождзь эту смугу змые, усё атжывае». А бывае, кажух такі зробіцца зверху на вадзе стаячай, смуга такая зверху зялёная, як доўга стаіць.*

СПАРЫ′Ш *м.* Спарыш. *Жартавалі, як хто спарышы з'есць, то дзеўка бэнься родзіць, а баба — двойню.*

СПРЭ′КУ-ВЕ′КУ *прысл.* Спрадвеку.

СТАЛІНА′ *ж.* Дошка са столі.

СТАРЧМА′К *м.* Старчак. *Эта ж трэба, вырас старчмак такі, не выдраць із зямлі.*

СТРУ′ГА I *ж.* Зарослае зверху балота, багна, дрыгва. *Стругі былі, балота сільныe, глыбокіе, як станеш, так цыбаецца ўсё, гушкаецца так. Тут стаіш, а там падымаецца, квохчэ, балбочэ.*

СТРУ′ГА II *ж.* Струмень, ручай. *Палатно бралі і дзе з балота ідзе струга вады, жыла такая, там іржа ё. Ту іржу і мучан бралі і красілі палатно. Струга — як ідзе вада з балота.*

СУ′ЧКА *ж.* Калода з выразам на задніх санках, якая падкладваецца пад бервяно пры яго перавозцы.

ТРЭ′ЦЯЯ НЯДЗЕ′ЛЯ. Трэцяя квадра. *Як маладзік быў і трэцяя нядзеля пайшла, месяц круглы і красны зробіцца. І казалі: «Нельга цыбулю вязаць, садзіць, убіраць, складываць, капусту крышыць — мяхкая робіцца, агуркі садзіць, убіраць — плахая пара».*

ТУ'ЛІКІ ЦЕ'РЦІ. Біць бібікі.

УПЫНІ'ЦЦА *зак.* Ухадзіцца, управіцца. *Упынілася ля печы. Упынілася на ўсадзьбе.*

УПЫНІ'ЦЬ *зак.* З'есці, умяць. *Упыніў кавалак сала.*

УЗ'Ю'РЫЦЦА, УЗ'ЮРЭ'ЦЦА *зак.* Раз'юшыцца, раззлавацца. *А мой уз'юрыўся, да паскідаў усё з гары далоў. Як уз'юрэўся, так спакою няма.*

ХА'ЎКАЦЬ *незак. экспр.* Пазяхаць.

ЦАЛІДО'ЎНІК *м.* Падтыннік. *Я цалідоўнік, як парэжэш, капала — і німа. Закапала больку і загоілась.*

ЦЫ'БАЦЦА *незак.* Гушкацца.

ЧОРТ *м.* Віхар. *У нас на тое, што круціцца, гаварылі чорт.*

ЧУ'ЧКА *ж.* Пабітае велікоднае яйка.

ШО'ЛАХ *м.* Шорах. *Шолаху кожнага баялася, цені сваей.*

ЯГЛЫ'. Толькі ў выразе: *Што ты варыш? — Яглы, што так спаць ляглі.*

*С. Г. Лобач*

## З ДЫЯЛЕКТНАЙ ЛЕКСІКІ ЗАЛЕСІНЦАЎ

Прыведзеныя словы запісаны ў в. Залессе Чачэрскага раёна ў 1974 г.

АДГА'РА *ж.* Прыгарка. *Адгара ў сярэдзіне варэечкі.*

АБКАВА'ЦЬ *зак.* Абсыпаць. *Светлымі вадзянкамі ўсе рукі абкавала.*

АТПРАЦІ'ЦЬ *зак.* Адвярнуць (ад чаго-н.). *У астатні час атпраціла мяне нешта ад прання, ды і дзеці кажуць: аддыш, не прадзі.*

АТРЫВУ'ШЫЦЬ *зак.* Набіць. *Атрывушылі яго хлопцы.*

БАЛО'ННЯ *ж.* Рачная затока, старое русла ракі. *Глей бяром на балонні.*

БАЛЯСЕ'НЬ *м., ж.* Гаваруха. *Балясень такая, як разгаварыцца, не спыніш.*

БЛЭ'НДА *м., ж.* Бадзяга. *Ну і блэнда, з ранку блэндае па хатах.*

БРЫДЗЕ'ЦЬ *незак.* Шчымець, балець. *Брыдзіць губа ад салёнага.*

ВАРСАНУ'ЦЬ *зак.* Піхнуць. *Хоць піхне, хоць варсьне, а ўсё дарам не міне.*

ВАРЭ'ЙКА *ж.* Гліняны гаршчочак. *Варэйка, як чугунок, вараць суп, ці кашу, ці малако ў ёй.*

ВЕ'НА *ж.* Пасаг. *Бацька вену даваў дачцы: карову, авечку, свінню.* Параўн.: *вéно* (Литовский Статут 1529 г.— Временник... Москва, 1854, с. 24—25).

ВІ'ЛКІ *мн.* Пахвіна; таз. *Я памачыўся ў вадзе па вілкі.*

ВОРСЬ *выкл.* Шусь. *Прыгледзеў, што дзед у баню пайшоў, ён туды ворсь у мыльнік.*

ВЫ'ЗЕБНУЦЬ *зак.* Вымерзнуць. *За зіму вызебне жыта ад марозу.*

ВЫ'РАСТАК *м.* Падлетак. *Я была выраcткам, дык зарабляла грошы — хадзіла жаць.*

ГАЛУ'ЗА *м., ж.* Свавольнік. *От, і галуза ж ты, абы табе падурэць.*

ГАРА'ЧЫЯ СТАЛЫ' *мн.* Жалобныя сталы. *Гарачыя сталы робяць праз дзевяць дзён, як памёр чалавек.*

ГА'ТКІ *мн.* Папярочкі; кароткія папярочныя барозны, засаджаныя бульбай. *Гаткі засталося акучыць.*

ГРУ'БЛІВЫ *прым.* Грудкаваты. *Грублівая дарога, трасець.*

ДРЫ'ЛЮШКАВЫ *прым.* Клятчасты. *Дрылюшкавыя юбкі, пярэднікі, насыпкі на падушкі шылі, у дробную кратку.*

ЖЫЎЦЫ' *мн.* Крыніцы. *Рэчка не перасыхае, тут жыўцы ёсць, ключыкі такія, яна цячэ, цячэ, а дзе яе пачатак?*

ЗА'БЛАЦЬ *ж.* Мулінэ. *Заблаць — тонкія ніткі, вышывалі ёю.*

ЗА'НІЗКІ *мн.* Пацеркі. *Занізкі адразу ж на шыю павесіла, як толькі купіла.*

ЗАНЮ'ЖАНЫ *прым.* Замораны. *Суседа жонка спраўная, ідзець, як шула, а ты занюжаная, усё работаеш і работаеш.*

ЗА'ПЕРХА *ж.* Мяцеліца. *Заперха сёдні на дворы, а ехаць трэба.*

ЗБЫ'ТНІК, СУХО'ТНІК, ПАТАЙНІ'К *м.*, ПРЫПА'ДКІ *мн.*, ЧО'РНАЯ БАЛЕ'ЗЬНЬ *ж.* Эпілепсія. *Збытнік падкінуўся, бо я некалі спужалася. Сухотнік тое ж, што і патайнік. І патайнік умела загаварыць, бывала. Прыпадкі б'юць. Чорная балезьнь усю яе ссушыла, змучыла.*

ЗУ'БЕЛЬ *м.* Самаробны дымар. *Зубель дзеравяны, падкурваць пчол: палку вярбовую расколеш — і распаліш.*

ЗЬНЕ'ЦЬКІ *прысл.* Знянацку. *Бацька зьнецькі сына пугай, сын спужаўся і падскочыў патайнік — падучая балезьня.*

КАДУ'К *м.* Міфічная істота, чорт. *Да які кадук тут у дзярэўні найдзецца ёй!*

КАМЛЁТ *м.* Андарак. *Камлёт — спадніца з сукна, саматканая, не паласатая.*

КАРНАВУ'ХІ *прым.* Караткавухі. *Карнавухая кошка — вушы ў яе паадмярзалі.*

КАЦЭ'РЫЦЬ *незак.* Сварыцца. *Я сёдні кацэрала на яго ўночы, дзе ты такога кашлю падхваціў?*

КВО'ЛІЦЦА *незак.* Хварэць. *Прыйшоў дамоў, кволіўся, кволіўся і памёр.*

КЛЕ'ВАЦЬ *незак.* Ледзь дыхаць, трапятацца, быць слабым. *Сэрца ледва клевае.*

КРАСНАВО'ЛЬЧЫК *м.* Сіваграк. *Краснавольчыка ў лесе за Сажом бачыла.*

КРЫШНІ' *мн.* Сушаныя яблыкі. *Яблак крышнёў возьмеш, зацярэш крахмалам — і кісель гатовы.*

КУ'ЗКА *ж.* Пасудзіна з бяросты для збірання ягад. *У кузку ягады бяром, яна бірысцяная.*

ЛІМА'Н *м.* Разліў. *От, сёлета ліман бальшы, вада бальшая.*

ЛЯМЕ'ШКА *ж.* Страва з запаранага цеста, разведзенага вадой. *Лямешку раблю так: сыпну ў чугун пад скавараду жытняй мукі, яна нагрэецца, льлю ваду, мішаю, цеста станаўлю ў печ, нальлю алею.*

МАЛІ'К *м.* Карак. *Кладзіце на малік гарчычнік.*

МАМЕ'Й *м.* Нямы. *Сядзіць мамей ціщком.*

МЕДАЎНІ'ЦА *ж.* Кадушка на мёд; кадаўб. *У медаўніцах мёд захоўвалі.*

МУЧАНІ'ШНІК *м.* Талакнянка.

МЫ'ЛЬНІК *м.* Прылазнік. *Там, у мыльніку, раздзявайся.*

МЯДНІ'К *м.* Пчалавод. *Сходзі да медніка, ён усё пра пчол ведаіць.*

МЯЖНІ'К *м.* Мяжа. *На мяжніку трава густая вырасла.*

НАДА'ЦЬ *зак.* Захацець, здарыцца. *Цяпер надало зноў завесьці чарцей* [гусей] *са ўсяго сьвету.*

НАРА'ДКА *ж.* Чары. *Нарадка, бывала, казалі, калі зьдзелае табе на вадзе, вып'еш тую воду, і будзе табе атразаць, рэзаць пад ложачкай.*

НАРЫ'ТНІКІ *мн.* Шляя. *Нарытнікі на тулава каню кладуцца.*

НА'ТСЫР *прысл.* Сыраваты, недавараны. *Астыў боршч, можа, і натсыр.*

НА'ШЛЫГ *прысл.* Накрыж. *Нашлыг за рогі: аднаго вала і другога ў кучу, а шыя іх у ярме; цягам за рогі двух валоў.*

ПАДВА'ЛАК *м.* Падаконнік. *Падвалкі ў вокнах зрабілі, цяпер стаў вазоны ці што.*

ПАДНЯБЕ'СЬНІКІ *мн.* Папярочка, якая злучае ставы ўверсе. *Ставы былі з паднябесьнікамы ў ідзе дугі.*

ПАК *выкл.* Стук. *Певень клевасты ў ніх, я — круць, а певень — пак мяне ў нагу.*

ПАЛЯНІ'ЦА *ж.* Невялікая булка з белай мукі. *Як памрэць хто, паляніцы прадаўгаватыя пякуць.*

ПАРУ'ШША *н. зборн.* Парушынне; буза. *Пап'юць гарэлку і з парушшам, што ім?*

ПАСАЖЫ'РКІ *мн.* Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы. *Узышлі пасажыркі, высока падняліся, здалёку відаць.*

ПАЎСЬЦЕ'ГАЦЬ *зак.* Усцягнуць наверх. *Паўсьцегалі вуллі на дзерава.*

ПЕ'СТАЦЦА *незак.* Песціцца. *Прывыкла за мамай пестацца.*

ПРЫ'ЛЕПЕНЬ *м.* Камячок бруду. *Прылепень дзе які прылепіцца на сьцяну, я і атляплю яго.*

ПРЫМЫ'ЛЬНІК *м.* Гл. *мыльнік. Гусак так шчыпле, кідаецца як не лётам, не выпускае з прымыльніку.*

ПРЫРО'ДДЗЕ *н. зборн.* Парода; род. *Бабыльскага гэта ён прыроддзя, такім і бацька яго быў.*

РАХМАЧЫ' *мн.* Канцы асновы, якія адразаюцца пасля датыкання кроснаў; трапкач. *Як тчэш, канцы астаюцца — рахмачы, на ўціркy, або матузы зьвівалі і дзяцей білі, як не слухаліся.*

САПСЕ'ЦЬ *зак.* Згніць, струхнець. *Друзлае палена, сапсела на корані.*

СПАВА'ГА *прысл.* Спаважна, паволі. *Гаварыла бапка спавага: добрым часам, сьветлым днём — прытчу такую.*

СУМІ'ЦЦА *зак.* Адурэць, аслупянець. *Суміцца можна, як жэншчына п'яная.*

СЬВЯЦЕ'ЛЬ *м.* Газоўка. *Сьвяцель запалі.*

ТЛЯВА'ЦЦА *незак.* Ацірацца, знаходзіцца. *Нікудачкі не ходзюць, усё ў хаце тлююцца.*

УБРЫ'ДЛЫ *прысл.* Абрыдлы. *Што б ты не даждаў, сатана ўбрыдлая, такі гусак!*

УГАРЧЫ'ЦЬ *зак.* Засмуціцца. *Я не крэпка ўгарчыла, як паехала ад яго, дзе жыла, людзі дапамаглі, як маглі, калі цяшка прыходзілася.*

УЕ'СЦІСЯ *зак.* Наесціся смачнага. *Такая каша, што яе есьць — не ўешся.*

ХІМ *м.* Натапыранае пер'е на шыі ў птушак; хіб. *Надмецца верабей і хім наставіць.*

ХІНЬЦЮ'ХА *ж.* Малярыя. *Хіньцюха трасе, у холад кідае, у гарачку, хай яна на сухі лес ідзець.*

ХЛЕ′ШЧА *прысл.* Лепш. *Хлешча, чым ад парашка, бяльлё было ад шчолака.*

ЦЫ′РАЦЬ *незак.* Гл. *кволіцца. Цырай, цырай — ды і памёр.*

ЦЯСЮ′Х *выкл.* Выгук, якім падганяюць кароў. *Цясюх — на выган Лыску.*

ЧУХМЕ′НЬ *м.* Вопратка з даматканага сукна. *У дзеда чухмень вісіць, суконны, даўгі, бес паткладкі, у адну рэдзь.*

ШАМО′РХАЦЦА *незак.* Шамацець. *Штось шаморхаецца ў сенцах.*

ШАХО′ЎНЯ *мн.* Кароткая баразна. *Шахоўню бульбай засадзілі.*

ШКРА′ГАЦЬ *незак.* Скробаць. *Не шкрагай падлогу ботамі.*

ШКУ′МЦЕ *н. зборн.* Шкумаццё. *Шкумце па хаце параскідана, шыла сабе нешта сёдні?*

ШЛУ′НЬНЯ *н. зборн.* Вантробы; кішкі. *Як узнае пра ета матка, так усё шлуньня выматае з яе.*

ШЛЯ′РКА *ж.* Біклага. *Шлярка да боку прычэпваецца, салдацкая, з вайны засталася.*

ШМАТАВА′ЦЬ *незак.* Ванітаваць. *Начало яго шматаваць.*

ШУ′РКІ *мн.* Лом; лоўж. *Шуркі спальваюць у лесе, гэта куча гальля.*

ШЫБЕ′ЛЬ *выкл.* Шусь. *Бярэш лапатачкай — і шыбель, шыбель па таку.*

Я′КСЕ *прысл.* Неяк. *Эта крышка яксе неплотна прыстае. Яксе ляніішся ўжэ іціць.*

*Н. М. Лявончык*

## З ЛЕКСІКІ в. ЗААЗЕР'Е ВІЛЕЙСКАГА РАЁНА

АБІЖДА'ЦЦА *незак.* Крыўдзіцца. *Ні абіждайся, дзеткі, што ня еду да вас, часу німа.*

АБРЫДО'НЫ *прым.* Абрыдлівы. *Абрыдоны гэты чалавек.*

АБУВА'НЬНЯ *н.* Абутак. *Купляць ні спраўляісься абуваньня. Накупляла абуваньня многа, а насіць німа чаго.*

АБЫСЬЦІ' *зак.* Узысці (пра пасевы). *Сёліта бульба абышла добра. Наша жыццо абышло ня ўсюды.*

АГЛАБНЯ' *ж.* Аглобля. *Бярыся за аглобні, я падапхну ззаду, так і выцягнім калёсы з двара.*

АДБІ'ТЫ *дзеепрым.* Адгароджаны. *У нас другая хата адбітая.*

АДГА'КАЦЬ *зак.* Пабудаваць вельмі добра будынак. *Такі дом сабе адгакаў у канцы вёскі, проста, як званочык. Ну і лазьню ты адгакаў!*

АДДУ'ХА *ж.* Перапынак у працы. *Сягоньня на сена хадзілі, біз аддухі рабілі цэлы дзень.*

АДЗЯВА'НЬНЯ *н.* Адзенне. *Мама паехала ў горат купіць дзецям адзяваньня.*

АДМЕ'НЯВАЦЬ *незак.*, АДМЯНІ'ЦЬ *зак.* Вызваляць, падмяняць, зменьваць. *Посьля двух я пайду адменяваць тату, ён сягоньня жыта суша. Учора да палуньня пасьціла кароў, а тады мяне адмяніла дачка.*

АПУ'ДЖАВАЦЦА *незак.*, АПУ'ДЗІЦЦА *зак.* Запужвацца, палохацца.

АПУ'ДЖАВАЦЬ *незак.*, АПУ'ДЗІЦЬ *зак.* Запужваць, палохаць. *Ня лётай так па дварэ, ні апуджавай курэй. Апудзіў карову ўчора, доўшы ей пугай, сягоньня прысьмірэла.*

АПХВЭ'НДАЦЦА *зак.* Апырскацца, абліцца. *Ні вылась с хаты, бо апхвэндаісься гразёй: толькі што дош быў. Пакуль налівала ваду каровам, дык апхвэндалася.*

АПХВЭ'НДАЦЬ *зак.* Апырскаць, абліць. *Апхвэндала пальто, цяпер трэба чысьціць. Ні апхвэндай малаком сьцяну.*

АСКРАБА'НКА *ж.* Вымова. *Назаўтра я доў дзяцьку аскрабанку за тоя, што ўмішаўся ў нашу сварку.*

АСТРА'ШЫЦЦА *зак.* Перастаць баяцца, асвоіцца. *Каровы ўжо астрашыліся і праз двор ідуць спакойна.*

БАРБУ'ХА *ж.* Божая кароўка. *Барбуха, барбуха, гарэлая бруха! Ці пень ці калода? Якая заўтра пагода? Як дош, дык сядзі, як пагода — ляці!* (Дзіцячая гаданка аб пагодзе.)

БАХ *выкл.* Далоў, на падлогу (у размове з дзецьмі). *Ну-ну, ідзі бах, ідзі пагуляй.*

БУРАКІ' *мн.* Боршч. *К дзеню я пастаўлю ў печ буракоў.*

БУРДЗЁЛКА *ж.* Пярэсна. *Бурдзёлкі растуць у маладым альхоўніку.*

БУ'ХАЦЬ *зак.* Надрыўна кашляць. *Цэлую ноч бухаў тата, а раніцай не мох падняцца: балела галава.*

ВО'БУЙ *м.* Гл. *абуваньня. Дзяцей поўная хата, аднаго вобую трэба вун сколька.*

ВО'ДЗІДЗЕ *прысл.* Вось, вот. *Водзідзе ш ляжыць дошка, а ты забыўся, чаго шукаіш.*

ВЫ'МКНУЦЦА *зак.* Прагаварыцца. *Кап я ня вымкнулася пра Лазаўцы* [вёска], *дык ніхто ня ведаў бы, куды паедзім на каляды.*

ГАЙДАМА'ЧЫЦЬ *незак.*, ПРАГАЙДАМА'ЧЫЦЬ *зак.* Марнатравіць, траціць без патрэбы. *Ня трэба гайдамачыць грошы, яны ўсягды спатрэбяцца. Можна прагайдамачыць усё дабро, а посьля што рабіць?*

ГАРАХВЯ'НІШЧА *н.* 1. Поле, дзе рос гарох. *Кароў пасуць на гарахвянішчы.* 2. Гарохавая салома. *Гарох абмалацілі, гарахвянішча злажылі ў стох.*

ГНАЁЎКА і ГНАЯ'ЎКА *ж.* Адна з дзвюх шырокіх дошак, якія закладваюцца па баках калёс (калі возяць гной, пясок, гліну). *Прынясі, дзеткі, гнаёўку, ля лазьні ляжыць. Трэба ш схадзіць да Паўлюка па гнаяўкі.*

ГРА'БА *ж.* Канава. *Даўней як разьліецца граба, дык пат самую хату вада патходзя. Па ваду мы хадзілі да грабы: там быў калодзісь.*

ГРАЦКО'ЎЯ *н.* 1. Поле, дзе расла грэчка. *Сягоньня атпасьцілі кароў на грацкоўі.* 2. Грэчневая салома. *Грацкоўя можна злажыць і ў стажок.*

ДАСТА'ЦЬ *зак.* Знайсці, застаць. *Калі пайсьці да брыгадзіра ранічкай, дык можна дастаць яго дома.*

ДЗЕ *прысл.* Куды.— *Дзе ш ты едзіш, мае дзеткі? — У горат паеду, трэба тоя-сёя купіць.*

ДЗЯВУЛЯ' *ж.* Дзявуха; вялікая дзяўчынка. *Такая дзявуля, а носіцца цэлы дзень па выганя з малымі.*

ДЗЯЦІ'ННЫ *прым.* Дзіцячы. *Што ш гэта за сукенка. Дзяцінная!*

ДЗЯЦІННЫ БАЦЬКА *жарт.* Пра мужчыну або дарослага хлопца, які любіць дзяцініцца. *Як увідзя хто, як ты зь дзяцьмі носісься, дык і скажуць, што дзяцінны бацька.*

ДОСЬ *прысл.* Даволі, досыць. *Досьжа я нацярпелася ад яго.*

ДУ'КТА *ж.* Гл. *лінія. Па дукця даедзіш да баравога лесу.*

ЁМКІ *прым.* 1. Моцны, дужы. *Многа еш, кап ткі ёмкая была, а ні такая, як перашчыкнуць.* 2. Аб'ёмны. *Ёмкі мех пашыла на бульбу.*

ЖАМЯРА' *ж. зборн.* Драбяза (пра дзяцей). *Куды ш ей на работу, калі жамяры поўна печ.*

ЗАРЫЖЭ'ЦЦА *зак.* Пачаць чырванець; стаць чырвоным, заірдзецца. *Пакуль прыбех унук ад магазіна, дык зарыжэўся.*

ЗАСУ'КАВАЦЬ *незак.*, ЗАСУКА'ЦЬ *зак.* Закасваць. *Засукавай рукавы і памагай бульбу пірабіраць. Засукала рукавы і як стой* [хутка] *навяла парадак.*

ЗАХО'ДЛІВАЯ БУЛЬБА. Бульба з чорнымі валокнамі ў сярэдзіне. *Сёліта бульба заходлівая.*

ЗЬВЯСЬНЕ'ЦЬ *зак.* Схуднець, змарнець. *Нешта ты зьвясьнела, дзеткі, за гэты гот.*

ЗЬЮ'ДЗГАЦЬ *зак.* Вымазаць. *Зьюдзгалі парасяты адзіяла, што вісела на варотах.*

КАВА'ЛЬСКІ МЕХ. Пра лёгкага на пад'ём чалавека.

КАНАПЕ'ЛЬКА *ж.* Дрыжнік. *Карова нешта ні стала есьці, трэба даць ей канапелькі.*

КАПЯЛЮ'ШНІК *м.* Лопух. *У нас многа капялюшніку ля плоту і ля лазьні.*

КАЦІ'ННЫ *прым.* Каціны. *Каціння гарадок — самае гарачае месца на печы. Як прыдзя зіма, дык дзет займая месца на кацінным гаратку.*

КВЯЛІ'ЦЬ *незак.*, УКВЯЛІЦЬ *зак.* Дражніць, крыўдзіць. *Цэлы дзень у хаця шум: квеляць анно дру-*

*гоя, дражнюць. Чую з двара, плача малая: нехта ш уквяліў.*

КРЭ'СКА *ж.* Рыска. *Хлопчык рабіў на сьнезя крэскі. Зімой у леся многа крэсачак ат птушыных сьлядоў.*

КУБА'ТАРКА *ж.* Інкубатарная курыца. *Сёліта ў мяне ўсе куры кубатаркі.*

КУРНЯ' *ж.* Мурканне. *Псік! Завяла ўжо курню! Ото ні люблю.*

КУРО'СНЫ *мн.* Седала. *Сягоньня куранятак трэба перанясьці на куросны на ноч.*

ЛА'НЬНЯ *прысл.* Мнагавата. *Гляджу ў яе кошык, аш там ланьня баравічкоў ляжыць. Хоць нівялікі шнурок папаўся, алі сена будзя ланьня: трава густая, спорная.*

ЛА'ТА, ЛАТО'ЧЫНА *ж.* Невялікі ўчастак. *Не асталася нявыбранай невялікая лата бульбы і пад лесам. Нашла латочыну суніц, дык як ні відаць назьбірала слоік.*

ЛАТВІ'НСКІ *прым.* Латвійскі, з Латвіі. *Латвінскія прыяжджалі ў госьці на калядьі. У нашым саўхозя ёсь каровы латвінскай пароды.*

ЛА'ХАЎКА *ж.* Пляткарка. *Яна ш такая лахаўка, у яе язык да пят.*

ЛА'ХАЦЬ *незак.* 1. Гаварыць лішняе. *Ня слухай, што яна лахая сваім доўгім языком.* 2. Бегаць без патрэбы. *Лепі дома што зрабіла п, а то лахая па вёсца.*

ЛІ'НІЯ *ж.* Прасека. *Гэтай лініяй праз бярэзнік можна выйсьці на бальшак.*

ЛУНЬ, ЛУНЁК *м.* Невялікая дажджавая хмара. *Хаця кап з гэтага луня дош ні пашоў, а то сапсуе сена.*

ЛЫ'КІ *мн.* Басаножкі. *Ні магу глядзець на гэтыя лыкі. Што гэта за абуваньня!*

ЛЯ'НІШЧА *н.* 1. Поле, на якім рос лён. *Тата на лянішчы варочае сена, што ўчора прывязьлі з балота.* 2. Трава, якая засталася пасля таго, як вырвалі лён. *Тата кося ўсю раніцу лянішча ля самых хутароў. Учора прывязьлі лянішча, сягоньня зложым яго ў пуні.*

МА'ЛІЦЦА *незак.* Паводзіць сябе як малое дзіця, лічыць сябе малым. *Бацьку па плечы вырас, а ўсё маліцца. Німа чаго маліцца, калі з-за пазухі валіцца.* (Прымаўка.)

МІНЮ'ТА *ж.* Мінута. *Німашчыка навіт і мінюты пасядзець на выганя.*

НАЛЕ′ЦЬЦЯ *н.* Будучы год. *Сёліта ўдалося ўкасіць, к налецьцю сена астанецца.*

НАЛО′ГА *ж.* Прывычка. *У Пеці такая налога пра другіх гаварыць абы-што. Пакінь гэту дурную налогу выцягаваць шыю, як гусак.*

НАПРО′ЦЬ *прысл.* Насупраць. *Наша хата стаіць напроць Дуровічавага гароду.*

НАСПАРА′ЦЦА *зак.* Набрацца, назапасіцца. *Так рвуць дзеці летам адзежу, што ні наспараісься купляць.*

НІПРЫТУ′ЛЬНЫ *прым.* Непрыхільны, незычлівы. *Ніпрытульны наш дзяцька: што ні зрабі — усё дрэнна, ніколі ні скажа добрага слова.*

ПАЁДАВАЦЬ *зак.* Паесці ўволю. *Сёліта паёдавалі яблыкаў.*

ПАЗЫ′РЫЦЬ *зак.* Вельмі хутка пайсці, прыпусціць. *Стаяла, балбатала, а тады пазырыла пад магазін, аш пяткі абліішчэлі.*

ПАЛА′ХАЦЬ *зак.* 1. Сказаць лішняе. *Кажды мох ба палахаць, а вот памахчы ніхто ня кініцца.* 2. Пахадзіць, пабегаць без патрэбы. *Ей жа німа калі дома хату прыбраць, пакуль палахая па вёсца, дык німа часу.*

ПАПЯРЭ′ЧКА *ж.* (звычайна *мн. папярэ́чкі*). Папярочныя барозны ў канцы ворыва. *Конь да паркану ні даходзіў, дык прышлося адараць сем папярэчак.*

ПА САБЕ′ *прысл.* Па адным, паасобку. *У іх усе жывуць дружна: ніхто па сабе нічога ня робя.*

ПАЎТАРА′ ЛЮЦКО′ГА. Не так, як ва ўсіх. *Што ён пляце, ня слухай. Алі ш у яго век паўтара люцкога.*

ПАЦІРА′ШКА *ж.* Зацірка. *Звары, старая, паціррашку.*

ПАЦЬЦІКА′ЦЦА *зак.* Падкрасціся. *Пацьцікайся да дроў і паглядзі, што там стары робя.*

ПІЧА′ЙКА *ж.* Пякотка. *Калі пічайка, то выпі малака кіслага с содай.*

ПЛЮ′НТАЦЦА *незак.* Блытацца, матляцца (пра доўгае адзенне). *Спаньніца плюнтаіцца ля нох.*

ПО′ШАЎКА *ж.* Навалачка. *Ні шкадуй тых вышываных пошавак, надзявай.*

ПРЫПАДА′ЦЬ *незак.* Кульгаць. *Сын учора нагу ўдарыў, стаў прыпадаць. Карова прыпадая на заднюю нагу: капыт заламаўся.*

ПРЫ′ТАЧКАМІ *прысл.* Прыхваткамі. *Неяк жа шшыю спаньніцу прытачкамі.*

ПЯРЭ'ЧКА *ж.* 1. Гл. *папярэчка. Бульба на пярэчках вырасла добрая.* 2. Спінка ложка. *Павесь адзежу акуратна на пярэчку за шкафам.*

РАЗРАБІ'ЦЦА *зак.* Распаўнець. *Стала спакойна жыць, дык разрабілася, што ні пазнаць.*

РАКАЧА' *прысл.* Ракам, сагнуўшыся. *Як пастаіш цэлы дзень у ягадах ракача, дык назаўтра ісьці ў іх ні захочыш.*

РАПЯРЦІ'ЦЦА *незак.*, НАРАПЯРЦІ'ЦЦА *зак.* Збірацца пайсці, паехаць куды-н. *Я ўчора рапярцілася ў горат, ды ня вышла. Пакуль я зьбегала ў лаўку, сын нарапярціўся ўжо ісьці на двор.*

РАПЯРЦІ'ЦЬ *незак.*, НАРАПЯРЦІ'ЦЬ *зак.* Вучыць, як паступаць; настаўляць, павучаць. *Дзяцей трэба пастаянна рапярціць, бо самі ня тоя будуць рабіць. Так нарапярціла сваю дачку, што цяпер яна ведая, дзе што рабіць і як сказаць.*

РАСЬПІРЫ'НДЗІЦЬ *зак.* Разбалбатаць. *Пакуль я прыехала дамоў, дык сусетка расьпірындзіла, што я езьдзіла ў бальніцу.*

РЫ'СКА *ж.* Кошка з жоўтай, чорнай і белай поўсцю.

СМУРО'ДНІК *м.* Чорныя парэчкі (ягады і кусты).

СПАЗРЫ'ЦЬ *зак.* Скеміць. *Я адразу спазрыў, што калёсы маглі праехаць толька ў гэтай прагаліня.*

СПАНА'ТРЫЦЬ *зак.* 1. Выведаць. *Як гэта бабка спанатрыла, што ў нас госьці?* 2. Панадзіцца. *Наша карова спанатрыла заварачваць у лубін.*

СТЫКА'ЦЦА *незак.* Быць, знаходзіцца. *Які ім зь яе толк, калі яна дома ні стыкаіцца, усё ў рабоця.*

СХУ'ДНУЦЬ *зак.* Гл. *зьвясьнець. Так схудла наша дзяўчына, што ні пазнаць.*

СЬЦЕНЬ *м.* 1. Цень. *Як сьцень ад ігрушы зойдзя да лазьні, дык скора ўжо восім часоў вечара.* 2. *перан.* Пра вельмі худога чалавека. *Да чаго ты напеNone ражывалася. Адзін проста сьцень, а ні дзяўчына.*

СЬЦЮЦЮ'РЫЦЦА *зак.* Скурчыцца (ад холаду). *Ідзі адзень пальто, а то сьцюцюрылася і стаіць.*

ТРЫСЬЦЕ'НЬНІК *м.* Трысцень. *Дойна прыставілі трысьценьнік да хаты, толькі німа сілы да ладу давясьці.*

УВАРВА'ЦЬ *зак.* Уцячы, збегчы. *Пакуль я акруцілася туды-сюды, дык дзіця ўварвала з двара.*

УЗЬЮ'ДЗІЦЦА *зак.* Усхадзіцца, раз'юшыцца. *Узь-*

*юдзілася дзіця сягоньня і цэлы дзень ні дае нікому спакою.*

УЛЕ′ХЦА *прысл.* Улегцы. *Завязу вам хлеп, я ш пашці ўлехца еду дамоў.*

УМКНУ′ЦЬ *зак.* Гл. *уварваць. Пакуль я саброўся ў Маладэшна, дык зяць умкнуў у лес.*

ХІТРУ′ХА *ж.* Барахолка.

ЦЫНТУ′РА *ж.* Цвінтарэй.

ШУ′РБАНІЦА *ж.* Калатня, калатэча. *Век у іх у хаця шурбаніца. Німа спакою.*

ШАРСНА′ТЫ *прым.* Шарахаваты. *Бервяно шарснатая, глядзі рукі ні абдзяры.*

ШЫЛЬЛЁ *н.* Апалыя шыпулькі. *Як ні было саломы, дык насілі зь лесу шыльлё на патсьцілку ў хлеў.*

ШЫЛЬЛЯЙКО′ *н. памянш.* Дробныя шыпулькі. *Зьмяці шыльляйко, што парастрасалася па дварэ.*

ШЫ′ЛЬНІК *м.* Гл. *шыльлё. Марос зялёнкам ні па чом: сядзяць сабе ў шыльніку.*

ЯК КОЎШ АЛЬХО′ВЫ. Пра чалавека з ружовымі шчокамі. *Бывала, вып'я твой дзет, зарыжэіцца, як коўш альховы.*

ЯК МЛЁН. Пра непаваротлівага чалавека. *Скоранька бяжы, а то як млён.*

*П. А. Міхайлаў*

## ЯШЧЭ З ЛЕКСІКІ РОДНАЙ ВЁСКІ

Слоўнік з'яўляецца працягам публікацыі матэрыялаў з лексікі гаворкі жыхароў в. Ушкавіца Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці, якія змешчаны ў зборніку «Народная лексіка» (1977).

БАЮ'РА, БАЮ'РЫНА *ж.* Калдобіна, выбоіна. *Ну й дорога ў лісы, одны баюры, ныяк ны можна йіхаты.*

БРО'ХАТЫСЯ *незак.* Плёхацца. *Ны брохайся у воді, холоднó вжэ, захворіеш шчэ.*

БЫГУ'НКА *ж.* Панос. *Кажнэ тыля, як но одлучыш от коровы і почнэш даваты пійло, мусыть быгункыю пырыхворіты.*

БЭ'ШТАТЫ *незак.* Сварыцца. *Маты так мынэ бэштала за тое, шчо пошла з вамы.*

ВО'ХКЫЙ *прым.* Вільготны, сыры. *Шчэ сіно вохкэ ворочяты, хай путсохнэ до обіда. Рубашку добрэ прасоваты, пока вона вохка.*

ВЫЛЫГДУ'Р *м.* Бамбіза. *Такый вылыгдур вырос, а ныць удома ны поможэ.*

ВЫ'МАНТЫТЫ *зак.* Выпрасіць. *Шо тобі ны дасы — всё вымантять, хоч ны давай.*

ВЫ'ШМАРГАТЫ *зак.* Вышмальцаваць. *Так вжэ вышмаргав штаны на роботі, шчо ны даты рады одмыты.*

ВЭ'ДЛУК *прысл.* У параўнанні. *Вэдлук ёгó він такый шчуплынькый, а так брязнув на зэмлю, шчо той аж охнув.*

ГЕ'ГНУТЫ *зак. экспр.* Памерці. *Чы ж ты шчэ ныць ны чула: то ж він у тую ныділю гегнув, ныма вжэ ёго.*

ДОСЬ *прысл.* Даволі, досыць. *То в мынэ котык дось справный: вжэ ж шчурів у мынэ було кілько до гэтого, а як но ёго прынысла, от хутко звів.*

ДУ'ПКЫ *прысл.* Дыбам. *А кінь той будэ дупкы становытыся, цудо вычвыряты, но в оглоблі ныяк ны затягнуты.*

ДЫ′ЛДА *м., ж.* Высокі, цыбаты чалавек. *Вырос такая дылда, а толку с тыбэ ныякого.*

ЖО′МРАТЫ *незак.* Павольна есці, жаваць. *Шчо ты там жомраеш, як быззубый?*

ЖЯ′ДНЫЙ *займ.* Ніякі. *Як уплюныця гэта хвороба, то ныма од іі жядного ратунку.*

ЗАСМАЧЫ′ТЫ *зак.* Заправіць страву. *Пуджар сала с цыбулію і засмачы борщ з бураків, смачнішый будэ.*

ЗАХОЛО′НУТЫ *зак.* Застыць. *Вынысь квашыли́ны на дьвір, там воны ліпш і хучій захоло́нуть.*

ЗАЯЛО′ЗЫТЫ *зак.* Зашмальцаваць. *Ты, як дытына малое, на нет рубашку заялозыв.*

ЗВЫ′ННЫЙ *прым.* Хуткі, спрытны. *О, в іі дочка вэльмы звынна.*

ЗГО′НЫНЫ *мн.* Адходы пры малацьбе (біты колас). *Чы ты здурів: узяв і высыпав згоныны у путсьціл.*

ЗОРЫ′ТЫ *незак.* Спяліць (на сонцы збожжа). *Зорыла жыто на сонці, то од воробьів ны одогнатыся.*

КАРТОПЛЫ′СКО *н.* Бульбянішча. *У ныділю картоплыско буду пырыоруваты.*

КОЖУ′ШКЫ МНЯ′ТЫ. Угінаць, мяць тонкі лёд. *Мняв кожушкы і ввалывся в полонку, ну й дала ж маты.*

КУДЫ′СЯ, КУДЫ′СЬ *прысл.* Некуды, кудысьці. *Як пойшов кудыся з раньня, то до гэтыі поры шчэ ны вырнувся.*

КУ′РАВА *ж.* Віхар. *Такая курава на дворі стоіть.*

ЛЁКОТІ′ТЫ *незак.* Трэсціся (ад холаду). *Аж лёкоты́ть от холоду, а ны одіныця, говоры ны говоры.*

ЛЫ′СЫТЫ *незак.* Рабіць зарубкі на ствале дрэва. *Як дають дылянку лісу, то дырывы́ны, которы тобі, лы́сять і на лы́сяному номырують.*

МОКРОТЭ′ЧА *ж.* Макрата. *На дворі мокротэчна, ны выйты с хаты.*

МЯРГОВА′ТЫ *незак.* Меркаваць. *Мярговáла, шчо хватыть горыню на вышывку, а його забраковало дьві талькы.*

НАКО′ПСАТЫСЯ *зак.* Нахадзіцца, нарабіцца. *За дэнь накопсався — аж ногы гудуть.*

НАПЭ′РЫТЫ *зак.* Адлупцаваць. *Добрэ такы тыбэ маты напэрыла.*

НЫЗА′ТЫ *незак.* Штурхаць. *Ныжэ й ныжэ у бокы дытыну, радый, шчо більшый вырос.*

О'БОЛОК *м.* Воблака. *Алэ й погода, абы оболок найшов на сонцэ, так холодно — аж ны выдыржяты.*

ОБРОБЫ'ТЫСЯ *зак.* Зрабіць усю работу. *Лэдь за дэнь обробылася.*

ОДУ'РА *м., ж.* Назола. *Твій хлопэць такая одура головы, як сьвіт ны бачыв, ны хочу я тобі його глядіты.*

ОДЯГНУ'ТЫ *зак.* Пацягнуць, ударыць. *Діты, опсяттэ, бо одягну шытыком.*

ОПКОСЫ'ТЫСЯ *зак.* Скасіць, выкасіць. *В гэтум році я до дождів успів опкосытыся, высушыты і в хлів прывысты.*

ОПОЧЫ'ТЫ *незак.* Адпачыць. *Ляж, опочынь, наробывся ж за дэнь.*

ОПСАДОВЫ'ТЫ *зак.* Супакоіць. *Я хутко тыбэ опсадовлю́, ны сядь но сам.*

ОПСЯДА'ТЫ *незак.* Супакойвацца. *Опсядь, бо напэру.*

ОЧЭ'ПА *м., ж.* Назола. *Оччыпыся од мынэ, вжэ надоів, от очэпа.*

ПА'НТОЧЫТЫ *незак.* Есці без перастанку. *Цілый дэнь оно па́нточыть.*

ПЛЯ'МКАТЫ *незак.* Есці прыцмокваючы. *Ны плямкай, як ісы, так ны хорошэ́ робыты.*

ПОДВІ'РНЫЙ *прым.* Знадворны (пра рамы ў вокнах). *Подвірны окна ужэ вставыв, зашклыв, можна пырыбыратыся у нову хату.*

ПРАВЫ'ЛО *н.* Бервяно, якое кладзецца ў апошнім вянку зруба. *Гэтой бар'як на правыло добрый будэ.*

ПРЫМОРУ'ЖАНЫЙ *прым.* Прыжмураны. *Оно вжэ входыть в хату прыморужаный, то знаю, шчо выпывшы.*

ПУЗАТІ'Й *м.* Пузан. *А якый він пузатій був, коп ты бачыла!*

ПУ'ШКА *ж.* Карабок (з-пад запалак). *Ны давай дытыны пушку бавытыся.*

ПЫРЫКУЛЬБА'ЧЫТЫСЯ *зак.* Перакуліцца. *Як дам дэ́ чым, аж пырыкульбачыся.*

РА'ЧЫТЫ *незак.* Жадаць. *Шчо бачыть, тое й собі рачыть.*

РОСКЫ'НУТЫ *зак.* Разаслаць (пасцель). *Роскынь посьціль, пора спаты лягаты.*

СВЫНЫ'НЧЫК *м.* Свіны драўляны хлеўчык.

СЛЫЗОТА′ *ж.* Слізгота. *От слызота, ны ступыты ногою.*

СПОВРО′ЧЫТЫ *зак.* Сурочыць. *Показала б тобі поросята, алэ боюсь, шчо споврочыш.*

СТОЛНЫ′ЧКА *ж.* Кружок рэзаць сала, мяса і інш. *Подай столнычку, сало покрышу.*

СТУ′БОЛЫТЫ *зак.* Вытаптаць. *Коровы́ на нет ступолылы картоплі мoі.*

СХО′ДЫТЫ *незак.* Падыходзіць (пра цеста). *Хліб сходыть, хутко в піч буду сажяты.*

СЬЦІ′БЫРЫТЫ *зак.* Украсці. *Позыч жылізныка, бо моёго сьцібырылы.*

СЭ′НДЫРКО-ПЭ′НДЫРКО *м.* Божая кароўка. *Сэндырко-пэндырко, чы будэ завтра погода, як ны будэ, то заб'ю, а як будэ, то пушчу* (прыгаворваюць, трымаючы на руцэ).

ТА′ЛЬКА *ж.* Маток мулінэ. *На макатку сім та́лёк го́рыню пойшло.*

ТЕ′МРАВА *ж.* Цемната. *Темрава на дворі хоч очы выколь.*

ТХНУ′ТЫ *зак.* Дыхнуць. *Ны дае мні на́выть тхнуты, всё купы да купы.*

УТЫРЭ′БЫТЫСЯ *зак.* Улезці, умяшацца. *Знов ты кудыся утырэбывся?*

УХВА′ТКА *ж.* Запальчывы, дрэнны характар. *От ухватка у чоловіка, ныць напротів ны скажы, одразу аж кыпыть.*

ХЛОПЧЫ′СКО *м.* Вялікі здаровы хлопец. *Хорошый в тыбэ хлопчыско вырос.*

ХУДО′БА *м., ж.* Вельмі худы чалавек. *Такэі худобы, як ты, я шчэ ны бачыв.*

ЦВЫ′ГАТЫ *незак.* Біць гнуткім прутам. *Такы цвыгну тыпэрычка тыбэ пру́том.*

ЧВЭ′РЫТЫ *незак.* Гарэзнічаць, вытвараць. *Шчо ты там чвэрыш, шчо аж хата ходуном ходыть?*

ШКАРАЛЮ′ПА *ж.* Лупіна яйца.

ШЛАПА′СТЫЙ *прым.* Такі, які падае камякамі (пра снег). *Бач, якый шлапастый сніг на дворі падае.*

ШНЫ′РГАТЫ *незак.* Штурхаць. *За́шчо ты його шныргаеш у бо́кы?*

ШЫ′КОТЫТЫСЯ *незак.* Корпацца.

ШЫЛЁ′ХНУТЫ *зак.* Выліць. *Шылёхнув выдро воды на голову і сам побіг.*

ШЫЛЬБУ'ХНУТЫ *зак.* Упасці, нечакана ўваліцца. *Так шыльбухнув у воду, шчо й крыкнуты ны успів.*

ШЫЛЬКІ'ТКА *ж.* Казытанне. *Я шылькіткы як огню боюся.*

ШЫЛЬКОТА'ТЫ *незак.* Казытаць. *Ны шылькочы ії, то ж нымොжна.*

ЯЗЫ'ЧКЫ *мн.* Бярозка (расліна). *Нарвы язычкув свынюм, воны вэльмы люблять.*

ЯЛО'ХА *ж.* Ялаўка. *Трэба здаты корову на базу і купыты тёлочку, бо шчо вжэ з ії — і старая, і ялохыю осталася.*

*А. М. Прышчэпчык*

# ЯШЧЭ З ЛЕКСІКІ СВЕРЖАНСКАЙ ГАВОРКІ

Прыведзеная ніжэй лексіка сабрана і запісана ў в. Стары Свержань Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці.

АБЛЕ'ІЦЬ *зак.* Абшыць скурай або тканінай (працёртыя калені ці сядзенне ў штанах).

АГАРО'ДАЦЬ *зак.* Сабраць, накапіць з цяжкасцю (пра грошы). *Агародаць грошай на карову.*

АДВІНУ'ЦЦА *зак.* Адлучыцца на кароткі час, адхінуцца. *Толькі адвінулася, а дзеці ўжо акно разьбілі.*

АДҚРАСНУ'ЦЦА *зак.* Адчапіцца, адкаснуцца. *Адкрасьніся ты ад гэтаго дзіцяці, чаго ты прыстала к яму?*

АДЛЕ'ЦІЦЦА *зак.* Зрабіцца цеплаватай, летняй (пра ваду). *Вельмі халодная вада, пачакай, кап чуць адлецілася, тагды будзяш мыцца.*

АДУДЗЕ'НЧЫЦЬ *зак.* Аддзякаваць. *Чым я ёй адудзенчу за тоё, што яна мне жаць памагала.*

АПЫТА'ЦЬ *зак.* Пытаючы, знайсці тое, чаго шукаеш, што патрэбна. *Навесну будзям хату ставіць. Ужо зруб апыталі па патхадзяшчуй цане.*

АСҚАЛЁПАҚ *м.* Асколак, шчэпка.

АСТАДО'ЛІЦЦА *зак.* Гл. *атабарыцца. Як прыехалі ў вайну, дык і астадоліліся тут наўсягда.*

АСТРЫЖО'НАҚ *м.* Асяродак у дрэве. *Гэта ж ні дрова, а адны астрыжонкі.*

АСЫҚА'ЦЦА *незак.* Агрызацца, грубіяніць. *Яму гаворыш добро, а ён ішчэ асыкаяцца.*

АТА'БАРЫЦЦА *зак.* Асесці, спыніцца дзе-н. *Як пашоў у прымы ў чужоё сяло, дык і атабарыўсё там.*

АТАЎБАВА'ЦЦА *зак.* Гл. *атабарыцца.*

АЦО'БАЦЦА *зак.* Паправіцца пасля хваробы. *Ужо*

*думалі, што ні перажыве зімы старая, але ш нек ацобалася.*

АШНЫ'ПАРЫЦЬ *зак.* Знайсці, адшукаць. *Як ты ашныпарыла гэтыя цукеркі?*

АШТЫЛЯ'ЦЬ *зак.* 1. Сціхнуць, пацішаць. *Пад вечар вецер аштыляў і пацяплело. Мяцеліца трохі аштыляла.* 2. Стаць больш сур'ёзным; абразуміцца. *Піў, піў гэты Юрко, а на старасьць, нябось, аштыляў трохі.*

АШУ'ШКАЦЦА *зак.* Цёпла адзецца, ухутацца. *Чаго ты ашушкалася? У хаці ш ні холадно.*

БАЛА'С *м.* Жвір. *Трэба баласу прывязьці ды цыменту трохі і зрабіць ганак.*

БАМБЭ'ЛАК *м.* Кутас. *Шапка з бамбэлкамі.*

БАРБУЛЯВА'ЦЬ *незак.* Бубніць, сварыцца. *Гэта старая заўсюды барбулюя, ёй ні ўнаровіш.*

БАЎДЫ'Р *м.* Неразумны чалавек, дурань.

БАЦ *м.* Пацук. *Баца выкінула Гэлька, дык кот аб'еўсё і здох.*

БЫ'ТТО *прысл.* Быццам. *Бытто я ні знаю, чаго яна хоча,— я ўсё знаю.*

БЭ'ЙБУС *м. зневаж.* Вялікі гультаяваты падростак. *Гэты бэйбус у каждум класі па два годы сядзеў.*

ВЕ'РАЦЕНЬ *м.* Мера зямлі ў даўжыню, роўная прыблізна 50 м. *Грэчкі сеялі ні больш як тры вератні на павалоку.* Памянш. *вератнік. Бывало, пасеяш вератнік ячменю, вератнік аўса, а астальноё усё жыто ды картофлі.*

ВО'БАЛАКО *н.* Вялікая прастора, абшар. *Даўней канюшыны сеялі трошкі, а ціпер жа ў калхозе вобалако канюшыны.*

ВО'СЛАНКА *ж.* Адна або некалькі збітых дошак, якія закладваюцца па баках калёс, калі возяць гной. *Зьнімі з палатак восланкі, заўтро будзям вазіць гной.*

ВЫ'БРЫЗЬГАЦЦА *зак.* Высыпацца па краях. *Падрубі хустку, а то выбрызьгаяцца.*

ВЫГАДАВА'НЕЦ *м.* Прыёмны сын. *Дзяцей у іх ні было, дык яна ўсё хацела выгадаванца ўзяць.*

ВЫГАДАВА'НКА *ж.* Прыёмная дачка. *Гэта ш Паўлава выгадаванка замуш ідзе.*

ВЫДЫГА'ЦЬ *незак.* Дагаджаць, наравіць каму-н. *Чаго ты перад ім выдыгаяш? Хіба ён варт гэтаго?*

ВЫ'СТУПКІ *мн.* Старыя боты ці валёнкі з адрэзанымі халявамі. *Ссунь выступкі ды схадзі замкні сені.*

ВЫ'ТАРАПАК *м.* Зябер звычайны, медавік.— *Кум-*

*ка, памажы пшаніцу жаць.— Не магу, вытарапкі колюцца.— Кумка, пазыч місачку мукі.— Не магу, кумачка, як я ў судзіну па муку, дык вытарапкі за руку.*

ВЫ′ХІЛКІ *мн.* Звычайна дрэнныя, непрыстойныя манеры трымаць сябе. *Што ў цібе за выхілкі? Ты ні можаш па-люцку пасядзець ці пастаяць?*

ГАЛАМО′ЎЗА *ж.* 1. Вялікая лысая галава. 2. *зневаж.* Чалавек з вялікай лысай галавой.

ГАЛАПУ′ПЯЦ *м.* Галадранец. *У бацькі і грошы былі і адзежы много, а сын так і пражыў век галапупцам.*

ГАЛАЎКЕ′ *мн.* Частка льну каля галовак і кудзеля, счэсаная з гэтай часткі. *Зрэбі — гэта лепшая кудзеля, а галаўке на мяшкі пойдуць.*

ГАЛЫШАНЯ′ *н.* Птушаня. *У ластавак ужо, мусіць, галышанята вышлі.*

ГА′ЛЬКА *ж.* Камбінацыя (жаночае адзенне). *Даўней галькі самі шылі з мадзіпалану альбо бацісту, а ціпер усё шолкавыя ды нейлонавыя.*

ГАЛЬМАКАВА′ЦЬ *незак.* Моцна крычаць, лямантаваць. *Чаго ты гальмакуяш на ўсё сяло?*

ГАРАХВЯ′НЬЁ *н. зборн.* Гарашыны, гарохавая салома. *Гарахвяньё рэдко на падсціл ішло. Яго больш на сечку рэзалі.*

ГАСА′ЦЬ *незак.* Бегаць, гойсаць. *Ні гасай, а то спацеяш, а потым вецяр дуня і прастудзішся.*

ГА′СІЦЬ *незак.* Многа піць. *Ад чаго ты гэту воду гасіш? Ці ты еў што-нібудзь салёнаё?*

ГІЧА′НЬЁ *н. зборн.* Націна буракоў. *Налами гічанья і рацькоўя ды насячы гусям. Яны вельмі любяць.*

ГРА′ДКА *ж.*, ГРАДУ′С *м.* Акучаны, абвораны радок бульбы або якой-н. гародніны. *Асталосё абагнаць градак дзесяць картофяль. Апалолі шэсць градусаў буракоў.*

ДАЎБА′С *м.* Дурань, асталоп, балван. *Дзе ён будзя вучыцца, гэты даўбас, яму б толькі пагуляць.*

ДЗВЫ′РГАЦЬ *незак.* Гаварыць надаедліва, бубніць. *Перастань дзвыргаць, слухаць надаело.*

ДРЫВАСЕ′К *м.* Будынак, прыбудоўка, дзе сякуць і складаюць дровы. *Вазьмі тапор у дрывасеку і рашчапі смалячка на распалку, а то дрова сырыя ні ўгарацца бес смаляка.*

ДУ′ЛАПАЦЕНЬ *м.* Балбатун. *Ні слухай ты гэтаго дулапатня, што ён балбоча.*

ЗАКАМА′РАК *м.* Куточак, закутак. *Нарабіў некіх закамаркаў у хаці, ні павярнуцца.*

ЗАКАРВА′ШЫ *мн.* Маршчыны, складкі. *Разгладзь трохі гэтыя закарвашы і будзя нічого сукенка.*

ЗАКА′ТНЫ *прым.* Азартны; непрабудны. *Закатны п'яніца. Закатны гуляка ў карты.*

ЗАМЭ′РЛЫ *прым.* Худы, кволы, хваравіты. *У яе ўсе дзеці былі замэрлыя, слабыя.*

ЗАЦУ′ХЛІЦЬ *зак.* Замусоліць. *Новая рубашка, а ты яе ўжо ўсю зацухліў.*

ЗЛА′ГАДА *ж.* Згода, парадак. *У нас часам і есьці ні было чаго, але злагада ў хаці была ўсягда.*

ЗЛА′ГАДНО *прысл.* Дружна, згодна. *Злагадно жыла наша сям'я.*

ЗМАРДАВА′ЦЦА *зак.* Змучыцца, стаміцца. *Змардавалася я на гэтуй рабоці, ледзве ногі цягну. Змардаваласё беднаё дзіця за дзень, як рынуласё, дык і заснуло ні разьдзеўшыся.*

ЗМЫ′ДЗГАНЫ: ЯК ЗМЫДЗГАНЫ. Пра таго, хто папаў у няёмкае становішча.

ЗЯЛЯНЦО′ВЫ *прым.* Зеленаваты, не спелы. *Ячмень можно жаць і зялянцовы.*

ЗЯ′ЎРАЦЬ *незак.* Быць адчыненым увесь час (пра памяшканне). *Чаго гэта ў вас хата зяўрая ў гэдыкі холат.*

КАМІНА′РНІК *м.* Камінар. *Чорны, як камінарнік.*

КАМПУРА′Т *м.* Раўня, роўны каму-н. *Ён табе не кампурат.*

КАПЦА′Н *м.* Неахайны чалавек. *Хоць бы ў хаці трохі прыбраў, а то капцан капцаном і астанешся.*

КАШТАЛО′М *м.* Ліха, хвароба. *Каб на іх кашталом, на гэтых курэй, усе грады паграблі.*

КІ′ТКА *ж.* Невялікая вязка саломы або сена. *Адной кіткі саломы хватая на рас карову падаслаць. Даўней сена кіткамі прадавалі і на вес.*

КО′ЛКІ *мн.* Колікі, хвароба. *Выбягла разьдзетая па воду, а марос быў, прастудзілася, началіся колкі ў грудзях, кашаль, чуць у бальніцу дамчалі, а посьлі ішчэ месяц дома праляжала.*

КРУЧО′К *м.* Бутэлька мераю ў 1/8 л. *Даўней гарэлка на кручкі прадавалася.*

КРЭ′ЙЗАЦЬ *незак.* Крэмзаць. *Забяры кніжку, а то дзеці крэйзаць будуць.*

КУРДУ'ПЯЛЬ *м.* Недаростак. *Шаснаццаць гот хлопцу, а ён ні расце, курдупяль некі.*

КУЦУ'К *м.* Касмыль. *Гэтаі кудзелі нельга прасьці, тут адны куцукі. Чаго ў цябе валасы ў куцук зьбіліся? Ты што, іх не расчэсваеш ніколі?*

ЛАБЯ'К *м.* Ніз тарцовай часткі саламянай страхі. *Ціпер ужо лабякоў ні робяць. Нават калі й саломаю крыюць хату, дык шчыт забіваюць доскамі.*

ЛІ'НКА *ж.* Стальны трос. *Лінка ў хазяйстві патрэбна, нават і вядро ў калодзісі добро прывязаць.*

ЛІ'ШТВА *ж.* Падложаны, падшыты край вопраткі. *Гэта партніха нават ліштвы па-люцкі патшыць ні можа. Патшыць ліштву крэсьцікам. Трэба ліштву атпусьціць, дык даўжэйшая спадніца будзя, ціпер жа кароткіх ніхто ні носіць.*

ЛО'ГМІН *м.* Гультай. *С хаты лянуецца выці логмін гэты.*

ЛЬНЯ'НІШЧО *н.* Поле, дзе рос лён. *На льняні́шчы гэты год много травы, можно короў пасьвіць.*

ЛЭ'ПСКІ *прым.* Ладны, вялікі. *Лэпскі кусок сала дала мне маці.*

ЛЭ'ХНУЦЬ *незак.* Быць адданым каму-н., прападаць за кім-, чым-н.; вельмі любіць каго-, што-н. *Хлопец аж лэхня за молоком, а потым нічого есьці ні хоча. Люба яшчэ ў школу ходзіць, а за хлопцамі аж лэхня. Кошка аж лэхня за рыбаю.*

ЛЭ'ХТА *ж.* Балбатуха. *Гэта лэхта йзноў прыбягала некія зводы расказаць.*

МАГУЛІ'НКА *ж.* Дробачка. *У міне ішчэ ні магулінкі ў роце ні было.*

МАДЫГАВАЦЬ, МАДЫГОЛІЦЬ *незак.* Прыладжваць, даганяць, падганяць. *Што ты тут мадыгуеш, сукенка й так як уліта. Хваціць табе мадыгаваць, як зробіш, так і добро будзя.*

МАЗЕ'ПА *м., ж. зневаж.* Разява, разявака. *Гэты мазепа стаіць, разявіўшы рот, нічого ні панімая.*

МАКА'ТКА *ж.* Сурвэтка вышытая. *Даўней макаткі вышывалі, а ціпер ужо ні мода.*

МАРТЫПЛЯ'СЫ *мн.* Абрыўкі, ніткі ў падранай вопратцы, мяшку, у абрусе і інш. *Што гэта ў цібе там за мартыплясы вісяць.*

МАХНА'ТКА *ж.* Галавешка. *Чорны, як махнатка.*

МАЧА'НЬЁ *н.* Тварог, перамяшаны са смятанай і

малаком. *Мачаньё можно с картофлямі есці, але лепш с алаткамі.*

МУДЫ'ХАЦЦА *незак.* Марудна рабіць што-н. *Хваціць мудыхацца, лепш зрабі скарэй ды пасядзі потым.*

МЯТУШЫ'ЦЦА *незак.* Мітусіцца. *Ні мятушыся ты, сядзі спакойно.*

НАВІНУ'ЦЬ: ЯК НАВІНЕ'. Як у галаву прыдзе, як уздумаецца. *Яму як навіне: захоча — зробіць, а ні захоча — ні зробіць.*

НАВО'ДНЫ *прым.* Чужы, прыблудны. *Сваіх было пяць гусянят, а гэто шостаё наводнаё, прыбіласё.*

НАВО'ТЛЯГ *прысл.* Наводмаш. *Ён як стукнуў навотляг, дык той і кроўю заліўсё.*

НАДАРАЖА'ЦЦА *незак.* Манежыцца. *Чаго ты надаражаяшся, еш, ні саромяйся.*

НАУ'СЬКАЦЬ *зак.* Падвучыць, падбухторыць. *Гэта яго нехто науськаў, сам бы ён ні дагадаўсё.*

НАШАТЫ'РЫЦЦА *зак.* Натапырыцца. *Нешта кураня нашатырыласё. Што яму такое?*

НАШАТЫ'РЫЦЬ *зак.* Натапырыць. *Нашатырыў пер'ё варабей і кінуўся на кошку.*

НІДАЛЭ'НГА *м., ж.* Недалужная асоба. *Што ён можа, гэты нідалэнга.*

НЫ'ГАЦЬ *незак.* Сланяцца, совацца. *Чаго ты тут ныгаяш? Шукаяш чаго-небудзь?*

ПАВАРО'ВАЦЦА *незак.* Пабойвацца. *Распусціліся дзеці, нікого ні баяцца, толькі бацькі трохі паваровающца.*

ПАГРАБА'ШКА *ж.* Матыка. *Вазьмі паграбашку ды паграсуй трошкі цыбулю.*

ПАДХАДЗЯ'ШЧЫ *прым.* Падобны. *Хлопцы вельмі дружылі і нават падхадзяшчыя адзін на адного былі.*

ПАКАЎНЫ' *прым.* Ёмісты, змяшчальны. *Сумка пакаўная.*

ПАЛЕ'Я *ж.* Жанчына, якая займаецца праполкай. *Гэты год палеі много зарабілі на трудадзень, столькі льну апалолі.*

ПАНА'ХТУ: І ПАНА'ХТУ НІМА'. І знаку не засталося.

ПАСТОЯЛКА *ж.* Смятанка. *Зімою малако жырнаё, густоё, як сальеш збанок, дык палавіна пастоялкі.*

ПАСЯДЗЕ'НЬКІ *мн.* Вячоркі; наведванне суседзяў. *Ты думаяш, яна там што робіць? На пасядзенькі пашла.*

ПАЎГЛО'ВАК *м. зневаж.* Прыдурак. *Гэты паўгловак ніколі нічога да толку ні зробіць.*

ПАЎСКУ'РАЦЬ *зак.* Дамагчыся, дабіцца. *Прасі яго ці ні прасі, усё роўно ён зробіць, як захоча, нічога ты ні паўскураяш.*

ПАХАДЗЮ'ШКІ *мн.* Швэнданне, бадзянне. *Пашла ўжо ў пахадзюшкі на ўвесь вечар.*

ПАШЧЭ'НКА *ж.* Сківіца. *Прастудзілася, дык ні толькі зуб разбалеўся, але ўся пашчэнка.*

ПЕ'РЫЦЬ *незак. экспр.* Біць, лупцаваць. *Чаго ты перыш гэтых дзяцей? Што яны слоў ні панімаюць?*

ПЛАШЧУГА' *ж.* Трава, падобная на пырнік. *Картофлі трэба палоць, плашчугою зарасьлі.*

ПЛЮ'ШАЎКА *ж.* Плюшавы жакет на ваце або на ваціне. *Трэба новую плюшаўку купіць, старая рвецца.*

ПРАГЛУ'ЗДАЦЦА *зак.* Гл. *разглуздацца. Праглуздайся ты трохі, выдзі на двор, хваціць спаць.*

ПРАЧВА'РА *м., ж.* Той, хто любіць прачварыць.

ПРАЧВА'РЫЦЬ *незак.* Гаварыць што-н. вельмі мудрае, што не адпавядае ўзроўню разумовага развіцця (звычайна пра дзяцей). *Што ты там прачварыш, як стары?*

ПРАШАВО'РЫ *мн.* Варажба, нагавор. *Яна знала некія прашаворы, умела шаптаць, каб карова больш малака давала.*

ПРО'РАЗКА *ж.* Зашпілька, прарэшак. *Паліто гатово, толькі проразкі асталосё зрабіць.*

ПРО'ТЫРХ *м.* Іголка са зломаным вушкам. *Ні пракаліся на протырх.*

ПРУ'ШЧЫНА *ж.* Белы паркаль. *З прушчыны трэба навалкі пашыць.*

ПРЫ'ЖАР *ж.* Пах гарэлага, прыжаранага. *Прыжар'ю пахня.*

ПЫ'РНІЦА *ж.* Пырнік. *Картофлі пабаранавалі, а ціпер ізноў пырніцаю зарасьлі.*

ПЯВУ'ХА *ж.* Песенніца, жанчына, якая любіць спяваць. *Гэдыкая пявуха, галасістая, як засьпявая, дык слухаў бы ні наслухаўсё.*

РАЗВАЛІ'НЫ *мн.* Развалкі. *Запрагай каня ў разваліны, паедзям на базар па парасята.*

РАЗГЛУ'ЗДАЦЦА *зак.* Прачнуцца, прыйсці ў нармальны стан пасля сну. *Разглуздайся ты трохі, ні спі седзячы.*

РАЗГЛУ'ПАЦЦА *зак.* Гл. *разглуздацца* (толькі пра дзяцей).

РАСКО'Л *м.* Балаўнік, хуліган. *Гэты раскол акно выбіў нам з рагаткі.*

РА'ТА *ж.* Узнос. *Даўней плацілі падаткі па ратах.*

РУГАВА'ЦЬ *незак.* Кранаць з месца, перамяшчаць. *Стол хай стаіць тут, ні трэба яго ругаваць з места на место.*

РЫГАВА'НЬЁ *н.* Матэрыял (звычайна палатно), які падкладваецца пад барты, бартоўка.

РЫЖО'ЎКА *ж.* Бульба-скараспелка. *Ціпер ужо рыжоўкі ніхто й ні садзіць, вывялася яна.*

СКАРЦАВА'ЦЦА *зак.* Прымасціцца, прылегчы дзе-н. *Набегаўся малы за дзень, скарцаваўся на лаўцы і заснуў адзеты.*

СКУДЗЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Жанчына, якая ходзіць на вячоркі з кудзеляю прасці. *Даўней зьбяруцца скудзельніцы ў каго-небудзь, прадуць ды сьпяваюць цэлы вечар.*

СПРАВУ'НКІ *мн.* Абноўкі. *Паехалі па справункі перад вясельям маладой.*

СТАЦЬ НА ПАГОДЗІ. Распагодзіцца на працяглы час. *Слонцо чысто зайшло, можа ўжо станя на пагодзі.*

СТРЫНГАЛЯВА'ТЫ *прым.* Падгалісты, танканогі. *Стрынгаляваты чалавек. Стрынгаляваты лось.*

СУХАШЧА'ВЫ *прым.* Сухарлявы. *Усе ў сям'і былі тоўстыя, адзін Петрык сухашчавы. Яна сухашчавея, але ніколі ні хварэя.*

СЬЛЯВЯ'ДА *м., ж. абразл.* Пра чалавека, які нудна і доўга гаворыць. *Гэты сьлявяда як начне гаварыць, канца ні будзя.*

СЬЛЯВЯ'ДЗІЦЬ *незак.* Доўга і нудна гаварыць. *Хваціць табе сьлявядзіць, лепш памаўчы, як абы-што плясьці.*

СЬЛЯПЯНДЖА' *м., ж. зневаж.* Сляпак. *Сьляпянджа, а ўбачыў усё.*

СЯЛЕ'ДЗЯЎКА *ж.* Бочка з-пад селядцоў. *Трэба сяледзяўку вымачыць зь ячменнаю саломаю, вышараваць ды пасаліць агуркі.*

ТАРАПАЧЭ' *мн.* Здані. *Перапалохаў сабака і с тых пор увечар некія тарапачэ ў вачах círановяцца.*

ТРАМБУ'ЛЬКА *ж.* Зімовая цыбуля. *Трамбулька зялянея, як толькі сьнег зьлезя, але ж яна вельмі горкая.*

УМАЛЁКАЦЬ *зак.* Упрасіць, умаліць. *Чуць умалё-*

*кала адзець валянкі. Такі ж марос, а ён у бацінач-
ках.*

УШЧЭ'ПА *ж.* Прышчэпа. *Сорак ушчэпаў прадаў са школкі.*

ФА'НДА *ж.* Фалда. *Ціпер ужо ні шыюць спадніц с фандамі.*

ФАТЫГАВАЦЦА *незак.* Непакоіцца, клапаціцца. *Ні варт фатыгавацца з-за такой мелачы.*

ФЭ'ЦКІ *прым.* Спрытны, хвацкі. *Фэцкі хлопяц, на ўсе рукі масцяр.*

ХАДУ'Н *м.* Прыстасаванне, з дапамогай якога вучаць дзяцей хадзіць. *Наша малая сама стала хадзіць, без хадуна.*

ХАЛЭ'МУС *м.* Канец, капут. *Ішчэ рас нап'ешся халоднай вады, прастудзіш горло і халэмус табе будзя.*

ХВАРАВЕ'КА *м., ж.* Хваравіты чалавек. *Гэдыкі хваравека быў, а жыў доўго.*

ЦЕ'ПЯРСЯ *прысл.* Даўно. *Ужо цепярся гаспадыня пашла да сусеткі, скоро павінна вярнуцца.*

ЦУ'ХЛІЦЬ, ЦУХМО'ЛІЦЬ *незак.* Мусоліць. *Перастань ты цухліць гэту скварку.*

ЦЭ'ГАЦЬ *незак. жарт.* Хадзіць, рухацца. *Як там ваша старая? Ішчэ трохі цэгая?*

ЦЯЦЯЎЁ *н.* Цяўе, бадылле. *Увесь мак куры зьдзяўблі, адно цяцяўё асталосё.*

ЧАРО'ПКА *ж.* Гліняная пасудзіна. *Даўней у чаропках булкі пяклі.*

ЧУ'ЧКІ *мн.* Суставы на пальцах. *Стукаўсё ў дзверы, аж чучкі пазьбіваў.*

ШАРАВА'РКА *ж.* Абавязковыя работы па ўпарадкаванню дарог. *Кромі падаткаў даўней ішчэ трэба было адрабляць шараварку.*

ШВЭ'ДАР *м.* Світэр. *Швэдар з авечай шэрсці вельмі цёплы.*

ШКО'ЛКА *ж.* Гадавальнік пладовых дрэў.

ШЛЫ'НДАЦЬ *незак.* Бадзяцца. *Чаго ты шлындаеш тут? Што табе рабіць німа чаго?*

ШМО'ТАЦЦА *незак.* Корпацца. *Што ты тут шмотаяшся, чаго ты шукаяш?*

Я'ГІНЯ *ж.* Злосная шкадлівая жанчына. *Гэта ягіня мне здароўё ад'ела.*

ЯСЁНКА *ж.* Асенняе жаночае паліто. *Як цёплая зіма, то і ў ясёнцы можно прахадзіць.*

*В. І. Рагаўцоў*

# З ЛЕКСІКІ СТРЭШЫНСКІХ ГАВОРАК

Гарадскі пасёлак Стрэшын знаходзіцца ў паўднёвай частцы Жлобінскага раёна, на правым беразе Дняпра, каля 20 км на поўнач ад упадзення ў яго р. Бярэзіны. Прыведзеныя словы запісаны ў 1975—1976 гг. у Стрэшыне і навакольных вёсках Затон, Зломнае, Каменка, Радуцін і інш.[1] Гаворкі Стрэшына і вышэйадзначаных вёсак па лексічных, марфалагічных і сінтаксічных рысах амаль не адрозніваюцца паміж сабой. Яны адносяцца да сярэднебеларускіх гаворак і ўваходзяць у паўднёва-ўсходнюю дыялектную зону [2].

Вось некаторыя асаблівасці гэтых гаворак: вымаўленне *і* замест *е* ў пераднаціскных складах у формах займеннікаў роднага склону: *міне, цібе, сібе;* у словах іншамоўнага паходжання перад націскным *о, і, е: гірой, бітон, бінзін, гіаметрыя* і інш., але *зямля, вясна, бяда* і г. д.; наяўнасць форм *ё, ёсь, ёсьцека (ёсць);* ужыванне прыставак *піра-, пара-* і *пера-* (*піравезці, паравезці* і *перавезці; піранесці, паранесці* і *перанесці; пірамыты, парамыты* і *перамыты; піраплёт, параплёт* і *пераплёт*) і прыназоўнікаў *пірад, парад* і *перад* (*пірад хатай, парад хатай* і *перад хатай*); ужыванне прыназоўніка *лі* замест *ля* (*лі печы, лі хаты, лі ракі*).

АБЗІ'ХАЦЬ *зак.* Абгледзець. *Наталля як прыйдзя, бывала, у хату, дак усе куткі абзіхая.*

АБЛАПО'ШЫЦЬ *зак.* Абдурыць, ашукаць. *Хлопцу пальцы ў рот ні кладзі, а то аблапошыць як піць даць.*

АБЫ'РАЦЬ *зак.* Стаць непаслухмяным, упартым. *Іш ты яго! Абыраў і панімаць нікога ні хоча.*

АБ'ЯДЬДЗЁ *н.* Рэшткі недаедзенага сена, саломы.

---

[1] Лексіка стрэшынскіх гаворак запісана ад жыхароў г. п. Стрэшын Грыцкова Ларыёна Яўменавіча (75 гадоў) і Рагаўцовай Ганны Васільеўны (61 год).

[2] Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мінск, 1968, карты № 75—76.

*Німа посьцілу — дык я аб'ядьдзя нацярушу пад карову.*

АНО'ДЫСЬ *прысл.* Нядаўна, на днях. *Анодысь такі дож шоў, што аж заліў усе грады.*

АТТАТУ'РЫЦЬ *зак.* Адсунуць, адцягнуць; адвярнуць. *Трэба аттатурыць стол ад сьцяны, а то шпалеры падзяруцца. Аттатурыўся ад міне і ні пазірая.*

БЕ'РЦА *н.* Прылада для вязання рыбалоўнай снасці. *Зрабі, мой сын, берца, а то нечым давязаць сецъ.*

БО'НДА *ж.* Свежына, якую прыносяць суседзям. *Мы хацелі рана кабана біць, а як нанесьлі бонды, дак да самых каляд хваціла.*

БРЫ'ЗНУЦЦА *зак.* Чмякнуцца. *Як брызнуўся аб мост, аж у вачах пацямнела.*

БРЫ'НДАЦЬ *незак.* Бадзяцца. *I дзе ён брындаў цэлы вечар?*

БУЛЬБЯ'ШНІК *м.* Бульбоўнік. *Сёлета мы нігадкі з посьцілам, тры вазы бульбяшніку прывезьлі.*

БУНТАВА'ЦЬ *незак.* Перашкаджаць, замінаць. *Ні бунтуй, сынок, дзеду, а то сёдні саначкі ні здзелая.*

БУ'СЯЛ *м.* Бутля з вузкім горлам (каля 5 л). *Ні забуцьце, дзеткі, бусял вады ўзяць на сена.*

БУХТО'РЫЦЬ *незак.* Ліць праз меру; класці, сыпаць з верхам (радзей). *I так цэбар поўны, а ты шчэ бухторыш вады.*

БЫЧО'К *м.* Пячкур. *Бычок — ета маленькая рыбка, якая па пяску плавая.*

ВЕ'ТРАНЫ *прым.* Легкадумны. *Куды яму жаніцца, ён такі ветраны. Сёдні адно скажа, заўтра другоя.*

ВЫЗЫ'ЛІВАЦЬ *незак. экспр.* Задавацца, выхваляцца. *Міхасёва дачка такая ганарліўка: толькі і зная, што вызылюя.*

ВЫ'ЛЮДНЕЦЬ *зак.* Стаць сталым. *Пабыў у арміі, дак хоць вылюдняў.*

ВЫРЭ'БРЫВАЦЦА *незак.* Непрыстойна паводзіць; быць упартым. *Меншы мой анодысь напіўся і так вырэбрываўся.*

ВЫ'СЬЦЯБАЦЬ У ВОЧЫ. Выказаць праўду адкрыта каму-н. *Я ёй прама ў вочы высьцябаў, хай зная.*

ВЫ'ЧУХАЦЦА *зак.* Прагаладацца. *Во вычухаўся, дзень ні еўшы, і бульба астыўшы смашная.*

ГІДАВА'ЦЦА *незак.* Грэбаваць; гадзіцца. *Столькі зь йім сябраваў, а ціпер гідуецца павітацца.*

ГІРАВА'ЦЬ *незак.* Кіраваць кім-, чым-н. *Я падрамлю трохі, а ты, сынок, пагіруй канём.*

ГІ'РКА *ж.* Збан з абабітым рылам. *Калі німа гаршка, зварыць можна і ў гірцы.*

ГЛЁК *м.* Гляк для прыгатавання чаю. *Бывала, у багацейшых людзей былі самавары, а мы грэлі чай у гляку.*

ГЛЁ'ЎКІ *прым.* Недапечаны, сыраваты (пра хлеб). *У міне ні было дроў харошых, дак хлеб такі глёўкі ўдаўся.*

ГНІЛАПУ'ЗЫ *м.* Гл. *бычо́к. Хіба ета ўлоў, адных гнілапузых нацягаў.*

ДО'БРЫК *м.* Баравік. *Раней на етай палянцы столькі добрыкаў было, а ціпер прыходзіцца шукаць другія мясціны.*

ЖАЛУБА'ЦЬ *незак.* Бесперастанку жаваць, лушчыць гарбузікі. *Набраў карман семак і жалубая сабе.*

ЖЫ'ЛІЦЦА *незак.* Рабіць цераз сілу. *Ні жылься, сынок, здароўе падарваць — ні штука.*

ЗАБРУСЯНЕ'ЦЬ *зак.* Стаць цвёрдым. *Хлеб так — купіў свежанькі і еж, а то забрусянея.*

ЗАБУКРО'ІЦЬ *зак.* 1. Сказаць не да месца. *Ён і работнік на ўсе рукі, ну як і забукроіць што — лепяй ні чуць і ні бачыць.* 2. Запрасіць вялікую цану. *Там ні хата, а 'дно гнільлё, а забукроіў — будзь здароў.*

ЗАДНІ'ЦЦА *зак.* Прапасці. *Столькі ён мне ў косці ўеўся, ні задніўся дзе. З паўдня шукаю сякеру, і дзе яна заднілася?*

ЗАКАБО'ЎКА *ж.* Каморка, куток, бакоўка. *А ў міне дак усё варэнне стаіць у закабоўцы.*

ЗАКО'ШКАЦЦА *зак.* Заняцца, закорпацца. *Ета ж трэба, закошкалась з дзіцям, а чыгуны ў печы пакіпелі.*

ЗАКУ'ТАЦЬ *зак.* Зачыніць што-н. *Закутай, дзіцятка, карову, а то рыкае ў дварэ.*

ЗАЛУНІ'ЦЦА *зак.* Прапасці, згінуць. *Усю жызь я сваім прамучылася, ні рада была, што й замуж выйшла. Ні залуніўся ён маленькі!*

ЗАРЫВА'ЮЧЫСЯ *дзеепрысл.* Цяжка (дыхаць). *Якіх сто метраў прашоў, а дыхае зарываючыся, мучаецца чалавек.*

ЗІ'ХАЦЬ *незак.* Кідаць позірк, абглядаць. *Мой меншы сын уроку баіцца. А як выйдзя на вуліцу, так і зіхаюць на яго.*

ЗЛЫДЗЕ′ННЫ *прым.* Скваппны. *О-о-о! Ён такі злыдзенны, зімой і лёду ні дась.*

ЗЯ′ЎРАЦЬ *незак.* Быць насцеж адчыненым. *Хочыш, каб у хаці холадна ні было. Вакно ж зяўрая.*

ҚАНАПЛЯ′НІҚ *м.* Верабей. *Спасу німа зь етымі канаплянікамі, толькі згоніш з проса, як яны зноў тут.*

ҚАШТЫРА′ЦЬ *незак.* Штурхаць; пхаць. *І што ён твайго заняў, што ты каштыраіш яго ў сьпіну?*

ҚЕ′ЛЬБУХ *м.* Свіны страўнік, начынены кавалачкамі сэрца, пячонкі і інш. *Пад Новы год заб'ём кабана. Будзя і кельбух, і крывянка, і свежае мяса.*

ҚРЫ′ВАСЦЬ, ҚРЫВО′СЦЬ, ҚРЫВАТА′ *ж.* Зайздрасць; злосць; крыўда. *І чаго на яго крывосць напала. Я ж і памагаю яму ўсё па хадзяйству і на работу хажу. Адзеў новы касьцюм, дак крывата на суседа напала.*

ҚРЫ′СА *ж.* Верхняя частка збана. *Упаў гаршчок, адбілася крыса.*

ҚРЫЎЛЯ′ЦЦА *незак.* Зайздросціць, адносіцца з пагардай. *Як гора гаравала, міне ніхто ні бачыў, а як ражжылася трохі, так і сталі саседзі крыўляцца.*

ҚРЫ′ШАНЬ *м.,* часцей *мн.* ҚРЫ′ШНІ, ҚРЫШНІ′. Скрылікі яблык, груш. *Хоць кампоту ніхто ні любіць, а я крышнёў насушыла два мяшкі.*

ҚРЭ′МСАЦЬ *незак.* Псаваць, неахайна рэзаць. *Бульбу трэба лупіць таней, а не крэмсаць, як ты ўсё крэмсаеш.*

ҚУЁЎДЗІЦЦА *незак.* Варочацца, круціцца. *Такія нідобрыя людзі: залезьлі ў пасьцель з нагамі і куёўдзяцца.*

ҚУЁЎДЗІЦЬ *незак.* Кудлачыць, комкаць; псаваць. *Міхаська, выгань, сынок, курэй з аўсу, так куёўдзяць.*

ҚУЛДО′ШЫЦЦА *незак.* Дурэць, гарцаваць. *А мае дзеці залезьлі вунь на сена і кулдошацца.*

ҚУЛДО′ШЫЦЬ *незак.* Кудлачыць, псаваць. *Залезьлі куры ў грады і так кулдошаць.*

ҚУ′ТАЦЬ *незак.* Гарадзіць. *Пазаві бацьку абедаць, ён лі Мішы плот кутая.*

ЛЯ′СҚАЎҚА *ж.* Плотка. *У Негаві* [рака] *так добра ляскаўкі ловяцца, да 'беду цэлая вядзерка нацягаў.*

МАРЗЭ′НІЦЦА *незак.* Валаводзіцца. *Папаў нейкую цацку і марзэніцца зь ёй. Қаб на маго аччыма, ён бы ні марзэніўся зь йім.*

МАСЬНІ′ЦА *ж.* Маснічына. *Прарэзаў адну масьніцу*

*лазіць па бульбу ў яму, дак жонка ні пралазіць, прышлося шчэ 'дну праразаць.*

МАЎМЫ'РА *м., ж.* Маўчун, ціхоня. *Мой чалавек такі маўмыра: усе прывезьлі па вазу аўсянкі, а ён ні дабіўся.*

МІРКІТА'ЦЬ *незак.* Мармытаць. *Мой хадзяін спіць так крэпка: будзіш, будзіш — ніяк ні дабудзісься, толькі міркіча.*

МЯКІ'ШКА *ж.* Мякіш (у хлебе). *Адламі, мой сын, мякішкі і пакрышы цыплятам.*

НАГУРА'СЬЦІЦЬ *зак.* Накласці з вялікім верхам. *Яму што: нагурасьціў карзіну бульбы, а ты сілься.*

НАДАРАЖА'ЦЦА *незак.* Рабіць наперакор, на злосць; дражніцца, кпіць. *Хіба ж можна, дзеткі, надаражацца са старшых. Што ты яму ні кажы, ён ўсё роўна надаражаіцца.*

НА'ЙДА *ж.* Жанчына, якая любіць хадзіць па хатах. *Вот найда, пакуль хаты аббегала, дак у печы патухла.*

НАМАНЕ'ЖЫЦЦА *зак.* Стаміцца, прыстаць. *Зь етай худобай наманежысься за дзень, чуць жыва.*

НАПРАПА'СЬЦІ'ЦЬ *зак.* Многа накласці. *Мы сяголета накасілі сена, як ніколі: напрапасьцілі поўныя вышкі, сяльнік і на хату налажылі. Бульба сёлета ўрадзіла добрая, дак мы ж і гною напрапасьцілі уйму.*

НАСПАСО'БІЦЬ *зак.* Прыдбаць, назапасіць. *Еты год мы нігадкі: наспасобілі сена на цэлаю зіму.*

НАТАГА'НІЦЬ *зак.* Наліць, накласці з верхам. *Хопя бульбы нá зіму. Натаганілі поўная падмосця і капец закрылі. Поўны цэбар вады натаганіў, хопіць з каровы.*

НА'ЎРЫШЧА *н.* Напасць, гора, ліха, бяда. *І што за наўрышча напала. Зімой адну нагу злагаў, нá цібе — летам шчэ дну.*

НАЦЕРАБІ'ЦЦА *зак.* Наесціся ўволю. *Нацерабіўся сала, можна шчэ пакасіць.*

НАЧАПУ'РЫЦЦА *зак.* Прыбрацца. *Так начапурылась, відаць, на танцы зьбіраіцца.*

НЕ'БАЛАЗЬ *ж.* 1. Смецце. *Хужай німа, як маціp'ял чорны: за яго ўсякая небалазь бярэцца.* 2. Блазнота. *Там ні 'днаго бальшога німа, адна небалазь сабралася.*

НЕ'ПАДАБЕНЬ *м., ж.* Пра непрыгожую, неахайную асобу. *Ох, і непадабень, за цібе і дзеўкі замуж ні пойдуць.*

НІГІЛЮ'ЗЛЫ *прым.* Непрыгожы, неахайны. *Дарма, што нігілюзлы, а такую дзеўку ўзяў.*

НІДО'БРЫЦЦА *незак.* Нездаровіцца, нядужыцца. *Нешта мне сёдні так нідобрыцца: то галава баліць, то ногі.*

НІНАВІ'ДНЫ, НІНАВІЖО'НЫ *прым.* Непрыгожы, агідны; непрыглядны. *Мая дачка вельмі прыгожая, а зяць такі нінавідны. Большы Петрусёў такі нінавіжоны. Як нап'ецца, толькі і зная, што біцца.*

НІНАМЕ'ЦЦА, НІНАЙМЕ'ЦЦА *зак.* Не набрацца. *Ці так даўно я цібе купіла касьцюм, і ты ўжэ яго парваў. Ту! Нінамецца табе купляць.*

НІНАСПАРО'МІЦЦА *зак.* Не набрацца. *Карова ў нас бальшая, так багата жрэ сена, нінаспароміцца ёй класьці.*

НІПАДО'БНЫ *прым.* Брыдкі, неахайны. *Усе хлопцы як хлопцы, паглядзець люба, а ён такі ніпадобны.*

НІХУПА'ВЫ *прым.* Непрыглядны, несамавіты. *Ведама ж, ніхупавы — і дзеўкі ні хочуць гаварыць.*

ПАДВО'ХРЫЦЬ *зак.* Падбухторыць. *Ні падвохрыш жонку — дык усё будзя ціха.*

ПАНЯ'ЦЬ *незак., толькі заг. лад.* Ехаць, ісці. *Паняй пад калодзяж, трэ каня напаіць. Паняй к канторы, а я праз колькі пад'еду.*

ПАХА'ТНІЦА *ж.* Гл. *найда. Што пахатніца, толькі й зная, што снуе па хатах.*

ПЕ'ТАВАЦЦА *незак.* Непасільна, цяжка працаваць. *Цэлы двор худобы навялі, а петуйся адна. Я так петуюся зь естым хадзяйствам, што ног і рук ні чуваць.*

ПЕ'ТЛУХІ: І ПЕ'ТЛУХАЎ НІ ЗАСТАНЕ'ЦЦА. Нічога не застанецца.

ПЛЕ'ЙТУХ *м.* Неахайны. *Плейтух ты, зарос, як поп, хоць бы пастрыгся.*

ПО'ЛІК *м.* Ляжанка каля печы. *Вы лажыцясь у пасьцель, а я 'к-небудзь на поліку перакачаюсь.*

ПРЫСТУ'КАЦЬ *зак.* Прымусіць, прыгнаць. *Цэлы дзень гуляя на вуліцы, ніяк ні прыстукаць дамоў. Ідзі еж, за гульнёй ніяк ні прыстукаць цібе пад'есьці.*

ПРЫТЫ'РАНЫ *прым.* Прыдуркаваты. *Такі прытыраны: абы ў хату — і давай сварыцца.*

ПУ'ГАЦЬ *незак.* Сёрбаць. *Ні пугай столькі расолу, лепш малака выпі.*

ПЯКУ'Н *м.* Моцны мароз. *Трэба пацяплей адзявацца, сёдні такі пякун.*

РАДЗІБО'ЛЛЕ *н.* Рыззё, лахманы. *Людзі ў нідзелю,*

*адзеліся, а ў яго вечна як ні ў людзей: усё ў радзібольлі ходзіць.*

РАЗ'Я'ШЧЫЦЬ *зак.* Расчыніць насцеж. *І так поўная хата мух, а ён шчэ дзьверы раз'яшчыў.*

РАСКАХА'ЦЦА, ВЫ'КАХАЦЦА *зак.* Растаўсцець, раз'есціся. *Во раскахалася замужам, пад'есь ды разгулюя сабе. Хоць малады, а бач, як выкахаўся.*

РАССУСУ'ЛІЦЬ *зак.* Зразумець, уцяміць. *Ніяк рассусуліць ні магу, і куды ета падзелася вяровачка.*

РАСХЕ'ЙДУС *м.* Разлад, канец сяброўскім адносінам. *Як піраехаў Міша сюды, так ладзіў з Варывонам, а за нешта палучыўся расхейдус.*

РАШШЫВА'НЕЦ *м.* Неэканомны, безгаспадарлівы. *Трэба быць эканомным, сын, а ні рашшыванцам, як ты. Абы што ўбачыў, так і пускаіш грошы на вецер.*

РАШШЫВА'НКА, РАШШЫВА'ХА *ж.* Неэканомная, безгаспадарлівая жанчына. *Вазьмі ў жонкі такую рашшыванку — век капейкі ні ўбачыш у руках.*

РАШШЫВА'ЦЬ *незак.* Траціць без патрэбы. *Глядзі, сынок, купі, што трэба, ні рашшывай грошай.*

РУЛІ' *толькі мн.* Страва (малако з крышаным хлебам, абаранкамі). *Рулі, рулі, да булку хлеба згулі.* (Прымаўка.)

РЫМСТАВА'ЦЬ *незак.* Злавацца, выходзіць з сябе; помсціць. *І што я заняла тваё, што ты рымстуіш на міне. Ні пускаю яго больш на рэчку, дак ён аж рымстуя, крычыць.*

СІЛЬКАНУ'ЦЬ *нез.* Сербануць, крыху з'есці. *Сількані, Петрык, трохі баршчу да йдзі на сена.*

СКАЛО'ЧАНКА *ж.* Маслёнка. *Мае дзеці так любяць есьці скалочанку з бульбай.*

СТАЎБУ'Н *м.* Высокая конусападобная карзіна. *Зьестай лазы я сьплёў стаўбун пуды на два, калі ні боляй.*

СТО МЕТРАЎ У ЗЯМЛЮ БАЧЫЦЬ. Прадбачыць; быць кемлівым, пранікнёным. *Ну, у нас і дзеўка будзя такая прайдоха: сто метраў у зямлю бачыць.*

СТЫКА'ННЕ *н.* Спакой, супынак. *Ту! Таўчэсься, стыканьня на цібе німа. І калі яму будзя тое стыканьня, таўчэцца, таўчэцца, як Марка па пеклу.*

СУКО'ННІКІ *толькі мн.* Штаны з саматканага сукна. *Раней ні было ш чаго пашыць верхніх штаноў, дык я вытку свайго сукна дый пашыю старому суконнікі.*

СЬЦЁХАЦЦА *зак.* 1. Надта пахудзець (ад кахання).

*Сьцёхалася за хлопцамі. Сьцёхаўся за дзеўкамі.* 2. Збегацца (пра жывёлу ў час цечкі).

СЫГЛЫ'ЧЫЦЦА *зак.* Знюхацца. *Сыглычыўся мой старшы зь ёй, і рады ні даць.*

СЬЛЯПІ'ЦЦА *незак.* Вязацца, прыставаць. *І чаго ён сьлепіцца да яго? Прысьляпіўся, як чорт з набілкамі, хоць ты што.*

СЯЛЬНІ'К *м.* Закутак у хляве для сена. *Як ні адзін год сёлета накасілі сена: поўны сяльнік заклалі і вышкі. Вазьмі, сынок, сяннік і натапчы сена ў сяльніку.*

ТАЛДО'НІЦЬ *незак.* Балбатаць. *Талдоніць адно і тоя, і язык ні забаліць.*

ТАРА'ЧЫЦЬ *незак.* Везці, несці. *Дзе-та напаў на посьціл, цэлую ношку тарачыць.*

ТО'ПТАНКА *ж.* Тоўчаная бульба, камы. *Наварым сягодні бульбы юшкай, а то топтанка з салам надаела.*

УБУ'ЦЯЦЬ *зак.* Набрацца сіл, акрэпнуць; пасталець. *Ці даўно яна была маленькая, а паглядзі, як вырасла, убуцела, можна і замуж аддаваць.*

УЛЕ'ГЦІСЯ *зак.* Заляцацца. *Так улёгся, аж сьвету ні бачыць.*

УТРАВІ'ЦЦА *зак.* 1. Панадзіцца. *Утравілась карова ў жыта, і рады ёй ні даць.* 2. Уесціся, надакучыць. *За дзень ён са сваімі разгаворамі так у душу ўтравіўся, ні рада, што й пазвала.*

ХІБЕ'Т *м.* Здольнасць, схільнасць. *Хібету ў яго хватая: што ні возьме, дак і зьдзелая.*

ХІБЕ'ТЛІВЫ *прым.* Здольны да гаспадарчых спраў, умелы. *Хібетлівая ў міне жонка, усё ўмея: і вязаць, і прасьці, і ўшываць.*

ЦЕ'ПЯРСЯ *прысл.* Даўно. *Паехалі дзеці ў ягады, цепярся ўжэ німа.*

ЦУ'РКІ *толькі мн.* Частка рук ад кісці да локця. *Ты, як ырахлівая баба, морду памыла, а цуркі гразныя.*

ЧАКУ'ХА *м., ж.* Недарэка; разява. *Хіба ета ні чакуха: быў адзін рубяль і той згубіў. Ну й чакуха Цімохава ўнучка: ні ўмея дажа кату хваста завязаць.*

ЧЫКІЛДА'ЦЬ *незак.* Чыкільгаць. *Чыкільдаіш, як стагодні дзед.*

ШАТКО'ВАНКА *ж.* Шаткаванка. *Зварым сёні боршч, шчэ трохі шаткованкі ё.*

ШВЭ'НДАЦЬ *незак.* Швэндацца. *Німа чаго рабіць, дак ён швэндая на вуліцы.*

ШКА'РАДЗЬ *ж.* Неслух; блазнота. *Ох, і шкарадзь малая, хоць ты клін на галаве цяшы, а ён сваё. Якія там хлопцы, адна шкарадзь сабралась.*

ШКУМЯТА'ЦЬ *незак.* Рваць на кавалачкі; псаваць. *Зь етага мацір'ялу такія штаны можна было пашыць, а яна пашкумятала яго.*

ШНЫПЕ'РЫЦЬ *незак.* Шныпарыць. *Нідзе рубля ні схаваіш, усюды вышныперыць.*

ШШЫВАЦЬ ХАТЫ. Бязмэтна хадзіць па хатах. *Бульбу ні абкапуіш, а толькі хаты шшываіш.*

ШЫНДЫ'ЛКА *ж. Т.* -*ам* і -*ай.* Кручок для вязання карункаў. *От, гора зь етым шындылкам, зламаўся німа чым карункі давязаць.*

ЯРМЯ'К *м.* Армяк з саматканага сукна. *Ты дак купіла свайму асенняя пальто, а я пашыла з свайго сукна ярмяк.*

*В. І. Рагаўцоў, М. А. Саскевіч*

# З ЛЕКСІКІ в. ПАГОСТ ЖЫТКАВІЦКАГА РАЁНА

БЕЛЬКАНЫ′ *толькі мн.* Лупатыя вочы. *Чого наставіў свое бельканы. А ну марш отсюль!*

БЕ′ЛЬМА *толькі мн.* Лупатыя вочы. *Такіе бельма ў ёго́, а бачіць вон неважно.*

БЕ′НКО *м., ж.* Байструк. *Ух, бенко малы, нема цебе дома кому лупцоваць.*

БІРУ′ЛЬКА *ж.* Берагавая ластаўка. *Бач, як бірулькі розлеталіс над водою, мабуць, скоро дождж пойдзе.*

БРОЦЬКОВА′ЦЬ *незак.* Цягаць брэдзень. *Хоць броцьковалі цэлы дзень, затэ ж і рыбу багато поймалі.*

БРЫ′ЛЯ *ж.* Карніз у печы. *І як ето му не ўгледзелі, што не роўные печнік брылі зробіў: з йіх же спічкі падаюць.*

БУ′ТЫ: БУ′ТЫ НЕ ДАВА′ЦЬ. Не даваць спакою. *Хопіць, ты мне буты не давала, жонко. А то ўже церпеньня нема.*

БУ′ЦЁЛ *м.* Гляк з носікам (каля 2 л). *З буцёла молока собе налі, хлопче, а то з гладышкі розольеш.*

ВА′ЛЫ *толькі мн.* Вялікія хвалі. *Бач, екіе валы кацер подымае, ох, і скупнуцца на йіх будзе добре.*

ВІДЗЮ′ЧЫ *пры́м.* Такі, які добра бачыць. *Шоб я була відзюча, то сама б нітку ў голку ўсадзіла, а так сына прошу.*

ВУ′ГЛЕДКА *ж.* Люстэрка. *Ой, мамо, ето не я розбіў вугледку, ето певень на стол залецеў да клюнуў сам себе ў вугледку, вона і розбіласа.*

ВУ′РАЧЫЦЬ *зак.* Вылупіць, вытрашчыць. *Чого ты, жонко, на мене вочы вурачіла, лепш бу пошла да сьвіньню с вого города вугнала.*

ВУ′РКАЦЬ *незак.* Бубніць, мармытаць, гыркаць. *Прыгласіў ее на танец, а вона вуркнула нешчё і отошла ўбок.*

ВУ′ЧАЎКА *ж.* Адходы ад яблык, груш пасля выціс-

кан́ня з іх соку. *Не тре вучайку вукідаць, ее наша сьвіньня вельмі любіць.*

ВУ'ШЧЕРКА *м., ж.* Скалазуб. *Хороша дзейка вуросла, а мала́ така вушчерка була.*

ГАЛЯ'ЦЬ *незак.* Гойсаць, насіцца. *От гультай, галяеш по вуліцы цэлы дзень, а хто за цебе дрова поколе.*

ГАРА'ПНІК *м.* Пуга пастуха з доўгім бізуном і кароткай ручкай. *Эх, і гарапнік ў ёго: ек лясьне, то за цэлу кілометру чутно.*

ГАРБУЗА' *ж.* Гарбуз. *От гарбуза веліка вуросла, ледзь подняў.*

ГАРБУЗЯ'НІК *м.* Гарбузік. *На, сыне, гарбузянікоў у дорогу, забаўляцца будзеш.*

ГЕЛ-ГЕЛ! *выкл.* Выгукі, якімі саромяць. *Гел-гел! Атрымаў двойку?! Гел-гел! Соплі под носом?!*

ГРЕБЁ'НКА *ж.* 1. Прылада для збору ягад (у выглядзе грэбеня). *Ой, жонко, без гребёнкі ты до беда кошель ягод ніяк не насобіраеш.* 2. Частка плыта. *Спочатку колод у воду накачаём, а потом гребёнкі будом вязаць.*

ГУ'ТАЛКА *ж.* Арэлі. *Колі на гуталцы, шо на той вусокой ветлі, гутаешса, то здаецца, до самого неба долетаеш.*

ДОЎНА'ЦЬ *незак.* Бурчаць. *Чого ето, Лексей, суседка доўнае на цебе?*

ДРЫНДОВА'ЦЬ *незак.* Заўзята танцаваць. *Так бацько на весельлі дрындоваў, шо подошва отваліласа.*

ДЫ'ЛЬДА *м., ж.* Высокая хударлявая асоба. *Ну й дыльда вуросла, ек та жердка.*

ЗАЛІВА'ЦЦА *незак.* Задыхацца (пра рыбу). *От не везе: усёго одна рібіна ў жак улезла дай та заліласа.*

ЗЫРКІ' *прым.* Гарачы. *От зыркіе дрова — бач, ека груба гарача.*

КЕ'РМАШ *м.* ФЭСТ. *Кабана к кермашу заб'ём, шоб було чім смачным госцей частоваць.*

КЕРМАШОВА'ЦЬ *незак.* Быць на фэсце, праводзіць фэст. *Кермашоваў у бацька з мацерью, побачіў, як воны жівуць. Багато жівуць, ні то, шо колісь.*

КЕРМАШО'ВІК *м.* Удзельнік фэсту. *От дзед рады, шо кермашо́вікоў у хаці багато.*

КІРДУ'ПЕЛЬ *м., ж.* Недаростак. *Дарма, шо кірдупель, побежіш ёго догоняць — не доженеш.*

КЛУМБУ'ШКА *ж.* Цэўка з навітай для ткан́ня пра-

жай. *Вот наматаём заре клумбушок і будом дзеругу ткаць.*

ҚОВЕНЯ′ *ж.* Качарга. *Дзе ето ковеня подзеваласа, пора бляху з яблукамі вуцягваць.*

ҚОҚО′РА *ж.* Частка каркаса лодкі. *Лепшіх, чім за рекою, дубкоў для кокор ты нідзе не найдзеш.*

ҚОМІ′НОҚ *м.* Шкло ў газавай лямпе. *Суседко, мо ў вас комінок лішні е, а то наш розбіўса.*

ҚО′ПҚА *ж.* Месца на прыпечку для заграбання жару. *Лучіну ў копку не ложі, бо там жар.*

ЛА′ПАЦЬ *незак.* Цягнуцца, плесціся. *Етому дзеду на пече ўже пора седзець, а вон кожны дзень некуды лапае.*

МЕ′ТҚА *ж.* Прыстасаванне (нітка, дроцік, пруток) для нанізвання рыбы. *З слабое ніткі метку зробіў, вона і порваласа, ек рібу нёс.*

МІЖЖЫ′ВОЧЫ. Між вачэй. *Ты про мого бацька плохого не говоры, а то міжжывочы так тресну, шо аж зоры з вочэй посыплюцца.*

МІ′ТЭЛЕМ *прысл.* Мігам. *Іван, бацько сказаў, шоб ты мітэлем буў дома: брат прыехаў.*

МУ′СО *н.* Морда. *Чого вуставіў свое мусо, ідзі займайса свойім дзелом.*

НАШУ′ШҚАЦЦА *зак.* Апрануць многа вопраткі. *От добре я нашушкаўса, цепер ніякі холод мене не пройме.*

ОББОМБЕ′РЫЦЬ *зак.* Пастрыгчы нагала. *Ето его бацько так оббомберыў.*

ОТО′ЧІНЫ *толькі мн.* Тушонка. *Қабана под Нову год доброго забілі, бач, колькі чугуноў оточін натопіла.*

ОЧЕ′ЛЬЕ *н.* Чалеснік. *Нізке очелье, Фвдор, зробіў: велікіе чугуны ў печь не пролазяць.*

ПЛІСҚА′ЦЬ *незак.* Пырскаць. *Я ек стаў дзевок пліскаць, а воны ек сталі вішчаць.*

ПОҚАЛІ′ЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Тре вучісьціць мое штаны, хозяйко, бо моцно покаліў я йіх у полі.*

ПОПО′НҚА *ж.* Посцілка. *Зложі, хлопче, етэ барахло ў попонку да занесі его на гору.*

ПОХЛУДОВА′ЦЬ *зак.* Адлупцаваць (кіем). *Я, сусед, твою собаку добре похлудоваў, не будзе больш кідацца.*

ПРЫ′СЕЙ БОГУ *выкл.* Далібог. *Прысей богу, не брала я твоёй дзеругі.*

РОБІ′ЦЬ ТРЕСҚУ′ШҚІ. Прагібаць лёд, ідучы па ім.

*Хлопцоў двацццаць на лёд у рад стало, да ек пошлі трескушкі робіць. Любота!*

СКЕРГЕТА'ЦЬ *незак.* Смяяцца адрывіста. *Чого скергечеш, ек сорока?*

СЛО'НОК *м.* Услон. *Зробіў бу ты, стары, слонок, шоб було на шо ведра з водою ставіць.*

СТА'ЛКА *ж.* Столка. *Зложі, бабо, вероўку ў дзве сталкі, я буду сено ложіць.*

СТУ'ЛОК *м.* Крэсла. *Так багато госцей нашло, шо стулкоў не хопіло.*

ТАЛА'МКАЦЬ *незак.* Малоць языком, плявузгаць. *Хопіць, ты таламкаў, надоело цебе ўже слухаць.*

ТОК *м.* Тук. *Увесь ток хлебом вулізаў, а вускарку ні одну не зьеў.*

УПЛЕ'НІЦЦА *зак.* Увязацца, ісці следам. *Бач, як дзіця ўпленілос за мацерью: не хоче без ее оставацца.*

ЦЫ'ЛКА *ж.* Цэўка. *Зьезьдзі, сыне, за рекў за черетом, шоб було ш чёго цылок наробіць.*

ЧЕПЛЕ'НІК *м.* Чапяла. *От беда зь етым чепленіком: ніяк сковородў не ўзяць.*

ЧЕ'ЧКА *ж.* Аддушына, прадуха. *Боезно шче через реку переходзіць, бо чечёк вельмі богато і йіх сьнегом позаносіло.*

ШАТВА' *ж.* Шарош. *Через реку ні перейці, ні на лодцы переехаць, бо шатва густа йдзе.*

ШВАРДЭ'КАЦЬ, ШТЭРДЭ'КАЦЬ *незак.* Гаварыць невыразна. *Прыехаў зяць до мене і так швардэкае, шо я нічого не понімаю.*

ШЕЛЮГА'ЦЬ *незак.* Рабіць вялікія крокі. *Дарма, шо стары, бач, як шелюгае: не ўгоніша за йім.*

ШКОРУ'ПЛЫ *прым.* Закарэлы. *І жонка е, а нема кому догледзець за етым человеком, бач, екі шкоруплы.*

ШКОРУПЛЯ'К *м.* Чалавек з закарэлым тварам. *Малы вон шкорупляк буў, а цепер ліцо чістэ: залечілі.*

ШНІ'ПОРКА *м., ж.* Праныра. *Ну й шніпорка ў мене малы: нічога од ёго не сховаеш.*

ШУЛЕ'ПА *м., ж.* Няўмека, недарэка. *От шулепа: показваў, показваў ёму, як коні запрагаць, а вон ніяк не навучіцца.*

ШУЛЯ'К *м.* Пустамеля, недарэка. *Ну й шуляк: корову й жіто ідуць, а вон іх не отворочае.*

ШЫ'Я *ж.* Прамежак паміж комінам і сцяною. *Переложі, хлопче, лучіну ш черена ў шыю, вона ўже вусохла.*

*Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук*

# З ЛЕКСІКІ АДНОЙ ГАВОРКІ КЛІЧАЎСКАГА РАЁНА

Гаворка в. Рубéж Клічаўскага раёна адносіцца да сярэднебеларускіх гаворак і характарызуецца асаблівасцямі гэтага дыялекту.

АЛЕ′ШКА *ж.* Алешына. *Прыцягнуў здаровую алешку.*

АРУЖЫ′ЦЦА *зак.* Узброіцца. *Адзін салдат аружыўся і пашоў.*

БЕ′ЛЫ *прым.* Чысты. *У яе ўсягда белая дзіця.*

БІЦЬ *незак.* Разбіваць, дзяліць на часткі. *Зямлю білі на пасёлкі.*

ВА′ЛЬНА *ж.* Памяшканне, дзе валілі сукно. *Вальна была, там валілі сукно.*

ВЕРАБ′І′ *мн.* Усякія дробныя птушкі. *Селі вераб'і перад дарогаю: гэта шпакі адлятаюць.*

ВІСУ′ШЧЫ *прым.* Вісячы. *Колісь былі вісушчыя калыскі.*

ВЫ′СКІДЗЬ *ж.* Вываранець. У выразе: *Сядзіць, як чорт на выскідзі.*

ВЫЯЖДЖА′ЛЫ *прым.* Выязны. *Два жарапкі выяжджалыя.*

ГАЛАСНЫ′ *прым.* Галасісты. *Галасны, пяе харашо.*

ГУМНІ′ЦА *ж.* Прыгуменне. *Гумніца перад гумном. Кругом гунна — гумніца.*

ДЗЕ′РЦІ: ДЗЕ′РЦІ ВАЙНУ′. Весці вайну. *Вайну дзярэць — усё яе поля.*

ДЗІВАВА′ЦЦА *незак.* Дзівіцца. *Доктар дзіваваўся, якая я бальная.*

Е′СТЫ *займ.* Гэты. *Да вайны вышла замуш, з естым і жыву.*

ЖА′ГАЦЬ *незак. экспр.* Бліскаць, смаліць. *Жагае маланка, грыміць гром.*

ЗВЯЗВАЦЬ ХВАСТЫ. Разводзіць плёткі, пляткарыць. *Ён звязвая хвасты, ня слухай, пляце ён.*

ЗЛЫ'ННЫ *прым.* Зайздросны. *Я і злынная, і завінная, усё сама хачу зрабіць.*

ЗЯРО'К *м.* Зенка.

КАВЯЗА' *ж.* Вяз. *Палоска з ліпы, с кавязы.*

КАЛУ'ЖЫНА *ж.* Лужына. *Адно кацянётка ў калужыну ўтопіць.*

КАРАБА'ХА *ж.* Вялікая каробка. *Карабаха плацця.*

КА'ХНУЦЬ *зак.* Секануць, гакнуць, ударыць. *Пойдам малаціць, як кахне* [цэпам].

КАЧА'К *м.* Палена, калодка; тоўстая галіна.

КІ'ЖЫК *м.* Сучок. *Кіжыкі — сучкі апсыпаюцца з сасны, збіраім і на коміня палім.*

КЛЫ'ГАЦЬ *незак.* Кульгаць.

КУ'КЛА *ж.* Амела.

КУ'ЛЯМ *прысл.* Кулём, стрымгалоў. *Бегчы кулям.*

ЛАЦЬВЕ'Й *прысл.* Лепш, добра. *Табе лацьвей.*

МАН *м.* Хлус. *Ман ён, ня слухай яго, маніць ён.*

МАНІ'ЦЬ *незак.* Падзываць курэй, куранят. *Пыль-пыль-пыль — у нас так маняць кураняткі.*

МАРХА'ЛЬ *м.* Галавасцік. *З жабій ікры мархалі.*

МІ'ЖДЫ *прысл.* Паміж. *Міжды сасны, елкі.*

МУХАМО'РА *ж.* Мухамор. *Грып есь мухамора — ета ядавітая. Мухамору бралі, пяклі, малаком залівалі і мух травілі.*

НАБІ'РАЧКА *ж.* Посуд для ягад. *Набірачка з ліпнічку, шыюць лыкам, а каробачку із ліпы дзяруць.*

НАБІ'РКА *ж.* Кошык. *З лыкаў набіркі плялі, бяром у ягады, грыбы ў іх збіраям.*

НІНАШО'МЫ *дзеепрым.* Няношаны. *Ні дасі адзёжы нінашомай?*

НЯВЕ'ШЧЫН *прым.* Які належыць нявестцы. *Нявешчына матка сусім адна.*

ПАЛО'СА *ж.* Паласа. *Удырыў яе машынай ля палосы, і цяпер яна ляжыць* [у бальніцы].

ПАХАРО'НКА *ж.* Пахаванне. *Назьбіраў нявесца на пахаронку.*

ПА'ХВА *ж.* Пахвіна. *У пахвя ня будзе вузка?*

ПЁРЫШКІ *мн.* Плаўнікі. *Пёрышкі ў рыбы.*

ПЛЯСЬНІ'ВЫ *прым.* Вяснушкаваты. *Плясьнівы — у каго вяснушкі.*

ПНЮШО'К *м. памянш.-ласк.* Пянёк. *На пнюшок зачапіўся, звіх сільны. Заехаў на пнюшок сівы жарабок.* (Прыказка.)

ПРА′ВІЦЬ *незак.* Спраўляць. *Госці прышлі, свадзьбу правяць.*

РАБО′К *м.* Рабчык. *Рабка уб'е.*

РАДЗІ′НА *ж.* Радня. *У каго радзіна бальшая, то курган* [на могілках] *бальшы.*

САРУ′Н *м.* Шарпак. *Цвёрды снег — сарун такі.*

СЕ′РКА *ж.* Малодзіва. *Як ацеліцца карова, у яе серка ў вымі.*

СМЫЧ, СМЫЧА′ЛЬ *м.* Від асакі. *Смыч гаворацьі смычаль, на балоці расце.*

СТАДА *ж.* Статак. *Бальшая стада кароў у нас.*

СТРАКА′ЦЬ *незак.* Сустракаць. *Бацьку стракаць паехала.*

СУМІ′ЦЕЛЬНЫ *прым.* Дзіўны. *У Кавязе* [вёска] *пушча суміцельная.*

СЫРО′КВАШ *м.* Сыракваша. *Паставіла вам сырокваш.*

СЬВЕСЬ *ж.* Сястра жонкі. *Ета майму мужыку мая сястра — сьвесь.*

СЬВІНЯ′КА *н.* Падсвінак. *Адно сьвіняка ў мяне.*

СЬЦЯСЬНЕ′ННЕ *н.* Зборышча. *Сьцясьненьне народу.*

СЯСТРУ′ХА *ж.* Дваюрадная сястра. *Прыходзіла мая сяструха.*

УДЫ′РЫЦЬ *зак.* Ударыцца. *Ехаў ды ўдырыў у дзерава.*

УЗГАДЗІ′ЦЬ *зак.* Угадзіць. *Я вам узгаджу.*

УКРА′СЬЦІСЯ *зак.* Пайсці тайком, крадучыся. *Украдуся ноччы, пайду па палатах. Каб здэцца дамоў.*

УЛА′ЗІЦЬ *незак.* Вылазіць. *Будзе ўражайны гот, жыта ўжо ўлазіць з зямлі.*

УЛО′НЬНЕ *н.* Калені. *Вялікі, і сядзіць у цёткі на ўлоньні.*

УПРО′ЦІ *прысл.* Супраць. *Ні ўпроці я.*

*У. М. Свяжынскі*

# З ЛЕКСІКІ АДНОЙ УШАЦКАЙ ВЁСКІ

Дадзеная падборка з'яўляецца працягам дзвюх папярэдніх публікацый мясцовай лексікі в. Тураполле Ушацкага раёна («Народнае слова». Мінск, 1976; «Народная лексіка». Мінск, 1977). Для гаворкі вёскі характэрна дысімілятыўнае аканне *(въда, гълъва, тръва)* [1] і дысімілятыўнае яканне *(з'імля, в'існа)*.

АБЛАЖЫ'ЦЬ *зак.* Адолець, пакласці. *Къп цібе хвароба аблажыла.*

АБРО'ЖЪК *м.* Ашыйнік. *Авечка аброжък сьніла і ў клевір улезла.*

АБРЫ'НУЦЦА *зак.* Апаўзці, асунуцца. *Зімля ў ямі абрынулъся, нада вънкідъвъць.*

АЧА'ХНУЦЬ *зак.* Астыць. *Капуста гърачъя, пъдажджы, хай ачахніць.*

АШЧЪРА'ЦЦА *незак. перан.* Агрызацца, пярэчыць. *Што ты маццы ашчъраісься, іна тъбе благога ні скажъць.*

БА'ПКА *ж.* Падбярозавік. *Бапкі ў балоці па асацэ ўжо ёсь, можна нъзьбіраць.*

БАБО'ЎКА *ж.* Стракатая курыца. *Бабоўка зьнісласся нъ хаці.*

БЕ'С СІБЯ. Не помнячы сябе. *Каровы сягоньні носюцца бес сібя, аббегълі ўсе лугі.*

БІЛЯ'НКА *м., ж.* Светлавалосая асоба. *Яго білянкъй пръзвалі за то, што въласы белъі.*

БЛІШЧЭ'ЦЬ *незак.* Прагна глядзець. *Нечъга тут блішчэць, хай людзі ядуць, пашлі дамоў.*

БО'ЦІКІ *мн.* Жывакост. *Боцікі, што сініцькім цьвіцяць, яны ў жыці растуць.*

---

[1] Гук, які ў артыкуле абазначаецца знакам ъ,— рэдукаваны галосны сярэдняга пад'ёму задняга рада.

БРАХЛІ'ВЪЙ *прым.* Лаянкавы. *Нільзя, мой дзетка, геты славы гъварыць, яны брахлівъі.*

БЪДЛЯ' *ж. лаянк.* Быдла. *Я тъбе дам, бъдля, што ты абы-дзе ходзіш.*

ВАЎЧЫ'НЪЙ *прым.* Воўчы. *Геты гръбы ваўчынъі, іх нільзя есьці.*

ВЕ'К *м.* Увесь час, заўсёды, даўно. *Ева Мітръхваніха ўжо век свой, як у Туръсі жъвець. У іх і век зъпасу німа* [дроў]: *с плеч ды ў печ.*

ВЕ'РЦІ *незак.* Вярзці, плесці. *Што ты абы-што вярэш?*

ВЪЛІВА'ШКА *ж.* Лейка, чарпак. *Вазьмі вълівашку, вылій ваду з лоткі.*

ВЪСТРЭ'НЧЪВЪЦЬ *незак.* Дагаджаць. *Ня буду я яму въстрэнчъвъць: што ёсь, хай тоя і зьесь.*

ГА'ДЪНЯ *ж. лаянк. перан.* Гадаўка (пра злосную жанчыну). *Во, гадъня, гатова ўсіх у лошцы ўтапіць.*

ГУЖО'К *м.* Кавалак вяроўкі, рэменя. *Гушком цёлнъю карову нільзя біць, а то ськініць.*

ДЖУ'ПЛА *ж.* Лупцоўка. *Дась бацька джуплы, што ня слухъіш.*

ЗАГЕ'РЪЦЬ *зак.* Заўпарціцца. *Во, парэза гетъй рабёнък: як загеръць — што хочъш дзелъй!*

ЗБРО'ДЛІВЪЙ *прым.* Шкадлівы. *Авечка тъкая збродлівъя, так і глядзіць, къп куды ўлесьці!*

ЗЪКЪЖАНЕ'ЦЬ *зак.* Захірэць. *Свінка зъкъжанела: ня есь і ні расьцець.*

І'ННЪЙ *займ.* Іншы. *Іннъй рабёнък, дък вучъцца, стъраіцца, а мой, дък — ні да чога!*

КАЗЁЛ *м.* Масляк. *У барку казлы растуць па сосьніку — хуць касу зъклъдай!*

КАКО'ЎКА *ж.* Папярочка на дзяржанні рыдлёўкі, віл. *Гетъмі вілкъмі, што іс какоўкъй, спрътней къпаць.*

КАРО'ЎНІК *м.* Малачай (грыб). *Геты краснъі гръбы завуць кароўнікі. Яны пъ кустах растуць.*

КАРЭ'ЛКА *м., ж.* Мурза. *Дай рубашку памыю, а то ходзіш карэлкъй.*

КАРЭ'ЛЪЙ *прым.* Брудны. *Мыўся, а вушы карэлъі — хуць рэпу сей.*

КАСМЫ'ЛЬ *м. груб.* Пасма валасоў. *Късмълі свае ръшчашы, а то ходзіш, як абізьяна.*

КЛЪШЭ'НЬ *м. груб.* Нага. *Вытры клъшні свае, а то ўвесь мост затопчъш.*

КРА'ХЪЎКА *ж. іран.* Качка. *Во, крахъвък на возіры сколькі! У іх, мусіць, гнёзды на астраўку.*

КЪЛТУНЫ' *мн. груб.* Валасы. *Кълтуны свае хуць ръшчашы, а то быццъм варонья гняздо нъ гълаве.*

КЪЛТУНУВА'ТЪЙ *прым.* Калматы, валасаты. *Ніколі ні пръчэшъцца, ходзіць кълтунуватъй, як мъхъха.*

КЪЛЪШАНО'ГІЙ *прым.* Крываногі. *Тая кълъшаногъя пъшла, што ногі ў бакі.*

ЛУШЧО'НІК *м.* Лушчаны арэх. *Торбъчку лушчонікъў насыпъла: арэшкі — адзін у адзін.*

ЛЮБО'ВЪЙ *прым.* Нятлусты. *Я ем толькі любовъя мяса, іс салъм ні люблю.*

ЛЯСНУ'ШКА *ж.* Яблыня-дзічка. *Нъ ляснушцы сёліта яблъкъў многа, алі ш яны горкіі.*

МАЛО'ЧНІК *м.* 1. Грузд перцавы. *Малочнікі добра атваръвъць, а тады сьмітанъй зъправіць. Із бульбъй дужа смашна.* 2. Малачай. *Малочнік па бульбі парос, дък я зьбіраю сьвіньням на ахрап'я.*

МАМІ'ЦА *ж. груб.* Маці. *Во, маміца, грошы ўжо жалеіць нъ плацьця!*

МЪШАРНІ'К *м.* Махавік. *Мъшърнікі смашнъі гръбы, яны лі балота пъ кустах растуць.*

НІ ДА ЧО'ГА. Ні на што не здольны. *Такій ужо гультай — ні да чога!*

НІКАРЫ'СНЪЙ *прым.* Мізэрны, дробны. *Бульба сёліта нікарыснъя — дробнъя, чарвівъя.*

ПАДГО'Р'Я *н.* Схіл узгорка. *У Сарокъвішчы пу падгор'ю лісічкі растуць.*

ПАЦІ'Р *м.* Страта парасят ад неасцярожнасці свінаматкі. *Пъръсят паціру ні бъло, усе выгъдъвълісі, ні ннъго сьвіньня ні зацёрла.*

ПЕ'ЎНЪЯ *прым.* З зародкам (яйка). *Път курыцу нада лажыць толькі пеўнъі яйцы, а то буўтуны будуць.*

ПЛЯ'ЦЬМА *ж.* Пляма. *Наша карова чорнъя, із белъй пляцьмъй на лбу.*

ПО'МУЎСЬ *м., ж.* Памаўза (пра жывёлу). *Во, помуўсь гета карова, так і глядзіць, къп у гарот улесьці. Кошка тъкая пумуўза: абы што-нібуць кінуў нъ стале, дък абізацільна ўлезіць.*

ПЪДАЛЬХО'ВІК *м.* Свінуха тонкая. *Пъдальховікі — гета такіі рудзінькіі гръбы, па алешніку растуць.*

ПЪДБУРА'ЧНІК *м.* Гнаявік шэры (грыб). *Пъдбурачнікъў пуўкъшалёчка нъзьбірала.*

ПЪДМА′СКА *ж.* Подмазка. *Пъдмаску як ні хъваю, кот усі раўно найдзіць і зьесь.*

ПЯСКЛЮ′К *м.* Кураня. *Пълаві пісклюкоў, а то ўжо вічарэіць.*

СЕЧЪ′ВА *н.* Драўлянае карыта, у якім сякуць траву для свінней. *Ідзі сьсячы там бацьвіньня ў сечъві, а то пада сьвіньням ужо есьці дъвацъ.*

СКВА′РКА *м., ж. перан.* Капрызуля, плакса. *Во, ужо скварка, гасподнія воля, ночъчку равець.*

СКВЕ′РЦІСІ *незак.* Капрызіць, плакаць. *Пірълстань скверцісі, а то дам.*

СКЛЪГЪТА′ЦЬ *незак.* Пішчаць (пра свінней). *Сьвіньні галоннъі склъгочуць, некъму есьці даць.*

СКЛЮ′Т *м.* 1. Сякера для абчэсвання бярвення. *Даўней броўны склютамі чъсалі.* 2. *перан.* Худая жывёліна. *Гетъга склюта* [парася] *ніколі ня выкърміш, колькі ні кармі.*

СО′ЎНІНЬКА *н.* Сонейка. *Соўнінька сьвеціць, стала цёпла, аш с крыш капъіць.*

СПА′С *м.* Ратунак. *Къмары заелі — спасу німа.*

СУХАДРЭ′ЎЦА *н.* Бружмель Шамісо. *Сухадрэўца ў лесі расьцець, цьвіціць розъвіནькім.*

СУХМЕ′ТКА *ж.* Мелкае месца сярод возера. *Нъ сухмеццы въда пъ калена.*

СЬВІ′НКА *ж.* Свінуха тоўстая. *Сьвінкі пъ кустах растуць, іх атваръвъць добра.*

СЬЛЁСКА *ж.* Фуксія. *Сьлёска красіва цьвіціць — зъвушнічкъмі.*

СЬМЯРО′ТНІК *м.* Хвароба з лятальным зыходам. *Къп цібе сьмяротнік.*

ТУ′КШЪНА *ж.* Кухталь. *Дай яму тукшъну, къп дзісятъму зъкъзаў.*

ТУ′ХЪЛЬ *ж.* Пах тухлага. *У тым калодзіжы въда тухъльлю сьмярдзіць.*

УВЪДРА′ЦЬ *зак.* Драпнуць. *Міне кот увъдраў, аш рука апохла.*

УЗНО′Ў, УЗНО′ВА *прысл.* Зноў. *Узноў кашэль нъ гародзі забылъся. Сягоньні ўзнова карова мълъка ні дъла.*

УЗЬВЕ′РЦІСІ *зак.* Наступіць. *Карова мне нъ нагу ўзьвірлася.*

УЛО′ГЪМ *прысл.* Плазам, не ўставаючы. *Бацька зъхварэў, улогъм ляжыць.*

УМЛЕ'ЦЬ *зак.* Стушыцца. *Бульба аш умлела: тъкая сопкъя!*

УПІРЫ'СТЪЙ *прым.* Упарты. *Такій упірыстъй: толькі къп пъ ягонъму бъло.*

УПЛЮ'ТЪЦЦА *зак.* Учапіцца, ублытацца. *Пчъла ў въласы ўплютълъся.*

УТУЛІ'ЦЬ *зак.* Уцягнуць, схаваць. *Утулі гълаву і сядзі.*

УХВАЦІ'ЦЬ *зак.* Хуценька зрабіць што-н. *Добра, што сена ўхвацілі, а то во і дош.*

УЧУ'ПІЦЦА *зак.* Учапіцца. *А мальчък гетъй як учупіўся зъ матку і не пускаіць йіе.*

ХВІЛІ'НА *ж.* Непаседлівае дзяўчо. *Сяць, пъсядзі, хвіліна, ні насіся пъ хаці.*

ХМЫ'ЛІЦЦА *незак.* Злавацца (пра каня). *Конь хмыліцца, глядзі, укусіць.*

ЦЁЛНЪЯ *прым.* Цельная. *Карова цёлнъя, скора цяліцца будзіць.*

ЦУ'РЪЧКА *ж.* Асколак, чарапок. *Тарэлку кот ськінъў, дък разьбілъся на цуръчкі.*

ЧЪПЧЫ'НЬНІК *м.* Шыпшына. *Чъпчыньнік такій калючъй — усе рукі абъдрала.*

ШПЭ'ТНІНЬКІЙ *прым.* Дробненькі, мізэрны. *Жонка яго тъкая шпэтнінькъя, ніпръгъжавітъя.*

*В. Д. Старычонак*

# З ЛЕКСІКІ в. ЛУЦІШЧА КРУПСКАГА РАЁНА

Вёска Лу́цішча Бобрскага с/с знаходзіцца ў 25 км на паўночны ўсход ад г. п. Крупкі Мінскай вобласці. Гаворка гэтай вёскі адносіцца да полацкай групы паўночна-ўсходняга дыялекту. Рэгіянальныя асаблівасці гаворкі: выпадкі вымаўлення пачатковага *ц* замест *ч* (*цугун, цапля*), наяўнасць канчаткаў *-аць* у трэцяй асобе адзіночнага ліку першага пераднаціскнога складу дзеясловаў першага і другога спражэння (*бачаць, гаворацъ, кажаць, пішаць, сочаць*), наяўнасць часціцы *-сь* у зваротных дзеясловах (*бачылась, гаварылась, паслась, адхілялась, атхіналась*) і інш.

АБАРТО′ЎКА *ж.* Бакавыя дошкі ў возе. *Ні забудзь жа абартоўкі ўзяць, а то будзеш на сваіх плячах насіць бульбу.*

АСКАЛЁПАК *м. перан.* Несур'ёзны, неразумны чалавек. *Кап ты разбіраўсь у чым-небудзь, а то ж нейкі аскалёпак, дык сядзі і маўчы.*

АТЛЕ′ЦІЦЦА *зак.* Крыху нагрэцца. *Вада ня ўспела яшчэ атлеціцца.*

АТО′ПАК *м.* Ахапак трэсак, дроў. *Як укінула тры атопкі, дык на групку ні сесці.*

БІНДЗЮ′ГА *ж.* Калёсы з доўгай трайнёй для перавозкі бярвенняў, жэрдзя. *За дзень успеў толькі тры біндзюгі жэрдзяў прывезці.*

БУЛА′БУШКА *ж.* Здобная аладка, пампушка. *Як напяку булабушак, дык уся дзярэўня спытаць прыходзіць.*

ГА′ХНУЦЬ *зак.* Ударыць, стукнуць. *Віламі гахнула па банцы, дык тая і разляцелася ўдрэбезгі.*

ГРА′НКА *ж.* Баразна. *Тры гранкі бульбы прапалола, а нявестка яшчэ карову ні падаіла.*

ДЖВІ'ГНУЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць рэменем, пугай. *У дзецстве ён быў дужа смелы, бацька яго добра па спіне джвігне, а слязы ці плачу не даб'еццa.*

ЗАШПЛІКНУ'ЦЬ *зак.* Зашпіліць. *Колька, ідзі зашплікні гузік, бо прыразка нейкая малая.*

ЗБАЁ'ДАЦЬ *зак.* Згубіць, збыць з рук. *Цябе луччы нікуды ні пускаць, а то ўжо збаёдаў дзве капы.*

ЗГАЛАВА'ШКА *ж.* Перадок воза з воссю. *Згалавашку трэба замяніць у возе.*

ЗЫ'РЫЦЦА *незак.* Вылупліваццa. *Толькі чуць галаву адвярну, а ён ужо зырыцца на мяне, як бы пяць гадоў не бачыў.*

КАПАНІ', КО'ПАНІ *толькі мн.* Палазы саней, зробленыя з выкапаных дрэў. *Верхняя планка ў нас — гэта намаражні, а такія палазы называем копані або капані.*

КАРА'СЬ *м.* Жалезная шайба, якая насаджваецца на вось, каб не звальвалася атоса. *Як спудзіўся конь, дык і загваздка і карась вылецелі, чуць паспеў выскачыць з воза.*

КА'РАЦ *м.* Невялікая, плеценая з лазы пасудзіна для мукі. *Толькі карац мукі з бацьвіннем замешваю, а ўсё роўна ўсяго ні з'ядуць.*

КАРНІ'К *м.* Спецыяльна абсталяваная частка хлява для захоўвання сена. *Ні люблю я работаць у карніку, душна ўсё ўрэмя.*

КА'РЫ *толькі мн.* Маленькія санкі, якія выкарыстоўваюцца пры перавозцы доўгага бярвення, падсанкі. *Кары ў нас ужо ні дзелаюць, а бальшыя броўны трактарам перавозім.*

КІ'ЛІШАК *м.* Невялікая пасудзіна для малака ў выглядзе чайніка. *Карову запускаць трэба было, а я ўсё роўна даіла па кілішку малака, бо дзецям не было чаго есці.*

КЛАДЗІ'ШЧА *н.* Могілкі. *Старая згарода кладзішча абвалілась, дык мужчыны цяпер новую ставяць.*

КУРДО'ПА *ж.* Сорт ранняй бульбы. *На гародзе расце позняя, а ў гарочыку пасадзіла сотак пяць курдопы.*

ЛАЙНО' *н.* Бялізна (адна штука). *Шэсць лаён дзеўка высціралa, а яшчэ толькі ў шосты клас ходзіць.*

ЛА'ХАНЬКІ. Абы-што. *Рамы ў вокны здзелаць — гэта табе не лаханькі.*

ЛЯЖЭ'ЙКА *ж.* Верхняя і ніжняя паралельныя планкі драбін воза. *Шчэбры ўжо павываліваліcь з ляжэек, а бацька і не думаіць аб гэтым.*

МЫ'ЗГАЦЬ *незак.* Перабіраць страву, есці з неахвотай. *Ні мызгай у місцы, а то січас выганю з-за стала.*

НІ НА МАК. Нікольki, нічога. *Не заснула сяння ні на мак: то сына ўспомню, то з дачкой, здаецца, нешта случылась.*

ПАЛА'ЦІ *толькі мн.* 1. Палаці. 2. Вышкі ў хляве. *На палацях летам у нас куры, а зімой сена кладзём, пудоў трыццаць можна пакласці.*

ПІРАДО'К *м.* Маленькі ўслончык. *Падстаў пірадок і закрый комін.*

ПЛЮ'СКА *ж.* Кароткая куртка з плюшавага матэрыялу. *Плюску дзе б купіць: і цёпла, і модна яе цяпер насіць.*

ПЯ'РНУЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Так пярнула па капе, што яна разарвалась.*

РАШПЛІКНУ'ЦЬ *зак.* Расшпіліць. *Рукі акачанелі, а ніяк ні магу гузік рашплікнуць.*

РО'ЗВАЛЬНІ *толькі мн.* Развалкі. *Цяпер часта замест розвальняў палок ложам на любыя санкі.*

СКАПЕ'Ц *м.* Капец. *Пудоў семдзесят бульбы засыпалі ў скапец, абы ні змёрзла.*

СКЛА'ПКА *ж.* Стрэмка. *Паліц напух, бо склапку зразу ні выняла.*

СПА'ДЫШ *м.* Ападак. *Цвёрдае яблыка ні магу ўкусіць, бо зубоў німа, а спадышы люблю.*

СТАРО'ШКА *ж.* Будынак на калгасным двары для захоўвання вупражы. *Дзеці нашы дык усігда ля старошкі ў хуванкі гуляюць.*

УНЕ'Т *прысл.* Ушчэнт. *Мой разлаваўся, дык усе банкі ўнет пабіў.*

ХУ'РА *ж.* Павозка з скрынкай для перавозкі зерня, мукі, бульбы і іншых сыпучых рэчываў. *І чаму ён такую поўную хуру нагрузіў? Высыпацца па дарозе ўсё будзіць.*

ЦІЛУНДРО'ПІК *м.* Цялятка. *От і любіў Васіль нашага цілундропіка, жалка, што здалі.*

ЦЫПКІ' *толькі мн.* Палок у лазні. *Як залезу на цыпкі, дык усе ўжо крычаць пачынаюць, каб быстрэй злазіў.*

ЧУХО'НКА *ж.* Выязныя сані. *Як едзем у госці, дык чухонку запрагаем.*

ША'РНУЦЬ *зак.* Ударыць, адпіхнуць. *Петрачыха дык так шарнула свайго, што мне жалка стала.*

ШВЭ'РГАЦЬ *незак.* Шкрабаць. *Ты еш нармальна, ні швэргай па місцы.*

ШАРГУ'НЧЫКІ *звыч. мн.* Частка выязной вупражы, шамкі. *Здалёк было чутна, калі едзіць конь, бо шаргунчыкі звінелі.*

ШПА'Р *м.* Кіпень. *Як несла цугун, дык усе рукі шпарам абліла.*

ШЧЭ'БРЫ *мн.* Вузкія папярочныя дошчачкі ў драбінах воза. *Шчэбры ўсе вылецелі з драбін, бо дужа сільна гнаў каня.*

*П. У. Сцяцко*

# З РОДНАЙ ГАВОРКІ

Тут падаюцца дыялектныя словы, запісаныя ў вёсцы Грабава Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці ў 1970—1975 гг.

АБМАТЛЯВА'ЦЬ *зак.* Налатаць, даўшы латку спадыспаду. *Яшчэ цэлыя ганавіцы, адно на калені дзірка, то трэба абматляваць, тагды мало і відно будзя, што налапляныя.*

АДДЫХА'НЬНІК *м.* Той, хто адпачывае. *Аддыханьнікаў ні бракуя ў нас, як настаня лето. Усё купаюцца на рэцці, па грыбэ ходзяць у лес.*

АПСТО'ЯЦЬ *зак.* Абараніць, заступіцца, адстаяць. *Апстоялі хлопца, а так набілі б гэтыя гіцлі. Сваё ён заўша апстойіць скрось.*

АТКУБРАВА'ЦЬ *зак.* Адаткнуць (моцна заткнутае). *Ледзьвя аткубравалі тоё барылко, як заткало набрыняло ад вільгаці.*

АШЭ'РГАНЫ *прым.* Абарваны, абадраны (пра адзенне). *І як табе ні брытко ў людзі паказвацца ашэрганым, га? Ні можаш ты сабе адзежы цэлае адзець ці што?*

БАРАБО'ХА *ж.* Тоўстая, трыбухатая жанчына (радзей — карова, авечка). *Мо кіль сто ці боляй зацягня барабоха тая, дальбох праўда!*

БАХУРНЯ' *ж. зборн.* Дзятва, дзетвара. *Гунь колькі бахурні на санках егдзіць з горкі. Ідзі і ты да йіх, ні меў тут скнэрыць.*

БАЯ'НЁ *н.* Боязь. *Хай яго з гэтым хлопцам і яго баяням! Байіцца ў хаці адзін быць, і годзі! І як яго вылячыць ці што з йім рабіць?*

БЛІЗНЯ'ЧКА *ж.* Блізніца. *Яны роўныя — блізнюк і блізнячка.*

БРАШЧА'ЦЬ *незак.* Бразгаць, бразгатаць. *Можа ў*

*вядры твой гаплюк — нешто брашчыць тут, палядзі, Ганна!*

БУНАВА'ЦЬ *незак.* Хуліганіць. *От вырадак! Роднаго бацька ні слухая. Як вып'я, так і станя бунаваць, хоць ты с хаты ўцякай.*

БЫЛІНА' *ж. зборн.* Быльнік. *Усё тут быліною парасло, як людзей нікого німашака, усе ў сяло пярабраліся с хутароў тых.*

БЭ'БАХ *м. непахв.* Жывот. *Выставіў бэбах і ходзіць, і ні брытко яму людзей тых. Гэто ш табе ні курорт можа!*

БЯСТАЛКО'ВІЦА *ж.* Бесталкоўшчына. *У яе ўсё як ні ў людзей — бясталковіца нека. Бясталковіца ўсё псуе, хай і много есьцяка ўсяго ў цябе.*

ВАЙДАВА'ЦЬ *незак.* Крыўдаваць. *Хай ні вайдуя, я ёй нічого кепскаго ні зрабіла і ні зраблю: я ні такая, як яна самая.*

ВА'РНАСЬЦЬ *ж.* Парнасць. *Мусяць, дошч будзя — такая варнасьць: варыць як у гаршку, ні датрываць, гаш млосьць бярэ цябе.*

ВА'ТАРГА *ж.* Сварка, грызня. *Ні магу слухаць ватаргі гэтае — усё сварацца і сварацца, і людзей ні брытко йім!*

ВАШЧУРЫ'НА *ж.* Вашчына. *Моцно круціў цантрафугу, то гаш рамкі парваў і вашчурына ў мёдзі плавая.*

ВЕ'ТРАЦЬ *незак.* Сохнуць на ветры. *Хай яшчэ ветрая адзежа на сонцы, тут вецяр прадувая добро — хутко высахня.*

ВІДНІНА' *ж.* Віднота. *Цяперака ў хатах тых такая відніна! Ведама, алектрыка сьвеціць, ні трэба сьляпіцца пры газі ці лучыні.*

ВІ'РЛА *мн.* Вялікія вочы. *Вірла свае вылупіў на міне, думая, баюсё я яго натто. У Мані маленькія вочы, а ў яго вірла некія.*

ВО'БЖЫР *м., ж.* Абжора. *Яе ні накорміш — вобжыр нека. Гэты вобжыр тры міскі зацеркі вылапая, і яшчэ мало яму!*

ВЫ'ЛУПАК *м.* Зіркаты, вірлавокі. *Вочы як кулаке — от вылупак! Вочы вылупіць вылупак гэты і крычыць на ўсіх у хаці, як ні па яго выдзя.*

ВЫ'ЛЮДНЯЦЬ *зак.* Ачалавечыцца, пасталець. *Быў нелюць Косьцік гэты, а пашоў на работу, у горадзі стаў жыць — вылюдняў, стаў чалавекам.*

ВЫ'ПРАГА *ж.* Смерць, згуба. *Такі ўжэ нілюцкі чалавек быў, і выпрага яго ні брала, пакуль ні састарыўсё.*

ВЫ'РАЧКА *м., ж.* Гл. *вылупак. Вочы вырачыць, то гаш страшно — вырачка такі. Вочы як гузікі — настаяшча вырачка.*

ВЫ'РАЧЫЦЬ *зак.* Вытрашчыць. *Злосны, як сабака: вочы вырачыць і давай сварыцца, крычаць на ўсіх, хто акажацца да яго.*

ВЫ'ТУХЛІЦЦА *зак. абразл.* Выспацца. *От гультай гэты хлопяц! Цэлымі днямі сьпіць, а тагды вытухліцца і зноў на гулі цягняцца.*

ГА'ГАВІЦА *ж. абразл.* Горла, рот. *Зьзеш, а то поўну гагавіцу напхаў і бармочаш чорт ведама што.*

ГАЛАВА'Ч *м.* 1. Галавасцік. *Усё галавачоў лавіў малы на рэццы.* 2. Галаваты (пра чалавека). *Галава як цэбар у галавача таго.*

ГАЛАСЬНІ'К *м.* Гучнагаварыцель. *Даўней галасьнікоў ні было, адно слухаўкі вешалі на вушы, кап пачуць што па радзіві том.*

ГАЛАШЧО'К *м.* Мароз на голую, не пакрытую снегам зямлю. *За маею памяцяю такі галашчок быў, што ўсе прысаткі паўмярзалі ў садзі.*

ГАЛО'ДНІЦА *ж.* Галадоўка. *Галодніцаю ўсё зьзесца, як прыпрэ голат.*

ГАЛЬДАДУ'- ГАЛЬДАДУ'! *выкл.* Гоц-гоц! *А воўк той гальдаду-гальдаду — пабех сабе і ні байіцца, што на яго крычаць: — Ага воўка!*

ГАМА'РНЯ *ж.* Вялікі, няўтульны будынак, дом, кватэра. *І нашто людзям такая гамарня на дзьве душы? Яе ні напалісься, гамарню гэту.*

ГАНДУ'РЫЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць, балакаць. *Нешто сабе гандурыць і гандурыць—і сьмяецца сабе пад нос. Годзі вам гандурыць, ешча ўжэ!*

ГА'РАНІНА *ж.* Гар. *Недзя нехто смаліць паршука, што так гаранінаю аддае, гаш тут чутно. Прыгарэлі картоплі, гаранінаю сьмярдзяць.*

ГАРБУЛЯ' *ж.* Гарбуха. *Калека і гарбуля гэта Надзя, хто яе замуш возьмя? Так і вякаваціме да сьмерці адна.*

ГЕ'ЎГАЦЬ *незак.* Здыхаць, канчацца. *Пакуль я дабегла, то шуляк курыцу тую ўжэ задраў, адно геўгая, бедна, мусяць, хутко дойдзя.*

ГЛУШНЯ' *ж.* Глухаватая жанчына. *Мацней кажы, а то ні чуя глушня гэта.*

ГРА′НДА *ж.* Кампанія, гурт. *Як грандаю выдзям, то раз-два выкапаям тыя картоплі, ні бойся, ні замерзнуць на полі.*

ДАРЭ′СЬЦІЦЬ *зак.* Разбурыць, разбіць дашчэнту. *І так вос той слабы быў, а як узяліся гной вазіць, то дарэсьцілі — распаўсё ўсей.*

ДЖВЭ′НГАЦЬ *незак.* Балбатаць. *Да ночы джвэнгалі п, каб ні паўганялі йіх с хаты старыя. Джвэнгая і джвэнгая — і язык яму ні забаліць!*

ДЗЕ′НЯШНЁ *прым.* Дзённае (малако). *Як гарачо ў хаці, то і дзеняшнё малако ні дастойіць да вечара, скісьня, ні то што раняшнё.*

ДЗЯРАСКАВА′ТЫ *прым.* Шурпаты. *Як ні часаў я тоё граблішчо сакераю, уся роўно дзярэ за руку — дзяраскавато яшчэ, трэба пагаблявадь.*

ДЗЯРЖА′ЦЬ *незак.* 1. Трымаць. *Моцно дзяржы, каб з рук ні вырваласё цяля тоё.* 2. Гадаваць, трымаць. *Троё сьвіней дзержыць да калят, а тагды коля і сало продая.* 3. Мець за жонку. *Казё дзержыць Надзю Міхасёву. Гэто яго другая жонка, бо перша ўмярла гадоў два таму.*

ДЗЯЎЧУ′К *м.* Невялікая дзяўчынка. *Малая яшчэ Зося, саўсім дзяўчук, то як ты яе пакіняш на суткі адну!*

ДРАПЧА′СТЫ *прым.* Шурпаты, з выемкамі. *Бляха гэта з ямачкамі — драпчаста, а тая глатка. Якую брацімям?*

ЖА′ПКІ *мн.*, ЖА′ПКА *ж.* Металічныя пласцінкі пад насок ці абцас абутку. *Наске натто хутко сьціраюцца, трэба жапкі падбіць.*

ЖЫВІ′НА *ж.* 1. Жывая істота, жывёла. *Бачыш, і жывіна холаду байіцца, дрыжыць уся.* 2. *зборн.* Жывёла. *Жывіны ўсялякае ні бракуя на сьвеці.*

ЗА′ВІТКІ *мн.* Зайздрасць. *Гаш завіткі бяруць, што ў цябе ў той хаці ўсяго много, а ў яе голо.*

ЗАКУБРАВА′ЦЬ *зак.* Моцна заткнуць (коркам). *Трэба закубраваць, каб заткало ні выпярло тоё піво, як падымяцца хадзіць у боццы.*

ЗАНУРТАВА′ЦЬ *зак.* 1. Нырнуць. *Добро плавая: зануртаваў і доўго пад вадою быў.* 2. *перан.* Упасці (галавою ў снег). *Аслап саўсім: ідзе-ідзе і зануртаваў, увесь у сьнезі схаваўсё.*

ЗАХЛЕ′БІЦЦА *зак.* Пакрыцца абалонкай хлеба (аб нажы). *Як сьвежы хлеп рэжаш, то нош раз-два захлебіцца і ні хоча рэзаць.*

ЗАШЧАРЭ'ПІЦЬ *зак.* Узяць многа ў прыгаршчы, жменю чаго-н. *Я думаў, ён шчопці возьмя, а той як зашчарэпіў, то ўсе гарэхі забраў.*

ЗБА'ВІЦЬ *зак.* Зрушыць з месца, падняць. *От цяшкі камянь: ледзьвя трайіх збавілі мы яго з месца. І на вос ні збавіш таго камяня.*

ЗБАМБАВА'ЦЬ *зак. экспр.* Спухнуць, напухнуць. *Рукі ні падняць, такая тоўста стала — усю збамбавало. Ногі як калатке — збамбавало.*

ЗБАРУКА'ЦЬ *зак. экспр.* Падняць, здужаць. *Гэту дзяравіну ледзьвя збарукалі на вос, такая цяшкая, а з выгляду тонка нека.*

ЗГАЛЕ'ЦЬ *зак. экспр.* Не хапіць, забракаваць. *Што табе часу згалело, што сьвятам шыяш?*

ЗДАРО'ВЫ *прым.* Халодны. *Здаровы ранак, мо дзе і марос быў уночы.*

ЗДА'ЦЦА *зак.* Ударыцца, стукнуцца. *Нага ў калені баліць, як здаўсё, падаючы з дзерава.*

ЗЛАДЗЕ'ЙІЦЬ *незак.* Лічыць, рабіць каго злодзеем. *Што ты міне зладзейіш? Я нігды ні ў кого і каплі ні крала.*

ЗМАЛЕ'НЬКАГО *прысл.* Змалку. *Ён і змаленькаго такі здыхляк, адно ўсё хварэя і хварэя, склоннае яму німашака.*

ЗЯЛЯНІ'ЦЬ *незак.* Зелянецца (аб раслінах). *Ужэ жыто пасходзіло, здалёк зяляніць. На грудзе высахла, а ў лахціні зяляніць трава.*

КАБЯ'ЛАК *м.* Скрутак. *Ні натто ваты тае дастаць было даўней. Некі кабялак дзеўчына прынясла з гораду, а ў сяле тагды ні было ні ў кого.*

КАПАВА'ЦЬ: ГАЛАВА' КАПУ'Я. Разумны, кеміць. *Гэто ні дурны чалавек, галава капуя на ўсё ў яго.*

КАРЧА'К *м.* Дужы, каржакаваты чалавек. *Ты яго ні пакоціш, гэтаго карчака. І бацько быў дужы, і сын карчак такі самы.*

КАСА'ЦЦА *незак.* Датычыць. *Плаціць трэба ўсім, гэто ўсіх касаяцца.*

КАЎЗО'ТА *ж.* Слізгота. *На дварэ такая каўзота, што шагу ні ступіць!*

КІПЯ'ЧЫ *прым.* Параны, гатаваны. *Сырого малака ні можа піць, усё кіпячо, бо жывот ні прымая. Гэта вада кіпяча, а тая сырая.*

КІШКА'Р *м. непахв.* Прагны, ненаедны чалавек, жы-

вёла. *Што ні дай — усё зьзесьць кішкар гэты, і ўсё мало яму.*

КІШКЕ′ *мн.* Мясістая сярэдзіна гарбуза, дзе знаходзяцца гарбузікі.

КІШКУ′Н *м.* Гл. *кішкар. Кішкуна гэтаго ні накорміш, вобжыр некі!*

КЛАДАВІ′ЦЦА *незак.* Збірацца. *Ужэ с самаго ранку кладавіцца на дошч, а дажджу так і німашака. Каторы месяц стайіць суша!*

КЛЮ′КА *ж. непахв.* Нос. *Чаго ты клюку зьвесіў да цэлы дзень над гэтымі кнішкамі марнеяш? Вытры сваю клюку, нігаджай!*

КЛЮКА′Ч *м.* Насач. *Гунь якого клюкача ў цяляві-зары паказалі: нос с кулак і доўгі такі, як у бусла дзюп.*

КО′МЧЫЦЬ *незак.* Камячыць (пра адзенне). *Злажы добро адзежу, а не ты комчыш яе, бо прасаваць табе ні буду я ўзаўтрыка.*

КО′НАЎКА *ж. непахв.* Рот. *Маўчы ўжэ, конаўку напхаўшы блінцом!*

КО′РПАЦЦА *незак.* Камячыцца, мяцца, каробіцца. *Ні павесіў, кінуў абы-як, то дзе яно ні будзя корпацца, тоё пальто. Трэба прасаваць хустку, бо корпаяцца, як пад дошч папала.*

КРАПАЦЕ′ЦЬ *незак.* Крапаць. *Ужэ дошч крапаціць, трэба с сенам уцякаць хучэй у гумно ці пад дзераво якоё.*

КРАСНАЛЮ′ДАК *м.* Гном. *Расказваў пра тых краснаюткаў хлопцу, як малыя чалавечкі бегаюць.*

КРАТО′ВІНА *ж.* 1. Куча наточанай кротам зямлі. 2. Нара, вырытая кротам. *Уся вада ў кратовіну пашла, хутко крот аттуль выбяжыць.*

КРЫВЯНДО′С *м. экспр.* Крывуля. *Нат сталюгі ні возьмуць, ні паложыш на йіх крывяндоса гэтаго, трэба рэзаць на землі.*

КРЫВЯНДЗЯ′, КРЫВЯНДА′ *ж.* Калека, скрыўлены хваробай чалавек. *І малая, і крывяндзя, а хоча, кап харошаго кавалера мець! Кульгая на адну ногу крывянда гэта.*

КСЁ-КСЁ-КСЁ! *выкл.* Так падзываюць кароў.

КУЗЁ′-КУЗЁ′! *выкл.* Так падзываюць жарабят.

КУРНО′СЫ *прым.* Кірпаносы. *У аднае нос да губоў прырос, а другая курносая, уся роўно як ні аднаго бацька дзеці.*

КУРТА'Ч *м.* Куртаты сабака. *У таго Лыска хвост доўгі, а ў майго саўсім німашака — куртач некі.*

КУ'ТНІК *м.* Карэнны, «кутні» зуб. *У малого ўжэ ўсе зубы вырасьлі, адно кутнікаў німашака яшчэ. Кутнік німоцны зуп.*

КУХМА'РЫЦЬ *незак. экспр.* Кухарыць. *Я буду дзіця калыхаць, а хай яна сама кухмарыць, а то я ні патраплю так насмажыць тых картопяль.*

ЛАДАЎНІ'ЦА *ж.* Карытападобная частка сячкарні, куды кладуць салому.

ЛАМАНІ'ЦА *ж.* Стан арганізма, ламаніна. *Нека ламаніца, усё сьпіну ломіць, ні магу нагнуцца, ні то што рабіць што.*

ЛА'ПЛЯНЫ *дзеепрым.* Латаны. *Хоць і лапляны, але лепшы пінджак гэты за той, што як на кале вісіць.*

ЛІ'НУЦЬ *зак.* Нечакана знікнуць, збегчы. *Толькі што быў і ўжэ німа, недзя лінуў мой хлопяц.*

ЛО'БУС *м.* Вісус, абібок. *Ніц рабіць ні хоча лобус гэты, адно палежвая на тапчане, а есьці — то кап што найлепшо дала.*

ЛЫ'ГА *ж.* Віка. *На корм сеюць лыгу. Яна як гарох, адно горка.*

ЛЮ'ПЧЫКІ *мн.* Нагаворнае зелле. *Мусяць, люпчыкамі цябе прываражыла тая крыяндзя да сябе, што ты ні вылазіш ад яе?*

ЛЮСЬ *выкл.* Пра ліццё вады. *Як толькі атхілілася, яна люсь тую воду ў чарку і кажа, у яе поўна. От абманшчыца!*

ЛЮТАЕ'ЖЛІВЫ *прым.* Пераборлівы ў ядзе. *Ніяка гаспадыня яму ні дагодзіць, такі лютаежлівы хлопяц удаўсё, халернік гэты.*

ЛЯЖА'Й *м.* Гультай, лежань. *Адно на печы качаяцца ляжай гэты, а рабіць нічагутко ні хоча.*

МАЗГАВЕ'ШКА *ж. памянш.* Мазгаўня. *Твая мазгавешка ні варыць, рас ні можаш задачкі рашыць такойі лёхкае.*

МАЛАДЗЯ'ЧЫНА *ж.* Маладое мяса. *Маладзячыны захацеў, старойі каровы рэзаць ні хоча на мясо, а цялушкі шкадуя.*

МАНА' *ж.* Пах, прынада. *Пчолы добро чуюць за вярсту, дзе канюшына расьце, бо яна ману мая.*

МАРГАЛЕ' *мн.* Мітусенне, «зоркі» ў вачах. *Іду-іду, і ўжэ нічого ні бачу, адно маргале ў вачох моргаюць.*

МАРКІТА'ЦЬ *незак.* Быць у стане палавой цечкі (пра авечак, коз).

МАРЦАВА'ЦЬ *незак.* Быць у стане палавой цечкі (пра кошак, трусоў).

МЛІН *м.* Млын. *Як даўней, то жыто малолі ў мліне ці на жорнах дома.*

МЛЮ'ГА *м.* Млявы, слабы чалавек. *Такі ўжэ млюга: ідзе-ідзе і падая, як стары ўся роўно, нямоглік гэты.*

МО'ЧА *ж.* Дажджлівае надвор'е, макрэча. *Хоць ты с хаты ні вылась, моча такая: лье і лье дошч.*

МЫТО'К *м.* Мыйшчык. *Які сь цябе мыток, рас ты вады байісься!*

МЯКЕ'КА *м., ж.* Мяла, цяльпук. *Каб з рухам чалавек, то зрабіў бы, а мякека гэты на цэлу зіму зацягня, палежваючы на печы.*

МЯ'СО *н.* Мякаць гарбуза. *Як разрэжам гарбус, то кішке выкідаям, а мясо вырэзваям і варымо с крупамі альбо з мукою.*

НАБЫВА'ЦЬ *незак.*, НАБЫ'ЦЬ *зак.* Павялічвацца ў памеры, напаўняцца, разбухаць, набрыняць. *Як папаходзіш цэлы дзень, так ногі набываюць, як калатке робяцца. Вумянё набыло як мая быць у цялушкі. Хутко распусьціцца дзерава — ужэ пупяхі набылі.*

НА'ВАЛАЧКА *м., ж.* Валацуга, бадзяга. *Цэлы дзень валачыўсё недзя стары гэты. Хіба ўпіднуяш навалачку гэтаго.*

НАВЯСЬНЕ' *прысл.* У пачатку вясны. *Навясьне ўжэ цяплей, хоць сьнех і ляжыць. Згарэм сваё навясьне, ні канешня ўвосянь гараць.*

НАДА'ЎЧЫ *прым.* Перадатачны. *У парцізанаў і надаўча станцыя была, маглі пярадаваць сваё што, ні адно слухаць каго.*

НАЗА'ЎША *прысл.* Назаўсёды. *Я аддаю табе назаўша гэту забаўку.*

НАЕ'ТЫ *прым.* Той, хто наеўся, сыты. *Наеты галоднаму ні таварыш. Яды ні бракуя: і адзін ні галодны, і другі наеты.*

НАПЕ'ШО *прысл.* Пехатой, пеша. *Дзе ты напешо старому пойдзяш? Трэба ехаць, бо ногі баляць, ніду́жы стаў.*

НАПРО'ВЯСЬНІ *прысл.* Напрадвесні. *Зіма адно пачалася, а сьнех зьлес, як напровясьні. Напровясьні ўжэ мала трэба паліць: цяпло на дварэ.*

НАПЯРЭ′СЬПЯХІ *прысл.* Навыперадкі. *Як памагаць трэба было, то ледзьвя дапрасілася, а як сабе — напярэсьпяхі бягуць. От людзі!*

НАПЯРЭ′СЬЦІГІ *прысл.* Наперарэз. *Хацеў уцякчы, так напярэсьцігі выбяглі двайіх і паймалі таго дурня малого, ні ўцёк нікуды.*

НАСТАЦЁ′ *н.* Пачатак, нараджэнне маладзіка. *Сёніка настацё, а ўзаўтрыка ўжэ маладзік відзён будзя.*

НАТРУСІ′ЦЬ *зак.* Нацерушыць. *У кубак нечаго натрусіў, плавая на дне. Сена натрусіў, зачапіўшы за дзераво возам.*

НАШЧО′Т *прыназ.* Наконт. *Усё хацеў пагаварыць с тваею швагеркаю нашчот дзеўчыны, каб за кухарку стала ў нас рабіць.*

НАЧВА′Ч *м.* Пузан. *За свайім трыбухом зямлі ні бачыць начвач гэты!*

НАЦЯ′ГІЧ *м.* Пруток для нацягвання, замацавання палатна ў кроснах.

НЕ′РВЯННЫ, НЭ′РВЯННЫ *прым.* Хворы на нервы, нервовы. *З йім лепяй ні займайся — нервянны такі, што забіць можа, як раз'юшыцца.*

НУДЗЬБА′ *ж.* Нудота. *Адна нудзьба на гэтум хутары жыць было тагды.*

ПААСЯНЕ′ЦЬ *зак.* Пахаладаць (пры наступленні восені). *Натто гарачо цяперака, хай паасянея, тагды паршука заколям, бо летам змарнуяцца, прытухня мясо. Ужэ трохо паасянело, ні гэдык пячэ сонцо.*

ПАВЯСЬНЕ′ЦЬ *зак.* Стаць на вясну, пацяплець. *Гэто было ў марцы месяцы, як павясьнело, марос ні такі быў ужэ на дварэ.*

ПАДВА′ЖНІК *м.* Кол для падважвання. *Камянь бяс падважніка ні вывярняш с тае ямы ніяк. Хай падважніка нясе, то хутко вывярням той камель.*

ПАЗАБО′КУ *прысл.* Збоку, праз бок. *Бочка цячэ пазабоку.*

ПАЗНАТА′ *ж.* Позні час. *Дзе я ўжэ паеду дахаты, пазната такая!*

ПАЗЯХА′ЧКА *ж.* Пазяханне. *Здэцца, і спаў многа, а пазяхачка напала, ні магу рота самкнуць, пазяхаю.*

ПАКАЎНЫ′ *прым.* Змяшчальны. *Пакаўны твой чамайдан: усё ўлезло.*

ПАКУПНЫ′ *прым.* Хадавы, ходкі. *Сёніка мёт — пакупны тавар, адно давай.*

ПАЛЕ'ГЛІЦА *ж.* Палеглая збажына. *Палегліцу цяшко жаць і рукамі, ні то што канбайнам тым.*

ПАЛО'ХАЛО *н.* Пудзіла. *Натто ўпадаюць пташке ў каноплі, трэба палохало якоё паставіць, каб баяліся.*

ПАЛЯНЫ' *прым.* Палявы. *Тут і на полі пры лесі грыбэ растуць, паляными йіх называюць у нас.*

ПАЛЯЎНІ'К *м.* Паляўнічы. *Паляўніке тут усё зайцоў тых стралялі.*

ПА'МЯТКІ *прым.* Памятлівы. *Усё помніць: калі дзе што было — памяткі!*

ПА'МЯТНІК *м.* Помнік. *Умёр даўно Сідар, а памятніка яшчэ ні паставілі. На памятнік усё цымант той хаваў сабе.*

ПАМЯТУ'ШЧЫ *прым.* Памятлівы. *І стары, а памятушчы такі: усё ведая, калі што дзе было, ні забыўсё.*

ПАНЯ'ТЛІВЫ *прым.* Кемлівы. *Яму много гаварыць ні трэба: хутко разьбярэцца — панятлівы натто хлопяц.*

ПАПАДВО'КНІЧУ *прысл.* Пад вокнамі. *Як вяселё было, то людзей тых цьма была пападвокнічу, усё паглядалі на маладых, на йіх падарункі.*

ПАЎЗЬБІ'РВАЦЬ *зак.* Пасабіраць, пазбіраць, вырваць усё. *У гэтум лесі нічого німа, усё паўзьбірвалі свае сь сяла, трэба ехаць даляй у лес.*

ПЕ'РАТ *прыназ.* У параўнанні з. *Перат леташнім цяперака мельш аўса.*

ПЕ'СТА *м., ж.* Пястун, пястуха. *Такому ні дагодзіш — песта. І яна гэдыка сама песта.*

ПІ'ПАЦЬ *м.* Носік у пасудзіне. *Збанок сь піпцям, а ладышка бяз яго.*

ПІСКЛЯ' *м., ж.* Піскун, піскуха. *І Лёнік гэты пісуля, і Наташа.*

ПІТУ'Н *м. непахв.* Піток. *От пітунэ! Бутэлькі гарэлкі ні выпілі за вечар. Слабы сь цябе пітун: цэла чарка, нізачэпана стайіць.*

ПРАРАКАВА'ЦЬ *незак.* Прадказваць, прараканць. *Ні буду я прараковаць, але яно гэдык і будзя.*

ПРЫШЧА'ЙКА *ж.* Прышч. *Нека прышчайка села на шчаццэ — і баліць, ні даткнуцца. Да дохтара хадзіла на апарацу — прышчайку выразаў: нарвала.*

ПЭ'ТЛАХІ: ЗГАРЭЦЬ С ПЭТЛАХАМІ. Згарэць датла.

ПЯРАЦЬВІТА'ЦЬ *незак.* Адцвітаць. *Ужэ цьвет ападая, пярацьвітаюць яблыні.*

*Т. М. Трухан*

## З ДЫЯЛЕКТНАЙ ЛЕКСІКІ РОДНАЙ ВЁСКІ

Прыведзеныя словы запісаны ў в. Замошша Любанскага раёна. Гаворка вёскі тыповая для цэнтральнага дыялекту. Для яе характэрны наступныя асаблівасці: ацвярдзенне мяккіх губных перад *а, о* з выдзяленнем *j (мjод, пjаць, мjаць)*, захаванне спалучэння зычнага з суфіксальным *j* у назоўніках *(карэнjэ, насенjэ, сьвінjа)*, наяўнасць канчатка *-а* ў назоўным склоне множнага ліку ніякага роду *(вокна, вёдра, цялята)*, саканне *(сабраласа, забыласа, узяласа)*, захаванне канцавога *-о* не пад націскам *(много, холадно, сало, жыто)*.

АБАБЭ'НЧЫЦЬ *зак.* Абабраць. *Прыедуць дзеці з горада, абабэнчаць мацяру і назад паехалі.*

АТШНЫ'РЫЦЬ *зак.* Адкінуць. *Атшныр гэтаго ката, чаго ён лазіць пад нагамі.*

БАРСА'ЦЬ *незак.* Дрэнна вышываць. *Як узяласа, то ня барсай абы-чаго.*

БЕРАЖЫ'ЦЦА *незак.* Сцерагчыся. *Беражыса, сынок, а то ўпадзеш.*

БЗЫ'КАЦЬ *незак.* Дражніць. *Ня бзыкай каровы, а то здрачыцца будуць.*

БЛІНЦО'ЎКА *ж.* Дзежка, у якой рашчыняюць цеста на бліны. *Пастаў блінцоўку на печ, хай цеста падойдзе.*

БЛІ'НЧЫК *м.*, часцей *мн. блінчыкі.* Кісліца. *Пасучы каровы, мы папаелі блінчыкаў.*

БУРКУ'Н *м.* Бурклівы чалавек. *І што гэты буркун буркуе цэлы вечар.*

БЯЗЬЛЮ'ДНЫ *прым.* Нелюдзімы. *К бязьлюднаму чалавеку няхто ня ходзіць.*

БЯРАЗА'К *м.* Бярозавыя дровы. *Бяразак добрэ на зіму, вельмі ж гарыць зырко.*

ГО'ВЯДО *н.* Карова. *Пайду дамой, трэба маё говядо карміць.*

ДЗЯВО'СТВО *н. зборн.* 1. Шмат дзяўчат. *У нашым канцы ні аднаго хлопца няма, адно дзявоство.* 2. Маладыя гады дзяўчыны. *У цяжкіх умовах прашло Ганніна дзявоство бяз бацька.*

ДО'ЙЛО *н.* Вымя. *Ну і дойло сёдне вялікае ў Лявонавых каровы, цэлых дзьве вядры малака будзе.*

ДРАНЧЫ'ЦЬ *незак.* Трымцець. *Што-то сёдне мая нага цэлы дзень дранчыць, мабыць, пагода ізьменіцца.*

ДУ'БАР *м.* Холад. *Дубар на дварэ, носа няможно высунуць.*

ДЫ'РДА *ж.* Бамбіза. *Ну і дырда, і ў каго яна толькі ўдаласа, бацько і маці малыя, а яна, як дубіна вымахала.*

ЖУКО'ВІНА *ж.* Пярсцёнак з каменем. *Купі ў горадзе добрую жуковіну, там іх багато.*

ЖУХАЦЕ'ЦЬ *незак.* Зырка гарэць. *Ну і смалякі добрыя, жухацяць у печы, аж іскры ляцяць.*

ЗАВІ'ДНЫ *прым.* Зайздросны. *Завіднаго чалавека ніколі ня здаволіш.*

ЗА'ПЯЧАК *м.* Памост каля печы, палок. *Я сёдне ня мыўса, мне і ў запячку добрэ.*

ЗАСЛО'Н *м.* Услон. *Пастаў заслон пад ногі, а то ляжаць няўдобно.*

ЗВО'ДЫ *мн.* Плёткі. *Наробіць баба зводаў і ўсягда ў старане.*

ІЛЬНЯ'НІШЧЭ *н.* Месца, дзе рос лён. *На ільняні́шчы трэба лён слаць, а ня вязьці ў белы сьвет.*

КАБА'Т *м.* Рознае адзенне. *Павынось гэтыя кабаты ў сенцы, а то ўся вешалка забіта.*

КАРО'ЎНІК *м.* Збан. *Ужо карова ацяліласа, трэба кароўнікі з гары даставаць.*

КАТУ'Х *м.* Сабачая будка. *Пашоў у катух, чаго ты* [сабака] *стаіш каля дзьвярэй.*

КЕ'ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Што гэта за кот, цэлы дзень кеўкае.*

КО'ДЛО *н.* Адзін род. *Гэтыя прахадзімцы ўсе з аднаго кодла.*

КУБ'Ё'ЛАК *м.* Кубелец. *Поўны куб'ёлак сёлета м'яса налажылі.*

КУЛІ'ДКА *ж.* Баханка хлеба. *Я дам грошы, купі і мне кулідку хлеба.*

КУМЕ'ШКАЦЦА *незак.* Павольна рабіць. *Колькі ты будзеш кумешкацца над гэтаю работай.*

МЕ′ШКАЦЦА *незак.* Марудзіць. *Пара на работу ісьці, а яна ўсе мешкаяцца.*

НАБАМБЕ′РЫЦЬ *зак.* Насыпаць. *Набамберыла сёдне пятнаццаць мяшкоў картопель.*

НАЖА′РЫЦЬ *зак.* Напаліць. *Ну і нажарыла печ, сядзець н准можно.*

НАЗЫ′РЫЦЬ *зак.* Напаліць. *Добрэ назыр печ, трэба хлеб ставіць у хвормах.*

НАСТРАМЯШЫ′ЦЬ *зак.* Падняць. *Настрамяшылі хвасты каровы, скорэ даганяць будзеш.*

НЕ′РАДЗЬ *ж.* Неўраджай. *Вельмі ж сонцэ пячэ, адна нерадзь будзе.*

ПАБУ′ЦЯЦЬ *зак.* Псавацца ад працяглага захоўвання. *У шкафу ўвесь мацяр'ял пабуцяе лежачы, трэба прасушваць яго кожны месяц.*

ПА′ПІК *м.* Тата. *Зазлавалася я на папіка і дамой начаваць ня пайду, хай шукае.*

ПАСЬЦЕ′ЛЬ *ж.* Палукашак. *Добрэ і жонцы езьдзіць, калі харошая пасьцель.*

ПАХАЦЕ′ЦЬ *незак.* Вельмі пахнуць. *Жасьмін пахаціць, аж дурно.*

ПЕ′ЎНЕ *прысл.* Напэўна. *Вот узяўся за работу, пеўне ўсю захацеў зрабіць.*

ПО′ПЛАЎ *м.* Месца, дзе расце сівец. *Сёдне карова дала мало малака, цэлы дзень на поплаве хадзіла.*

ПРАНЦАВА′ТЫ *прым.* Непаслухмяны. *Вот дзеці пранцаватыя, саўсім ня слухаюцца.*

ПТА′СТВО *зборн.* 1. Птушкі, птаства. 2. Дамашнія птушкі. *Пакуль пакармлю сваё птаство, дак і абед на дварэ.*

ПЯРЭ′СЬЦІЦЬ *незак.* Біць, лупцаваць. *Хваціць пярэсьціць дзіця, яно і так зялёнэ.*

РАСІ′ЦЦА *незак.* Есці што-н. *Я яшчэ сёдне ня расілаcа.*

РАСТЫ′РКАЦЬ *зак.* Раздаць, растраціць. *Ну і хазяйка з цябе, дзесяць дней прайшло посьле палучкі, а яна ўсе грошы растыркала.*

СЕ′НІШЧЭ *н.* Сенцы. *Ну і сенішчэ выстраіў, як абора.*

СКАВА′ЦЬ *незак.* Цкаваць, цвяліць. *Ня скуйце сабаку, дзеці, ён вельмі кусаецца.*

СТАЎПЕ′Ц *м.* Брусок у граблях, у які насаджваюцца зубцы. *У стаўпец зубы ўстаў, да ідзі грабці сено.*

СЯМЕ'ЙСТВО *н.* Вялікая сям'я. *Ці райня мая сям'я твайму сямейству. У цябе цэлых сямнаццаць душ.*

ТРУХЦЕ'ЦЬ *незак.* Трашчаць. *Цэлу ноч чыльчакі ў сьценах трухцяць, нямо<br>жно выспацца.*

ТУ'ХЛІЦЬ *незак.* Трымаць у закрытым памяшканні. *Мішу ў хаце ўсе ўрэм'е тухлілі.*

УВЯРАДЗІ'ЦЦА *зак.* Стаміцца. *Прынёс дзьве вядры вады, дак ужэ ўвярадзіўса.*

УТАРО'ПІЦЦА *зак.* Угледзецца. *Што ты ўтаропіўса ў адно место.*

УТРУБІ'ЦЬ *зак.* Залішне з'есці. *Вот трубач, цэлыя тры булкі ўтрубіў.*

УШУ'ШКВАЦЦА *незак.* Ухутвацца. *Ушушквайса добрэ, Коля, а то на дварэ дубар.*

ХА'ТНІШЧЭ *н.* Месца, дзе стаяла хата. *На хатнішчы ня расце нічого.*

ЦЯЦЕ'РЫЦЦА *незак.* Церабіцца. *Цэлы дзень куры цяцерацца, пеўне дождж будзе.*

ЧАГА'Н *м.* Чыгун. *Адные чаганы надаесь цягаць.*

ЧАРАП'Ё' *н.* Разбітая пасуда. *Збяры гэта чарап'ё да занясі за вуліцу.*

ЧАРАПО'К *м.* Кашачая пасудзіна. *Трэба наліць кату малака ў чарапок.*

ЧЫЛЬЧА'К *м.* Шашаль. *Трэба чыльчакі павыкалупваць, а то ўсе бярвенні паядзяць.*

ШАМЛЯ'К *м.* 1. Мяккі качан капусты. *На дно лажы цьвёрдыя качаны, а наверх шамлякі.* 2. *перан.* Слабы, тоўсты, хворы чалавек. *І скольκі пажыць засталосо гэтаму шамляку, ён чуць ходзіць.*

ШЧАБО'ЎКНУЦЦА *зак.* Плюхнуцца. *Шчабоўкаюцца дзеці ў ваду, адные п'яты тарчаць.*

*І. П. Чыгрын*

## З ЛЕКСІКІ НАШАЙ ВЁСКІ

Прыведзеныя словы зафіксаваны ў в. Чамяры Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці.

АНІГА'ДКІ *прысл.* Хоць бы што. *Я прашу яго, я малю яго, а ён анігадкі, як ні да яго ўся роўно.*

АПЕ'РКА *ж.* Дошка, жэрдка, што кладуць на ніз воза, саней. *Папраў аперкі на возі, гной будзям вазіць, перасохлы, каб ні выпадаў хаця.*

АПО'ЛЯЦ *м.* Кавалак сала, як яно кладзецца ў кубелец для засолкі. *Аполяц сала прадала, кілаграмы са тры. Цэлы аполяц сала з'елі мае хлопцы — от прагаладаліся.*

АПО'РАК *м.* Нязграбны абутак, найчасцей з драўлянай падэшвай. *Такая халадэча, а ён босы — купіў бы хоць апоркі якія, калі грошай на лепшае німа.*

АРШЭ'НЯЦ *м.* Зелле, якім можна атруціцца; атрута. *Аршэнцу ты яму дала б ні сала, прыяцелю такому. Каб ты аршэнцу наеўся* (праклён).

АСТРА'МАК *м.* Невялікі воз сена, саломы. *І чым мы перазімуям тую карову — усяго два астрамкі сена прывязлі.*

АЦЯПА'ЦЬ *незак.* Есці са смакам. *О, прагаладаўся, о, ацяпая капусту з хлебам.*

АШАМЁТАК *м.* Што-н. зручнае, каб узяць ды ўдарыць, найчасцей кавалак дрэва. *Здаецца, хапіла б ашамётак які ды гахнула па чом папало, каб адвязаўся — так абрыд, так абрыд.*

АШАПУ'ЛІЦЬ *зак.* Ударыць, стукнуць; ашаламіць. *Яна такая баба, што трымая ў руках, тым і ашапуліць можа. Ашапуліў ён мяне тады пытаням сваім.*

АШЛЕГАВА'ЦЬ *зак.* Знайсці, выведаць, агледзець. *Ашлегавалі парасята дзірку ў плоці, то і лазяць от. Ашлегавала карова купіну ядкое травы, ні адагнаць. А што*

*ім, хлопцам, ашлегавалі харошых дзяўчат у суседняй вёсцы, то і бегаюць сабе.*

АШЫВА'ЦЬ *незак.* Біць, караць. *Яго маці кажны дзень ашывая, а ён і вухам ні вядзе, робіць, што яму хочацца.*

БАРЭ'ЛКО, БАРЭ'ЛАЧКО *н.* Невялікая бочачка. *Барэлкам (барэлачкам), бывало, ваду на полё бралі, віно ў горадзі куплялі.*

БЕЛЯХЦЕ'ЦЬ *незак.* Бялецца, бялець. *Што гэто там беляхціць — мусіць, плацё суседка развесіла сушыць ці што?*

БО'ЛБАТ, БО'ЛБАЦЕНЬ *м.* Балбатун, пустамеля. *От слухай ты гэтаго болбата, ён табе намеля.*

БРУЗГЕ'ЛЬ: ЯК БРУЗГЕ'ЛЬ. Адна ў адну, буйныя, сакавітыя (пра ягады). *Столькі чорных ягадаў у гэтум годзі ў лесі і ўсе адна ў адну, як брузгель.* (Старыя людзі сведчаць, што ёсць дрэва брузгель, на якім растуць ягады, вядомыя пад той жа назвай. *Дрэво брузгель расце ў мокрум месці, ні тоўстаё, ягады з яго ні ядуць.)*

БРЭ'НГАЦЬ, БРЭ'НКАЦЬ *незак.* Ляпаць, стукаць. *Хто там брэнгая вядром. Ні брэнкай, сынку, клямкай.*

БУНАВА'ЦЬ *незак.* Шалець, буяніць. *Ты доўго будзяш бунаваць тут, гіцаль? Ніякай рады няма з гэтым чалавекам — нап'ецца ды бунуя на вуліцы.*

БУРВЭ'ЛАК *м.* Здаравяка. *Бурвэлак такі расце, кроў з малаком, заглядзенё адно.*

БУ'ТЛЯЦЬ *незак.* Прэць, гніць (пра дрэва і інш.). *Ніхто ў той хаці ні жыве, стаіць, бутляя сярод поля. Навазілі дзерава, ляжыць от, бутляя, рукі ні даходзяць у дзело пусціць.*

БУХІ'КАЦЬ *незак.* Моцна, надрыўна кашляць. *Прастудзіўся недзя, то цэлу ноч бухікаў, як у бубян біў.*

БЫ'ЛЯ *часц.* Абы. *Хаўрусуя быля з кім. Быля-што адзеня ды ходзіць, як ганучнік які.*

ВАРАЖЫ'ЦЦА *незак.* Саромецца; абыходзіць. *Ён мяне варажыцца, ні курыць пры мне. Дзе яна такая будзя варажыцца мяне — ні званя ні паважая.*

ВАШАВА'ЦЬ *незак.* Цяжка працаваць, надрывацца. *Ён цэлы дзень мяшкі са збожам з машыны ў амбар вашаваў — хай паесць спакойно. Нашто табе так вашаваць кажны дзень, колькі таго жыцця?*

ВО'ЦЕЛЯХ *м.* Дух, прах; успамін. *К таму часу яго і воцеляху ні астанецца.*

ВЫ′ХІЛКІ *мн.* Манера паводзін; крыўлянне. *А выхілкі якія — уся ў матухну: і галаву нат трымая гэдак. Кінь ты свае выхілкі, за розум вазьміся.*

ВЫ′ЦЯЦЬ *зак.* Высечы, вырубіць, вынішчыць. *Весь лес выцялі, адны пні засталіся. І трэба ж такую дзялянку лесу за пару дзён выцяць.*

ВЫ′ШМЫГАЦЬ *зак.* Вышастаць. *Вецяр гэдакі на дварэ, хату начысто вышмыгало: ні ўсядзець, так халадно.*

ВЭ′ТНУЦЬ *прысл.* Абсалютна, зусім. *Вэтнуць розуму ў чалавека німа — гэто ж так па руцэ ўдарыць. Вэтнуць ні ў чом ні разбіраяцца.*

ВЯЗЫ′ *мн.* Шыя, карак. *Е ў цябе галава на вязах? Як дам па вязах — духу ні ўкажаш.*

ГАЛАДАМЕ′Р *м.* Абжора; галота. *Галадамераў мо з дваццаці сёлаў панаходзіло, дзе ты ім наўмеяшся ўсяго. Гля, у мяне самого галадамераў поўная хата.*

ГАРМУ′ШКА *ж.* Цура. *Гармушку раней часта рабілі, бо вельмі есці ні было чаго.*

ГЕ′ГНУЦЬ *зак.* Сканаць, памерці. *Можа гегнуў дзе — што ты яго ўспамінаяш? Гегнуць пад кустом — ні штука, выжыць — во штука.*

ГЛЯЙЧА′К *м.* Ватэрпас, якім нахіл паверхні вызначаўся пры дапамозе адвеса.

ГО′РШКІ-БА′БЫ *прысл.* Спосаб насіць дзяцей на плячах. *Ідзі, сынку, да мяне, ні плач, я цябе дахаты горшкі-бабы занясу.*

ГЫН, ГЫ′НДЗЯКА, ГЫ′НДЗЯ *прысл.* Вунь, там. *Скупеча ты! Гын у агародзі колькі хочаш трускавак, а ён шкадуя аднае.*

ЗАБУЛЯ′ЦЦА *незак.* Забаўляцца, займацца глупствам. *Як маленькія, з коцікам забуляюцца. Няма тут калі з табою забуляцца, трэба ісці грады палоць.*

ЗАГАНУ′ЦЬ *зак.* Захацець надзвычай. *Нешта загануласё ў горад схадзіць. Маці гэдак загануна, каб альшынку тую ссёк.*

ЗАКІЛДЫ′ШЫЦЬ *зак.* Замучыць з радасці, заціскаць. *Я цябе закілдышу, як паймаю: гэдакі ты мяккенькі, пухлянькі, харошанькі.*

ЗА′ЛАП *прысл.* За чубы, за косы. *Схапілі адзін аднаго залап дый танцуюць сярод вуліцы, героі такія. Бабы, бывала, як пабяруцца каля калодзежа залап — піску, крэчу.*

ЗАМУ'РДЗІЦЬ НОС. Пакрыўдзіцца, зрабіць выгляд пакрыўджанага. *Замурдзіць нос — ні патступіся.*

ЗАПРАТУШЫ'ЦЬ *зак.* Засмуродзіць. *Запратушыла ўсю хату, хоць уцякай куды: чым ты гэто?*

ЗІ'КАЦЬ *незак.* Груба пакрыкваць на каго-н., гыркаць. *Слова ад яго ласкаваго ні пачуяш, зікая толькі цэлы дзень ды зікая, вызвяраяцца ды вызвяраяцца.*

ЗНЯБЫ'ЦЦА *зак.* Засумаваць па дому, па сваіх. *Забірай ты яго, дачка, дахаты, а то так за тыдзянь знябыўся, што ні пазнаць хлопца — да мамы просіцца і хоць ты што.*

КАМЕ'ЧО *н.* Каменне. *Як ты будзяш касіць гэту канюшыну, уся дзялка камечам усыпана. Гэдкую горбу камеча сярод поля навалілі.*

КВА'ШАНІНА *ж.* Халадзец, студзень. *На стале ўсяго было ўдосталь — і сало сыроё, і сало печанаё, і каўбасы ўсялякія, і квашаніны некалькі місак, еш, хоць распеража.*

КВЯЛІ'ЦЬ *незак.* Злаваць, дражніць; цвяліць. *Ён жа дзіця малоё — нашто яго квяліць: плакаць жа будзя.*

КЛІ'НДЫ *мн. абразл.* Ногі. *Ледзьвя клінды цягну, гэдак стамілася. Ідзі ты скарэй, а то чуць клінды свае перастаўляяш.*

КНЫ'ПЯЛЬ *м.* Кіёчак для вязання кулёў. *Тато, пакажы, як ты кныпяль пат перавясло падсаджваяш, ні магу звязаць, нешто ні выходзіць у мяне.*

КО'КАШЫ *мн. іран.* Ногі. *Задраў кокашы на ложку ды спіць як дзень божы. Каб ты кокашы задраў* (праклён).

КУРА'ВЫ *прым.* Збуцвелы на пыл. *Нашто вы куплялі гэтаё сено, яно ж кураваё — ся роўна карова есці ні будзя. Яна нам нарэзала кураваго кумпяка.*

ЛАЦЬВЕ'Й *прысл.* Лепш. *Ты лацьвей зробіш за яго. Ён лацьвей ведая за мяне.*

ЛЕ'МНІЦА *ж.* Нешта доўгае, гнуткае, важкае, чым можна ўдарыць (галіна і інш.). *Хэ! Яна знайдзе на яго ўправу — як вазьме якую лемціну, як станя ашываць.*

ЛЕ'ШЧАТКІ *мн.* Заціскачка з тычкі, кія. *Учора тато вужа з ямы лешчаткамі выцягнуў. Кату хвост у лешчаткі як заціснулі, от пішчаў, нябось, больш ні будзя злізваць смятану.*

ЛЫ'СЦЯГІ *мн.* Сцёгны. *Ходзяць такія адкормляныя, лысцягі павыстаўляюць — о, гэто дзеўкі.*

ЛЯМЦЕ'ЦЬ *незак.* Ісці трушком, бегчы. *Бач, як палямцеў, дзе ты яго дагоніш цяпер.*

ЛЯ'ХА *ж.* Рэха. *Як крыкнуў, аж ляха па лесі пакацілася.*

МА'ЗІЦЦА *незак.* Румзаць. *Яна любіць мазіцца. Такая дзяўчына вялікая, а як дзень божы мазіцца ды мазіцца.*

МАЗЮ'КА, МА'ЗЯ *ж.* Плакса, размазня. *Куды я буду браць гэдыкую мазюку — хныкая ды хныкая. Яна вечно плача, мазя гэтая.*

МАНТЫЛЯ'ЦЦА *незак.* Матляцца, целяпацца; бегаць. *Мантыляецца ў чалавека нага, як без касці ўся роўно. Мантыляецца цалюткі дзень з хаты ў хату.*

МАРМУ'ЛАК *м.* Брусок вастрыць брытву. *Ну й брытва тупая! Дзе мармулак твой, дай я пагастру.*

МЕРГАВА'ЦЬ *незак.* Прымерваць, падганяць; разважаць. *Як ні мяргую, а ўсё ні так, ні лезя, ні падходзіць вакно да шуфляды, велікаватаё і косаё некаё, мусіць, ні адгэтуль, абмылка, відаць. Сядзь, пасядзім, памяргуям.*

МНІ'ХІ *мн.* Страва з падсалоджанага малака, накрышанай булкі (пшанічных каржоў). *Я помню, як маці мніхаў была раз нарабіла — от мы елі, от елі, за вушы ад міскі цяжко было адцягнуць.*

МЫ'ТАЛЯМ *прысл.* Што ёсць сілы, мігам. *Каб я быў маладым, я б туды мыталям даляцеў. Як толькі ўбачыла яго, мыталям паперла.*

НАБРЭ'НКНУЦЬ *зак.* Набрыняць. *Дзверы гындзя набрэнклі ад холаду, ні зачыняюцца, хоць крэчма крычы.*

НАГРА'НАЁ *прым.* Апладнёнае (пра яйцо). *Калі яйцо ні награнаё, то з яго курыца кураняці ні высядзіць.*

НАКАЗІ'РЫЦЬ *зак.* Развярадзіць, дапячы. *Каб жа яно дабраё, разомнаё жыцё тоё, а то жонка як наказірыць кажны дзень сэрцо.*

НАКАСТРЫ'ЧЫЦЬ *зак.* Накласці абы-як, многа. *От накастрычылі воз сена пад самаё небо, і як яго давязці дахаты. Як яны тых дроў наклалі — накастрычылі абы з рук.*

НАПІЦАВА'ЦЬ *зак.* Натаптаць, напхаць, набіць. *Такоё гўмно сена напіцавалі. Як падняць, кошык травы напіцавала.*

НАШАТЫ'РЫЦЦА *зак.* Ашчацініцца. *Свіню вунь як разгневалі — хіп нашатырыла, як дзік які стала. Нашатырыцца, як вожык, ні патступіцца да яго.*

НЕ'КО, НЕК *прысл.* Неяк, аднойчы. *Неко як захочацца да сваіх, ні магу вытрымаць, каб ні пайсці. Нек мы прывыклі да яго.*

НЕ'СМАЧ *ж.* Яда без смаку. *Які гэто хлеп — несмач, радняны некі. Хоць ты ні еш капусты той — несмач такая.*

НІВЕ'ЦЬ *прысл.* Невядома. *Ходзіць нівець дзе. Нівець які пан — пацярпіш.*

О'ЛЯ *часц.* Вось, глянь, бач. *Оля, які хітрун! Прыдзя, нагаворыць бочку арыштантаў ды пайдзе пасміхаючыся дадому.*

ПАВЭ'ДЗГАЦЬ *зак.* Паквэцаць. *Як яна тую падлогу памыла — павэдзгала толькі. Як яны пабеляны, сцены тыя,— павэдзганы, ні пабеляны.*

ПАГЛЯ'ДНЫ *прым.* Добры на выгляд, мае выгляд. *Конь паглядны, а як ён да работы, хто яго ведая. Наш Міхась хлопяц паглядны.*

ПАДА'ЦЦА *зак.* Здацца. *Мне падалосё, што ты нешто спытацца хочаш. Мало што табе можа падацца.*

ПАДГІБА'ЦЬ *зак.* Падмяць. *Схапіў гэто хлапчаня, падгібаў пад сябе ды душыць, бэйбус такі.*

ПАДЗВО'ДЖВАЦЦА *незак.* Цвяліцца, дражніцца. *Нашто ты з ім падзводжваяшся, як дзіця малоё. Падзводжвайся, падзводжвайся, пакуль з хаты ні выгналі.*

ПА'КАЛАТКА *ж.* Зяпа, рот. *Раззявіць сваю пакалатку і раве нівець чаго.*

ПАЛАЦЮХА' *ж.* Паўзучая расліна з дробнымі, амаль ігольчатымі лісточкамі. *Палацюха расце ўсюды — на полі, у агародзі, на лузі.*

ПАЛЕ'ЧО *н.* Дровы, паленне. *Куды ты кідаяш гэтаё палечо — паб'еш куранят.*

ПАНУДЗІ'ЦЬ *зак.* Паныць, паскардзіцца. *Ён майсцяр панудзіць на людзях — хлебам ні кармі, а дай паскрэндзіць, паскардзіцца.*

ПАПРЫ'ШЧЫЦЬ *зак.* Усыпаць прышчамі. *І дзе ты так прастудзіўся, усе губы папрышчыло. Язык папрышчыло ў хлопца.*

ПАРАЖЭ'ЛЯ *ж.* Парадзіха. *Раней усё дома радзілі. Пяршым частаваням быў квас з грыбамі, як ішлі адведаць паражэлю.*

ПАРШУ'К *м.* Кабан, парсюк. *Добры паршук, сало будзя, толькі каб догляд добры. Паршук пудоў на дванаццаць.*

ПАСЯДЗЕ'НЬКІ *мн.* Спосаб бавіць час у суседзяў. *Мой гаспадар тоё толькі і робіць, што ўсю зіму на пасядзенькі з хаты ў хату ходзіць.*

ПАЎГЛО'ВАК *м.* Прыдуркаваты чалавек. *Вырадзіўся паўгловак такі, нішто да яго ні даходзіць.*

ПАЎДУ'РАК *м.* Прыдуркаваты чалавек. *Пасабіраюцца тут усякія паўдуркі, толькі крэчу поўно, а толку ніякаго.*

ПЕРАХЛЯ'БІЦЦА *зак.* Прагаладацца, быць галодным (звычайна пра карову). *І дзе яны толькі пасвілі гэтаё быдло, каравэ такія перахлябляныя, такія перахлябляныя — галодныя дый годзі.*

ПЕШЧУГА' *ж.* Пяшчаная, камяністая глеба. *Якая там у нас была зямля? Пешчугі дзве дзесяцціны на сем душ, наешся з яе.*

ПЛЕ'НТУХ *м.* Балбатун. *От прыдзя плентух гэты — і празабуляя вечар цэлы.*

ПЛЕ'НЦІЦЬ *зак.* Гаварыць абы-што. *Гаворыць-гаворыць, пленціць-пленціць і ўсё абы-што, каб слово хаця адно талковаё.*

ПО'СПАЛЬ *прысл.* Падрад, запар, заўсёды. *Ён поспаль ездзіць у горад у нядзелю. Поспаль тры дні дома ні быў.*

ПРАЎЗА'К *м.* Нешырокая даўгаватая палоска сырамяці. *Як высвянчу праўзаком во гэтым — разумнейшым будзяш, нябось.*

ПРЫМАСТАКО'ЛІЦЦА *зак.* Прытуліцца, прымасціцца, прыляпіцца; прыгрэцца. *Ён заўсюды ў нас такі, прымастаколіцца каля дзеда і слухая. Калі-небудзь мо прымастаколюся каля цябе, на старасці.*

ПРЫМЕРГАВА'ЦЬ *зак.* Прыцэліцца. *Ха-ха! Ну і прымергаваў жа — у самую лысіну снежкаю дзядзьку ляснуў.*

ПРЫ'НДЗІЦЦА *незак.* Надрывацца (з крыку, піску і інш.). *Свіня вунь аж прындзяцца, так есці хочуць. І кот яшчэ гэты прындзіцца, і яму яшчэ нечаго ні хватая.*

ПРЫСТАКНУ'ЦЬ *зак.* Прыпыніцца на хвілінку. *Я, здэцца, толькі прыстакнула, а яны гындзяка ўжэ куды ад'ехаліся.*

ПУСТАМЛІ'Н *м.* Балбатун, пустамеля. *Пералівая з пустого ў парожняё пустамлін гэты.*

ПУЦАЛАВА'ТЫ *прым.* З адвіслымі шчокамі. *Некі твой хлопчык пуцалаваты лішнё, як надуты ся роўно.*

ПЯРЭ'КІДАМ *прысл.* Хутка, з усіх ног. *І пабег ён туды пярэкідам.*

РАБЭ'ЙЗА *м. абразл.* Васпаваты, рабы чалавек. *Ад гэтаго рабэйзы нідзе ні ўратуяшся — такі кепскі, такі кепскі.*

РАСКАЛЯСІ'ЦЦА *зак.* Разрасціся ў кроне. *Наша яблыня раскалясілася на весь агарод.*

РАСКЕ'ПА *м., ж.* Дурань, недарэка. *От узяла гэтаго раскепу сабе ў прымы, то сама цяпер і рабі ўсё. Звяжашся з раскепай якой — пазнаяш тады, што яно такое жыццё.*

РАСПУХНЕ'ЦЬ *зак.* Рассыцець, раздабрэць. *Распухнелі на мужычым хлебі. Распухнела твая нявестка, ні пазнаць.*

РАСШВЭ'ЛІЦЬ *зак.* Глыбока парэзаць. *Гэдак паляц расшвэліў, аж страх. Да касці ногу расшвэліў.*

СКАРАЛЮ'ШЧА *ж.* Лушпіна з яйца. *Выліўкі куры пачалі нясці — скаралюшча мяккая-мяккая, ледзьвя ліпіць.*

СКАЎГА'НІЦЬ *зак.* Абгаварыць. *Прыдзя, зганіць, скаўганіць і пойдзя сабе — от чалавек.*

СКВА'РЫЦЬ *незак.* Бязлітасна пячы (пра пагоду). *Ну і скварыць сёня — ратунку німа, пагарым да вечара на гэтум балоці, кап прамахнуў хоць дожджык які.*

СКРЭ'НДА *ж.* Жмінда. *Скрэнда ні баба, нічым ёй ні дагодзіш.*

СКРЭ'НДЗІЦЬ *незак.* Жміндзіць, ныць. *Скрэндзіць цалюткі дзень — хныкая ды хныкая.*

СМАЛЬНЯ'К *м.* Смаляк. *Сынок, нашчапай смальнякоў — німа чым у печы распаліць. Ну і корч смольны, ну і смальнякі будуць хвацкія.*

СО'ПУХА *ж.* Сажа, што асела ў коміне. *Чалавек чорны, як сопуха. Доля ў яго чорная, як сопуха.*

СПАЛАСАВА'ЦЬ *зак.* Спасвіць, утаптаць капытамі. *Нечыя каравэ ўсё нашо збожо спаласавалі — і аўёс, і ячмень, і жыто.*

СПА'СНЫ *прым.* Непераборлівы ў ядзе. *Спаснаё нашо цялятко, што ні дасі, усё есць. Спасны паршучок, есць усё падрад.*

СПАТА'КАЦЬ *зак.* Зрабіць сяк-так; агораць. *Спатакалі хатку во гэтую, хлявушок зрабілі, а пасля і кароўку купілі — ляхчэй жыць стало. Пальцяцо сякоё-такоё спатакаям, перазімуяш зіму.*

ТАХЦІ'ЦЬ *незак.* Даваць не надавацца, пхаць, як у

прорву. *Дачцы ўсё тахціць ні натохніцца. Ні дурная, тахціць абы-каму ні будзя.*

ТО'ЧКА *ж.* Гайня; зграя. *Цэлая точка сабак пабегла. Дзе ты той сад уберажэш: дзеці точкамі, як сабакі, бегаюць.*

ТРУХІНЯ'ЦЬ *незак.* Ісці подбегам. *Куды ты так трухіняяш на змяркані.*

ТРЭ'ЛІЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што, лухту вярзці. *От трэліць тут абы-што — ідзі дахаты.*

УДАВА'ЦЬ *незак.* Нагаворваць. *О, яна спрытная ўдаваць, спрытная абы-што на чалавека наплявузгаць.*

УЗБАМБЕ'РЫЦЦА *зак.* Узлезці, узбіцца. *Такі дзяцюк, а ён узбамберыцца на калені, трымай яго.*

УЗБУ'РЫЦЦА *зак.* Вельмі захацець, усхадзіцца, разбушавацца. *Мы ўзбурыліся былі тады хату новую ставіць. Пасля таго навальнага дажджу рэчка так узбурылася, так з берагоў выйшла, што агароды ажно затапіла напалавіну.*

УКРАМПАВА'ЦЬ *зак.* Замацаваць, уціснуць. *Так укрампавалі воз сена, што хоць сто вёрст вязі — ні разваліцца.*

УЛІГА'ЦЬ: НЕ СЦІХА'ЦЬ, НЕ ЎЛІГА'ЦЬ. Бясконца (працаваць, кашляць і інш.). *Працуя чалавек — ні сціхая, ні ўлігая. Кашляя — ні сціхая, ні ўлігая.*

УПРАВУ'НАК *м.* Штодзённыя клопаты па гаспадарцы. *Які ў яе там управунак — свінча ды курэй некалькі.*

УПРАЎЛЯ'ЦЦА *незак.* Уходжвацца па гаспадарцы. *А я ўправілася барджэй ды да вас от — гэто ж па цілівізары такая перадача будзя, кажуць.*

УСКУ'РАЦЬ *зак.* Паспець усюды, прыкласці рукі да ўсяго. *Дзе ты ўсюды ўскураяш. Ні магу ўскураць, каб усё зрабіць у пару.*

ФЭ'ФАР *м.* Сіла, моц. *Фэфару ў цябе яшчэ мало, кап ты гэты мех падняў. Фэфару не хапіла справіцца з гаспадаркай: малады, зялёны быў.*

ХВАРАВЕ'КА *м., ж.* Хваравіты чалавек. *Хваравека нейкая ўрадзілася, ні хлопяц.*

ХЛЯ'БА *ж.* Упадзіна ў каровы каля клуба. *Якая гэто карова—адны рэбры ды хлябы, дачакаяшся ты ад яе малака. У твайго каня хлябы, як у каровы.*

ХРАШЭ'ЛЬ *м.* Грузд. *Збыць вельмі много ў лесі сёня было грыбоў, храшлёў асабліво; каб было ва што — больш можно было набраць.*

ХРУШЭ′ЛЬ *м.* Майскі жук. *Вясна ў самуй сілі — хрушле так гудуць, здаецца, вербы падымаюць.*

ЦЕ′ПЕРСЯ *прысл.* Даўно, з даўняй пары. *Цяперся ён тут жыве. Цяперся яны пажаніліся.*

ЦО′ПНУЦЬ *зак.* Стукнуць нечакана, ударыць. *Вось табе і кот, вось табе і прыяцель мой, па вацэ лапай калі ні цопне.*

ЦЫНЦЫЛЯ′ЦЬ *зак.* Бадзяцца без справы, шлындаць. *Цынцыляя дзень пры дні нівець дзе. Цынцыляць з хаты ў хату ён масцяр — зайдзе, сядзя ды заглядая ў рот людзям.*

ЧАД *м.* Чмут. *Чад ты — ні чалавек, прыдзя ды пуская людзям у вочы дым.*

ЧАРАВА′ТАЯ *прым.* Цяжарная. *Расселася, як баба чараватая. Ні мужчына, а баба чараватая — усё яму ні так, усё яму ні гэдак.*

ЧВЭ′РА *м.* Жартаўнік, пацешнік. *Паклікаць таго чвэру трэба з сабою, а то нівесяло будзя без яго. Ну і чвэра, ну і чвэра, а каб яго — гэто ж бітых тры гадзіны за бокі браліся ўсе, так рагаталі.*

ЧВЭ′РЫЦЬ *незак.* Жартаваць, выдумляць абы-што, смяшыць. *Учора ў нас цэлы вечар прасмяяліся — гэдак хлопяц ваш чвэрыў, гэдак чвэрыў.*

ЧЫ′СТО *прысл.* Нібы, зусім як, як. *Чысто здурнеў чалавек, месца сабе ні знаходзіць. Чысто вар'ят які, бегая ад хаты да хаты.*

ЧЭ′НДА *ж.* Жмінда. *Чэнда некая — ні баба, жміндзіць і жміндзіць, усё ёй нешто нідалягая, нешто ні дастае, усё ні гэдак, усё ні так.*

ЧЭ′НДЗІЦЬ *незак.* Надакучваць гаворкамі, просьбамі, ныць. *Цэлы дзень чэндзіць ды чэндзіць, нудно ад тваё гаворкі.*

ЧЭ′РАН, ЧАРЭ′НЧЫК *м.* 1. Дзяржанне. *Чэран у вілах зламаўсё.* 2. Палачка. *Купіла чарэнчык каўбасы.*

ША′СНУЦЬ *зак.* Разануць; ударыць. *Дзіво што, па костцы так шаснуць, то і баліць так доўго. Людзі толькі з кустоў, а паліцыянты як шаснуць па іх — пабілі многіх.*

ШМЫ′ГАЦЦА *незак.* Хадзіць сюды-туды. *Чаго ты цэлы дзень шмыгаяшся то з хаты, то ў хату? Шмыгаюцца і шмыгаюцца — усё цяпло выпусцілі.*

ШУГА′ЦЬ *незак.* Гушкаць, калыхаць; паласкаць. *Каторую гадзіну я шугаю гэтаё дзіця? Шугала плацё на рэчцы.*

ШЧЫГУ'ЛЬНА *прысл.* Да стану, шчыльна. *Шчыгульна сядзіць касцюм, ты ж і хацеў такі, каб у абцяжку.*

ШЫКАВА'ЦЦА *незак.* Рыхтавацца. *Шыкуйся картоплі капаць, бо хто мне паможа. Шыкуюцца, гасцей чакаюць.*

ЯСЁ'НКА *ж.* Асенняе паліто. *Купім мы табе ясёнку, чаравікі справім. Ясёнка ў яе файная, ні брытко на людзі паказацца.*

ЯКЖЭ'БТО *прысл.* Вядома, ведама ж. *Якжэбто хвалько, ён заўсюды так. Колькі тут таго мяса — якжэбто з кураняці. Якжэбто кот, любіць смятанку.*

*В. В. Шапялевіч, А. П. Шапялевіч*

# З ЛЕКСІКІ ДЗВЮХ ВЁСАК БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Прыводзіцца матэрыял, запісаны ў 1976 г. у вёсках Каўняцін (мясц. *Коўнятын*) Пінскага раёна і Паніквы (мясц. *Паныквы*) Камянецкага раёна. Вёска Каўняцін знаходзіцца ў 8 км на поўнач ад р. Ясельды, у 4 км на ўсход ад г. п. Лагішына. Вёска Паніквы размешчана ў 4 км на паўночны ўсход ад Заходняга Буга, у 15 км на паўднёвы захад ад г. Высокае.

Гаворкі абедзвюх вёсак адносяцца да паўночна-ўсходніх загародскіх. Найбольш характэрная асаблівасць гэтай дыялектнай групы — вымаўленне *у* на месцы *о* ў новых закрытых складах пад націскам: *вун* 'ён', *бульш* 'больш', *кунь* 'конь', *вуз* 'воз', *нус* 'нос' [1].

## Словы з гаворкі в. Каўняцін

БЫ'ЛО *н.* Спінка ў ложку.

ВБЫ'ТЫСА *зак.* Унадзіцца, улезці, захапіцца. *Чого ты вбывса у гэты Паніквы, чы тобі сваіх дэўчат бракуе?*

ВТАХЛЁВА'ТЫ *зак.* Згубіць, растраціць. *Грошы втахлёвала, а пользы нэма.*

ВЫЗБРЫ'КВАТЫ *незак.* Выбрыкваць. *Бач, як твое тэля вызбрыквае.*

ВЫ'ЛІЦА *толькі мн.* Зяпа. *Шчо выліца роззявыв? Іды одгэ́туль, нэ блутайса пуд ногамы.*

ВЭЛІДА'ЗНЫЙ *прым.* Вялізны, велічэзны. *Якая вэлідазная хмара вылезáе з-за ліса.*

ГІРОВА'ТЫ *незак.* Кіраваць рулём, руліць. *Йіхалі вэльмы хутко і шофэр нэ поспіў згіроваты.*

ГЫ'НЧЫ *прым.* Іншы. *Вун зусім гынчы став зарэз.*

---

[1] Ф. Д. Климчук. К лингвогеографии Западного Полесья (фонетика четырех полесских говоров). Автореф. канд. дис. Минск, 1973, с. 6, 14—15.

ГЭ'ТТА *прысл.* Тут. *Маня, гэтта мого Васі нэма?*

ЗАСТУГОНІ'ТЫ *зак.* Захадзіць хадуном, задрыжаць. *Застугоніла зэмля, як выбэглі коны.*

ЗА'ЎШЭ *прысл.* Заўсёды.

ЗБЫТКОВА'ТЫ *незак.* Здзекавацца. *Нэ збыткуй з мэнэ.*

ЗОТХНУ'ТЫ *зак.* Уздыхнуць. *Вона задумаласа і тяжко зотхнула.*

З'ЯГА' *м., ж.* Нудны, звяглівы чалавек. *Твоя свэкруха такая з'яга, шчо мы й года нэ прожылі разом.*

І'МПЭТ *м.* 1. Паветраны штуршок, выбухная хваля. *Снарад узорвайса за мэтроў дваццэть, і мэнэ імпэтом одкынуло до стэны.* 2. Энергія чалавека. *Набрайса імпэту і допаў до роботы.*

КАПО'РЭ *прысл.* Няхай сабе, ліха з ім. *Нэ трэба було позычаты ёмў грошы, але капорэ. Капорэ ёго́, нэ варт з ім звязватыса.*

КОЛО'ШВА *ж.* Калашына.

КО'ЎТАТЫ *незак.* Глытаць. *Горло боліть, тяжко коўтаты.*

КО'ШКАТЫСА *незак.* Капацца, поркацца. *Шчо ты там кошкаешса, хучэй выбырайса.*

КУ'РЭЛЁМ *прысл.* Кулём. *Як штырхну, то курэлём полетыш.*

ЛЕДА'ЧЫ *прым.* Лянівы. *Ну й ледачы твуй Максым, світ нэ бачыў.*

ЛІ'ТЮС, ЛІ'ТЮСА *прысл.* Летась.

НАВРЫ'ТЫТЫСА *зак.* Намерыцца, паставіць на сваім. *Як наврытывса поіхаты — ныхто мэнэ нэ задэржыть.*

НАУ'ДЖВАЛ *прысл.* Галопам. *Пустыў коня науджвал.*

НЫ'ШКОМ *прысл.* Цішком. *Сэды нышком, ныкого нэ чэпай і тэбэ ныхто нэ чыпыть.*

НЭНА'ЖАНО *прысл.* Знянацку, нечакана. *Госты прыіхалі нэнажано.*

НЯ'КЫ *займ.* Нейкі.

ОБЭЗВІ'ЧЫТЫСА *зак.* Знявечыцца. *Нэ пудлазь пуд коня — обэзвічысса, обэзвічыть вун тэбэ́.*

ОКЭ'ЖАТЫ *зак.* Ачуняць, паправіцца. *Буў зусім слабы, а зарэ крохы окэжаў.*

ОПУ'ЗНЫК *м.* Апоўзіны. *Нэ забудь прыложыты стожкы опузныком, бо забыраты нэ хутко.*

ПАЦІЯ'Т *м.* Франтон.

ПРОКОЎТНУ'ТЫ *зак.* Праглынуць. *Кустка застрала ў горлы — нэ прокоўтнуты, нэ выплюнуты.*

ПРУ'ШЭНЬ *м.* Вушак (вертыкальны).

ПУКНА'ТЫ *прым.* Пукаты; пухнаты; тоўсты. *Ты ж нэ роўня мні: бач екы пукнаты да чырвоны.*

ПЭЛЮ'ТКА *ж.* 1. Палова гарбуза. *Одну пэлютку выбраў, і поўна мыска гарбузікоў.* 2. Ягадзіца.

РЭПТЮ'Х *м.* Фуражная торба.

СКО'ВЧЫТЫ *зак.* Змяць, скамячыць. *Ганна, чого ў тэбэ платьте покоўчанэ, дэ ты його сковчыла?*

СКРЭ'СНУТЫ *зак.* Знікнуць, прапасці. *Нідэ скрэс і ныхто нэ найдэ.*

СПЛЕ'НЗЫТЫ *зак.* Стаптаць. *Нічыя корова влізла ў город і чысто сплензыла картоплі.*

СХРОМЫ'ТЫСА *зак.* Атрымаць траўму, скалечыцца. *Нэ ліз на гэту грушу — схромышса.*

ТКО, ТКОЛЕ' *часц.* Жа, ж. *Пойды тко послухай. Дай тколе подывытыса і мні, хоч я і бэз очкуў.*

ТРОЎША' *м., ж.* Трапло. *Троўша ты, чы варт слухаты, шчо ты говорыш.*

ТРУБЫ'ТЫ *незак.* Жэрці. *Мышы чысто пужню пэрэтрубылі. Чорт його нэ струбыть, ныгдэ нэ дінэцца твуй кунь.*

ТРУІ'ТЫ *незак.* Травіць, атручваць.

УНУ'РЫТЫСА *зак.* Захапіцца, унікнуць. *Як унурыцца ў свою науку, ныц нэ бачыть і нэ чуе.*

УПЛІ'ШЧЫТЫСА *зак.* Прычапіцца, прывязацца. *Як уплішчыцца за мною — нэ одчэпытыса.*

ЦІБУ'Х *м.* Пяро цыбулі. *Пойды нарвы цібухўў.*

ЧВЭ'РЫТЫ *незак.* Выкідваць усякія штукі, неспадзяванкі. *Люды, побачтэ, шчо вун там чвэрыть.*

ЧОЎПТІ'СА *незак.* Старанна працаваць, таўчыся. *Гэта Ганна мусыть і нэ спыть: колі нэ прыды — чоўпэцца й чоўпэцца.*

ШВЭ'ДЭР *м.* Світэр.

ШОЛОТА' *м., ж.* Балбатун, пляткар, трапло. *Ой, шолота, завшэ ты набаеш, шчо нэма чого слухаты.*

ШТА'ЛКА *ж.* Слой, сталка. *Як зложыты ў дві шталкы, будэ і тэпло, і муцно.*

ШЧЭЛЮ'БЫНА *ж.* Шчыліна.

## Словы з гаворкі в. Паніквы

БА′РЗО *прысл.* Вельмі. *Тыпэр барзо зымно.*

ДУ′ЖО *прысл.* Многа, шмат. *Дужо картохлюв вітэ* [вы] *накопалы?*

ГУ′МНЫСКО *н.* Прыгуменне. *Іды на гумныско, прынысы дров.*

ГЫ′НЧЫЙ *прым.* Іншы. *Гынчый раз вун до нас прыдэ.*

ЙІ′ДЛО *н.* Ежа, яда. *Дай мні якого йідла пойісты.*

ЗГМА′ТКАТЫ *зак.* Змяць, скамячыць. *Вона згматкала всю одэжу в пулку і выбыгла с хаты.*

ЗДУБІ′КАТЫСЯ *зак.* Здзівіцца, перапалохацца. *Вун аж здубікався, як зобачыв, шчо в ёго́ городы повно коров.*

ЗЫ′МНО *прысл.* Холадна. *Тыпэр зымно на дворі і такый мороз.*

ЛАХМА′Н *м.* Адзежына. *Збырай свої лахманы, поідым додому.*

ЛІ′ПЫЙ *прысл.* Лепш, лепей. *Ліпый тыпэр мы будым копаты картохлі.*

НЭ′НДЗА *м., ж.* Худы, знясілены чалавек. *Нэндза ты, чом ты ны йісы?*

ПАЛЮ′Х *м.* Блін, аладка. *Мама напыкла палюхув.*

ПЛЯ′ЦОК *м.* Блін, аладка.

ПАСОВА′ТЫ *незак.* Падыходзіць, быць да твару. *Ны пасуе ёму́ тая шапка.*

ПАЦЁ′РЫ *толькі мн.* Пацеркі. *В мамы на шыі пацёры. Порвалась нытка й пацёры россыпалысь.*

ПОРА′ДЫТЫСЯ *зак.* Параіцца.

ПОСУМЫНТОВА′ТЫ *зак.* Параіцца. *Трэба посумынтоваты с Хвыдорыю, як готовытысь до высілля.*

ПО′ЧЫРЫДЬ *ж.* Чарга пасвіць кароў. *Нам в суботу почырыдь.*

ПСТРЫ′ЧКА *м., ж.* Нявытрыманая асоба. *Вун такый пстрычка, ныкому ны промовчы́т.*

ПУ′ЛКА *ж.* Фартух. *Мама прып'яла́ пулку і пушла по зілле.*

ПУ′СТОПА′СТЬ *прысл.* Самапасам. *Корова ходыла пустопасть.*

РУ′ЙЦЯ *ж.* Гурт. *Хлопці ідут по сыло́вы руйцію.*

САМОХУ′ТЬ *прысл.* Нечакана, вельмі хутка. *Самохуть схватыв хворобу.*

СВЭ′ДЫР *м.* Світэр. *Наложы свэдыр, бо тыпэр зымно.*

СІ′ТЫЙ *займ.* Гэты. *Сітый чоловік. Сіта хата. Сітэ дэрыво.*

СПОСТА′РЧЫТЫ *зак.* Зраўняцца, дасягнуць роўні. *Ны спостарчыты тобі з ім. Хыба вун з ім спостарчыт.*

УЛО′Г *м.* Лодар. *От улог, ныц ны робыт.*

ХАЛА′Н *м.* Капрыз. *Наш Вітя халаны́ справляе.*

ШУР *м.* Прыбудоўка каля хлява, часам без сцяны. *Дрова лыжат пуд шуром.*

ШЫ′ХТА *ж.* Касцёр дроў. *Мы дрова вжэ зложылы в шыхту.*

*Т. І. Юхо*

## З ЛЕКСІКІ ГАВОРКІ КАПЫЛЬШЧЫНЫ

Лексічны матэрыял, які падаецца ў гэтым артыкуле, сабраны ў в. Дарагавіца Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Дадзеная гаворка па сваіх фанетычных асаблівасцях адносіцца да паўднёва-заходняга дыялекту. З найбольш характэрных асаблівасцей можна адзначыць наступныя: моцнае яканне (*пóйдзям, вóсянь, вясна́, стóгня, дóйдзя*), адсутнасць падаўжэння зычных гукаў у інтэрвакальным становішчы (*сёня, збóжа, сьвіня́, раля́*), непаслядоўнае паяўленне прыстаўнога ненаціскнога *а* ў пачатку слова (*атварóх, арабíна*), аглушэнне зычных гукаў у канцы слова і перад глухімі гукамі (*гот, грат, бры́тка, ба́пка*), наяўнасць у некаторых словах выбухнога **г** (*гардэ́ля, гóлда, гра́таўка*) і інш.

АБАЛДУ'Й *м.* Асталоп. *Ён гэткі абалдуй вырас, што кажы ні кажы — не дойдзя да яго.*

АБРАБІ'ЦЦА, УРАБІ'ЦЦА *зак.* Умазацца. *І трэба так абрабіцца, кап нельга было атчысьціцца.*

АБЭ'НЧЫЦЬ *зак.* Успушыць, раздуць. *Куды ты гэтулькі ясі? І так скора абэнчыць.*

АБЭ'РЖА *ж.* Вялікая непрыбраная хата. *Паспрабуй сама гэтую абэржу прыбраць, тагды паглядзіш, колькі часу пройдзя.*

АКАВЫ' *займ.* Які. *Зірні, акавы ты хлопяц? Хто цяперачы на цябе вока добрае кіня?*

АПА'ДАК *м. зборн.* Апалы яблык, груша. *Ён увесь ападак на гору зацягнуў. Кажа, мо троха паляжаць там.*

АПО'ЙКІ *толькі мн.* Апой. *У нашае цялухі ці не апойкі адно, бо бакі такія ўздутыя. Відаць, пойлам абапілася.*

АПРУ'К *м.* Вяпрук, кабан. *Мы сёлята добрага апрука закалолі, так што хопіць мясюгі надоўга.*

АРАБІ'НА *ж.* Рабіна. *Трэба арабіны засыпаць на зіму. З дзецьмі усё зьесца.*

АТВАРО'Х *м.* Тварог. *Яшчэ калі атварагу з малаком зьем, тагды мо пад'ем.*

АТРУПЕ'ЦЬ *зак.* Аслупянецъ, спалохацца. *Нешта як шмыганула паўз ногі мае, дык я ажно атрупела.*

АХЛАБУ'ШЫЦЬ *зак.* Хутка выпіць, з'есці што-н. *Але ш і спрытны які. Урас ахлабушыў міску картофлягь.*

БА'ПКА *ж.* Трыпутнік. *Я дык бапку заварваю, калі пад рабром пачынае балець, тагды лепяй робіцца.*

БАРДЖЭ'Й *прысл.* Хутчэй. *Давай барджэй зьбірацца, бо на мўзыку пóдзям.*

БІЛО' *м.* Спінка ў ложку. *Павесь сваю цяплуху хоць на біло, бо кручок у нас адарваўся.*

БІ'РДАЧКА *ж.* Малая рэч. *Куды ты гэту бірдачку паставіла. Сюды трэба шкаф, або што большае паставіць, а то шмат месца пустога застаецца.*

БО'ПКА *ж.* Гарошына (пра ўзор тканіны). *Сёння яна ўжо ў бопкі сукенку ўзлажыла. Кожан дзень мяняя іх.*

БУ'РБАТКА *ж.* Бурбалка. *Мабыць зноў бурбаткі рабіў з мыла і вады, што па ўсёй хаці паразьлівана.*

БЎХІ'КАЦЬ *незак.* Кашляць моцна. *Дзёўчына мая усю ноч бухікала сёння, спаць ані ні давала.*

БЭ'ЙБУС *м.* Гультай, лодар. *Але ш і бэйбус у цябе хлопяц, ні хоча нічога памагаць табе.*

БЭНСЬ *м.* Пазашлюбнае дзіця. *Яна цяперачы бэнся свайго да маткі прывезла.*

ВА'ЛЯЎКА *ж.* Зваленае адзенне. *Накрыйся хоць якой-небудзь валяўкай. Пад ёй мо цяплей будзя.*

ВА'ТНІКІ *толькі мн.* Ватныя штаны. *Ты вазьмі ватнікі на печ ускінь, хай троха прасохнуць.*

ВО'ДВЕТКІ *толькі мн.* Адведзіны. *Сёнячы трэба на водветкі схадзіць, бо ўжэ трахá ні тыдзень, як з радзілкі прыехала сястра, а я яшчэ ні была.*

ВО'ЙДЗЯКА *часц.* Вось тут. *Войдзяка ш ляжыць твая канаплянка, а ты нічога ні бачыш.*

ВОТОВО' *прысл.* Зараз, толькі што. *Яна вотово прышла, няхай атпачне троха, тагды й зробіць што.*

ВОТО'ЛЕЧКІ *прысл.* Толькі што. *Чалавек вотолечкі прышоў с поля, а ты ўжо па воду яго гоніш.*

ВУНЯНЁ, УНЯНЁ *часц.* Вунь. *Вунянё іх машына паехала.*

ВЫ'ЛІЗНАЦЬ *зак.* Зрабіцца гладкім, сытым. *Мабыць, ты кату сала давала, што так вылізнаў ён у цябе.*

ВЫ'ПРУДЗІЦЦА *зак. абразл.* Памерці, спруцянець. *Покуль я прыбегла, то ён ужэ й выпрудзіўся.*

ВЫ'ШМАЛЬЗАВАЦЬ *зак.* Вышмальцаваць. *І трэба ш так вышмальзаваць кабат каля печы, што кап брытка выйсці на вуліцу было.*

ГАПО'НЯ *ж.* Доўгае неахайнае адзенне. *Але ш і гапоню ты сёнячы некую ўшчапіла.*

ГАРДЭ'ЛЯ *ж.* Жанчына высокага росту. *Ні дзіва, што такая гардэля дастаня да вакна. Яна й да коміна можа дастаць.*

ГЕРГАТА'ЦЬ *незак.* Крычаць (пра гусей). *Гусі як пачнуць гергатаць у хляве, то, хочаш ні хочаш, прыходзіцца хуччэй выпускаць на выган.*

ГЛУШМА'Н *м.* Зусім глухі чалавек. *Ён такі глушман, што колькі яму ні крычы, ся ройна не пачуя.*

ГО'ЛДА *м., ж.* Бамбіза. *Але ш і голда твая дзеўчына стала. Высозная такая.*

ГО'РТАЦЬ *незак.* Гартаць. *Яна іны рас толькі гортая, а ні чытая гэтыя кнішкі.*

ГРАВЕ'ЙКА *ж.* Дарога, высыпаная гравіем. *Утомяцца мае дзеці, покуль дойдуць да тое гравейкі.*

ГРАДУ'С *м.* Баразна, града пасаджанай бульбы, буракоў і г. д. *На гэтых градусах я сёлята красьненькіх бурачкоў пасею, а на тых — моркаўкі.*

ГРА'ТАЎКА *ж.* Падвесная полка для пасуды. *На гратаўцы ў мяне ўся пасуда стаіць.*

ГУСА'К *м.* Вантробы. *Цяпер гусак даставай, а потым кроў выбяраш.*

ГУШКА'НКА *ж.* Гушкалка. *Зрабі хоць гушка́нку дзіцяці. Яна так даўно просіць цябе.*

ДАРМІ'НКА *ж.* Дарэмшчына. *Ого-о! Ён за дармінкай гатоў у сьвет паехаць.*

ДАЧВАРА'ЦЬ *незак.* Вытвараць, гарэзнічаць. *Але ш і дачварая твой хлопяц. У школьны сат ажно трафіў.*

ДРА'ПЧЫК *м.* Брычка. *Трэба драпчык папрасіць у брыгадзіра, дык, рызыкуючы, паедзям на вяселя.*

ДРЭ'БЫ *толькі мн.* Косці. *Трэба паткарміць карову, а то страшна глянуць на яе. Адны дрэбы пасталі.*

ДУ'БАРАМ *прысл.* Дубам. *У яго с перапуду ажно валасы дубарам сталі.*

ДУ'НДЗІЦЬ *незак.* Часта ссаць. *У нас бычок яшчэ цыцку дундзіць, дык нельга малака ўкрасьці ў каровы ні каплі.*

ЗБРО′ДНЫ *прым.* Збродлівы, чужы. *Дык то ш некі збродны кот. Выганяй яго с хаты.*

ЗДЭ′ЦЦА *пабочнае слова.* Здаецца. *Яны, здэцца, сена паехалі грэбці.*

ЗІ′РКІ *мн.* Лупатыя вочы. *Яна як вылупіць свае зіркі, дык я гатоў анямець с пуду.*

ЗЬБІЁДАЦЬ *зак.* Згубіць, марна патраціць. *Мабыць, зноў шалік зьбіёдаў, бо нешта тут ні відаць.*

ЗЬЛЁПАК *м., ж.* Тоўстая асоба, целяпень. *Але ш і зьлёпак ён зрабіўся. Хутка ў дзьверы ні ўлезя.*

ЗЭ′ЙДА *м., ж.* Зануда. *Ад такога зэйды нічога не выпытаяш. Колькі яго ні прасі.*

КАБАНІ′НА *ж.* Посная свініна, свіное мяса. *Сьвежую кабаніну добра смажыць с цыбуляй. Тагды так смашна атрымліваецца.*

КАГАДЗЕ′, КАДЗЕ′ *прысл.* Толькі што. *Чаго крычаць на чалавека? Ён жа кагадзе прыехаў. Ці ш можна за гэты час усьпець сьвіня́м даць?*

КАДО′ЎПЧЫК *м.* Невялікая бочачка, выдзеўбаная з калодкі, якой бяруць збожжа, муку і г. д. *Будзям цяперачы па два кадоўпчыкі мукі сыпаць кабану, мо сычшы станя.*

КАЛА′ *прысл.* Каля. *Я бачыла, што гусі іхныя кала лесу хадзілі.*

КАНУ′НА *ж.* Абрадавая страва пасля пахавання нябожчыка, сыта.

КАНЫ′ *толькі мн.* Канцы, смерць. *Ледзьвя не забілася на гэтай гушка́нцы. Думала, каны прыдуць.*

КАПШУ′К *м., ж.* Целяпень. *Гэты капшук покуль зьбярэцца, то й вечар настаня.*

КАРТАФЛЯ′НІК *м.* Бульбоўнік. *У яе весь картафлянік, мабыць, зжаты, а ў цябе ні каліва ні пачата.*

КАСО′ЎКА *ж.* Сшытак у касую лінейку.

КВА′ШНЯ *ж.* Залішне кіслае, кісляціна. *У цябе ні шаткаванка вышла, а некаяква́шня.*

КЛА′ДЗЯНКА *ж.* Галоўкі капусты, якія складаюць у бочку, каб квасіліся. *Яшчэ кладзянку мы ў склеп ні ставілі. Ніяк ні можам ш часам сабрацца.*

КО′ЖАН *займ.* Кожны. *Яна траха ні кожан дзень мяне пераведвала, як я хварэла.*

КРЫВЯ′НКА *ж.* Каўбаса, якая начынена вантробамі з крывёю. *Я крывянак сёлята ні рабіла, бо вантробы некія заболеныя былі.*

КРЫША'Н *м.* Пакрышаны сухі фрукт. *Сёлята яблык было шмат, дык бапка нашая цэлы мех крышаноў дацьцы завезла.*

КУ'ТАРМА *прысл.* Галопам, хутка. *Дзе ты іх дагоніш, калі яны вунянё аш кутарма пабеглі.*

ЛАГУ'Н *м.* Бітон. *Адзін лагун малака калі надоіш, то гэта добра, бо пашы ніяк німа. Дык аткуль тоя малако будзя.*

ЛАХМЫ'ТКА *м., ж.* Чалавек у дрэнным адзенні, у лахманах; абадранец (абадранка).

ЛЁЛЯ, ЛЁЛЬКА *ж.* Дзіцячая начная сарочка. *Хай у лёльцы сьпіць. Яна доўгінькая, дык цяплей будзя.*

ЛІЗУ'НАК *м.* Смачная яда, ласунак. *Яна толькі п і жыла на гэтых лізунках.*

ЛІСТЭ'РКА *н.* Люстэрка. *Акава ты стала? Паглядзіся ў лістэрка.*

ЛУПАЧЫ' *толькі мн.* Лупатыя вочы. *Яна як вытрашчыць свае лупачы, то аш моташна робіцца.*

ЛЫ'ГА *ж. абразл.* Нага. *От выставіць свае лыгі дзе трэба, дзе ні трэба, што ні прайці.*

ЛЯХТЫ'ЧКА *м., ж.* Рухавая і спрытная ва ўсім асоба. *Дзіва, што яна была ў грыбах. Такая ляхтычка, траха ўвесь лес ні абабегла.*

МАДЗЯ'СТЫ *прым.* Недарэчны, абы-які. *Але ш такі ўжо мадзясты ён быў, а цяпер бач, які вымахаў.*

МАСЬЛЯ'К *м.* Слізняк. *Глядзі, які масьляк на грыбе сядзіць?*

МІГЕ'РА *ж.* Пачвара.

МІ'СА *ж.* Таз вялікіх памераў. *Вазьмі ў місу зьлі тыя памыі, а я потым сьвіням выльлю.*

МНІ'ШКА *м., ж.* Мніцельная, нерашучая асоба. *Яна такая мнішка, што наўрат саглосіцца ехаць з намі.*

МО'ТУС *м.* Матуз. *Падай мне мотус той, што вісіць ў каморы, я зьвяжу яшчык.*

МУ'СЯКА *прысл.* Мусіць. *Мы мусяка да бапкі нашай сходзім сёня.*

МУХАЕ'ДЫ *толькі мн. экспр.* Зубы. *Яму і па мухаедам ні мяшала п ляпнуць.*

МЫ'РМА *м., ж.* Маўчун. *Ад такой мырмы слова ніколі ні выцягняш.*

МЭ'РЛЯ *ж.* Марля. *Дзе-та мэрлі купіла на фіранку.*

МЯСЮГА' *ж.* Мяса добрай якасці. *Мясюгі мо заўтра прывязу, а то ні было ў што палажыць.*

НАЛІВА′НКА *ж.* Каўбаса, начыненая цёртай бульбай з крывёю. *У нас дык ніхто ні любіць наліванак, а я іх бы цэлы дзень ела.*

НАЦУРКАВА′ЦЬ *зак.* Упэўніць, пераканаць. *Яна яго як нацуркуе, то ён, хоча ці ні хоча, заўжды паверыць.*

НА′ЧАЙ *прысл.* Інакш. *Давай троха начай паставім гэты столік, а то прыеўся ён тут стоячы.*

НО′ХЦАМ *прысл.* Нагой, выспяткам. *Ён суццы нохцам як даў, дык яна й павалілася.*

О′БУЙ *м.* Абутак. *У нас усякага обую на гары валяецца. Палесь што-небудзь выбяры сабе насіць.*

ПАВІ′НЯКА. Павінен. *Сёнячы ён павіняка ехаць у лес па дрова, а заўтра — ня ведаю.*

ПАВЫЗЬБІ′РВАЦЬ *зак.* Пазбіраць, выбраць. *Яна кожан дзень ходзіць у ягады. Мабыць, ужэ ўсе павызьбірвала.*

ПАВЭ′ДЛУК *прыназ.* Згодна з кім-, чым-н.; паводле. *Павэдлук яе, то Манька Альзьбетчына куды леняй выглядая.*

ПАДГА′ЛЫ *прым.* Падгалісты. *Але ш і падгалую карову купіў, што страшна яе даіць. Сядзіш і думаяш, кап ні пераступіла прас цябе.*

ПАДУЗО′РНІК *м.* Падзор; брыжы, якія прышываюцца да посцілкі. *Я сёнячы покуль падузорнікі да лошкаў прышыла, дык боляй нічога ні ўсьпела зрабіць.*

ПАДЭ′РВА *ж.* Вельмі моцны смех. *Адна падэрва сёня на нарадзе была. І брыгадзір сьмяяўся.*

ПАЗЯХУ′ШКІ, ПАЗЯХА′НЧЫКІ *толькі мн.* Пазяханне. *Некія пазяхушкі на мяне напалі. І, здэцца ш, выспалася.*

ПАКАТЫ′НАК: ДА ПАКАТЫ′НКУ. Многа, шмат, вельмі. *Наеўся да пакатынку, што, відаць, пакачуся зарас.*

ПАЛО′К *м.* 1. Невялікі выступ з боку печы. *Ты п спачатка на палок узьлес, а потым на печ.* 2. Памост каля печы. *Некалі мы на палку спалі.*

ПАЛЯНГВІ′ЦА *ж.* Паляндвіца. *Я палянгвіцу на лета астаўляю. Як патсушу яе с прыправамі, дык так смашна.*

ПАРЭ′НЧКА *ж.* Жэрдка. *У катуху трэба яшчэ адну парэнчку прыбіць, а то курам недзя сядзець.*

ПАСО′ЛЯ *ж.* Фасоля. *Пасолю з картофляй добра варыць. Тагды яна гусьценькая робіцца.*

ПА′ТКІ *прым.* Такі, які ўсяго даб'ецца. *Ён у нас такі паткі, дык зь ім ніхто ні прападзе.*

ПАТСЬЦЁЛ *м.* Подсціл. *Тырса хай ідзе на патсьцёл карові, а аерам сьвіней патсьцелям.*

ПАТЦУРБА′ЛАК *м.* Чалавек невялікага росту. *Ды хіба ты з гэтым патцурбалкам ні справішся? Ты ш за яго куды вышшы.*

ПАЦЭ′СЯ *ж.* Пацешніца. *Ой, яна ў іх такая пацэся, што ні вытрываць. Такая сьмешная, такая забаўная, такая цыпачка.*

ПАЧТА′Р *м., ж.* Паштальён. *Трэба канвэртаў у пачтара купіць.*

ПЕРАВЕ′СЬЦІ *зак.* Разбіць; згубіць. *Адсунь талерку троха, а то зноў перавядзеш.*

ПЕ′ТРЫЦЬ *незак.* Разумець, кеміць. *Ён нічога ў яе ні петрыць, хоць ты яму кол на галаве чашы.*

ПЛІШЧО′М *прысл.* Пішчом. *Такая ўпартая малая. Плішчом лезя, хоць ты ёй нéма ведама што кажы.*

ПЛЯЦ *м.* Частка прысядзібнага ўчастка каля хаты ці ў полі. *На той гот трэба пляц жытам засеяць, а то картофлі ўсё адно там ні растуць.*

ПРЫ′ЖАНЫ *прым.* Пражаны. *Прыжаны гарох я й сама лепяй люблю, чым параны.*

ПРЫМО′РАК *м.* Прымурак. *Я мыла заўсёды на прыморак кладу, кап патсохла троха.*

ПРЫЦЫНДА′ЛЫ *толькі мн.* Прычындалы. *Нацапіла некія прыцындалы на шыю, думая хараша так.*

ПСТРЫ′ЧКА *м., ж.* Нервовая, запальчывая асоба. *Дзіва, такая пстрычка нікому ні ўступіць, хоць ты яе рэш.*

ПУТ *м.* Перапуд, спалох. *Як узяў яе* [карову] *некі пут, дык яна аш у лес паляцела.*

ПУХІ′Р *м.* Мачавы пузыр у свінней. *Яна пухір троха надзьме, а потым мяса туды пхае.*

РАДАЎНІ′ЦА *ж.* Беспарадак. *У яе вечная радаўніца. Наставіць пасярот хаты некіх чыгуной, вёдраў, што ні прайсьці.*

РА′КАЧА, РАКАЧО′М *прысл.* Ракам, сагнуўшыся. *Ці ні ракачом ты ўстала сёнячы? Бо злосная ш натта, што ні падысьці.*

РАСТАРО′ПА *м., ж.* Кемлівая, дасціпная, прабіўная асоба. *О-о, ён у яе такі растаропа! Зь ім ні прападзеш нідзе.*

РЫЗЫКАВА'ЦЬ *незак.* Ганарыцца, задавацца. *Яна як пашыя новая што-небудзь, дык так ужэ рызыкуе.*

СА'ЧАК *м.* Кабат. *У мяне кусок мацеры суконнай валяяцца, трэба сачак зь яго пашыць.*

СЕЛЯДО'РШЫ *прым.* Сярэдні па ўзросту. *Яе селядоршы сын такі ўжо талковы, што прама любата людзям глядзець.*

СКУПЯНДРА' *м., ж.* Скупянда. *У такой скупяндры сьнегу зімой ні выпрасіш, а ні то што, кап хлеба пазычыла.*

СЛО'ВІК *м.* Слоік. *Бяры хоць словікам палівай гуркі, бо адна толькі палівачка ў нас.*

СМУРО'ДЗІНА *ж.* Чорныя парэчкі. *Сёлята траха ні сем вёдзяр смуродзіны было, але ш ся роўна паразда-вала палавіну.*

СПАВІ'Ч *м.* Спавівіч. *Вазьмі войдзяка спавіч, ды спаві дзіця, а то яно жахаецца сваіх ручак.*

СТАЛЬНІ'ЦА *ж.* Кружок. *На цыраці ні рэш хлеп, а на стальніцы парэш.*

СЫРАВЕ'ШКА *ж.* Сыраежка. *Сыравешкі, таксама як і масьлякі, трэба абіраць.*

СЬЛЯПУ'НДРА *ж. экспр.* Слепавокая, слепаватая асоба. *От сьляпундра! Вунянё шалік ляжыць, а ён дзьве гадзіне шукая яго.*

СЯДНІ'К *м.* Сяннік. *Трэба сяднік напхаць новай саломай, а то гэтая ўжо струхлела.*

СЯМНА'СТКА *м.* Маладая дзяўчына. *Яна як прыадзеняцца, дык і за сямнастку яшчэ можа сайці.*

СЯ РО'ЎНА *прысл.* Усё адно. *Яна ся роўна ні прыдзя, хоць ты й сам па яе подзяш.*

ТАГДЫ' *прысл.* Тады. *Кап ты мне тагды сказаў, то я п мо й паслухала цябе зьезьдзіць.*

ТАКВЕ'ЛЯ *прысл.* Столькі. *От дапрыгаўся, што аш нагу вывіхнуў. Але таквеля бяды, добра што зусім ні зламаў.*

ТА'ЛЕР *м.* Вялікая, ёмістая талерка. *Гэта ш цэлы талер капусты зьеў, дык цяпер ледзьвя трываю.*

ТВЭ'РЫЦЬ *незак.* Дурэць, гарэзнічаць. *Але ш абы-што твэрыць гэтае дзіцё. Ні ўрымсьціцца ніяк.*

ТРАСУ'ЧКА *ж.* Малярыя. *Цябе, мусяка, трасучка забірая. Чырвоны ўвесь зрабіўся, гарыш агнём.*

ТРА'ФІЦЬ *зак.* Трапіць. *Ён табе і ў пушчу трафіць такі дасьціпны, такі праныра.*

ТРАХА′ *прысл.* Ледзьве, ледзь. *Ён жа яе траха́ ні забій. Разьюшаны такі быў, што ня дай бох.*

ТРУПЦЯ′К *м.* Надтрэснутае, пабітае яйцо. *Ці ні трупцяк было гэтае яйцо, што так хутка пабілася.*

ТУЛЬ *м.* Цюль. *Тулю на вокны трэба купіць, а то гэтыя гардзіны зусім папарываліся.*

ТЫ′РСА *ж.* Пілавінне. *Пайду пад цыркулярку, мо тырсы тамака набяру карові на патсьцёл.*

УВАЗЮ′РЫЦЦА *зак.* Умазацца, стаць брудным. *Але ш калі ён усьпеў увазюрыцца? Хоць ты яго на вуліцу ні пускай.*

УЗЛАЖЫ′ЦЬ *зак.* Апрануць. *Узлажы яшчэ кабат падыспот, мо цяплей будзя.*

УКВЭ′ЦАЦЬ *зак.* Умазаць. *Зноў сукенку ўквэцала ў грась, што адмыць цяжка.*

УПО′ПУСКІ *прысл.* Услед (кінуць, шпурнуць). *Я стаяла, ні чапала яго, а ён мне ўпопускі камням. Добра, што міма, а то п лоп разьбій.*

УРАБІ′ЦЦА *зак.* Умазацца, выпацкацца. *Але ш і ўрабілася ты ўся, што найрат ці адмыяш.*

УРЫ′МСЬЦІЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Але ш і вар'ят некі ты, ніяк ні ўрымсьцішся.*

ФА′ЙНЫ *прым.* Прыгожы.

ФАЛЬБО′НА *ж.* Валан (у сукенцы). *Фальбону трэба яшчэ прышыць к сукенцы. Мо троха лепяй будзя глядзецца.*

ФРЭ′НЗЬЛІ *мн.* Махры. *Дзе-та дзеўся настольнік с фрэнзьлямі?*

ЦАГА′Н *м.* Чыгун. *Трэба яшчэ адзін цаган такі купіць, вельмі ш пакоўны ён.*

ЦІХМА′Н *м., ж.* Ціхоня, маўчун. *Ён такі ціхман, што слова ад яго ні выцісьняш.*

ЦЫБУ′ЛЬКА *ж.* Нарцыс. *Цыбульку перасадзі ў другоя месца, а то тут ёй мала сонца.*

ЦЫМБУ′Р *м.* Сцябло шчаўя. *Шчаўя мабыць ужэ ў цымбуры палезла.*

ЦЫ′ТРА *ж.* Пранырa, пралаза. *Ого! Кап такая цытра ды ні трафіла ў маліны. Яшчэ зялёныя былі, то яна хадзіла ўжэ.*

ЦЮ′РА *ж.* Цура. *Цюры нарабіў у вабет ды так смашна паеў.*

ЦЯПЛУ′ХА *ж.* Фуфайка. *Зараблю грошай за хлеў, дык новую цяплуху куплю.*

ЧАЎПЕ'ШКА *м., ж.* Шалапут; някемлівая асоба. *Ну й чаўпешкай некай урадзілася. Ніяк ні ўцяміць, калі ёй трэба ехаць.*

ЧУ'ЧКІ *толькі мн.* Суставы пальцаў рук. *Чучкі ўсе паадбіваў, покуль стукаў у дзьверы.*

ЧЭ'ГАЦЦА *незак.* Зыбацца. *Скажы, кап ні чэгаўся на досках, а то ўпадзя, ды яшчэ нагу скруціць.*

ШВЭ'ДАР *м.,* ШВЭ'ДРА *ж.* Світэр. *Заўтра мо швэдар кончу рабіць. Ці ні швэдру ты шукаяш усю раніцу? Я ш памыла яе.*

ШО'ЛАМ *м.* 1. Дурань; шалапут. *От шолам, на пятыя суткі да яго даходзіць. Ніяк ні ўцяміць самага простага слова.* 2. Шум. *У мяне некі шолам у галаве цэлы дзень.*

ШЧЫКАТУ'РКА *ж.* Тынкоўка. *У нас ужэ даўно шчыкатурка ляжыць на сьценах, дык так цёпла зімой, цяпло меняй выходзіць.*

ШЭ'ПШАЛЬ *м.* Стары чалавек. *Ой, шэпшаль ты, куды табе на танцы йсьці.*

ЯГРАСТ *м.* Агрэст. *Сёлята ў нас урадзіла шмат ягр, што німа куды дзяваць.*

12. Зак. 170

*М. В. Абабурка*

## ЭКСПРЭСІЎНЫЯ ДЗЕЯСЛОВЫ Ў ГАВОРЦЫ в. МОРАЧ КЛЕЦКАГА РАЁНА [1]

АБАБЭ'НЧЫЦЬ *зак.* Раздуць (пра жывёлу). *От наша карова пражорна: ужэ тры разы абабэнчвало, а се раўно есьць, колько ні дай.*

АБІРЫ'ЧЫЦЬ *зак.* Абстрыгчы абы-як. *Абірычыў Ванё хлопца, ак авечку, пэўно сьпешаўсе некуды.*

АБСАДЗІ'ЦЬ *зак.* Прымусіць замаўчаць; перагаварыць каго-н. *От разгаворыцца, дык дзесець яе ні апсадзяць. Я яго зразу апсадзіў, ак сказаў пра яго жонку.*

АБШМУЛІ'ЦЬ *зак.* Ашукаць. *Ну й бяссовесны: навет і малых апшмуліць ні саромеецца, абы толькі капейку сарваць.*

АПАТУ'РЫЦЦА *зак.* Апусціцца (пра чалавека). *Ой, мой моцны божэ, саўсім апатурыўся чалавек, цэлы тыдзень ходзіць ні брыты.*

АПАТЫ'ШЫЦЦА *зак.* Разбагацець і заганарыцца. *Міхаль пабыў гот у Дамбасі, апатышыўсе і цяперачы на лесхос і вокам ні міргне.*

АПЯРЭ'СЦІЦЬ *зак.* 1. Абскрэбці неахайна кару. *Трэ дзераво хоць трохо апярэсціць, ато шашаль завядзецца.* 2. Стукнуць якім-н. прадметам. *Гарбаты нос, бо коліс апярэсцілі.*

АХІЛА'ЦЬ *незак.* Есці хутка і з шумам. *Здарожыўсе, дык ахілаў маментально, што ні падавала.*

АЦІНА'ЦЦА *незак.* Гультаяваць. *От ламака! Ацінаеццa цэлы дзень, бо ведае, што бацько накорміць.*

АШАПУ'ЛІЦЬ *зак.* 1. Упасці неспадзявана на галаву. *Еду сабе паціхеньку, а сьнех калі ашапуліць з хвоі, дык мы с канём, ак Дзет Марос на санях.* 2. Стукнуць

---

[1] Пра спецыфічныя рысы гаворкі гл. у зб.: Народная лексіка. Мінск, 1977, с. 199.

чым-н. па галаве. *Зараз, калі ашапуліў мне дошкаю, я аш прысеў.*

БРЫШКАВА'ЦЬ *незак.* Быць пераборлівым у ядзе. *Наша Галка ні брышкуе нічога, а есьць усё па парат-ку — яна й сычша за Коліка.*

БРЭ'НГАЦЬ *незак.* 1. Сноўдацца (пра чалавека). *Ну, гультая і пазнаеш: без дай ладу будзе цэлы дзень брэнгаць паўс платы.* 2. Пасвіцца на дрэннай пашы. *Му-сіць, цэлы дзень каровы брэнгалі на голым, хлябы ш пу-стые.*

БУЛБАЦЕ'ЦЬ *незак.* Булькатаць. *Спусціўсе дошч, дык усенькі дзень будзе булбацець. Штодзень булбаціць кроў — чорт яго ведае, што рабіць.*

БУХІ'КАЦЬ *незак.* Кашляць. *А што! Ні казала я табе, кап сьнегу ні еў — от цяперака бухікай.*

ВЫМЫШЛЯ'ЦЬ *незак.* Патрабаваць немагчымага (пра распешчаных дзяцей). *Мая старша ні хочэ пано-шанага насіць, вымышляе толькі новенькага.*

ВЫПІКА'ЦЬ *незак.* Указваць на недахоп; упікаць. *Ашчэ сусед называецца — кажды рас выпікае, што ні-чысто адзяваюсе.*

ВЫ'СТАРЧЫЦЬ *зак.* Выпрасіць, раздабыць. *Яна й дроў выстарчыць, і прывесьці каго выстарчыць — спра-вядловая старчыха! Ой і песьцяць дочку — гэто ш што ні захочэ, выстарчаць, хоць с-падзь зямлі дастануць.*

ГВА'ЗНУЦЦА *зак.* Стукнуцца. *Ак гвазнуўсе, ажно йіскры пасыпалісе з вачэй.*

ГЕ'РЗАЦЬ *незак.* 1. Пісаць абы-як. *Німа, кап па-люцку пісаў, дык герзае, толькі цытрадзі пераводзіць.* 2. Маляваць неахайна. *На, герзай, колькі ўлезе, бацько яшчэ купіць!*

ГО'ПНУЦЦА, ГЭ'ПНУЦЦА *зак.* Нечакана ўпасці. *Братко, от гопнуўсе, дальбог дзесятаму закажу. Ідзе, задраўшы галаву, ды калі гэпнецца з усяго маху, аж застагнаў, бедны.*

ДУБІ'ЦЬ *незак.* Несці сагнуўшыся цяжкую ношу. *Хоць стары, а наўяжа ўяску як падняць і дубіць пама-ленькуй.*

ДУ'НДЗІЦЬ *незак.* 1. Смактаць (соску, люльку і інш.). *Кінуў бы дундзіць гэту дунду — усеньку хату за-смуродзіў сваім курывам.* 2. *перан.* Вымагаць; цягнуць. *От дундзяць Васіля дзеці — зарэ ўсе ўсялякае папрадае і на ўборы пааддае.*

Е'СЦІСЯ *незак.* Нервавацца. *Чаго ты, скажы мне, ясісе кожны божы дзень і мяне пераядаеш? Есца, есца, а чаго, кап цябе папытаў.*

ЖБУРНУ'ЦЬ *зак.* Кінуць вобземлю. *Жбурнуў са злосці куфайку ды аічэ й нагою марскануў.*

ЖМІ'НДЗІЦЬ *незак.* Муштраваць. *Сказала «Хваціць жміндзіць мяне» і ўцякла. Цяперака рабі са мною, што хочаш.*

ЖО'НДЗІЦЬ *незак.* 1. Гатаваць страву. *Будзе добрае вяселле, гэто ш, пане мой, цэлы тыдзень жоньдзяць.* 2. Дагаджаць. *Жоньдзіць прымаку, ак няведама каму, баіцца, кап ні зьбех, аткуль прышоў.*

ЖУХАЦЕ'ЦЬ *незак.* Гарэць, свяціць. *Хлеў ужэ жухаціць, а яно патскоквае ад радасці, не ведае, дурное, што згарэць і само можэ. Марко, мусіць, баіцца спаць без агню, бо лямпачка жухаціць каждую ноч.*

ЗАГІБА'ЦЬ *незак.* Доўга затрымлівацца, марнаваць час. *Пашла па таўкача і загібае мо ўжэ час. Ой, ні загібай над ерундою. Німа чаго тут загібаць, марш дадому!*

ЗБАБО'ЎШЫЦЬ *зак.* Стукнуць, ударыць. *Збабоўшыла навотліў — і ні знайсе. О, гэто дык прайдак!*

ЗАЛЯЙЦА'ЦЬ *зак. перан.* Поўнасцю завалодаць. *Так, браце, заляйцалі Рыгора, што й ні пікне — от што значыць мець добры характар.*

ЗАМЯЦЕ'ЛІЦЬ *зак.* Ударыць рукой. *Ак замяцеліў з-за вуха, аж лёскат пашоў,— ні паглядзеў, што брытко будзе.*

ЗАЦЕ'НІЦЦА *зак.* Перастаць слухацца. *Пяцёх сыноў выгадаваў, і хоць бы адзін калі заценіўсе.*

ЗАХАМУТА'ЦЬ *зак.* Поўнасцю завалодаць. *Ні йдзі, чалавечэ, у прымы ў вяліку сям'ю — спачатку будуць ласачкай, а патом захамутаюць і рабіцьмеш дзень і ноч, як наняты.*

ЗБАМБЕ'РЫЦЬ, ЗБАМБІ'ЦЬ *зак.* Украсці. *От баляс дык баляс: ні было чаго, дык ступу збамберыў. Збамбілі хвою і папалісе ў штрафнікі.*

ЗГА'МТАРЫЦЬ *зак.* Скамячыць. *У цябе, Ніно, дурная прывычка: згамтарыш-згамтарыш ўсё — і чыстае, і чорнае — ды ў шкаф.*

ЗГРЭ'БНУЦЦА *зак.* Упасці. *Ступіў на коўзанку Іван і ак згрэбнецца з усяго маху, аш паддымалі.*

ЗГРЭ'БНУЦЬ *зак.* Паваліць, мераючыся сілай. *Ба-*

*ролісе, дык мой хлопец пацставіў падношку і згрэбнуў хваленага барца — от жэ ш сьмеху было, браце ты мой, от было!*

ЗІКА'ЦЬ *незак.* Гаварыць са злосцю, павысіўшы голас. *Чаго ты с самага ранку зікаеш, ні можэш сказаць, як чалавек?*

ЗНЯБО'ЖЫЦЦА *зак.* Вельмі стаміцца. *Пацягала карчоў цалы дзень, дык саўсім зьнябожылася — слаба стала, старасьць падыходзіць.*

ЗЫ'РНУЦЦА *зак.* Стукнуцца галавою. *Учора, здэцца, німоцно зырнуўсе, а сёнечы ўсенька галава трашчыць.*

ЗЫ'РНУЦЬ *зак.* Стукнуць. *Зырні чым-нібудзь, то сціхне, ато балабоніць, што трэ і што ні трэ.*

КЕ'БЗАЦЬ, КО'БЗАЦЬ *незак.* Пэцкаць. *Ні ведаю, што рабіць з гэтаю кебзаю — кожны дзень прыбіраю, а яна толькі кебзае, навет боты ў кухні не здыме. Прышоў, накобзаў сваімі нідатопкамі і пашоў, ходзь бы што, а ты прыбірай.*

КЕ'ЎКНУЦЬ *зак.* Памерці. *Атстань, бо ак трэсну, дык і кеўкнеш.*

КЕ'ЎЧЫЦЬ, КО'ЎЧЫЦЬ *незак.* Жаваць; камячыць (папяросу, саломіну і інш.). *Прымак наш мае прывычку кеўчыць абы-што ў році. Нека білка нінармальна: пачці ўвесь лён пакоўчыла.*

КРАМЗО'ЛІЦЬ *незак.* Крэмзаць. *Пакажы мне, пісака, што ты накрамзоліў.*

КРЭ'ЙЗАЦЬ *незак.* Гл. *герзаць. Ні крэйзай на сьценах, ніўжэ цябе гэтаму ў школі вучаць.*

КУ'БЛІЦЦА *незак.* Таптацца на адным месцы; рабіць логава. *Бачу, сьвіня мая кубліцца пачала, ну, думаю, парасіцца будзе.*

ЛУЗАНУ'ЦЦА *зак.* Моцна стукнуцца. *Браце, задумаўсе нечаго, дый лузануўся аб вушак — от і гуза знашоў.*

МАРСКАНУ'ЦЬ *зак.* 1. Біць, пераважна нагою. *Такое шчаня ўядлае, пакуль ні марскануў нагою, ні атчапіласё.* 2. Рэзка піхнуць. *Пацялей так раз'ятрыўсе, што аж нявестку марскануў ат стала.*

МАТЫЛЯ'ЦЦА *незак.* 1. Матляцца. *Павесь хустку пац страху, хай матыляецца, мо праветрае.* 2. Танцаваць (толькі ў адзін бок). *Хадзем матыляцца, к* [як] *мухі ля сьвету.*

НАБІЧКАВА'ЦЬ *зак.* Напоўніць. *Ні была п то капераччыца — набічкуе кішэні цукерак і пашла.*

НАБЫ'ЧЫЦЦА *зак.* Насупіцца. *Глядзі ты, малое, а як набычыцца, дык хоць уцякай. Чаго набычыўся, хто ж гэта цябе ўкрыўдзіў?*

НАСТРАМЯШЫ'ЦЬ *зак.* Складваць абы-як. *Ну, што ты тут, неўдаль, настрамяшыў — ні капа, ні стох. Настрамяшыць усякіх лахтаў у кутку — і гэто называецца прыбрала.*

ПАДДЗЯВА'ЦЬ *незак.* Падапранаць. *От загарэліна! Усеньку зіму прахадзіў у лётнём пальце, хоць бы рас што падзьдзеў.*

ПАДХАХУ'ЛІЦЦА *зак.* Прыбрацца; падхарашыцца. *Колісь патхахулюсе, падрум'янюсе і ак прыду на зборню — усе хлопцы мае.*

ПАДЦЯЦЕ'РЫЦЬ *зак.* Украсці. *Забылі прыняць з двара пілку, дык нехта пацьцяцерыў, не пасаромеўсе. Такая пілка! Каб знаў, хто пацьцяцерыў, абязьвечыў бы!*

ПАДЧУМА'ЧЫЦЦА *зак.* Падпіць. *Ак паччумачыўсе, дык і запеў — от табе і ўнурко.*

ПЛУ'ЖЫЦЦА *незак.* Ісці памалу, спакваля. *І малады, а вечно плужыцца, нос зьвесіўшы. Ні ходзіць наш сусет, ак чалавек, а плужыцца паўс платы па сьвіных сьцешках.*

ПЛЯ'МКАЦЬ *незак.* Прыцмокваць; чмякаць. *Сказаў бы што, а то сядзіць і плямкае толькі губамі. Ні плямкай, ато ат твае яды нудно становіцца.*

ПХА'ЦЦА *незак.* Вельмі павольна ехаць. *Ледзьво пхаўсе аўтобус с-пад Грушак.*

ПЫ'ПНІЦЦА *незак.* Рабіць вельмі марудна. *Кінь, пыпна, пыпніцца з гэтымі гаронкамі, лепш падмяці хату. Барджэй!*

РАЗБАЗУ'ЛЕЦЬ *зак.* Распусціцца; разбэсціцца. *Саўсім разбазулеў наш Эдзё — чуць што, дык у плач. Ушчэнт разбазулелі дзеці — ані на макава зерне не хочуць рабіць.*

РАСКАЛЯСІ'ЦЦА *зак.* Развесяліцца, раздурэць. *Ак раскалесіцца Купра, ак пачне выдумоўваць, можно са сьмеху падарвацца.*

РАСТЫ'РКАЦЬ *зак.* Раздаць, растраціць. *Мой палучыць грошы і, ак ні аддасьць, раз-два на абы-што растыркае. Растыркаць скоро, але патом паспрабуй зьбяры.*

РАСХЛЯПЕ'СЦІЦЬ *зак.* Расчыніць (дзверы, вароты

і інш.). *На дварэ такі марос, а ён хату расхляпесьціў — закрывай барджэй.*

СПАНА'ТРЫЦЬ *зак.* Панадзіцца. *Братко ты мой, парай, што рабіць: наш прымак спанатрыў на абет два разы прыходзіць, хоць ты махалам махай.*

УБЛАГА'ЦЬ *зак.* Перахітрыць. *Хадзілі ў госьці ўсім кагалам, паддобрываліся, як маглі, пакуль сына ні ўблагалі. Цяперачы й носа ні патыкаюць, а ні то кап памаглі што.*

УЛЯЛЮ'ШЧЫЦЬ *зак.* Даць (кухталя, бізуна і г. д.). *Пашоў наш Лёнак у госьці да дзеўкі ў суседняе сяло, а яму дупцоў улялюшчылі.*

УПІЛЯ'СІЦЦА *зак.* Закахацца. *Калі, браце, упілясіўся так моцно, то трэбо жаніцца, нідзе ні дзенесьсе ад гэтага зелья.*

УПЭ'ЙКАЦЬ *зак.* Згубіць. *Такую ручку ўпэйкаць! Я ш за яе аш тры рублі дала.*

УСАНАБО'ЖЫЦЬ *зак.* 1. Выгадна ўладкаваць. *Алеся ўсё ш такі ўсанабожыла дочку ў горат.* 2. Выдаць замуж. *Рыгорко дзьве дачкі ўжэ ўсанабожыў, але ш ашчэ тры мае.*

УТРУБІ'ЦЬ *зак.* Змарнаваць. *Трэбо ш столько грошэй утрубіць? Чаму ш ты галаву сваю ні ўтрубіў!?*

ХА'ЎКАЦЬ *незак.* 1. Моцна дыхаць. *Ну, што хаўкаеш? Трэ было больш насіцца, можэ саўсім зваліўсе п.* 2. Пазяхаць. *«Ні хаўкай тут над вухам!» — «Дай божэ, кап мой хаў ды на цябе напаў!»*

ЦВІ'ЧЫЦЬ *незак.* Павучаць. *Колькі ні цьвічу свайго школьніка, а яму, што анучай па сьцяне.*

ЦУРКАВА'ЦЬ *незак.* Драбіць; перагрызаць (пра мышэй). *Пайдзі вазьмі дзе ката, ато мышы цуркуюць салому астатню.*

ШАВЯРДЗІ'ЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што. *Нешта шавярдзіць сам сабе — от шавярда!*

ШРАЙБАВА'ЦЬ, ШРАЙБЭ'ЛІЦЬ *незак.* Пісаць (асабліва пра першакласніка). *Ну-ка, пакажы мне, першачок, што ты тут шрайбуеш. Ты панімаеш, шрайбэліў, шрайбэліў — аш п'яць лістоў нашрайбэліў!*

ШЧАБО'ЎКНУЦЬ *зак.* Сказаць, кінуць рэпліку. *Дома дык усе героі, а ноч'ю ў лесі ходзь бы слова хто шчабоўкнуў.*

*Ф. Д. Клімчук*

# З НАРОДНЫХ НАЗВАЎ ГРЫБОЎ

У артыкуле прыведзены народныя назвы грыбоў з лексікі 15 населеных пунктаў Брэсцка-Пінскага Палесся і 16 населеных пунктаў іншых дыялектных зон Беларусі. Для параўнання прыводзяцца назвы грыбоў з вёсак Кацічы Бранскай вобласці (паведаміў В. В. Нешытой), Грэмяч Чарнігаўскай вобласці (паведаміла Я. А. Чарапанава), а таксама дзвюх вёсак Беластоцкага ваяводства ПНР: Лука Нараўскай гміны (паведаміў М. С. Лобач) і Яцаўляны Сідранскай гміны (паведаміла Ц. Ошэр-Падгурска). Паўната запісаў назваў грыбоў ва ўсіх населеных пунктах неаднолькавая. З некаторых вёсак (Асаўцы, Сошна і інш.) прыводзіцца ўсяго па некалькі назваў.

У кожным артыкуле спачатку даецца літаратурная назва грыба (у асобных выпадках дыялектная назва), потым у алфавітным парадку падаюцца ў адзіночным і множным ліку мясцовыя назвы. У якасці рэестравых слоў выкарыстаны назвы грыбоў, якія прыведзены ў БРС, РБС, БелСЭ, або ў працах Г. І. Сяржанінай «Съедобные и ядовитые грибы» (Мінск, 1967) і «Нашы грыбы» (Мінск, 1971).

Прыняты наступныя скарачэнні: Арл.— Арленск Гомельскага р-на, Ас.— Асаўцы Столінскага р-на, Б. Дубр.— Белая Дуброва Касцюковіцкага р-на, Беш.— Бешанковічы Бешанковіцкага р-на, Быстр.— Быстрыца Капыльскага р-на, Вайн.— Вайнілавічы Мастоўскага р-на, Відз.— Відзібар Столінскага р-на, Гар.— Гарасты Веткаўскага р-на, Гарадз.— Гарадзішча Лагойскага р-на, Горт.— Горталь Івацэвіцкага р-на, Грэм.— Грэмяч Ноўгарад-Северскага р-на (Чарнігаўская вобл. УССР), Гут.— Гутава Драгічынскага р-на, Дар.— Дарашэвічы Петрыкаўскага р-на, Дварч.— Дварчаны Пастаўскага

р-на, Друж.— Дружылавічы Іванаўскага р-на, Зав.— Завалочыцы Глускага р-на, Зар.— Зарэчка Ляхавіцкая Драгічынскага р-на, Кам.— Камянюкі Камянецкага р-на, Кац.— Кацічы Новазыбкаўскага р-на (Бранская вобл. РСФСР), Лас.— Ласіцк Пінскага р-на, Ліпск — Ліпск Круглянскага р-на, Лука — Лука Беластоцкага ваяводства (ПНР), Махн.— Махнавічы Мазырскага р-на, Пан.— Паніквы Камянецкага р-на, Пяркі — Пяркі Кобрынскага р-на, Рад.— Радастава Драгічынскага р-на, Свар.— Сварынь Драгічынскага р-на, Сім.— Сіманавічы Драгічынскага р-на, Сінк.— Сінкевічы Лунінецкага р-на, Слаб.— Слабада Стаўбцоўскага р-на, Сошна — Сошна Пінскага р-на, Спор.— Спорава Бярозаўскага р-на, Суш.— Сушыцк Пінскага р-на, Узг.— Узгоі Талачынскага р-на, Яц.— Яцаўляны Беластоцкага ваяводства (ПНР).

АБАБАК, ПАДБЯРОЗАВІК: *абáбак м., мн. абáбкі* Б. Дубр., Арл., Кац., Грэм.; *бáба ж., мн. бáбы* Лука; *бáбка ж., мн. бáбкі* Дар., Махн., *бабкí* Горт., *бабкы́* Пан., Сім., Зар., Гут., Друж., Суш., Лас., Відз., Ас., *бáбы* Лука; *бáпка ж., мн. бапкé* Свар., *бáпкі* Дварч. *(на балоце, у траве)* Узг., Гарадз., Слаб., Быстр., Зав., Сінк., *бапкí* Сінк., *бапкы́* Спор. (рэдк.), *бапкэ́* Рад.; *бырызня́к м., мн. бырызнякы́* Пяркі; *грыбóк м., мн. грыпкí* Узг.; *казьля́к м., мн. казьлякé* Яц.; *козя́к м., мн. козякы́* Пан.; *лапшу́к м., мн. лапшукí* Дварч. *(калі старая); ляднíк м., мн. ляднікí* Ліпск; *падабáбак м., мн. падабáбкі* Гар.; *падбярóзавік м., мн. падбярóзавікі* Дварч. *(пад бярозамі, каля бяроз)*, Вайн., Гарадз., Зав.; *падбярэ́зьнік м., мн. падбярэ́зьнікі* Яц.; *пахлю́к м., мн. пахлюкы́* Кам.; *пыдбэрíзняк м., мн. пыдбэрíзнякы* Спор.

Разнавіднасці абабкаў. Абабак з белай шапкай: *біла бáбка, мн. білы бабкы́* Сім., Суш., Лас.; *білый бырызня́к, мн. білы бырызнякы́* Пяркі. Абабак з цёмнай шапкай: *руды́й бырызня́к, мн. руды́і бырызнякы́* Пяркі; *чóрна бáбка, мн. чóрны бабкы́* Сім., Суш.

АПЕНЬКА: *апéнак м., мн. апéнкі* Б. Дубр.; *апéнек м., мн. апéнькі* Слаб., Быстр., Зав., Кац., Грэм.; *апéнка ж., мн. апéнкі* Дварч., Узг., Вайн.; *апéнька ж., мн. апéнькі* Гарадз., Дар., Махн., Арл., Яц., Лука, *пéнькі* Махн.; *апё́нак м., мн. апё́нкі* Ліпск, Кац.; *впэ́нёкь м., мн. впэ́нькэ, пэ́нькэ* Рад.; *опéнёк м., мн. опéнькі* Горт., Сінк.; *опэ́нёк м., мн. опэ́нькы* Кам., Сім., Гут., Зар., Спор., Друж., Суш.,

Лас., Відз., Ас.; *опэнька ж., мн. опэнькы* Пан., Пяркі; *пэнёкь м., мн. пэнькэ* Рад.; *упэнёк м., мн. упэнькі* Свар.; *упэнёкь м., мн. упэнькэ* Рад.

Разнавіднасці апенек. Апенька са светлай шапкай: *бырэзовый опэнёк, мн. бырэзовы опэнькы* Кам. Апенька з чырванаватай шапкай: *ольхсвый опэнёк, мн. ольховы опэнькы* Кам. Апенькі, якія растуць вясной: *вэсняныі опэнькы, адз. вэсняный опэнёк* Суш. Апенькі, якія растуць увосень: *осінны опэнькы, адз. осінна опэнька* Пяркі.

АПЕНЬКА ЛУГАВАЯ Marasmius oreades Fr.: *варушка ж., мн. варушкі* Узг.; *падарожнік м., мн. падарсжнікі* Вайн. *(дробныя, па дарогах),* Быстр.; *подоріжка ж., мн. подоріжкы* Пяркі *(по одному, по одный ростуть, по дорозы, раньшэ всіх, похожы до опэнькув); подорожнык м., мн. подорсжныкы* Пяркі, Зар.; *пудорожнык м., мн. пудорожныкі* Свар.; *пудорожныкь м., мн. пудорожныкэ* Рад.

АПЕНЬКА НЕСАПРАЎДНАЯ: *тонконіжка ж., мн. тонконіжкы* Друж.

БАРАВІК: *баравік м., мн. баравікі* Дварч., Узг., Гарадз., Беш., Слаб., Быстр., Зав., Ліпск, Б. Дубр., Махн., Арл., Гар., Кац., Грэм.; *белы грыб, мн. белые грыбу* Сінк., Махн.; *білый грыб, мн. білы грыбы* Кам., Пан. (рэдк.), Пяркі (рэдк.), Сім. (рэдк.), Суш., Сош., Відз., Ас.; *боровік м., мн. боровікі* Сінк.; *боровык м., мн. боровыкы* Зар., Суш., Лас., Відз.; *грыб м., мн. грыбу* Сінк., Дар., Махн., *грыбы* Пяркі, Сім., Гут., Друж., Горт., Суш., Лас., Відз., Кац., Лука, *грыбэ* Яц.; *грып м., мн. грыбы* Вайн.; *грэп м., мн. грыбэ* Рад., Свар.; *добры грыб, мн. добрые грыбу* Сінк., *добрыя грыбы* Гар.; *праўдывый грыб, мн. праўдывы грыбы* Пан., Суш.; *праўдывэць м., мн. праўдывці* Пяркі; *праўдэвы грэп, мн. праўдэвы грыбэ* Рад., Свар.; *праўдзівы грыб, мн. праўдзівые грыбу* Сінк., *праўдзівые грыбы* Быстр., *праўдзіўкі* Яц.; *справыдлывый грыб, мн. справыдлывы грыбы* Пан.; *справэдлывый грыб, мн. справэдлывы грыбы* Лас.; *справэдлэвы грэп, мн. справэдлэвы грыбэ* Рад.; *шчэры грыб, мн. шчэрыя грыбэ* Яц.

Разнавіднасці баравікоў. Баравік з белай шапкай: *белы грыб, мн. белыя грыбы* Арл. (у лісцёвых лясах); *білый грыб, мн. білы грыбы* Пяркі, Сім. Баравік з цёмнай шапкай: *чарнагаловік м., мн. чарнагаловікі* Арл. (у сасновых лясах); *чсрный грыб, мн. чорны грыбы* Пяркі, Сім. Баравік з цемнаватым нізам шапкі: *градовый грыб,*

*мн. градовы́і грыбы́* Ас.; *дубо́вый грыб, мн. дубо́вы грыбы́* Відз. (*дубовый грыб — пу́до дном бы сывый, бы чорный*). Баравік, які расце на высокім месцы: *боровы́й грыб, мн. боровы́і грыбы́* Сім.; *боровы́к м., мн. боровыкы́* Сім.; *горовы́й грыб, мн. горовы́і грыбы́* Друж., Лас. Баравік, які расце ў даліне, у нізкім месцы: *долыно́вый грыб, мн. долыно́вы грыбы́* Друж.; *нызовы́й грыб, мн. нызовы́і грыбы́* Друж., Лас. Баравік, які расце ў імху: *моховы́й грыб, мн. моховы́і грыбы́* Сім., Суш.; *моховы́к м., мн. моховыкы́* Пяркі. Малады баравік: *бе́лы грыб, мн. бе́лые грыбу́* Дар. Баравікі, якія растуць, калі каласуе ці *«расуе»* (цвіце) жыта: *каласаві́кі, адз. каласаві́к м.* Арл.; *расаві́кі, адз. расаві́к м.* Лука.

ВАЛУЙ: *валу́й м., мн. валу́і* Гарадз., Арл.; *супле́кь м., мн. суплі́* Рад.

ВАРОНА, КАПЯЛЮХ: *воро́на ж., мн. воро́ны* Пан.; *дро́па ж., мн. дро́пы* Пяркі; *дропа́ ж., мн. дро́пы* Кам.; *ка́ня ж., мн. ка́ні* Яц.; *ковпа́к м., мн. ковпакы́* Пяркі; *купа́к м., мн. купакы́* Пяркі; *ку́рка ж., мн. ку́ркі* Лука.

ВАЎНЯНКА: *валавя́нка ж., мн. валавя́нкі* Б. Дубр.; *ваўну́шка ж., мн. ваўну́шкі* Гарадз.; *ваўня́нка ж., мн. ваўня́нкі* Узг., Зав., Ліпск, Арл., Кац., Грэм., Яц.; *вовну́шка ж., мн. вовну́шкы* Кам.; *во́внянка ж., мн. во́внянкы* Пяркі; *во́вняха ж., мн. во́вняхі* Свар., *во́вняхы* Сім., Гут., Зар., Друж., *во́вняхэ* Рад.; *всу́нянка ж., мн. воу́нянкі* Махн.; *воло́вік м., мн. воло́вікі* Горт., Дар.; *моло́чнік м., мн. моло́чнікі* Сінк.

ВЯСЁЛКА: *воню́чы грыб, мн. воню́чые грыбу́* Сінк. (*од жывота п'юць, по леско́х ростуць*); *вясе́лка ж., мн. вясе́лкі* Грэм.; *смярдзю́к м., мн. смярдзюкі́* Ліпск.

ГАРКУХА, КАРОЎКА: *карсу́ка ж., мн. каро́укі* Дварч.; *коро́ва ж., мн. коровы́* Пан. (*на свынюхы́ похожы*); *коро́в'яха ж., мн. коро́в'яхы* Гут., Друж.

ГРУЗДЫ: *бе́лы груз, мн. бе́лые грузы́* Сінк. (*е белы груз, а е сівы груз*), *біла свыня, мн. білы свы́ны* Пяркі (*молоко тычэ*); *галу́бка ж., мн. галу́бкі* Яц. (*сіваватая*); *голубо́к м., мн. голубкы́* Пяркі (*бы жовтоваты, гладынькы, світлы, быз моху*); *груз м., мн. грузы́* Сінк.; *грузд м., мн. грузды́* Дварч., Дар.; *груздзь м., мн. гру́здзі* Арл.; *мачо́нка ж., мн. мачо́нкі* Гарадз. (*пахожа на рышка, светлая, чысціцца, бы мох*); *молоче́й м., мн. молоча́і* Гут.; *молочі́йка ж., мн. молочі́йкы* Пяркі (*мэнча за свыню*); *сівы груз, мн. сівые грузы́* Сінк.; *скры́пацень м., мн. скры-*

*патні* Узг. *(белы, горкі, падобны да падгробы, многа малака); сьвіння ж., мн. сьвінні* Узг. (*чорныя); хрішч м., мн. хрышчі* Зар. *(білы, с шырокыю шепкыю, малый, товстый корэнь, на высокых місцех, в лысках ростуть)*, Рад. *(твэрды, пу уструвах, дэ дубэ, пухож пуд сыруіжку, пуд рыжка, на свынню, звэрху жовты, пуд сподум білы); хрушч м., мн. хрушчі* Гут. *(білый)*, Рад., Друж.; *чорна свыня, мн. чорны свыны* Пяркі *(е чорна свыня, е біла свыня)*.

ГРЫБНАЯ КАПУСТА: *гарах м., мн. гарахы* Кам. *(варать з молоком, просяных чы рысовых круп шэ); грыбовы цвет* Дар.; *грыбовый цвіт* Лас.; *козья бародка* Яц. (рэдк.).

ГУБА: *губа ж., мн. губы* Вайн., Б. Дубр., Слаб., Пан., Пяркі, Сім., Гут., Спор., Друж., Горт., Яц., *губэ* Рад.; *губа ж., мн. губы* Гарадз., Дар.; *губка ж., мн. губкі* Быстр., Грэм., *губкы* Кам., Пяркі, Суш., Лас.; *губ'як м., мн. губ'які* Махн.; *губ'яка ж., мн. губ'які* Сінк.; *куряшка ж., мн. куряшкі* Б. Дубр.; *лупа ж., мн. лупы* Дварч.; *скрыпень м., мн. скрыпні* Дар.; *скрыпэль м., мн. скрыпылі* Відз.; *чага ж., мн. чагі* Арл.; *чагы* Кам. *(покручана губка); чыэр м.* Лука.

ЖОВТУ'ШКА *ж., мн. жовтушкы* Кам.— нейкі ядомы грыб з жоўтай шапкай.

ЖОЎЦЕВЫ ГРЫБ: *вдулек м., мн. вдуляке* Свар.; *вдулекь м., мн. вдулякэ* Рад.; *гіркый грыб, мн. гіркы грыбы* Пяркі, Лас.; *горкі грыб, мн. горкіе грыбу* Сінк., Дар.; *горчек м., мн. горчакы* Гут.; *гыркый грыб, мн. гыркы грыбы* Сім.; *дулекь м., мн. дулякэ* Рад.; *ольховый грыб, мн. ольховы грыбы* Друж.; *полевы грыб, мн. полевые грыбу* Дар.; *шатан м., мн. шатаны* Яц.

ЗЯЛЁНКА: *зеленка ж., мн. зелёнкі* Махн.; *зелёнка ж., мн. зелёнкі* Сінк., Дар., Махн., *зелянкі* Лука; *зелянуха ж., мн. зелянухі* Вайн.; *золуніца ж., мн. золуніцы* Сінк.; *зылёныца ж., мн. зылёныцы* Відз., Ас.; *зылінка ж., мн. зылёнкы* Пяркі, *зылінкы* Сім., Гут., Друж., *зылінкы* Кам.; *зылыныця ж., мн. зылыныцы* Зар.; *зылюнка ж., мн. зылюнкы* Пан.; *зылюныца ж., мн. зылюныцы* Суш., Сошна; *зэлэныца ж., мн. зэлэныцы* Лас.; *зэлэнэця ж., мн. зэлэнэцы* Свар., *зэлэнэцэ* Рад.; *зялёнка ж., мн. зялёнкі* Дварч., Гарадз., Слаб., Зав., Арл., Гар., Яц.; *курачка ж., мн. курачкі* Б. Дубр. *(курачкі зялёнененькія)*.

КАЎПАК КОЛЬЧАСТЫ, ПАДБАЛАЦЯНКА: *білый*

*козляк, мн. білы козлякы́* Лас.; *выскака́нэць м., мн. выскака́нці* Кам.; *плюха ж., мн. плюхы* Сошна; *пры́балатка ж., мн. пры́балаткі* Махн.; *пры́болотка ж., мн. пры́болоткы* Пяркі; *пры́болотуха ж., мн. пры́болотухі* Сінк., *пры́болотухы* Сім., Гут., Зар., Друж., Суш., Відз., Ас.; *прэ́булутуха ж., мн. прэ́булутухі* Свар., *прэ́булутухэ* Рад.; *хылыну́ха ж., мн. хылыну́хы* Пан.; *шарафаё́н м., мн. шарафаё́ны* Пяркі.

ЛІСІЧКА: *лісіца ж., мн. лісіцы* Вайн., Зав., Дар.; *лісічанка ж., мн. лісічанкі* Сінк.; *лісічка ж., мн. лісічкі* Дварч., Узг., Вайн., Гарадз., Беш., Слаб., Быстр., Ліпск, Дар., Арл., Гар., Кац.; *ліска ж., мн. ліске́* Яц.; *лысы́ца ж., мн. лысы́цы* Друж., Суш., Сош., Лас., Відз., Ас.; *лысы́ця ж., мн. лысы́ці* Сім., *лысы́цы* Гут., Зар.; *лысы́чка ж., мн. лысы́чкы* Суш.; *лысэ́ця ж., мн. лысэ́цы* Свар., *лысэ́цэ* Рад.; *пліска ж., мн. плі́скі* Лука, *пліскы́* Кам.; *плы́ска ж., мн. плы́скы* Пяркі (рэдк.), *плыскы́* Пан., Пяркі.

ЛІСІЧКА НЕСАПРАЎДНАЯ: *обма́нна лысы́ца, мн. обма́нны лысы́цы* Друж.

ЛІСІЧКА ШЭРАЯ: *плюс м., мн. плюсы́* Сінк.

МАСЛЯК: *казё́л м., мн. казлы́* Ліпск, Б. Дубр., Кац.; *казлю́к м., мн. казлюкі* Кац.; *казля́к м., мн. казлякі* Гарадз., Дар.; *казля́т м., мн. казля́та* Слаб.; *ко́злік м., мн. ко́злікі* Грэм.; *масле́к м., мн. маслякы́* Гут., Зар., *масляке́* Свар.; *масле́кь м., мн. маслякэ́* Рад.; *маслю́к м., мн. маслюкі* Дар., Махн., Лука, *маслюкы́* Кам., Пан.; *масьлю́к м., мн. масьлюкі* Сінк., Гар., *масьлюке́* Яц., *масьляке́* Вайн.; *масля́к м., мн. масляке́* Вайн., *маслякі́* Быстр., Зав., Горт., *маслякы́* Пяркі, Сім., Спор., Друж., Суш., Лас., Відз., Ас., *масля́ты* Б. Дубр.; *масля́т м., мн. масля́та* Слаб. *(сарваў аднаго маслята́)*; адзначаны *толькі мн.; масля́та* Арл., *масля́ты* Дварч., Узг.

МАХАВІК ЖОЎТА-БУРЫ, ІМШАРНІК: *багню́к м., мн. багнюкі* Лука; *жовтя́к м., мн. жовтякы́* Пан.; *імша́р м., мн. імшары́* Відз., Ас.; *казля́к м., мн. казлякі́* Дар.; *махаві́к м., мн. махавікі* Дварч., Гарадз., Слаб., Махн.; *мохові́к м., мн. моховікі* Дар.; *муховік м., мн. муховікі* Горт.; *мухові́к м., мн. муховыкы́* Суш.; *мшар м., мн. мшары́* Відз., Ас.; *падарэ́шнік м., мн. падарэ́шнікі* Гар., Кац.; *пудо́мшнык м., мн. пудо́мшныкы* Лас.; *савя́к м., мн. савяке́* Вайн.; *сыне́к м., мн. сыняке́* Свар., *сынякы́* Гут., Зар.; *сыне́кь м., мн. сынякэ́* Рад.; *сыня́к м., мн. сынякы́* Кам., Пяркі, Сім., Друж.

МАХАВІК ЗЯЛЁНЫ, ЗАЕЧЫ БАРАВІК: *жовтёк м., мн. жовтякы́* Гут.; *за́йчы грыб, мн. за́йчые грыбы́* Лука; *за́йчый грыб, мн. за́йчы грыбы́* Кам.; *за́ячы баравік, мн. за́ячыя баравікі* Дварч., Гарадз.; *за́ячый грыб, мн. за́ячы грыбы́* Друж.; *махавік м., мн. махавікі* Зав., Арл., Гар.; *моховік м., мн. моховікі* Дар.; *мошорнік м., мн. мошорнікі* Сінк.; *муклéкь м., мн. муклякэ́* Рад.; *мшар м., мн. мшарі* Лас.; *падгры́бак м., мн. падгры́бкі* Яц.; *палявік м., мн. палявікі* Ліпск; *полёвік м., мн. полёвікі* Сінк.; *полёвы́й грыб, мн. полёвы́е грыбу́* Сінк., *полёвы́і грыбы́* Пяркі, Сім., Друж., Суш., Сошна, Відз., Ас.; *полёвы́к м., мн. полёвыкы́* Гут.; *поляны́й грыб, мн. поляны́і грыбы́* Лас., Відз.; *пулювэ́й грэп, мн. пулювэ́і грыбэ́* Рад., Свар.; *сіня́к м., мн. сінякé* Вайн.; *сыня́к м., мн. сынякы́* Пан., Пяркі, Друж.; *чашчавік м., мн. чашчавікі* Гарадз.

МАХАВІК СТРАКАТЫ, ПАДОМШНІК: *падгры́бак м., мн. падгры́бкі* Яц.; *полёвік м., мн. полёвікі* Сінк.; *полёвы́й грыб, мн. полёвы́і грыбы́* Сім.

МЛЕЧНІК Lactarius volemus Fr.: *каро́ўка ж., мн. каро́ўкі* Дварч., *прося́нка ж., мн. прося́нкы* Друж.

МУХАМОР: *махамо́р м., мн. махамо́рэ* Рад.; *мухама́р м., мн. мухама́ры* Спор.; *мухамо́р м., мн. мухамо́ры* Дварч., Вайн., Узг., Гарадз., Беш., Слаб., Быстр., Зав., Ліпск, Б. Дубр., Пан., Свар., Арл., Гар., Кац., Грэм., Лука, Яц., *мухамо́рэ* Рад.; *мухамо́ра ж., мн. мухамо́ры* Махн.; *мухамо́рына ж., мн. мухамо́ры* Махн.; *мухомо́р м., мн. мухомо́ры* Кам., Пяркі, Сім., Гут., Зар., Друж., Суш., Сошна, Лас., Відз., Ас., Сінк., Дар.; *мухумо́р м., мн. мухумо́рэ* Рад.; *му́харанка ж., мн. му́харанкі* Горт.

Разнавіднасці мухамораў у залежнасці ад колеру шапкі: *бéлы мухамо́р* Дварч.; *білый мухомо́р* Пяркі, Сім., Відз.; *жо́ўты мухамо́р* Дварч.; *жо́втый мухомо́р* Пяркі, Сім., Відз.; *сы́ній мухомо́р* Відз.; *чырво́ны мухамо́р* Дварч.; *чырво́ный мухомо́р* Пяркі, Сім., Відз.

ОВЕ́ЧЫ ГРЫБ, *мн. овéчые грыбы́* Горт.— нейкі неядомы грыб, які сінее.

ПАДАСІНАВІК, КРАСНАГАЛОВІК: *асо́вік м., мн. асо́вікі* Зав.; *бэрэ́зувэць м., мн. бэрэ́зувцы* Свар., *бэрэ́зувцэ* Рад.; *краснагало́вік м., мн. краснагало́вікі* Дварч., Вайн., Слаб., Махн.; *красноголо́вік м., мн. красноголо́вікі* Горт., Сінк., Дар.; *красноголо́выць м., мн. красноголо́вці* Пан.; *красноголо́вэц м., мн. красноголо́вцы* Спор., Суш., Сошна, Лас.; *красноголо́вэць м., мн. красноголо́в-*

*ці* Пяркі; *краснолóвэць м., мн. краснолóвці* Сім.; *краснюк м., мн. краснюкі* Грэм., *краснюкы́* Кам., Пяркі, Сім., Гут., Зар., Спор., Друж., Суш., Відз., Ас.; *крэснюк м., мн. крэснюкі* Лука; *падасінавік м., мн. падасінавікі* Дварч., Узг., Гарадз., Быстр., Ліпск, Б. Дубр., Арл., Гар., Кац.; *падасóвік м., мн. падасóвікі* Яц., *подосіннік м., мн. подосіннікі* Сінк.; *чырвонагалóвік м., мн. чырвонагалóвікі* Яц.

ПАДГРУЗДАК БЕЛЫ: *губэ́ня ж., мн. губэ́ні* Спор. *(похожа на сыроігу, алэ твэрдіша); падгрóба ж., мн. падгрóбы* Узг. *(белыя, смачныя, няма малака); свіна́рка ж., мн. свіна́ркі* Махн.; *свінка ж., мн. свінкі* Сінк., Лука; *свы́нка ж., мн. свы́нкы* Суш., *свынкы́* Кам., Лас., Відз.; *свынне́ ж., мн. свы́ны* Гут.; *свынння́ ж., мн. свы́ны* Сім.; *свынюх м., мн. свынюхы́* Пан.; *свыня́ ж., мн. свы́ны* Пяркі; *свэ́нка ж., мн. свынке́* Свар., *свынкэ́* Рад.; *сьвіньня́ ж., мн. сьвіньні* Вайн.

ПЕРЦАВЫ ГРЫБ: *гы́рка рышэ́тяха, мн. гы́ркы рышэ́тяхы* Сім.; *полёвы́й грыб, мн. полёвы́і грыбы́* Сім.

ПЕЎНІК ЖОЎТЫ: *выдмэ́дыца ж., мн. выдмэ́дыцы* Відз.; *вэдмэ́дыкь м., мн. вэдмэ́дыкэ* Рад.; *карóўка ж., мн. карóўкі* Махн.; *мыдвэ́дык м., мн. мыдвэ́дыкы* Сім.; *мыдьвідь м., мн. мыдьвіді* Сім.; *мэдвідь м., мн. мэдвэді* Рад.; *мэдвэ́дык м., мн. мэдвэ́дыкі* Свар., *мэдвэ́дыкы* Суш.; *мэдвэ́дыкь м., мн. мэдвэ́дыкэ* Рад.

ПЕЎНІК СТРАКАТЫ: *валахня́нка ж., мн. валахня́нкі* Яц.; *валóвы язы́к, мн. валóвые языкі* Лука; *казёл м., мн. казлы́* Махн.; *кіт м., мн. коты́* Зар.; *кішка ж., мн. кошкы́* Гут., Зар., Друж.; *кобы́ла ж., мн. кобылы́* Кам.; *коза́ ж., мн. кóзы* Пяркі, Зар.; *куза́ ж., мн. кóзэ, кузлэ́* Рад.; *кышка ж., мн. кошкы́* Сім.; *сімірóга ж., мн. сімірóгі* Сінк.

ПОЛЬСКІ ГРЫБ, ПАДГРЫБ: *градовы́й грыб, мн. градовы́і грыбы́* Ас.; *дубóвый грыб, мн. дубóвы грыбы́* Відз.; *за́ячы грыб, мн. за́ячыя грыбы́* Арл.; *падгры́бак м., мн. падгры́бкі* Яц.; *паддýбавік м., мн. паддýбавікі* Дварч.; *подгры́бнык м., мн. подгры́бныкы* Пяркі; *полевы́ грыб, мн. полевы́е грыбý* Сінк.; *полёвік м., мн. полёвікі* Сінк.; *полёвы́й грыб, мн. полёвы́і грыбы́* Сім.

ПОЛЯНЫ′ ГРЫБ, *мн. поляны́е грыбы́* Горт.— нейкі неядомы грыб, які чырванее пры зломе.

ПОРХАЎКА: *бýснявка ж., мн. бýснявкы* Пяркі, Сім., Гут. *(як молодая)*, Зар., Друж., *бýснявкэ* Рад.; *бýслявка ж., мн. бýслявкы* Суш.; *бýськів гный* Друж.; *бýшляв-*

*ка ж., мн. бу́шлявкы* Суш.; *дро́па ж., мн. дро́пы* Гут. *(буснявка мала́я, а дропа вылы́ка); мума́шка ж., мн. мума́шкі* Б. Дубр.; *по́рахаўка ж., мн. по́рахаўкі* Вайн.; *по́рхавка ж., мн. по́рхавкі* Свар., *по́рхавкы* Пяркі, Сім., Гут. *(як стара́я),* Зар., Спор., Суш., Відз., Ас., *по́рхавкэ* Рад.; *по́рхаўка ж., мн. по́рхаўкі* Вайн., Гарадз., Слаб., Быстр., Зав., Горт., Сінк., Дар., Махн., Лука; *пу́рхавка ж., мн. пу́рхавкы* Кам., Пан., Друж., Лас.; *пу́рхаўка ж., мн. пу́рхаўкі* Лука; *пу́шка ж., мн. пу́шкі* Грэм.

РАГАЦІК ЖОЎТЫ: *га́рах м., мн. га́рахы* Кам. (рэдк.); *ко́зья баро́дка, мн. ко́зы баро́дкі* Яц.

РАДОЎКА: *го́луб м., мн. голубы́* Друж.; *дурны́й грыб, мн. дурны́і грыбы́* Друж.; *плюс м., мн. плюсы́* Махн.; *пора́духа ж., мн. пора́духі* Сінк., *пора́духы* Лас. *(порадухы ныізэнькы, шырокы, всэ літо ростуть, на высокому, похожы до опэнькув); сіву́шка ж., мн. сівушкі* Сінк.

РАДОЎКА ШЭРАЯ, ПАДЗЯЛЁНКА: *гу́сачка ж., мн. гу́сачкі* Арл.; *пад'зелёнка ж., мн. по́д'зелянкі* Лука; *пад'зялёнка ж., мн. пад'зялёнкі* Дварч., Гарадз., Слаб., Зав.; *пі́д'зылёнка ж., мн. пі́д'зылёнкы* Пяркі; *пі́д'зылінка ж., мн. пі́д'зылёнкы* Кам.; *пі́д'зылынка ж., мн. пі́д'зылынкы* Гут., Друж.; *пі́д'зэлёнка ж., мн. пі́д'зэлёнкы* Лас.; *под'зеленка ж.* Махн.; *под'зелёнка ж.* Дар.; *пудві́льшнячок м., мн. пудві́льшнячкы* Зар. *(знызу зылёнова́тый, звэрху бы полове́нькый, похож на рыжка); пу́д'зылёнка ж., мн. пу́д'зылёнкы* Суш., Відз.; *пу́д'зылынка ж., мн. пу́д'зылынкы* Сім.; *пу́д'зылюнка ж., мн. пу́д'зылюнкы* Пан.

РАДОЎКА ФІЯЛЕТАВАЯ: *кіт м., мн. коты́* Кам.

РАШЭТНІК: *бацві́ннік м., мн. бацві́ннікі* Яц.; *казяло́к м, мн. казялкі́* Дварч.; *падрашо́тнік м., мн. падрашо́тнікі* Вайн.; *рашо́тачка ж., мн. рашо́тачкі* Узг.; *рашо́тнік м., мн. рашо́тнікі* Лука; *рашэ́тнік м., мн. рашэ́тнікі* Слаб.; *рышу́тка ж., мн. рышу́ткы* Пан.; *рышытня́к м., мн. рышытнякы́* Кам., Пяркі; *рышэ́тяха ж., мн. рышэ́тяхы* Сім., Гут., Зар., Друж., Відз.; *рэшо́тка ж., мн. рэшо́ткі* Махн.; *рэшо́тнік м., мн. рэшо́тнікі* Дар.; *рэшо́цёк м., мн. рэшо́цькі* Сінк.; *рэшо́цька ж., мн. рэшо́цькі* Сінк.; *рэшэ́тяньк м., мн. рэшэ́тяныкы* Суш., Лас.; *рэшэ́тяха ж., мн. рэшэ́тяхэ* Рад.; *рэшэ́цяха ж., мн. рэшэ́цяхі* Свар.

РЫЖЫК: *ры́жка ж., мн. рыжке́* Яц., *ры́жкі* Свар., *ры́жкэ* Рад.; *рыжо́к м., мн. рыжке́* Свар., *рыжкі́* Сінк., Махн., *рыжкы́* Кам., Пан., Сім., Зар., Друж., Суш., Лас., Відз., Ас., *рышке́* Вайн.; *рыжо́кь м., мн. рышкэ́* Рад.; *ры-*

*жык м., мн. рыжыкі* Дварч., Гарадз., Слаб., Быстр., Зав., Ліпск, Дар., Арл., Лука, *рыжыкы* Пяркі, Гут.

СВІНУХА ТОНКАЯ: *гольхы́вка ж., мн. гольхы́вкы* Сім.; *кабы́ла ж., мн. кабы́лы* Гарадз.; *кабы́лка ж., мн. кабылкі* Ліпск; *кава́лік м., мн. кава́лікі* Узг.; *ко́нская лу́па, мн. ко́нскія лу́пы* Дварч.; *ольхі́вка ж., мн. ольхі́вкы* Кам., Пяркі; *ольхо́ўка ж., мн. ольхо́ўкі* Сінк.; *ольхы́вка ж., мн. ольхы́вкы* Сім.; *падальхо́вік м., мн. падальхо́вікі* Беш.; *поддýбняк м., мн. поддýбнякы* Гут.; *поддýбэц м., мн. поддýбцы* Лас.; *пýддубэнь м., мн. пýддубні* Пан.; *пуддýбняк м., мн. пуддýбнякы* Сім., Зар., Друж.; *пудýбняк м., мн. пудýбнякі* Свар.; *пудýбнякь м., мн. пудýбнякэ* Рад.

СІНЯК Boletus cyanescens Bull.: *палявы́ грыб, мн. палявы́е грыбы́* Махн.; *полёвы́ бе́лы грыб, мн. полёвы́е бе́лые грыбы́* Сі́нк.; *полёвы́й грыб, мн. полёвы́і грыбы́* Сім.; *полёвы́й бі́лый грыб, мн. полёвы́і бі́лы грыбы́* Сім.

СІНЯК Boletus luridus Fr.: *паддýбавік м., мн. паддýбавікі* Дварч.

СМАРЖОК: *грыбо́вы цвет* Сінк.; *грыбо́вый цвіт* Відз., *грыбо́ў цвет* Сінк.; *смаржо́к м., мн. смаржкі́* Яц., *смаршкі́* Узг.; *смарчо́к м., мн. смарчкі́* Арл., Грэм.; *смаршо́к м., мн. смаршкі́* Б. Дубр., Слаб.; *смаршчо́к м., мн. смаршчкі́* Лука; *сморшо́к м., мн. сморшкі́* Горт., *сморшкы́* Друж., Суш.; *сморшчо́к м., мн. сморшчкы́* Кам.

СЫРАЕЖКА: *галýбка ж., мн. галýбкі* Лука; *сураве́жка ж., мн. сураве́жкі* Грэм., *сураве́шкі* Узг.; *суруі́жа ж., мн. суруі́жэ* Рад.; *суруі́жка ж., мн. суруі́жкі* Свар., *суруі́жкэ* Рад.; *сыраве́жка ж., мн. сыраве́жкі* Вайн., Слаб., Б. Дубр., Гар.; *сырае́га ж., мн. сырае́гі* Зав.; *сырае́дка ж., мн. сырае́дкі* Яц.; *сырае́жка ж., мн. сырае́жкі* Дварч., Гарадз., Быстр., Зав., Ліпск, Махн., Арл., Кац., Яц., *сырогі́жка ж., мн. сырогі́жкы* Лас.; *сыродзі́га ж., мн. сыродзі́гы* Сім.; *сырое́жа ж., мн. сырое́жы* Горт., Сінк.; *сырое́жка ж., мн. сырое́жкі* Горт., Сінк., Дар.; *сыроі́га ж., мн. сыроі́гы* Сім., Гут., Зар., Спор., Друж., Відз., Ас.; *сыроі́жка ж., мн. сыроі́жкы* Пяркі, Відз.; *сыруі́жка ж., мн. сыруі́жкі* Свар., *сыруі́жкэ* Рад.; *сыр'я́жка ж., мн. сыр'яжкы́* Кам.; *сэроі́жа ж., мн. сэроі́жы* Суш.; *сэроі́жка ж., мн. сэроі́жкы* Суш.

Разнавіднасці сыраежак. Сыраежка з белай шапкай: *бе́лая сырае́жка, мн. бе́лыя сырае́жкі* Дварч.; *бі́ла сыроі́га, мн. бі́лы сыроі́гы* Сім., Гут., Відз. Сыраежка з

жоўтай шапкай: *жо́вта сыроíга, мн. жо́вты сыроíгы* Сім., Гут., Відз.; *жо́ўта сыроéжка, мн. жо́ўтые сыроéжкі* Сінк.; *жо́ўтая сыраéжка, мн. жо́ўтыя сыраéжкі* Дварч.; *лéплянка ж., мн. лéплянкі* Горт. Салодкая сыраежка са светлай буравайтай шапкай: *бурова́я сыроíга, мн. буровы́і сыроíгы* Гут.; *паддýбніца ж., мн. паддýбніцы* Арл. *(па дубках растуць); солодýха ж., мн. солодýхі* Горт. Сыраежка з зялёнай ці зеленаватай шапкай: *зеленова́тая сыроéжка, мн. зеленова́тые сыроéжкі* Сінк.; *зылёна сыроíга, мн. зылёны сыроíгы* Сім., Відз.; *зялёная сыраéжка, мн. зялёныя сыраéжкі* Дварч. Сыраежка з чырвонай ці чырвананаватай шапкай: *ро́зова сыроíга, мн. ро́зовы сыроíгы* Сім.; *чырво́на сыроíга, мн. чырво́ны сыроíгы* Сім.; *чырво́ная сыраéжка, мн. чырво́ныя сыраéжкі* Дварч. Горкія сыраежкі: *во́гнявка ж., мн. во́гнявкі* Свар., *во́гнявкэ* Рад.; *вýгнявка ж., мн. вýгнявкэ* Рад.; *гíрка сыроíга, мн. гíркы сыроíгы* Гут.; *горча́к м., мн. горчакí* Горт.; *гы́рка сыроíга, мн. гы́ркы сыроíгы* Сім.; *чмýрая сыроéжка, мн. чмýрые сыроéжкі* Сінк.

ТАЎСТУХА: *сывýха ж., мн. сывýхы* Суш.; *таўстýха ж., мн. таўстýхі* Слаб., Лука; *таўстýшка ж., мн. таўстýшкі* Гарадз.; *товстýха ж., мн. товстýхы* Пяркі, Сім., Зар., Суш., Лас., Відз.; *товстýшка ж., мн. товстýшкы* Сім.; *тоўстýха ж., мн. тоўстýхі* Сінк.

ШАМПІНЬЁН: *бéлы грыб, мн. бéлыя грыбы́* Дварч.; *беля́к м., мн. белякí* Махн.; *гомня́нка ж., мн. гомнянкы́* Кам.; *пагно́йка ж., мн. пагно́йкі* Яц.; *печа́рка ж., мн. печа́ркі* Яц., Лука; *печýрка ж., мн. печýркі* Махн.; *пыцýрка ж., мн. пыцýркы* Пан.; *пыцю́рка ж., мн. пыцю́ркы* Пан.; *пычýрка ж., мн. пычýркы* Пяркі, Сім., Гут., Зар., Друж.; *пычуры́ца ж., мн. пычуры́цы* Відз., Ас.; *пэчýрка ж., мн. пэчýркі* Свар., *пэчýркы* Спор., Сошна, *пэчýркэ* Рад.; *пэчуры́ца ж., мн. пэчуры́цы* Лас.; *пэчэры́ца ж., мн. пэчэры́цы* Суш.; *пячурíца ж., мн. пячурíцы* Грэм.; *пячýрка ж., мн. пячýркі* Быстр.; *шампаньён м., мн. шампаньёны* Арл.; *шампіньён м., мн. шампіньёны* Узг.

Агульная назва ядомых грыбоў (звычайна акрамя баравікоў): *бэ́ткі, адз. бэ́тка ж.* Яц., Лука; *гýбы, адз. гýба ж.* Кам., Пяркі, Рад., Свар.; *гýбэ, адз. гýба ж.* Рад.; *казлы́, адз. казёл м.* Б. Дубр.; *казлюкí, адз. казлю́к м.* Грэм.; *казлякí, адз. казля́к м.* Слаб., Зав., Махн.; *казякé, адз. казя́к м.* Вайн.; *козлякы́, адз. козлéк м.* Гут., *козля́к м.* Сім., Спор., Друж., Суш.; *козьлякé, адз. козьля́к м.* Горт.;

*козьлякі, адз. козьля́к м.* Сінк., Дар.; *козякы́, адз. козя́к м.* Пяркі; *кузлякы́, адз. кузле́к м.* Зар., *кузля́к м.* Відз.; *справыдлы́вы грыбы́, адз. справыдлы́вый грыб* Пан.

Агульная назва неядомых грыбоў: *во́вчы грыбы́, адз. во́вчый грыб* Кам., Сім., Гут., Друж., Суш., Сошна; *во́ўчые бэ́ткі, адз. во́ўчая бэ́тка* Лука; *во́ўчы грыбы́, адз. во́ўчы грыб* Быстр.; *во́ўчые грыбу́, адз. во́ўчы грыб* Дар.; *во́ўчые грыбы́, адз. во́ўчы грыб* Горт.; *во́ўчыя грыбы́, адз. во́ўчы грыб* Дварч., Гарадз., Слаб., Зав., Яц.; *во́ўчыя грыбэ́, адз. во́ўчы грып* Вайн.; *вужа́чкі, адз. вужа́чка ж.* Кац.; *вужо́вікі, адз. вужо́вік м.* Сінк.; *вужо́вы козлякы́, адз. вужо́вый козля́к* Лас.; *вужо́вэ грыбэ́, адз. вужо́вы грэп* Рад., Свар.; *вужо́ўкі, адз. вужо́ўка ж.* Гар.; *дурнагу́бы, адз. дурнагу́б м.* Грэм.; *дыкарі́, адз. дыка́р м.* Пан.; *ды́кы грыбы́, адз. ды́кый грыб* Кам., Пан., Друж.; *дыч зборн.* Кам.; *жа́бськы грыбы́, адз. жа́бськый грыб* Спор., Суш.; *жабы́ны грыбы́, адз. жабы́ный грыб* Відз.; *жэ́бськы грыбы́, адз. жэ́бськый грыб* Зар.; *жя́бськы грыбы́, адз. жя́бськый грыб* Пяркі; *мышакі́, адз. мыша́к м.* Б. Дубр.; *мышы́ныя грібы́, адз. мышы́ный гріб* Б. Дубр.; *мышы́ныя грыбы́, адз. мышы́ны грыб* Ліпск; *нэчо́гы козлякы́, адз. нэчо́гый козля́к* Лас.; *пага́нкі, адз. пага́нка ж.* Б. Дубр., Арл.; *пага́ныя грыбы́, адз. пага́ны грыб* Дварч.; *саба́чыя грыбы́, адз. саба́чы грыб* Дварч.; *соба́ччы грыбы́, адз. соба́ччый грыб* Пяркі; *ужо́вікі, адз. ужо́вік м.* Сінк.

Разнавіднасці неядомых грыбоў. Грыбы, якія не ядуць каровы, авечкі: *вужа́чые грыбу́, адз. вужа́чы грыб* Махн. *(іх тавар не есь)*. Грыбы, якія могуць есці каровы, авечкі: *тава́рачые грыбу́, адз. тава́рачы грыб* Махн. *(людзі не ядзя́ць, а тавар іх есь)*.

Агульная назва вясенніх грыбоў: *высню́вы́і грыбы́, адз. высню́вы́й грыб* Пан.; *высня́ны грыбы́, адз. высня́ный грыб* Сім.; *вэсняны́і грыбы́, адз. вэсняны́й грыб* Суш.; *мае́вы грыбы́, адз. мае́вый грыб* Пяркі, Сім., Відз.; *маёвы́і грыбы́, адз. маёвы́й грыб* Сім., Суш.; *маёвэ́і грыбэ́, адз. маёвэ́й грэп* Рад., Свар.; *міко́лные грыбу́, адз. міко́лны грыб* Сінк.; *міко́льнікі, адз. міко́льнік м.* Сінк.; *мыкілны грыбы́, адз. мыкілный грыб* Друж., Суш., Лас.; *мыкілны грыбэ́, адз. мыкілны грэп* Рад.; *мыко́ліны грыбы́, адз. мыко́лін грыб* Кам.; *мыкы́лны грыбы́, адз. мыкы́лный грыб* Сім.; *трое́цкы грыбы́, адз. трое́цкый грыб* Лас.; *ю́р'ёвы грыбы́, адз. ю́р'ёвый грыб* Сім.; *юр'ёвыкы́, адз. юр'ёвы́к м.* Друж.

Агульная назва асенніх грыбоў: *асе́ннія грыбы́, адз. асе́нні грыб* Арл.; *госінны грыбы́, адз. госінный грыб* Сім.; *осінні грыбы́, адз. осінній грыб* Пан.; *осінны грыбы́, адз. осінный грыб* Кам. *(пуд о́сэнь)*, Сім., Лас.

Агульная назва трубчастых грыбоў: *мнясы́сты грыбы́, адз. мнясы́стый грыб* Зар.; *мясістые грыбу́, адз. мясісты грыб* Дар.; *мясістыя грыбы́, адз. мясісты грыб* Дварч.

Агульная назва пласцінчатых грыбоў: *грыбы́ с пір'ем (в грыба́ в шапцы пуд нызом пір'е)* Кам.; *грыбы́ с пір'ічком* Зар.

Агульная назва грыбоў, якія выдзяляюць малако: *грыбы́ з малако́м* Дварч.; *моло́чны грыбы* Сім., Зар.

Грыбы, якія растуць на полі: *палявы́я грыбы́* Дварч.; *поляны́і грыбы́* Суш.

Грыбы, якія растуць на месцы пажарышчаў: *пожя́рны грыбы́* Друж.

*М. Н. Крыўко*

# НАЗВЫ ТРАЎ, КВЕТАК, ЯГАД У АДНОЙ ГАВОРЦЫ ДЗІСЕНШЧЫНЫ

Матэрыял сабран у в. Манякова Міёрскага раёна. Падаюцца народныя назвы кветак, траў і ягад.

Фанетыка-граматычныя асаблівасці гаворкі названай вёскі разгледжаны аўтарам у артыкуле «Экспрэсіўныя назвы асобы ў гаворцы в. Манякова Міёрскага раёна» [1].

Вельмі прадуктыўным у гаворцы гэтай вёскі з'яўляецца іменны суфікс *-ін-а (-ын-а)* са значэннем адзінкавасці: *агрэ́сьціна* — адна ягада, адзін куст агрэсту; *ажавініна* — адна ягада ажын; *аіръна* — адно сцябло аеру; *асъціна́* і *асо́ціна* — адна сцябліна асоту; *асъчъна́* — адно сцябло асакі; *брусьнічъна* — адна ягада брусніц; *быльніна* — адно сцябло сухога бульбоўніку, травы наогул з тоўстым сцяблом; *бэ́сіна* — куст бэзу; *гірсіна́* — адно зернетка, адно сцябло каласоўніку; *дро́сьніна* — адно сцябло драсёну звычайнага; *журавініна* — адна ягада журавін; *жъгу́ччъна* — сцябліна крапівы-жыгучкі; *кле́віръна* і *клівіръна́* — адно сцябло канюшыны; *клубнічъна* — адна ягада клубніц; *кмініна́* — адно сцябло кмену, адно зернейка кмену; *крапівіна* — адна сцябліна крапівы; *кръпіна́* — сцяблінка кропу; *кънюшы́ніна* — адно сцябло канюшыны; *лібідзіна́* — адна сцябліна лебяды; *макры́чъна* — адна сцябліна макрыцы; *малініна* — адна ягада малін, адзін малінавы куст; *мало́чніна* — адна сцябліна малачаю; *газе́мчъна* — адна суніца; *палы́ніна* — адна сцябліна палыну; *парэ́ччъна* — адна ягада і адзін куст парэчак; *піво́ніна* — адна кветка і адзін куст півоніі; *п'янічніна* і *п'янічъна* — адна ягада буякоў; *ро́зіна* — куст ружы; *смаро́дніна* — адна ягада і адзін куст чорных парэчак; *тръвіна́* — адно сцябло травы, травінка; *тръпу́тніна* — адзін ліст, адно сцябло трыпутніку; *хръні-*

[1] З народнага слоўніка. Мінск, 1975, с. 279—283.

*на́* і *хрэ́ніна* — адно сцябло, адзін корань хрэну; *чарні́чъна* — адна ягада чарніц; *чъпчы́ньніна* — куст і адна ягада шыпшыны; *шпура́гушъна* — адзін куст, адна галінка спаржы; *шча́вілі́на* — адно сцябло, адзін лісток шчаўя; *юргі́ніна* — адна кветка і адзін куст вяргіні; *я́гъдзіна* — адна ягада; *ядлё́нчъна* — адзін куст, адно сцябло ядлоўцу.

Матэрыял падаецца фанетычна, спрошчанай транскрыпцыяй. Рэдукаваны галосны сярэдняга пад'ёму задняга рада абазначаецца ў артыкуле літарай ъ.

Для вызначэння дакладнага літаратурнага адпаведніка назвы раслін былі выкарыстаны наступныя крыніцы: Беларуска-рускі слоўнік. М., 1962; Руска-беларускі слоўнік. М., 1953; А. И. Киселевский. Латино-русско-белорусский ботанический словарь. Минск, 1967; Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, тт. I—XI. Мінск, 1969—1975; С. С. Станков, В. И. Талиев. Определитель высших растений европейской части СССР. М., 1949; Травянистые растения СССР, тт. 1—2. М., 1971; Лекарственные растения и их применение. Минск, 1974; Pflanzen und Tiere. Ein Naturführer. Leipzig—Jena—Berlin, 1971 і інш.

АГА′ТКА *ж.* Агатка. *Гэтъі зёлкі завуцца агаткі.*

АГРЭ′СТ *м.* Агрэст. *Агрэст нейкі ў мяне дзікі, расьцець, а ягът нет.*

АДУВА′НЧЪК *м.* Адуванчык. *Вун адуванчък, дмухні, дък увесь пушок атляціць.*

АЖАВІ′НЫ *мн.* Ажыны. *Ажавіны калючъі, лісьця зялёнъя, цёмнъя.*

АЖАВІ′НЬНІК *м. зборн.* Ажыннік. *Ня лесь у ажавіньнік, апколісься глатка* [зусім, увесь].

АІ′Р *м.* Аер. *Нъдзярыці йдзіці, ръбяты, аіру лі сажълкі, пъ хаці пакідъім. На 'іры хлеп пяклі ўпярот — во пахнуў.*

АЛЬВА′С *м.* Альяс. *Альвасъм пръкладзі дъ ранкі, кап скарэй гаілъся.*

А′РЛІК *м.* Уман. *Арлік ат падрыву п'юць, ат уплавуў п'юць.*

АСО′Т *м.* Асот, бадзяк палявы. *Ат асоту спасу нет у гародзі — як яго выкъръніць?*

АСЪКА′, АСАЧЫ′НА, АСЯНЧЫ′НА *ж.* Асака. *Асакі на потсьціль нъкашу. Кап хоць якой асачыны нъкасіць. Нада хоць асянчыны аткасіць. Сяньнік асянчыный быў нъпіхнёны.*

АЎСЮ'К *м.* Каласоўнік. *Аўсюку дужа многа на гэтъм куску па ўсім аўсе.*

БАБО'ЎНІК *м.* Бабоўнік. *Бабоўнік у балоці расьцець.*

БА'ГЪН *м.* Багун балотны. *Нанюхълъся багъну, аж гълъва баліць.*

БАЛО'ТНІНА *ж. зборн.* Усякая трава, сена з балота. *Нъкасілі балотніны.*

БАРШЧЭ'ЎНІК *м.* Баршчэўнік.

БРАТКІ' *мн.* Браткі (палявыя і садовыя). *Во гэта зёлкі браткі. Судавыі браткі ні такіі, як пъжнявыі.*

БРУСЬНІ'ЦЫ *мн.* Брусніцы. *На Мху* [урочышча] *ёзь брусьніцы.*

БРУСЬНІ'ЧНІК *м.* Брусьнічнік. *Брусьнічнік, къзалі, добра пъмъгаіць, калі почкі бъляць.*

БЪДЛЕ'ЎЯ, БЪДЛО'ЎЯ *н. зборн.* Тоўстае сцябло травы. *Такоя бъдлеўя толькі ў потсьціль. Бъдлоўя нъкасіў, а ня сена.*

БЪЙДА'К *м.* Застарэлая трава наогул. *Нъкасіў з воз бъйдаку.*

БЪЛЕ'ЎНІК *м. зборн.* Тоўстыя сцябліны травы. *У бълеўніку вун якоя таўстоя дудзьдзя.*

БЪЛЕ'ЎЯ *н. зборн.* Тоўстыя сцябліны травы. *Так пакошъна, толькі бълеўя лі кънавы стаіць.*

БЪЯ'РЪШНІК *м.* Баярышнік калючы. *Бъяръшнік ат сэрца п'юць.*

БЫ'ЛЬНІК *м. зборн.* 1. Сухі бульбоўнік. *Пайду быльнік пъжънаю.* 2. Трава наогул з тоўстым сцяблом. *Такі быльнік і къса ні бярэць. Вун пъ пугруках* [узгорках] *поўна ўсякъга быльніку.*

БЭС *м.* Бэз. *Нъ старъцы* [старая сяліба] *у нас сядзіць ішчэ два кусты бэсу.*

БЯРО'СКА *ж.* Павой, бярозка. *Бяроска й пъ гародъх ёсь і ўсюдъх поўна, усё ўецца.*

ВЕ'РЪС *м.* Верас. *Баба веръсу нълъмала нъ Пісках* [урочышча, лес].

ВІ'ЧКА *ж.* Мышыны гарошак. *Гэта адно і тоя самъя — ці вічка, ці мъшыный гарошък.*

ВУЖЭ'ЎНІК *м.* Вужоўнік. *Вужэўнікъм лечуць, яг зьмія ўкусіць.*

ВЪЛІР'Я'Н *м.* Валяр'ян. *Вълір'ян добръя лікарства. Ягонъм кърамём лечуцца — і ат сэрца лечуцца, і кап спаць лепі.*

ВЪСІЛЁК, ВАСІ'ЛЬ *м.*, ВА'СІЛЬКА *ж.* Васілёк. *Въсілёг жа сініният, а буваюць і сьветлінькії, сівінькії въсількі, як высьпіюць. Въсілёў нървалі ў жыці. Нъсъбірай васілік. Во ікая сініньктя васілька.*

ГВА'ЗЬДЗІК *м.* Гваздзік. *Гэта цьвяточкі гвазьдзікі. Нарві гвазьдзікуў.*

ГІРГЕ'ЛЬ *м.* Хвошч палявы ранняй вясной. ***Гіргялёў** вясной на ўзьмешкъх поўна: стъяць-стъяць шышъчкі.*

ГІРСА' *ж.* Каласоўнік, гірса. ***Гірсы** многа ў жыці. Даўней і гірсу елі.*

ГЛЪДЗІВО'ЛЪС *м.* Гладыёлус.

ГЪЛЪЎНЯ' *ж.* Спарыння. *Гълаўні многа ў жыці.*

ГЪРЛЯ'НКА *ж.* Чорнагалоў звычайны. *Гърлянкі ад горла п'юць.*

ГЪРЧА'К *м.* Драсён перцавы. *Гърчаку столька ўвъ льнге.*

ДЗЕТ *м.* 1. Лопух, дзяды. *Зрэж гэтъга дзеда. Вун дзядоў нъчъпаў нъ кулёк* [пінжак]. 2. Чартапалох калючы. *Да гэтъга дзеда й ні даткніся, такі калючы.*

ДЗІВАСІ'Л *м.* Дзівасіл. *Дзівасіл многа ач чаго добра — і ад біркулёзу пілі, і ат падрыву, і хто па-жэнскъму хварэў.*

ДЗІРЪЗА' *ж.* Дзераза. *Зь дзіразы вянок сплялі, нъ магільнік пънясём.*

ДЗЯДО'ЎНІК *м. зборн.* Лісце лопуху. *Нашто вы нълъмалі дзядоўніку?*

ДЗЯРУ'ГА *ж.* Дзераза. *Дзяруга пъ бару сьцеліцца.*

ДЗЯ'ТЛІВІНА *ж.* Дзяцеліна. *Пъпасі карову нъ дзятлівіні.*

ДРО'СЬНІК *м.* Драсён звычайны. *Там адзін дросьнік, а ня лён, якій там лён. Дросьніг горкі-горкі.*

ДУБРО'ЎКА *ж.* Дуброўка. *Дуброўка жоўцінькім цьвятком цьвіціць.*

ДУРНЪП'Я'Н *м.* Дурнап'ян звычайны.

ЖА'Б'Я ВО'ЧКІ *мн.* Дуброўка гусіная. *Жаб'я вочкі тожа цьвіцяць, жоўцінькі цьвяток.*

ЖУРАВІ'НЫ *мн.* Журавіны.

ЖУРАВІ'НЬНІК *м.* Ягаднік журавін. *Во яг журавіньнік па мху сьцеліцца.*

ЖЪВАКО'СТ *м.* Жывакост. *Жъвакост на мокръм расьцець.*

ЖЪГУ'ЧКА *ж.* Жыгучка. *Жъгучка во стръкаіцца. Жъгучка па лехъх расьцець.*

ЗА'ЙЦЪВА КАПУ'СТА *ж.* Кісліца звычайная. *Ръбяты лі пня нървалі зайцъвый капусты.*

ЗВАНЕ'Ц *м.* Званец летні. *Званец аш шашчыць* [шапоча], *як высъхніць.*

ЗЁЛКІ *мн. зборн.* Зёлкі. *Заўтра Купала, пойдзім зёлкі зьбіраць і Купала піяць.*

ЗЯЗЮ'ЛЬКА *ж.* Ятрышнік. *Зязюлькі вясной цьвіцядзь, болі на мокръм яны. Вун зязюлька — шышъчка красівінькъя.*

ЗЯЗЮ'ЛЬЧЪН ЛЁН *м.* Зязюлін лён. *Зязюльчън лён — красівінькъя тръва, нібальшэнькъя тъкая.*

ІВА'НЪВА ГЪЛЪВА' *ж.* Званочак персікалісты і гарычка лёгачная. *Іванъву гълаву ў цэркві сьвеньцюць нъ Івана.*

КАЗЛЫ' *мн.*, КАЗЁЛ *м.* Казялец едкі. *Казлы па пожніх, пъ лугах, пъ лахчынъх растуць, горкіі, цьвяточкі на іг жоўтъі.*

КАТО'К *м.* Катах. *Ужо каткі ръспусьцілісі нъ лазе.*

КІЁЎКА *ж.* Чорны катах рагозу. *Нашто вы, ръбяты, пъраськідъвълі кіёўкі па ўсім пънадворку?*

КІЁЎНІК *м. зборн.* Чорныя катахі рагозу. *Ты дъ кіёўніку ні далезіш, вады па бруха.*

КІЛБА'СКІ *мн.*, КІЛБА'СКА *ж.* Суквецце на бярозе, алешніку. *Відзіш, якіі кілбаскі вісяць нъ алешніку.*

КЛАПО'ЎНІК *м.* Клапоўнік. *Клапоўнік клъпамі сьмярдзіць; я як лён ірвала, дък нанюхълъся яго.*

КЛЕ'ВІР *м.* Канюшына. *Кусок клевіру ў мяне лі дарогі.*

КЛУБНІ'К *м.*, КЛУБНІ'КА *ж.* Клубніка. *Дзьве кашолкі клубніку нъ бъзар зънісла. Клубнікі многа сёліта ў нас.*

КЛУБНІ'ЧНІК *м.* Клубнічнік. *Які клубнічнік, яг гай, а ягът сёліта дзе-нідзе — і чаго так?*

КМІН *м.* Кмен. *Пайдзём у кмін у руччэй* [схіл яра, ручая].

КО'НСКІ ШЧА'ВІЛЬ *м.* Конскае шчаўе. *Ні нънасіці ў пънадворък конскъга шчаўлю, ён дужа нъсіваіцца.*

КРАПІ'ВА *ж.* Крапіва. *Во як крапіва зглушыла вашу старъцу* [старую сялібу].

КРОП *м.* Кроп. *Атарві кропу ў хъладнік.*

КРУГЛЕ'Ц *м.* Асака са сцяблом круглай формы, якая расце на сухіх месцах у лесе.

КРЪВА'ЎНІК *м.* 1. Крываўнік звычайны. *Кръваўнік*

*цьвіцідзь белъм, цьвярды такі.* 2. Панікніца рачная. *Гэту розъвінькую зёлку тожа кръвайнікъм завуць, ат кръвайкі даюць каровъм.*

КУПА'ЛА *н.* Братаўка дуброўная. *Купалы ў Восьціўскіх кустах нървала.*

КУПЕ'НА *ж.* Купена. *Купеный ат язвы лечуць.*

КУРАСЬЛЕ'П *м.* Цмен. *Курасьлеб болі нъ пісках расьцець.*

КЪЛАПЕ'НЬКІ *мн.*, КЪЛАПЕ'НЬКА *ж.* Дрыжнік. *Къланенькі — зёлкі добръі. Пучок кълапенік нъсушыла нъ лікарства.*

КЪНЮШЫ'НА *ж.* Канюшына. *Съ старым злажылі пумаленьку кънюшыну ў казлы.*

КЪСА'Ч *м.* Касач. *Въгэны късачы жоўтъм цьвіцяць.*

КЪСТАЛО'М *м.* Касталом. *Късталомъм лечуцца і кърянём і цьвятом.*

ЛА'НДЪШ *м.* Ландыш. *Ландъш ат сэрца п'юць.*

ЛІБІДА' *ж.* Лебяда. *Лібіда зглушыла ўсю бульбу.*

ЛІ'ЛІЯ *ж.* Лілія. *Палес у ваду за ліліій.*

ЛЪПА'ТЪЧКІ *мн.* Стрэлкі звычайныя. *Лъпатъчкі ад жъвъта п'юць.*

ЛЪПУХА' *ж.* Лопух. *Лъпухі многа расьцець.*

МАКРЫ'ЦА *ж.* Макрыца. *Макрыца шыіцца па бульбі.*

МАЛІ'ЗА, МАЛІ'СА *ж.* Меліса аптэчная. *Увъ льляніішчы многа малізы. Адна маліса на ўзьмешку нечъга.*

МАЛІ'НЫ *мн.* Маліны. *Пойдзім на Лыску* [урочышча] *ў маліны.*

МАЛІ'НЬНІК *м. зборн.* Маліннік. *Маліньніку зъвару ат прастуды.*

МАЛО'ЧНІК *м.* Малачай. *Малочніку многа ўвъ льне.*

МА'ТЪЧНІК *м.* Матачнік балотны. *Матъчнік ат падрыву п'юць.*

МАЦЬ-І-МА'ЧЪХА *ж.* Падбел звычайны. *Маць-і-мачъха жоўцінькім цьвіціць.*

МІТЛА', МЯЦЁЛКА *ж.* Мятліца. *Адна мітла на пожні, болі там нічога німа, вот і касі. Там адна толькі мяцёлка расьцець і то дзе-нідзе кусткамі.*

МЪШЫ'НЫ[Й] ГАРО'ШЪК *м.* Мышыны гарошак.

МЯДУ'ЛЬКА *ж.* Кветка канюшыны лугавой чырвонай. *Ръбяты мядулік нървалі і смокчуць, і смокчуць мёт ізь іх.*

МЯ'ТА *ж.* Мята. *Мяты пажві, дък халодна-халодна зробіцца ў році.*

МЯЧЭ'ЎНІК *м.* Рагоз. *Вун у балоці табе мячэўнік.*

НАВЕ'Й *м.* Падвей шыракалісты. *Навеім вушы зъклъдаюць, яг гълъва баліць.*

НАГО'ТКА *ж.* Наготка лекавая. *Наготкъмі язву лечуць, пічані, хто ат сэрца п'ець.*

НАСТУ'РЦЪЯ, НАСТУ'РЦІЯ *ж.* Настурка. *У мяне возьміш насёна настурцъі. Я зьвіла сваю настурцію.*

НІЗАБУ'ТКА *ж.* Незабудка.

ПАДБЕ'Л *м.* Белакапытнік гібрыдны. *Падбелъм лечуцца бабы, хто па-жэнскъму хварэіць. У падбела лісьця пъд нізом сівоя, сьветлъя.*

ПАЗЕ'МКА *ж.* Суніца. *Паземък нъсъбіралі ў алешніку.*

ПАЗЕ'МЪЧНІК *м.* Сунічнік. *Паземъчніку многа, а ягът і німа. Паземъчнік і лікарства добръя.*

ПАЛЫ'Н *м.* Палын. *Палынъм лечуць ад жъвъта.*

ПА'ПЪРНІК, ПА'ПЪРЪТНІК *м.* Папараць. *Папърнік ні насі, нашто ён табе. Я ў папърътніку і то нескукі бървікоў знъшла.*

ПАРЭ'ЧКА *ж.* Парэчка чырвоная. *У мяне ёсь кусток парэчък.*

ПІВО'НІЯ *ж.* Півоня. *А півонія ш ікая пахнючъя!*

ПІ'ЖМА *ж.* Піжма. *Я піжмы нъсушыла нъ лікарства, яе п'юць ат ръбакоў.*

ПРАЛЁТ *м.* Пералёт мнагалісты. *Пралёт ад падрыву добра.*

ПУЗА'ТКА *ж.* Брыца. *Пузаткі ў гародзі поўна, атпратъцца няможна.*

ПУК *м.* Кветаноснае сцябло шчаўя, цыбулі. *Шчавіль пукі пусьціў. Цъбуля ў пукі пъшла.*

ПУХО'ЎКА *ж.* Чорны катах рагозу. *Даўней із гэтъх пуховъг бабы падушкі робілі, яны ш ікрас, як пух.*

ПЪВІЛІ'ЦА *ж.* Павой, бярозка; маруна сапраўдная. *Жну, дък пъвіліцы дужа многа, асоту многа.*

ПЪДАРО'ЖНІК *м.* Спарыш. *Пъдарожнік пъ дарошкъх, пъ пънадворкъх расьцець.*

ПЪЖНЯ'НКА *ж. зборн.* Трава, якая расце на лугах, на аблогах. *Пъжнянкі нъкасіў съ два вазы.*

ПЫ'РНІК *м.* Пырнік. *Во льлянішча добръя, адзін пырнік.*

П'ЯНІ'ЦЫ *мн.* Буякі. *Нъ тарфе п'яніц нъзьбіралі.*

П'ЯНІ'ЧНІК *м.* Сцяблы, кусты буякоў. *П'янічніку многа на Мху.*

РАЗУ′ХА *ж.* Разуха. *Разуху во къса добра бярэць.*

РО′ЗА *ж.* Ружа. *Ня лесь, малы, да розы, іна калючъя.*

РЪЗА′К *м.* Разак. *Пъпадзець ръзак у руку, сразу абрэжысься. Ръзак у вадзе расьцець.*

РЪМА′Н, РЪМА′НЬКА *ж.* Рамонак аптэчны, рамонак пахучы. *Сухіі ръманы ліжаць нъ бажніцы. Ръман і нъ зъваліні выръс. Адны ръманькі на гэтый пожні. Твае ръманькі саўсём зьвялі ўжо.*

САРДЭ′ЧНІК *м.* Сардэчнік пяцілопасцевы. *Сардэчнік ат сэрца п'юць.*

САЧЫ′ЎКА *ж.* Сачавіца. *Сачыўка на корм тръва.*

СІ′ТНІК *м.* Сіт. *Сітнік высъх, аш шашчыць* [шапоча]. *Сітнік, яг бізунок.*

СКО′ЧКА *ж.* Скочка атожылкавая. *Скочкі нъ магілкі садзюць.*

СМАКТУ′ЛЬКА *ж.* Зябер прыгожы. *Гэтът цьвет смактулькі нъзъвалі, ягонъі цьвяточкі смокчуць, яны салодзінькіі такіі, а так смактулькі калючъі.*

СМАРО′ДНІК *м.* Чорныя парэчкі. *Скора я высіку тъпаром увезь гэтът смароднік.*

СМЪЛЯ′НКА *ж.* Зязюльчын светнік. *Во смълянкі, розъвінькіі, ліпучъі.*

СОН *м.* Сон раскрыты, сон-трава. *Сон вясной цьвіціць у лесі.*

СТУЛЕ′ТНІК *м.* Альяс. *Я стулетнік свой зьвіла.*

СТЪБУНО′ЧЪК *м.* Званочак круглалісты. *Букет стъбуночкуў нървала. Стъбуночкі — розъвінькіі цьвяткі.*

СУ′ЧКІ *мн.* Ваўчкі трохраздзельныя. *Дзе ты ў сучкі ўлес увесь чыста?*

СЪБА′ЧЧА МЫ′ЛА *н.* Вятроўнік вязалісты. *Събачча мыла дужа добра пахніць, цьвед белый, нъ ніжэйшъх містах расьцець, у нас вун у вербъх расьцець.*

СЪБА′ЧЧА МЯ′ТА *ж.* Мята перцавая. *Ільлянішча нічога, пырнік ёсь, събачча мята ёсь.*

СЬВІНАКРО′П *м.* Свінакроп. *Сьвінакроп сьвіньні дужа любюць есьці. Сьвінакроп — малінькъя тръва.*

СЬВІННУ′ХА *ж.* Сівец. *Сьвіннуху къса ня дужа хочыць касіць. Вос сьвіннухі нъкасіў, што карова зьесь, а што ў потсьціль будзіць.*

СЬВІНТЪЯ′Н *м.*, СЬВІНТЪЯ′НКА *ж.* Святаяннік дзіркаваты. *Баба сьвінтъян усё насіла сьвяньціць у цэркву. Сьвінтъянък нъ лікарства нървала.*

СЬВІРЭ′ПА, СЬВІРЭ′ПКА *ж.* Свірэпа. *Грыжу* [бруч-

ку] *полім — адна сьвірэпа. Пръніслa сьвіньням укінъла сьвірэпкі.*

ТРАСЬНІ'К *м.* Трыснёг. *Я тръсьніком пъдъслаў сьвіньням.*

ТРЪПУ'ТНІК *м.* Трыпутнік. *Тръпутнікъм дъ ранкі пръклъдаюдзь, дъ нарывуў.*

УПУ'ДНІК *м.* Урочнік звычайны. *О, упудніку нървалі. Упуднік ат упуду п'юць.*

ХВОШЧ *м.* Хвошч. *Хвошч на потсьціль пойдзіць.*

ХМЕЛЬ *м.* Хмель. *Відзіш, як хмель абвіўся кругом алешніны.*

ХРЭН *м.* Хрэн. *Хрэн пъд яблънъмі нъ мяжэ выръс. Пайду нъкъпаю хрэну.*

ЦІМАФЕ'ІЎКА, ЦІМАХВЕ'ІЎКА, ЦІМАФЕ'ЙКА, ЦІМАХВЕ'ЙКА *ж.* Цімафееўка. *Цімафеіўкі пасеілі сёліта. Цімахвеіўка ўрадзіла добръя. Нъціірушылъся сюды цімафейкі, дък во ўзілася зъмітаць. Вазіў цімахвейку нъ търънтасі.*

ЦЪНТА'ЎРА *ж.* Цвінтарэй. *Цънтаўра на гэный пожыньцы ёсь.*

ЦЬВЯТЫ' *мн.* Агульная назва кветак. *Сарві той цьвет. Скока тут цьвятоў расьцець!*

ЦЬМІН *м.* Цмен. *Баба Марылька усё цьмін ірвала і піла ат нечъга.*

ЦЮЛЬПА'Н *м.* Цюльпан.

ЧАБО'Р *м.* Чабор. *У чай чабор добра, пахніць так.*

ЧАРНІ'ЦЫ *мн.* Чарніцы. *Зъ Дзьвіну ў чарніцы хадзілі.*

ЧАРНІ'ЧНІК *м. зборн.* Чарнічнік. *Чарнічніку хвътаіць, а ягъды абзьбіръиъі.*

ЧАРНО'БІЛЬНІК *м.* Чарнобыль. *Спасу нет ад гэтъга чарнобільніку, і чым яго выкъръніць адгэтуль?*

ЧАРО'Т *м.* Чарот. *Чароту ў кустах ля Нінчъный сажълкі многа ёсь.*

ЧОРНЪГАЛО'ЎКА *ж.* Чорнагаловік.

ЧЪПЧЫ'НЬНІК *м.* Шыпшына. *Полкі* [пялёнкі] *павешъла сушыць нъ чъпчыньнік.*

ЧЪСТАЦЕ'Л *м.* Чыстацел. *Баба наша, бувала, чъстацелъм лечълъся.*

ЧЭ'МІР *м.* Чэмер чырванаваты. *Каліна горкъя, што чэмір.*

ША'ПЪТНІК *м.* Лісце лопуху. *Ціпляты пъзъшъвалісі ў шапътнік.*

ШЛЪБАБО'Н, ШЪЛБАБО'Н *м.* Дэкаратыўная фасоля.

ШПУРА'ГУШ *м.* Спаржа лекавая. *У мяне тожа пад вакнъмі вун шпурагуш расьцець.*

ШЧА'ВІЛЬ *м.* Шчаўе. *Нъсъбірайці, ръбяты, у васеліцы шчаўлю. Шчавіль ужо ў пукі пашоў.*

ШЧАЎЛЮ'К *м.* Шчаўе вераб'інае. Часам называюць і шчаўе густое. *Шчъўлюку баба нъварыла сягоньня.*

ШЫ'ШКА, ШЫ'ШЪЧКА *ж.* Катах на аеры, хмелі. *Шышкі аіръвъі пахнуць як! Во якіі шышъчкі вісяць на хмелі.*

ЮРГІ'НЯ *ж.* Вяргіня. *Пъсадзіла жоўтый юргіні. Жоўтъя юргіня зімовъя, а гэту краснъю і гэту во на́ зіму нада въкапъвъць.*

ЯГО'ДНІК *м. зборн.* Ягаднік. *Ягодніку ёсь, а паземък і чарніц німа.*

Я'ГЪДЫ *мн.* 1. Ягады. *Съ стъкан толькі ягът нъзьбірай.* 2. Ягаднік. *У лесі ўжо цьвіцяць усякіі ягъды — чарніцы, п'яніцы, паземкі.*

ЯДЛЕ'НІЦ *м.* Ядловец. *Ядленцъм кілбасы копцім.*

*І. М. Кучук*

# НАЗВЫ РАСЛІН НА МАЗЫРШЧЫНЕ

Мясцовая батанічная лексіка ўсходнепалескай зоны беларускай мовы недастаткова засведчана ў лексікаграфічных працах. У артыкуле пададзены малавядомыя ці невядомыя лексемы названага тэматычнага разраду слоў, зафіксаваныя аўтарам і часткова студэнтамі. Прыведзеныя тут назвы раслін з'яўляюцца вузкімі рэгіяналізмамі, адрозніваюцца ад літаратурных эквівалентаў лексічным значэннем *(грыб — баравік)*, фанемным *(брушніца — брусніка)* ці марфемным складам *(гічарнік — гічан)*.

Назвы раёнаў падаюцца ў скарачэнні: Лельч.— Лельчыцкі, Маз.— Мазырскі, Ельск.— Ельскі, Жытк.— Жыткавіцкі, Петр.— Петрыкаўскі.

БА'БКА *ж.* Падбярозавік. *На мокрэйшых местóх бáбкі ростуць. Як постарэюць, воны чэрнеюць, цемнеюць.* Маркоўскае Лельч.

БА'БКІ *мн.* Кісліца. *Як нема шчаўрý, бабок нарвóм да варым боршч.* Данілевічы Лельч.

БАБО'ЎНІК *м.* Капытнік. *Пошла Мар'я ў болото і прыпéрла цэлу ношку свіньям бобóўніку.* Падварак Лельч.

БА'РХАЦЕЦ *м.* Гваздзік. *Бáрхатцы бываюць жоўтые.* Санюкі Ельск.

БЕЛЯ'К *м.* Грузд. *На óўсішчы богато белякóў.* Санюкі Ельск.

БЕРЭ'ЗА *ж.* Бяроза. *Моя піла дýба рэжэ, а берэзу і клёна аж мóе.* Ліпляны Лельч.

БЕРЭ'ЗІНА *ж. зборн.* Беразняк. *Лес тутака буў хорошы: берэзіна росла.* Чэмернае Лельч.

БЕРЭ'ЗОВІК *м.* Баравік, які расце ў беразняку. *Коб хоч берэзовіка дзе натрапіць.* Тонеж Лельч.

БОГО'Н *м.* Багун. *У дзікіх богонох е некі глухі і просты богон. Колісь дзейка шукае еты глухі богон.* Тонеж Лельч.

БО'З *м.* Бузіна. *На дзерэвіне бо́з росце.* Ліпляны Лельч.

БРАТКІ' *мн.* Герань лугавая. *Браткі по полю ростуць, по жыту.* Ліпляны Лельч.

БРУКО'ЎНІК *м.* Лісце бручкі. *Корова́м брукóўнік рвом.* Падварак Лельч.

БРУНЭ'ЛЬКА *ж.* Чорнагалоў. *Насця ко́лісь брунэ́льку на чай рвала.* Санюкі Ельск.

БРУСЛЕВІ'НА *ж.* Брызгліна. *У нас таке́ було некалі: рвалі бруслевіну да сушылі, тоўклі, з салом размешвалі і мазаліса ад вошай.* Тонеж Лельч.

БРУШНІ'ЦА *ж.* Брусніца. *Кучэ́чкамі брушніцы ростуць. Сок ца́дзяць з брушніц.* Ліпляны Лельч.

БРЫКУ'Н *м.* Баркун. *Брыку́н цвіце беленькімі цветочкамі: на ём корэнь тоўсты, а лісце дробнае.* Ліпляны Лельч.

БУ'СЛІКІ *мн.* Бусельнік. *Бу́слікі сцелюцца по зе́мле. Трэбо, шчоб бу́слікі вусохлі без сонца, а потóмака іх парацъ і поюць дзіцятко.* Лельчыцы.

БУЯХІ' *мн.* Буякі. *Дру́гі раз жонкі поўные кошэлі буяхóў наберуць.* Рудні́шча Лельч.

БУЯ'ШНІК *м.* Буяковыя сцяблы, зараснік. *От буя́шніку ўча́дзець можно.* Тонеж Лельч.

ВАЗО'Н *м.* Агульная назва пакаёвых кветак. *З мо́лодосці ўсе вазоны люб'ю.* Ліпляны Лельч.

ВАЎНУ'ШКА *ж.* Ваўнянка. *Поўз поле ростуць на жытнішчэ ваўну́шкі.* Маркоўскае Лельч.

ВЕЛО'К *м.* Качан. *Велкі ў мене ўжо веліковáтые.* Санюкі Ельск.

ВЕРОСО'ВІК *м.* Баравік, які расце ў верасе. *Кошэль веросóвікоў набрала.* Тонеж Лельч.

ВІДУ'Н *м.* Відук. *Нешто ты богато ў етым годзі віду́нў насадзіла.* Патапы Ельск.

ВІШ *м.* Атава, сухая трава. *Віш косяць у заморозкі.* Падварак Лельч.

ВІ'ШНІК *м. зборн.* Вішняк, галінкі вішань. *Вубіраю два кошэ́лікі, мую чысценько і кідаю ў бочку, клоду голінок дуба з лісцейком, вішніку з гольем, вокрóп з зелёной шыцкой.* Ліпляны Лельч.

ВОШЫ'ЎКА *ж.* Груша-дзічка. *По полёх кóлісь богато росло вошывок.* Тонеж Лельч.

ВУ'ВОРОТ *м.* Вываранцень. *На Воўчай Горэ навуворочáло ву́воротоў.* Тонеж Лельч.

ВУЖО'ВІК *м.* Неядомы грыб. *А вужо́віка можно прыняць за до́брого гры́ба.* Астражанка Лельч.

ВУ'СКІДЗЬ *м.* Пень (выкапаны ці вывернуты). *На дро́ва ву́скідзь бером.* Данілевічы Лельч.

В'Я'ЛІЦА, В'Я'ЛКА *ж.* Сухастоіна. *Яка добрэ́нна в'я́ліца: воз дроў будзе. Хвоя ўсохне і в'я́лкой звецца.* Тонеж Лельч.

ГІ'Ч, ГІЧА'РНІК *м.* Сцябло травяністых раслін, гічан, бульбоўнік. *Корто́плю ў гіч поперло. Гіч то добры, а корто́плі мало пуд корчэ́м.* Астражанка Лельч. *От цепе́рэка гіча́рнік пожном, а некалі зімою на се́чку будзе.* Конкавічы Петр.

ГЛЁЧЫК *м.* Жоўты гарлачык. *Ох, і багато бувае глёчыкаў на рэке.* Санюкі Ельск.

ГЛІ'СНІК *м.* Піжма. *П'юць глíснік от рыбакоў.* Ліпляны Лельч.

ГНІ'ЛІЦА, ГНІ'ЛКА *ж.* Гнілушка (дзічка). *Поўны кошэль гнíліц назбірала. Му гнíлкі сушым.* Падварак, Астражанка Лельч.

ГНОЯ'НКА *ж.* Шампіньён. *Гноя́нкі мало хто берэ.* Падварак Лельч.

ГОРБУ'ЗІК *м.* Гарбузяня. *Пойдо́м ко мне — почастую горбузікамі.* Рамязы Ельск.

ГОРОБЕ'ЙКОЎ ШЧАВЕ'Р *м.* Палявое шчаўе з высокім сцяблом. *По лузі росце горобе́йкоў шчаве́р.* Тонеж Лельч.

ГОРЧ'Я'К *м.* Драсён. *Горч'як зелье таке: прынесі ў хату да кінь его — усе блохі подохнуць.* Ліпляны Лельч.

ГРАБЕ'ЛЬКІ *мн.* Герань балотная. *Унь у корчах* [кустах] *грабелькі ростуць.* Санюкі Ельск.

ГРОМОБО'Й *м.* Дрэва, пашкоджанае громам. *Громобо́і на дро́ва бером.* Тонеж Лельч.

ГРЫ'Б *м.* 1. Грыб. *Шчэ ніводного гры́ба нема, а коўпакі ўжэ ростуць.* Маркоўскае Лельч. 2. Баравік. *Стары грыб зверха́ чорны, а з-пуд нізу жоўты.* Там жа.

ГУБ'Я'К *м.* 1. Базідыяльны грыб, губа. Махнавічы Маз. 2. Ядомы грыб, апрача баравіка. *Набрала сегоні одных губ'як, а грыбоў нема.* Тонеж Лельч.

ГУ'З, ГУЗЫ'Р *м.* Камель дрэва, сцябло. *Гузу́ кладо́м на перэдок, а верха́ — на крыву́лю.* Тонеж Лельч. *Пороўня́й гузырэ́ ў снопах.* Падварак Лельч.

ГУ'К *м.* Цыбур. *Ой, жонкі, пойшла моя цыбулька ў гукі.* Тонеж Лельч.

ДВОЙНІ'К *м.* Спарыш. *Нешто двойнікоў у мене богато ў гурочках.* Ліпляны Лельч.

ДЗЕВ'ЯЦЬСІ'Л *м.* Дзівасіл. *Покідаюць дзев'яцьсіл у водку і кажуць, вельмо добрэ.* Тонеж Лельч.

ДЗЕРЭЎЯ'НКА *ж.* Святаянскае зелле. *Богато було дзерэўянкі на полёх, по нізох.* Тонеж Лельч.

ДЗЯ'ТЛАЎНІК *м.* Вязель стракаты. *От як ідзеш к мосту, дэк седзіць тамака дзятлаўніку богато.* Санюкі Ельск.

ДЗЯ'ЦЕЛЬНІК *м.* Дзяцеліна. *На грудох дзяцельнік росце.* Лельчыцы.

ДУБ'Е' *н.*, ДУБІ'НА *ж. зборн.* Дубняк. *А етые грыбу па дуб'ю ростуць.* Ліпляны Лельч.— *Дзе ты набрала грыбоў? — По дубіне ходзіла.* Лельчыцы.

ДУРМА'Н *м.* Дурнап'ян. *Пуд плотом дурману е богато, понюхаеш его і як п'яны які станеш.* Санюкі Ельск.

Е'ЛЕЦ *м.* Ядловец. *От беркулёза ёлец добрэ парыць да піць.* Дзяржынск Лельч.

Е'РНІК *м.* Аер. *Дзеці ёрнік едуць.* Астражанка Лельч.

ЖАВІ'НА *ж.* Ажына. *З жавіны варэнье вараць.* Салагубаў Лельч.

ЖНЕ'ЎНІК *м.* Іржэўнік. *Грэбом жнеўнік на пудсцёл коровам.* Падварак Лельч.

ЖНІ'ЎНІК *м.* Ліпеньскі баравік. *Жніўнікі начынаюць росці, як жыто жном. Мікольнік — ранні грыб, а жніўнік познейшы.* Махнавічы Маз.

ЖОЎТЛЯ'К *м.* Стары жоўты баравік. *Жоўтлякі дзешовые — тры рублі кілограм.* Тонеж Лельч.

ЖЫ'ЖКА *ж.* Жыгучка. *Жыжка ў нас ідзе ў ход. Я вулечыла ногу карасіною і жыжкою.* Тонеж Лельч.

ЗАВУШНІ'ЦА *ж.* Пакаёвая кветка, мальва. *Завушніца пудходзіць пуд мальву.* Ліпляны Лельч.

ЗА'ЙЦАВА КОРТО'ПЛЯ *ж.* Паслён. *Зайцава кортопля і горкая і салодкая на смак.* Санюкі Ельск.

ЗА'ЙЧЫКАВА ЦЫБУ'ЛЬКА *ж.* Гладун (трава). *Як толькі снег сойдзе, так зайчыкава цыбулька з-пуд снегу лезе.* Лельчыцы.

ЗАПЛЕ'ЎКА *ж.* Завязь у агурках. *Заплёвок було богато ў гурошніку, а гуркоў нема.* Тонеж Лельч.

ЗВОНО'ЧКІ *мн.* Ворлікі. *Дзеточкі, якіх ву прыгожанькіх звоночкаў назбіралі.* Санюкі Ельск.

ЗЕ'БРЫКІ *мн.* Брат-сястра. *Пойду по муку, а зёбрыкі за руку* (прымаўка). Санюкі Ельск.

ЗЕЛЕНІ'ЦА *ж.* Зялёнка. *То я только беру соўяка й грыба, а восеньюю — зеленіцы.* Ліпляны Лельч.

ЗЕ'ЛЬЕ *н.* 1. Пустазелле. *Седáю й кóрчыка полю пáлцамі і кідаю ў розору зéлье.* Ліпляны. 2. Зёлкі. *Знахарка зéлья наварыць да вуліваe на росходніе дорогі.* Чэмернае Лельч.

ЗЯЎЗЮ'ЛЬНІК *м.* Зязюліны слёзкі. *Коровáм параць зяўзю́льнік.* Тонеж Лельч.

КАМЕНІ'ЦА *ж.* 1. Касцяніца. *Порослі каменіцы — будуць новые поленіцы.* Данілевічы. 2. Цвёрдая груша (плод). *Як пулежаць, каменіцы смачные.* Тонеж Лельч.

КАМЕНІ'ЧКА *ж.* Майнік. *Каменічкі такіе ўнь на покосі ў нас ростуць.* Санюкі Ельск.

КАПЕЛЮ'ШНІК *м.* Гарлачык жоўты. *У возеры будоліна капелю́шніка ідзе до двух-трох мэтраў.* Ліпляны Лельч.

КАПУ'ЦІК *м.* Расянка. *Ось не ўздумаеш, дзе етые капýцікі ростуць, навек роса на іх.* Санюкі Ельск.

КІСЛУ'ХА *ж.* Кісліца. *Нарвóм у лесі кіслýхі да борщэ́ вáрымо.* Тонеж Лельч.

КІЯХІ' *мн.* 1. Рагоз. *Нагле́нные* [высокія] *кіяхі ў болоці ростуць.* Ліпляны Лельч. 2. Кукуруза. *У Тэклі такіе ўродзілі кіяхі, што хаты не відаць.* Ляскавічы Петр. 3. Кукурузны пачатак. *Кіяхі пудламліваюць, а кіяшнік стоіць.* Падварак Лельч.

КОЗА' *ж.*, КОЗІ'НЕЦ *м.* Пеўнік стракаты (грыб). *Козá чорная зверху, рэпáтая, а пудо дном, як мох, шо козья шэрсць.* Тонеж Лельч. *Козінцы кошлáтые, з-пуд нізу з мошком, а зверху покóлотые й чорные.* Ліпляны Лельч.

КОЗЛЯ'К *м.* 1. Масляк. *Козля́к важкі, цюпкі, а моховік легчэйшы.* Ліпляны Лельч. 2. Агульная назва ядомага грыба, апрача баравіка. *У лесі цепéрэка грыбоў нема, а одныe только козлякí: лісіцкі, краснюкí, бабкі.* Сярэднія Печы Лельч.

КОЛЮКІ' *мн.* Чартапалох. *За колюкí не вóзмесса, трэбо брэзентóвые руковіцы, а так не вурвеш; сільно плохое зелье.* Ліпляны Лельч.

КОПЕЛЮ'ШЫК *м.* Шапка грыба. *Товáрынка копелюшыком росце.* Махнавічы Маз.

КОРО'ЎКА *ж.* Ваўнянка (грыб). *Корóўкі чэрэнóм ростуць. Молоко з корóўкі цечэ, акраз як з коровы.* Маркоўскае Лельч.

КОРТО'ПЛЯ *ж.* Бульба. *Што ву хочэце, на кортóплю еты год не годзіло: то мочыць, то сушыць.* Астражанка Лельч.

КОРТОПЛЯ'НІК *м.* Бульбоўнік. *Ховаліса ўсе от немчурáк, я сама ўсю ночку у кортоплянíку седзела.* Тонеж Лельч.

КОРТО'ПШЧЫНА *ж.* Бульбіна. *Годзіла еты год на кортóплю, і ў мене на городзі пуд одным корчэм коло пятнаццаці кортóпшчын вукопаеш.* Тонеж Лельч.

КОРЧ *м.* 1. Сухі пень з карэннем. *У корч косою ўдарыў і жалó погнуў.* Тонеж Лельч. 2. Куст бульбы. *Тацьяно, яка ў цебе картопля? — Така картопля пустэ, не рáсна.— Ну што ў мене така расна: штук сорок пуд одным корчэ́м.* Ліпляны Лельч.

КОРЧЫ' *мн.* Кусты, хмызняк, зараснік. *У корчóх жыла, як була вóйна. Тут корч'é було тые разы скрозь.* Тонеж Лельч.

КОЎПА'К *м.* Смаржок (грыб). *Шчэ ніводного грыба нема, а коўпакі ўжэ е.* Маркоўскае Лельч.

КОЎТУ'ННІК *м. зборн.* Калючыя галоўкі, суквецце дзядоўніку, лопуху. *Му ў кучарэ́ кідалі еты коўтуннік. Як запусцім его кому ў косы, не вурве.* Лельчыцы.

КРАСНОГОЛО'ВІК *м.* Падасінавік. *Красноголовікоў цюпкіх набером.* Махнавічы Маз.

КРАСНЮ'К *м.* Падасінавік. *По нізох, по мучкох росцуць краснюкі, воны такіе цю́пкіе.* Маркоўскае Лельч.

КРУХА' *ж.* Крушына. *З клюкву мед беруць пчолкі, з крухі.* Тонеж Лельч.

КРЫВА'ЎНІК *м.* Касач. *Росце крываўнік по нізох, по волокох.* Тонеж Лельч.

КРЭ'Ж *м.* Унутраная амярцвелая частка дрэва. *З крэ́жэм дзерэво на дрóва ідзе.* Данілевічы Лельч.

КУРЫ'НАЯ ЛА'ПКА *ж.* Расходнік едкі. *Пуд плотом богато курынай лапкі.* Санюкі Ельск.

ЛАПУ'ШНІК *м.* Лілея белая. *Унь за тымі ольхáмі ў нас болото, дэк там богато лапýшніку.* Санюкі Ельск.

ЛЕПЕХА' *м.* Балотная трава, плывунец. *Товар лепехý есць.* Тонеж Лельч.

ЛІ'ПІНА *ж.*, ЛІПО'ЎЕ *н.* Ліпавая кара. *Пýта круцілі з ліпіны. От постолы поплелі з ліпоўя.* Ліпляны Лельч.

ЛІСІ'ЦА *ж.* Лісічка. *Лісіцы самые ранніе з губ'як, іх не соляць.* Маркоўскае Лельч.

МАКЛЯ'К *м.* Затануўшае бервяно, дрэва. *Мо якіх*

*маклякóў вуцягнуў бу з вады да застронка ў хлеві огородзіў?* Ліпляны Лельч.

МАРГА′НКА *ж.* Скараспелы гатунак бульбы. *Дай ты мне маргáнкі, то я тобе дам варшаўкі богато.* Мілашавічы Лельч.

МАЧО′НІК *м.* Мочаны яблык. *Еты раз мачонікі ўдаліса.* Заберажніца Лельч.

МЕДО′ЎКА *ж.* Сіняк звычайны. *Медóўка ліпкая такая, як мед.* Санюкі Ельск.

МЕ′СЕЧКА *ж.* Радыска. *Рэжэм кружэ́чкамі мéсечку да емó з цыбулькою.* Тонеж Лельч.

МЕТЛІ′ЦА *ж.* Трыснёг. *Му рвом ету метліцу на мецёлкі.* Санюкі Ельск.

МІКО′ЛЬНІК *м.* 1. Майскі баравік. *Слухай, я ўжэ набраў мікóльнікоў.* Маркоўскае Лельч. 2. Від дуба. *На мікóльнікох жоўты ліст бувае ўсю зіму.* Данілевічы Лельч.

МОКРЭ′Ц *м.* Пустазелле, зоркаўка. *Кортóплю мокрэцэ́м зацéгае.* Ліпляны Лельч.

МОЛОЧ′Я′К *м.* Малачай. *Не росце молоч'як заложыстымі полямі. З его цечэ молоко. Ето погано зеллейко.* Сярэднія Печы Лельч.

МУ′ЧКА *ж.* Кусцістая нярэзкая трава. *Мýчку косіць надо хорошэ плечэ і коса.* Ліпляны Лельч.

НЕЛІ′Н *м.* Від дуба. *После троіцы развіваецца нелін.* Данілевічы Лельч.

ОБДЗІ′РОК *м.* Верхні слой лыка. *Зрэж абдзірка з лута.* Данілевічы Лельч.

ОБЖО′ГА *ж.* Крапіва. *Свіньям обжóгу бабу рвуць.* Манчыцы Лельч.

ОБОЗО′К *м.* Галінастая сасонка. *Пуд етым обозкóм грыба ўзяў.* Маркоўскае Лельч.

ОБОЛО′ВА *ж.* Абалона. *З боку дзерэва оболóва, а посерэдзіне — стрыжань.* Маркоўскае Лельч.

ОДМУ′РОК *м.* Апад. *Збером пуд яблоняй одмýркі і свіньям даем.* Данілевічы Лельч.

ОКРО′П *м.* Кроп. *У банку кідае ходзяйка окрóпу, лісту похучэго і закрывае на зіму.* Ліпляны Лельч.

ОЛЕ′Х *м.* Альховы зараснік. *У олéху травіцка росце.* Ліпляны Лельч.

ОЛЕ′ХА *ж.* Вольха. *На дрóва олéху рубáем.* Жмурнае Лельч.

ОРОБІ′НА *ж.* Рабіна. *Зáра оробіну ў Гóмлі сажаюць, а ў нас ее — колькі хоч.* Маркоўскае Лельч.

ОСЕ'ЛОК *м.* Летняя апенька. *Му сушымо осе́лкі.* Падварак Лельч.

ОСІ'НОВІК *м.* Падасінавік. *Набраў адных осіновікоў.* Усаў Лельч.

ОСМО'Л *м.* Смалісты кавалак сасны. *На лучыну ске́паем осмо́ла.* Данілевічы Лельч.

ОСО'КА *ж.* Асака. *А на лугу росце везель, осо́ка, татарнік.* Ліпляны Лельч.

ОЎЁ'Х *м.* Цыкута ядавітая. *Скоціна схваціць оўёха — сразу й перэкінецца.* Тонеж Лельч.

ОЦІ'РА *ж.* Амецце. *От сухого сена оціры богато.* Салагубаў Лельч.

ПА'МОЛОДЗЕНЬ *м.* Парастак. *На кожном па́молодні помідор. Як уродзяць, іх бувае мора, а як не ўродзяць — п'яць-шэсць. Ето ж як на іх год бувае які.* Ліпляны Лельч.

ПЕРЭСМО'Л *м.* Асмол. *З перэсмо́ла лучына жоўтая.* Тонеж Лельч.

ПЕРЫ'ЛО *н.* Плюшнік. *Перы́лы ўнь пуд плотом у конаві.* Санюкі Ельск.

ПЕ'ЎНІКІ *мн.* Касачы. *Пе́ўнікі — надта прыгожые цветы.* Санюкі Ельск.

ПЛЕ'ШКА *ж.* Шапка грыба. *Грыбы отлічаюць по пле́шцы.* Санюкі Ельск.

ПЛО'СКУНІ *мн.* Маніцы. *Пло́скуні ў нас найболей слалі, а моткі і мочылі.* Ліпляны Лельч.

ПЛЮ'ШНІК *м.* Аер. *На тройцу плюшнік кідаюць по хаці.* Тонеж Лельч.

ПОЛО'ІК *м.* Палавінка качана. *От смачная капуста — цэлы поло́ік з'ела.* Старое Сяло Ельск.

ПОЛЫНО'К *м.* Пакаёвая кветка; хрызантэма. *Мой полыно́к усе лето цвіў, не перэставаў.* Дзяржынск Лельч.

ПОМІДО'РНІК *м.* Сцябло памідораў. *У помідо́рніку пасынкі ідуць сотсюль і сотсю́ль.* Тонеж Лельч.

ПО'РОСЛЯ *ж.* Параснік, зараснік. *По вусокіх местох, по по́рослях ростуць коўпакі.* Маркоўскае Лельч.

ПОРОХНО' *н.* Парахня. *У ха́уці е толькі яке́ порохно́.* Маркоўскае Лельч.

ПРЫ'БОЛОТКА, ПРЫ'БОЛОТУХА, ПРЫ'БОЛОЦЯНКА *ж.* Сыраежка з вострай шапачкай. *Пры́болоткі го́стрэ ростуць.* Падварак Лельч. *У пры́болотухі шапочка стаўбнова́та, го́стрэнька.* Ліпляны Лельч. *Пры́болоцянкі соляць.* Тонеж Лельч.

ПУДДУ′БНІК *м.* Баравік, які расце пад дубам. *З усіх грыбоў пуддýбнікі прыгажэйшыя.* Санюкі Ельск.

ПУРЭ′Й *м.* Пырнік. *Цяпкамі пурэ́й збіваем і ўскрай зносем.* Мілашавічы Ельск.

ПУ′ТНІК *м.* Баравік, які расце пры дарозе. *У пýтнікоў такіе шапочкі хорошые.* Санюкі Ельск.

ПУ′ШКА *ж.* Порхаўка. *Кáгуць, шо пýшкі есць можно.* Маркоўскае Лельч.

РА′ЛО *н.* Раздвоены ствол дрэва. *Дзерэво з рáлом ідзé на соху.* Буда-Лельчыцкая Лельч.

РАМАНЕ′Ц *м.* Рамонак. *Белым цветам цвіце раманéц.* Санюкі Ельск.

РА′ПІШНІК *м.* Лопух. *От еты рáпішнік і колецца.* Санюкі Ельск.

РОГА′К *м.* Ражкі ў злакавых раслінах. *З жыціны вýстрыкнецца еты рогáк, вон такі чорны-чорны выростае.* Лельчыцы.

РОГО′ЖА *ж.* Рагоз. *Обціраюць рогóжу жонкі да ў подушкі пух сыплюць.* Ліпляны Лельч.

РОЗДУВА′НЧЫК *м.* Адуванчык. *На роздувáнчыка фукнеш — і пух леціць.* Санюкі Ельск.

РОСА′ *ж.* Расянка. *У мошку на болоці росá росце. Уцірай ею відок* [твар] — *хорош будзеш.* Падварак Лельч.

РУМЯ′НОК *м.* Рамонак. *Еты румя́нок усюды росце.* Падварак Лельч.

РЫЖАВА′НЬЕ *н.* Бадзяга. *Натрэш рыжавáньем цело — тыждзень гóлкі коляць.* Данілевічы Лельч.

РЭЗА′К *м.* Від асакі. *Накасіў рэзакý на пудсцёл.* Падварак Лельч.

РЭШО′ТКА *ж.*, РЭШО′ТНІК *м.* Рашэтнік. *Рэшóткі не беруць, воны несмашные.* Махнавічы Маз. *Рэшóтнікі по грудох по порослях ростуць.* Данілевічы Лельч.

СВІНАРЭ′ЙКА, СВІНУ′ХА *ж.* Свінуха. *Свінарэ́йкі — такіе сівенькіе губ'які. Свінýхі толстые понарóсталі, а нема колі іх браць.* Маркоўскае Лельч.

СВІРО′ПА *м.* Свірэпа. *Ніхто не сее свірóпу, а скуль вона берэцца.* Тонеж Лельч.

СЕРДЗЕ′ЧНІК *м.* Дрыжнік. *Еты сердзéчнік у нас на покосі росце.* Санюкі Ельск.

СЕРПОРЭ′ЗНІК *м.* Крываўнік. *Пчолкі мед беруць з серпорэ́зніка.* Маркоўскае Лельч.

СКРЫПЕ′ЛЬ *м.* Базідыяльны грыб, губа. *Кóлісь бер*э

*чэловек еты скрыпе́ль да крэсьво крэша.* Данілевічы Лельч.

СКРЫ′ПНІК *м.* Валяр'ян. *Ружовым цветам скры́пнік цвіце.* Санюкі Ельск.

СЛЕПА′Й *м.* Незабудкі. *Хорошы букет з слепаю́, з роботы будзеш ісці —нарві слепаю́.* Астражанка Лельч.

СМУЧА′Й *м.* Падвей. *Му смуча́й смукаем на шчоткі.* Тонеж Лельч.

СОБА′ЧКІ *мн.* Зарніца звычайная. *А ў мене ў городзі ростуць етые соба́чкі.* Санюкі Ельск.

СОЛОВЕ′ЙКО *м.* Кісліца. *Ужэ соловейко ў лесі е. Мо нарво́м его на боршчэ́?* Тонеж Лельч.

СО′Н, СО′НЕЧНІК, СОЎНЕ′ШНІК, СО′ЎНЯХ *м.* Сланечнік. *Два мешкі со́ну налузала і шчэ трохі е на горо́дзі.* Ліпляны Лельч. *Шапкою ле́таюць коноплюкі пунад со́нечніком.* Тонеж Лельч. *Вурвала мне мама соўне́шніка, а того соўне́шніка ороб'е́ поклевалі.* Астражанка Лельч. *По городох со́ўнях росце богато.* Мілашавічы Лельч.

СОЎЯ′К *м.* 1. Падасінавік. *То я только й беру соўя́ка й гры́ба, а восенью — зелені́цы.* Ліпляны Лельч. 2. Агульная назва ядомых грыбоў, апрача баравіка. *Што ты набрала? — Соўя́коў.— А якіх ты соўя́коў набрала? — Рэшоцькаў, маслюкоў, моховікоў.* Тонеж Лельч. 3. Мухамор. *Етые соўя́кі е красные й белые, іх не беруць.* Тонеж Лельч.

СПРАВЕДЛІ′ВЫ ГРЫ′Б *м.* Баравік. *Справедлі́вы гры́б не сінее, бывае вон жоўты і белы.* Махнавічы Маз.

СТОНО′ЎНІК *м.* Крываўнік. *У стоно́ўніку кругом лістка зубчыкі, росце по порослях. Его парацъ і п'юць от жывота.* Ліпляны Лельч.

СТОРЧА′К *м.* Цэнтральны корань дрэва. *Етого сторчака́ не можна вукопаць.* Валаўск Ельск.

СТОРЧЭВЫ′ *прым.* Цэнтральны (пра корань дрэва). *По торфянікох корні ў хвоі разгалістые, а сторчэво́го нема.* Данілевічы Лельч.

СТОЎБУ′Р *м.* Кветаноснае сцябло. *Густо посееш гуркі, і воны ідуць у стоўбу́р: на ім ні зав'язі — нічого нема. Со стоўбу́ра сею етые зубкі на весне ў радочкі.* Ліпляны Лельч.

СУ′КРАК *м.* Смольны корч. *Коб ето дро́ва булі, а то адны́е су́кракі; бач, як удушыўса.* Падварак Лельч.

СУХОЎЯ′ЛІЦА, СУХАСТО′ІЦА *ж.* Сухастоіна. *Сего́-*

*ні бачыў у Озерцах здорову сухов'яліцу, трэбо ее зрэзаць. Коло мого города стоіць як жыву сухостоіца.* Патапы Ельск.

ТАТА'РНІК *м.* Аер. *На пол кідаем татарнік, у пляшкі стаўліем.* Ліпляны Лельч.

ТОВА'РАЧ *м.* Шальнік. *Еты товарач у водзе росце.* Санюкі Ельск.

ТО'ПЛЕНІК, ТОПЛЯ'К *м.* Патануўшае бервяно, дрэва. *Некаторые вуцягваюць топленікі на дрова.* Ліпляны Лельч. *Топлякі вуцягваюць, сушаць і потомака плавяць.* Лельчыцы.

ТУРБОВІ'НКА *ж.* Сцяблінка. *Як уродзяць помідоры, на кожной турбовінцы іх богато.* Ліпляны Лельч.

УСУ'Х *м.* Дрэва з амярцвелай унутранай часткай. *На дрова усух бером.* Данілевічы Лельч.

ХА'УТ *м.* Дрэва з выгніўшым асяродкам. *От хороша хвоя, а ето хаут: дзіркі погнілі.* Ліпляны Лельч.

ХА'УТНЫ *прым.* Спарахнелы. *На хаціну хаутна дзерэвіна не йдзе.* Маркоўскае Лельч.

ХВО'ЙКА *ж.* Хвошч. *Дзе хоч хвойка пробіваецца, вуполоць ее не можно.* Тонеж Лельч.

ХЛЕ'БНЫ КО'РЭНЬ *м.* Лугавая валошка. *По жэнскому хлебны корэнь помогае.* Лельчыцы.

ХРА'ПА *ж.* Храпка. *Храпу з качаноў жонка ссекае і ставіць у лёгкі дух.* Тонеж Лельч.

ЦЕ'ЛЕСО *н.* Камель дрэва. *До гольля ў дзерэві целесо.* Ліпляны Лельч.

ЦУРУ'БОЛКА *ж.* Аголенае сцябло травяністай расліны. *Жукі так аб'елі картоплю, шо только цуруболкі стырчаць.* Астражанка Лельч.

ЦЫБУ'ЛЬКІ *мн.* Лушпайкі з цыбуліны. *Скідаю ў гладышэчку з водою цыбулькі да шчэ прыкіну яку краску і крашу яйца.* Ліпляны Лельч.

ЦЭ'ЛЬ *ж.* Базідыяльны грыб, губа. *На берэзе цэль е; не надо ее варыць.* Тонеж Лельч.

ЧАРОЦЯ'НЫ *прым.* Чаротавы. *Крыша чароцяна год-два пустоіць і процекае.* Падварак Лельч.

ЧАСНЫ'К *м.* Часнок. *Як робім росол, часнык кідаем, вокроп, вішэннік у бочку з гуркамі, помідорамі, а наверх кружок кладом.* Тонеж Лельч.

ЧОРНАГАЛО'Ў *м.* Падвей. *Калі ета травіцка не цвіце, звом ее смучай, а колі цвіце — чорнагалоў.* Тонеж Лельч.

ШУЛЯ́К *м.* Мяккі качан. *У стоўб пойдзе расадзіна і понаро́стаюць тогда етые шулякі.* Ліпляны Лельч.

ШУ́МА *ж.* Перацёртае сена пасля зімы. *На пудсцёл шу́му бером.* Падварак Лельч.

ШЧАВЕ́Р *м.* Шчаўе. *Ко́лісь чоловек напу́гаецца шчаўру́ і робіць, як чорны вол.* Тонеж Лельч.

ШЧАЎРО́ВЫ *прым.* Шчаўевы. *Наварыла шчаўро́вого боршча, а есці ніхто не хочэ.* Падварак Лельч.

ШЧЭ́ПКА *м.* Саджанец. *Купіў маленькіх шчэ́пок да й посадзіў у городзі.* Ліпляны Лельч.

ШЫЛЕ́Г *м. зборн.* Лазовыя галінкі. *Шыле́г — бук-новенные розкі, воны только красные, покуда молодые.* Падварак Лельч.

ШЫПА́К *м.* Калючка. *Мо то осот? От такіе шыпакі на ём.* Ліпляны Лельч.

ШЫ́ШКІ *мн.* Скочкі. *Шы́шкі ото на полі ростуць.* Санюкі Ельск.

Я́БЛОНЬКА *ж.* Грушанка круглалістая. *По лесу я́блонька росце.* Тонеж Лельч.

*І. І. Лучыц-Федарэц*

# КАВАЛЬСКАЯ ЛЕКСІКА З АКОЛІЦ г. ДРАГІЧЫНА

Кавальскае рамяство з'яўляецца адным з найбольш старажытных. Яно першае перастала быць хатняй вытворчасцю (г. зн. работай, якая выконвалася непасрэдна ў жыллі, у хаце, як, напрыклад, ткацтва, пляценне, ганчарства), а каваль стаў першым рамеснікам у гісторыі культуры чалавецтва [1].

Як неаднаразова падкрэслівалі даследчыкі [2], на Палессі карэннае насельніцтва не займалася кавальскай справай. Тым не менш тутэйшая народная кавальская тэрміналогія не з'яўляецца больш беднай, чым у іншых славян [3]. Гэта яскрава сведчыць аб тым, што кавальскае рамяство ў палешукоў у даўнейшыя часы было развіта ў той жа меры, што і ў іншых народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Прыведзеная лексіка з аколіц г. Драгічына, якая ўключае назвы працэсаў і прылад працы каваля, а таксама назвы кавальскіх вырабаў, з'яўляецца ў асноўным славянскай. Побач з гэтым ёсць запазычанні — германізмы (ідышызмы) і паланізмы; у апошні час назіраецца ўплыў рускай мовы: фактычна новыя прыстасаванні, прыборы і працэсы, якія паяўляюцца ў кузні, атрымліваюць рускую назву.

Лексіка запісвалася ад кавалёў Уладзіміра Юльянавіча Зушчыка (нарадзіўся ў 1926 г. у в. Зарэчка — цяпер вул. Пушкіна ў г. Драгічыне, вучыўся ў прыватнай кавальскай школе) і Мікалая Сільвестравіча Каровіча (на-

---

[1] О. Н. Трубачев. Ремесленная терминология в славянских языках. М., 1966, с. 311.

[2] В. Маракуев. Полесье и полешуки (из путевых заметок). М., 1879, с. 10; K. Moszyński. Polesie Wschodnie. Warszawa, 1928, с. 104.

[3] О. Н. Трубачев. Ремесленная терминология в славянских языках, с. 312.

радзіўся ў 1905 г. у в. Дуброўка, пражываў у в. Сірэнеўка Драгічынскага раёна, вучыўся рамяству ў каваля в. Мікіцк гэтага ж раёна).

У ніжэйпададзеным слоўніку кавальскай лексікі напісанне лексем спрошчанае: не адзначаецца *і* пасля цвёрдай зычнай (перадаецца як *і* або як *ы*), закрытае *о* перадаецца як *о* або як *у* і інш.).

БА'БКА *ж.* Бабка для кляпання касы.

БАРА'Н *м.* Від гэбля. *Гэблык був одінарный, а дубэльто́вый — гэто баран; він з двыма ручкамы.*

БОРМАШЫ'НА *ж.* Ручны дрыль.

БРА'ТЫ НА Г(В)О'ЗЬДЗІ. Прыбіваць цвікамі. *Шыну бралы на гвозьдзі або на болты, коб ны злітала з ко́лыса.*

ВІНТ *м.* Прэнт з разьбою, які знаходзіцца ў сярэдзіне *крыжныці. На вінт наклада́лы ко́лысо, закручувалы гайкію і натяга́лы шыну.*

ВУ'ГОЛЬ, У'ГОЛЬ *м.* Вугаль. *З пыньків тягнулы трыпынты́ну* [шкіпінар], *дёготь, а пу́зьні выпалювалы вуголь. Дырв'я́ный уголь мы купля́лы в лавці.*

ВУГО'ЛЬНІК *м.* 1. Кантавае жалеза, якім абкладаецца край прыпечка. 2. Стойка плуга.

ВЫ'БОРТУВАТЫ *зак.* Падагнаць абедзве часткі *парніка. Піч в парніко́вы трэба вы́бортуваты, коб котёл быз шчылюбы́ны захо́дыв в сырэ́дыну.*

ВЫВА'РУВАТЫ *незак.* Варыць у горне метал.

ВЫНЦІ'ДЛО *н.* Цуглі. *Вынцідло робыш гладкэ, коб кінь храпы ны порізав.*

ВЫПУСКА'ТЫ ЗУ'Б'Е. Тачыць серп другі раз да гартоўкі.

ВЫ'РЫХТУВАТЫ *зак.* Падрыхтаваць форму апрацоўваемага металу для далейшай апрацоўкі.

В'ЯЗО'К *м.* Дручок, які злучае верхнія жардзіны ў драбінах воза. *Ны знаю, як назваты кованы конці в в'язко́вы — у нас казалы окуваты в'язка і всё.*

ГА'ЙКА *ж.* Гайка. *Скрізь называіцьця гайка, ты́лько ў во́зовы раньшы казалы му́тра.*

ГВОЗЬДЗІ'ЛЬНЯ *ж.* Прыстасаванне для вырабу цвікоў.

ГЛА'ДІК *м.* Від гэбля. *Гладіком гладыш после гэблыка.*

ГЛАДІ'ЛКА *ж.* Гладзілка. *Гладілку наставыш і погладыш, шоб жылізо було рімнэ* [роўнае].

ГО'ЛОВО *н.* Волава. *На холоднэ паяньне трэба го́лово.*

ГОНТА'ЛЬ *м.* Чатырохгранны цвік. *Пры Польшчы всі гозьдзі булы гонталі.*

ГОРНО' *н.* Горан. *Горно́ муровалы з чырвоныі цёглы.*

ГОСТРІ'Й *м.* Вастрыё сякеры. *У сокіры з одного боку гострій, а з дру́гого — обух.*

ГРЫБІ'НКА *ж.* Грэбень-рэгулятар, прыбіты да канца аглоблі, на якой трымаецца адзін канец атосы.

ГРЫІФ *м.* Шып, які ўкручваюць у падкову. *Гры́фы і шыпы — то всё ромно́.*

ГЭ'СКРА *ж.* Іскра.

ДО'ЛОТО *н.* Долата. *Долото робыты вэльмы просто: кусок сталі роспліскаіш, обточыш на точы́ловы, конця обтянув, набыв кусок трубочкы, потом ручку насаджуіш, кончыка загынаіш і всё.*

ДЫ'СА *ж.* Адтуліна, праз якую паветра падаецца ў горан. *Ды́са в поддува́йловы була чыгунна, бо жылізна хутко згоріла б.*

ЖЫГА'ЙЛО *н.* Загнуты прэнт ці вузенькі савок. *Жыга́йлом подворушуіш у горні, а можна йім і смітьте выкыдаты.*

ЖЫГА'ЛО *н.* Востры жалезны шпень. *Як робылы дырв'я́ны бо́роны, то в станковы дыркы́ на зубы крутылы або пропалювалы жыгалом.*

ЖЫЛІ'ЗКО *н.* Жалязка ў рубанку. *Жылізко чы до гэблыка чы до спуста, всё ромно́ называіцьця жылізко.*

ЖЫЛІ'ЗО *н.* Жалеза, з якога кавалі выраблялі розныя прадметы. *Дэ я брав жылізо? Купляв в магазіны, або вымінював.*

ЗАКЛЫПА'ТЫ *зак.* Закляпаць. *Чыгуна ны залітуіш, його трэба заклыпаты ны́тыком з дроту.*

ЗАЛЮШЭ'ННЫК *м.* Жалезная частка люшні, якая надзявалася на вось.

ЗАТІ'СНЫК *м.* Частка атосы, якая ляжыць на грэбені спераду аглоблі.

ЗВА'РКА *ж.* Зварка. *Ковальска зварка — гэто колы шось варать в горні, потом сту́люють і збывають.*

ЗУБ *м.* Загнутая пад прамым вуглом палоска ці прэнт — частка *натя́гача;* гэтым зубам захопліваецца гарачая шына і нацягваецца на кола.

ЗУБЫ'ЛО *н.* Зубіла.

КАБЛУ'К *м.* Жалезны прэнт з боку бараны, за які

яна чаплялася да пастромкаў. *Каблука́ прыбывалы до бороны на двох ра́хвочках.*

КАБЛУЧО′К *м.* Драцяная дуга ў касе. *Як косыш жыто чы ячмінь, то трэба вставыты в ко́су каблучок, тоді жыто будэ рімно кластыся, а быз каблука будэ, як сіно, помішанэ.*

КАЛЁ′ВКА *ж.* Від гэбля. *Калёвкію выбыраіш карнізы.*

КАЛЫ′ТЫСЯ *незак.* Гартавацца. *Жылізо тое, которэ калыцьця.*

КА′МЫНЬ *м.* Камень. *Колёса натягалы на камыні з старого млына.*

КАНА′ВКА *ж.* Разора ў падкове. *Канавку в подко́вы нару́бувалы зубылом.*

КАПТУ′Р *м.* Пірамідальны выцяжны комін над горнам.

КАРА′СЬ *м.* Шырокая палоска жалеза, якая прымацоўваецца да восі на канцах, каб вось была больш трывалай.

КЕ′РНЫР *м.* Кернер, прабойнік, які ўжываецца для таго, каб назначаць лінію ці дзірку. *Як ке́рныром накерну́іш, так і прорубаіш.*

КІ′ШКА *ж.* Кошка.

КЛЕ′ШЧЫ *мн.* Клешчы.

КЛЮ′ЧКА *ж.* 1. Крук, за які чапляюцца пастромкі да плуга. 2. Гл. *ко́почка.*

КОВА′ДЛО *н.* Кавадла. *Ковадло прыбывалы до дубовыі ко́лы́дкы.*

КОВА′ЛЬ *м.* Каваль.

КОЛУ′Н *м.* Калун. *Колун — выліка сокіра дрова рубаты.*

КОЛЬЦО′ *н.* 1. Кольца на рэгулятары ў плузе. 2. Кольца ў дузе. *За́рэ на кольцо в дузі поводці ны чыпляють.*

КОМЫНЭ′ЦЬ *м.* Комін у *парніку.*

КО′ПОЧКА, КОПАНЫ′ЦЯ *ж.* Матыка з некалькімі зубамі для капання бульбы. *Мы робы́лы ко́почкы з трыма зуба́мы.*

КОТЁ′Л *м.* Кацёл *парніка. Котёл в парніко́вы — самэ главнэ.*

КО′ТНІК *м.* Від гэбля. *Котнік вычышчае тое, шо ны взяв одбо́рнік.*

КРУК *м.* 1. Крук. *За крука с кольцом, шо на каблу-*

*ко́вы, чыпля́лы по́стыро́нкы.* 2. Частка завесы. *Завісы сыдять на круках, а крукы вбываімо в ушакы.*

КРЫВЫ'Й НЫЖ. Нож крывой формы. *Крывы́м ножэ́м рошчышча́лы копы́то конёвы і прыбывалы гвозьдзі.*

КРЫЖНЫ'ЦЯ *ж.* Станок з чатырох пален-калод, у сярэдзіне якога стаіць убіты ў зямлю *вінт.*

КРЫЛО' *н.* Паліца сошкі. *У плу́говы полы́ця, а в сы́шці — крыльля.*

КРЫ'ШКА *ж.* Вечка ў катле *парні́ка.*

КУ'ЗЬНЯ *ж.* Кузня.

ЛІГУЛЯ'ТОР, РЫГУЛЯ'ТОР *м.* Рэгулятар на дышлі плуга.

ЛІ'ЙКА *ж.* Круглае конусападобнае жалеза, якое насаджваецца на аглоблю. *Лі́йкію голобля дыржыцьця за крук у наса́довы.*

ЛІТУВА'ТЫ *незак.* Паяць. *Трэба давно літуваты дырочку в выдро́вы, бо всё більшае.*

ЛОПА'ТКА *ж.* Язычок замка.

ЛО'ПОТЫНЬ, ЛО'ПОТЭНЬ *м.* Вялікае паўкруглае долата. *Ло́потнэм більшалы дырку в колыдці ко́лыса, шоб бу́ксу можна було забыты.*

МІТА'Л *м.* Метал. *Сырпа робымо з двох міталыв: з сталі і жыліза.*

МОЛОТ м., ВЫЛЫ'КІЙ МОЛОТО'К. Вялікі, цяжкі молат.

МОЛОТО'К *м.,* МАЛЫ'Й МО'ЛОТ. Малы малаток.

МУ'ТРА *ж.* 1. Гайка, пры дапамозе якой закручвалі кола на прэнце. 2. Гайка, якую закручвалі на вось у возе.

МЫШО'К КОВА'ЛЬСКІ. Кавальскі мех. *Мышка робылы пырыкладі́нкамы з шкуры коров'ячыі і з дэ́рва.*

НАВО'ДЫТЫ ЗУ'Б'Я. Рабіць зуб'е ў сярпе пасля загартоўкі.

НАЗУБЫ'ТЫ *зак.* Назубіць. *Як наточыш сырпа, то пузьні назубыш, выпустыш зуб'е, потом гартуіш.*

НАКЛА'ДКА *ж.* Жалезная, нерухомая частка *натягача,* а таксама рухомая частка з зубам.

НАПЭ'РСТОК, НАСТА'ЛОК *м.* Сякерка для кляпання кос. *Наста́лка робыш з жыліза, а обушок стальный.*

НАСТА'ЛЮВАТЫ *незак.* Пакрываць сталлю. *Мы сошныкы завшэ наста́лювалы.*

НАТЕ'ГАЧ, НАТЯ'ГАЧ *м.* Дручок з загнутым зубам, пры дапамозе якога нацягвалі шыны на колы драбін.

НЫЗЬ *м.* Ніжняя частка кавадла. *Прыбоі дыржáт ковадло за нызь.*

НО′ЖЫЦІ *мн.* Ножніцы, якімі рэзалі бляху.

НОСУ′ЛЯ *ж.* Від кавадла. *Ковадло з носом з одного боку называімо носýля.*

НЫ′ТЫК *м.* Ніт. *Як шыну зварать, два концi стулять, потом вставляють в йийі два нытыкы з товстого дроту і прыкліпують йіх.*

ОБРУ′Ч *м.* Абруч. *Обручы́ заклэплювалы ны́тыкамы.*

ОБСА′ДКА *ж.* Рама, у якой замацавана пілачка для рэзання жалеза.

ОБУ′ШЫ′НЫ *мн.* Прамыя клешчы.

ОДБО′РНІК *м.* Від гэбля, якім выбіраецца паз. *Одборнік одбырае чэтвырть для стікла в рамах.*

ОПЦЭ′НКЫ *мн.* Абцугі. *Опцэнкамы пооткушують копыто, а пýзьні кругом очышчають рашпілём, коб було хорішч.*

ОТЁ′СА *ж.* Атоса. *Мій дід казав, шо тоді отёсы булы з воровóк, а пýзьні сталы йіх робыты з жылізных прэ́нтыв.*

ОТТЯГНУ′ТЫ КОНЦЯ′. Распляскаць адзін канец сярпа ў вузенькі доўгі конус, які складае яго каркас.

ОТТЯ′ГУВАТЫ *незак.* 1. Прыдаваць форму дроту шляхам выцягвання яго перад тым, як зрабіць плешку цвіка на *гвозьдзільні.* 2. Рабіць канец больш доўгім, выцягнутым.

ПАРНІ′К *м.* Кацёл з печкай для варкі бульбы ці іншых караняплодаў.

ПЛІ′ШКА *ж.* Плешка цвіка. ***Г****озьдзь быз плішкы ныць ны трымае.*

ПЛЫСКА′ТЫ *незак.* Пляскаць (пра метал).

ПОДДУВА′ЙЛО *н.* Вентылятар, пры дапамозе якога праз *дысу* паветра заганялася ў горан.

ПОДЫ′СОК *м.* Вузкая палоска знізу восі для ўмацавання апошняй. *Поды́сок був гýшчы, ныж карась.*

ПОДПО′РА *ж.* Падпора пад ручкі ў калёсах. *Ручкы́ швыдко вы́хытаюцьця быз подпор.*

ПОЛОЗО′К *м.* Полаз у плузе.

ПОПЫРЭ′ЧКА *ж.* Жалезны прэнт, які звязвае дзве ручкі ў плузе ці ў сасе.

ПРОБО′Й, ПРОБО′ЙНІК *м.* Прабойнік. *По-руску пробойнік называіцьця бородóк.*

ПРУТ *м.* Пласціна. *Старая коса на сырпа згóртаіцьця*

*на прўта ў п'ять сантімэтрыв і вываруіцьця на каваочок з дэсыть сантімэтрыв.*

ПРЫБО'Й *м.* 1. Тоўстыя крукі, якімі прыбіваецца кавадла да калоды. *Прыбóй дыржыть ковадло.* 2. Частка клямкі. *Клямка — шо рукою братысь, як зачыняна на крук, а прыбой — такая жылізáка, што дыржыть клямку.*

ПРЫВА'РУВАТЫ *незак.* Прыварваць, зварваць. *Прываруіш у горні.*

ПРЭНТ *м.* 1. Частка плуга. *Прэнты дыржать ручкы́ в плýговы.* 2. Гл. *вінт.*

ПУДГА'РЛО *н.* Падгерац. *Гэто такый помочны́к; він подходыть до розвóр, шоб ны выворочувався пырыдок.*

ПУДО'ШВА *ж.* Гл. *нызь.*

ПУДСТАНО'ВКА *ж.* Падстаўкі пад утору дна ў *парніку.*

ПУПРЫ'ЦЯ *ж.* Жалезная планачка ў верхнім камені з упадзінай, якая ўздзяецца на шпянёк ніжняга каменя. *До жорнов мы ковалы тылько пупры́цю і выртянó.*

П'Я'ТКА *ж.* Частка плуга — заканчэнне полаза.

РАССЕ'ЧКА *ж.* Гл. *канавка.*

РА'ХВА *ж.* Рэхва. *Рáхвы булы на колыдці кóлыса.*

РІ'ЗАТЫ *незак.* Рэзаць. *Жылізо ны різалы, а рубалы зубылом, а бýксу одрізувалы ножовкію.*

РОГА'Ч *м.* Дышаль у плузе. *Зарыз кажуть дышэль, а колысь — рогач.*

РОГОВЫ'К *м.* Гл. *вугольнік.*

СВЭРДЁЛ, СВЭ'РДЫЛЬ *м.* Свердзел.

СКЛЮТ *м.* Склюд. *Склютом тэшуть товстэ дэрво.*

СОШНЫ'К *м.* Сашнік у плузе.

СПРУЖЫНЫ'ВКА *ж.* Спружыноўка. *Спружынывкы сталы робыты, як прыіхалы з біжанців.*

СТАЛЬ *ж.* Сталь.

СТАМЕ'СКА *ж.* Стамеска. *По дóлотовы молотком б'еш, а стамескію вычышчаіш.*

СТРУГ *м.* Струг. *Стругом ны гыблювалы, а короваы жэрды і дэрво.*

СЫДЗЭ'НЕ *н.* Сядзенне ў возе. *Сыдзэне міг зробыты вэльмы добрый майстыр.*

ТАРАДЫ'НКА, ТЫРЫДЫ'НКА *ж.* Хамуцік. *У вóзовы шты́ры тарады́нкы спэрэду скріплюють подушкы́ з вісьсю і штыры ззаду.*

ТІСКЫ' *мн.* Ціскі. *Вінт в тісках самэ главнэ.*

ТОЧЫ'ЛО *н.* Тачыла. *Е й такое точыло, шо на вісь*

*насаджаны тры ка́мыні; тоді трэба дві корбы* [ручкі]; *а всі тры точылы булы над корытом з водою.*

ТОЧЫ'ТЫ ДО ЗУБІ'НЬНЯ. Тачыць серп з абодвух бакоў, каб яны былі роўныя перад тым, як *назубляты.*

ТРЫ'БА *ж.* Шасцярня. *У бормашыны мыж ко́лысом і патроном есьця шэ дві трыбы.*

ТЭ'БЫЛЬ *м.* Тэбель. *Тэбыль завшэ більшый за свырдёла.*

ТЯ'ПКА *ж.* Матыка. *Ко́почкы і тяпкы мы робылы з м'ягкого міталу.*

УКОВА'ТЫ *зак.* Падкаваць. *Шоб уковаты коня, трэба обчыстыты копыта, вы́ріхтуваты подкову і допустыты йійі до копыта, прыбыты кіньскымы гозьдзямы до копыта, пузьній укрутыты грыфы.*

ФА'СКА *ж.* Сточаны бок у склюдзе.

ЦЫ'НА *ж.* Гл. *голово. Мы пая́лы цы́ною.*

ЦЭП *м.* Ланцуг. *Я цэ́па ны ковав, мы вжэ куплялы йіх в мага́зіны.*

ЧА'ШКА *ж.* Вялікая гайка, якая накручваецца на вось.

ЧЫГУ'Н *м.* Чыгун. *Чыгун ны куецьця, бо він россыпаіцьця.*

ЧЫ'СЬЦІК *м.* Гл. *гладік.*

ШВА'ЙКА *ж.* Тоўстае шыла, завостраны жалезны прэнцік, якім колюць свінней.

ШМЭ'РГІЛЬ *м.* Наждачная папера.

ШНАЙДЭ'ЗА, ШНЫЙДЭ'ЗА *ж.* Прыстасаванне для нарэзкі разьбы на шрубах.

ШПІНЬ *м.* Шпень. *Наша баба на шпіня́ в цэповы всё казала шпіга.*

ШРО'ТКА *ж.* Прыстасаванне для рубкі жалеза. *Шро́тка бы бу́ква Т — звэрху гостра; уставыш в дырку в ковадловы і пырыру́буіш жылізо.*

ШРУ'БСТАК *м.* Гл. *тіскы́.*

ШУРХУ'БЫЛЬ *м.* Шархебель. *Шурхубылём знымаіш пэршу тріску.*

ШУРШЭ'ПОК *м.* Шархебель.

ШЫ'ЛО *н.* Шыла. *Трохгранным шылом проколювалы хамута́, а пузьні прузуко́м прышывалы лямыцьь.*

*Г. Ф. Юрчанка*

# З ЛЕКСІКІ ТКАЦКАГА НАЧЫННЯ АДНОЙ ВЁСКІ

Тут падаецца лексіка, якая абазначае рэаліі ткацкага станка — ставаў, ткацкага начыння — красённага посуду, розныя віды гатовай прадукцыі ткацтва і рознага роду дзеянні, звязаныя з ткацкай вытворчасцю. Пры гэтым дзеяслоўная лексіка падаецца выбарачна: прыводзяцца толькі найбольш характэрныя ў ткацкай вытворчасці лексемы. Увесь матэрыял запісан у в. Кудрычы на Мсціслаўшчыне.

АДЗІНАЦЦАТНІК *м.* Бёрда на адзінаццаць пасмаў. *Адзінáццытнік рассыпыўся, а цяперь бёрдыў ны бызарі ужо ні буваіць.*

АДЗІНАЦЦАТНЯ *ж.* Гл. *адзінаццатнік. Адзінáццытня і дзьвінáццытня — ета самыя тонкыя пылатно ткаць.*

АЛЛЯНІНА *ж.* Ільняное палатно. *Тонкія альляніны як наткеш, дык іна луччы зу куплёныга.* Памянш. *аллянінка. Дынашыіцца альлянінка.*

АЛЛЯНЭЙ, АЛЛЯНЫЙ *прым.* Ільняны. *Аснова альлінáя, хырашо б, каб і ўток альлянэй, ды на ўсё ні хваціць.*

АЛЬНЯНІНА *ж.* Ільняное палатно. *Мы ўтрёх пырядышныга зá зіму нытыкáлі і альняніны, і пысканьніны, ткалі грýбыя.*

АЛЬНЯНЭЙ, АЛЬНЯНЫЙ *прым.* Ільняны. *Летым альняныя рубашкі куды луччы зы вашыга за етыга хвярюб'я.*

АСНАВАЦЬ *зак.* Аснаваць. *Прідзіцца аснувáць губычкі дзьве ны пасьцілкі, ніхай пры зыпас будзіць.*

АСНОВА *ж.* Аснова. *Навіць кросны — ета ні ўся аснова, кыла іх іщчэ многа работы.*

БАЛЬШАЯ ГУБКА. Губка даўжынёй шэсць сажняў. *Губка пяць сажніў і шэсьць сажніў — быльшая губка.*

БАЛЬШЭЙ (БАЛЬШЫЙ) НАВОЙ. Задні навой. *Сьперіду малінькій навой, а ззаду бальшэй навой. Ны бальшый навой нывівáіцца аснова.*

БЕРАГ *м.* Край (палатна). *Калі ткеш, глядзі, каб ні твісáў беріг.*

БЁРДА *н.* Бёрда. *Бёрды ўсякія былі: бёрда восім пáсым, дзьвінаццыць пасым, бёрда дзевіць пасым і трі чы́сьлінкі ці дзьве чысьлінкі.*

БРЫЖ *м.* Край (палатна). *Есьлі ткаць ня ўмеіць, у яе і брыжы будуць вісець, і ўсё будзіць.* Памянш. *брыжок. Брыжкі заметна атвісаюць.*

ВАСЬМУХА *ж.* Бёрда на восем пасмаў для грубога палатна. *У ваісьмýхі трасьцінкі рядзейшыя, чымся на тонкыя пылатно.*

ВІЛКА *ж.* Вілападобны кручок.

ВОДКІД *м.* Невялікая частка толькі што вытканага палатна, яшчэ не скручаная ў трубку.

ВЫТКАЦЬ *зак.* Выткаць. *Калі йта я вы́ткыла етыя пасьцілкі, а во ўсё цэлы яшчэ.*

ВЯРОВАЧКА *ж.* Вяровачка, якая служыць для прывязвання панажоў, чапёлак. *Бізь вярёвычкі і чапёлык ні паччэпіш.*

ВЯРОЎКА *ж.* Вяроўка, якая служыць для прывязвання малога навоя ў нерухомым стане. *Кусок вярёўкі пупаў, і прівяжыш пыцягывіч.*

ГАЛАВА *ж.* Патоўшчаная частка навоя, у якой прасвідроўваюцца дзіркі. *Гылыва бальшога навоя треснула, пріщлося абручыкі ныгыня́ць.*

ГУБКА *ж.* Мера асновы і палатна пяць сажняў (на размах рук). *Пы пітнаццыць губык, бувала, снувалі. Увідзіла пылатно — пуўтары губкі.* Гл. *бальшая губка.* Памянш. *губачка. Якоя там пылатно, дзьве гýбычкі вы́ткыла, калі мне було прясьць.*

ДАТКАЦЦА *зак.* Даткацца. *Само ні даткецца, нада садзіцца ды ткаць, і работа будзіць.*

ДАТКАЦЬ *зак.* Даткаць. *Даткеш, дык як гыра с плеч зваліцца, уздыхнеш свабодна.*

ДАТЫКАЛЬНІК *м.* Прыстасаванне П-падобнай формы для датыкання кроснаў. *Дытыкáльнік — ета палка, дзьве палычкі пы быках і ў іх паколыны дзірічкі.* Памянш. *датыкальнічак. Во ён дытыкáльнічык найшоўся, умесьці зь нітамі пыд балькыю ліжаў.*

ДАТЫКАННЕ *н.* Датыканне, заканчэнне ткацкага

працэсу. *Дытыка́ньня — мару́дныя дзела, хырашо толька, што ета канец.*

ДАТЫКАННІЦА *ж.* Жанчына, якая датыкае. *Што, дытыка́ньніца, канец відзін?*

ДАТЫКАЦЬ *незак.* Датыкаць. *Як дытыка́іш, аж ну душэ радысна, бальшэй кусок работы с плеч зва́ліцца.*

ДЗЕЛАЦЬ НАРАД. Нараджаць. *Я няплоха дзелыла ныряд, і ў шэсьць нітоў ткала, і ў дзьвінаццыць, ну былі мысцяріцы луччы мяне.*

ДЗВЯНАЦЦАТНІК *м.* Бёрда на дванаццаць нітоў. *Я ні знаю, чаго так гыварілі, толькі хто гыварій дзьвіна́ццытнік, а хто дзьвінаццытня, ра́зьніцы ні було, і тоя, і тоя дзьвінаццыць пасым.*

ДЗВЯНАЦЦАТНЯ *ж.* Гл. *дзвянаццатнік. Бядовыя была дзьвінаццытня, рассы́пылыся.*

ДЗЕВЯТНЯ *ж.* Бёрда на дзевяць пасмаў. *Кылі што грубейшыя ткаць, дзівя́тню бралі, ну ні саўсім грубоя.*

ДЗЕСЯТНЯ *ж.* Бёрда на дзесяць пасмаў. *Былі ў мяне і дзівятні, і дзіся́тні, усякія бёрды былі, я пы хатых бегыць пызычаць ні любіла.*

ДЗІРАЧКА *ж.* Памянш. ад *дзірка*; дзірачкі на розных прадметах ткацкага начыння. *Лі стаў дзірічык многа — і ў клінах, і ў пыныжа́х, і ў чапёлкых.*

ДЗІРКА *ж.* Дзірка. *Ну як жа ты навой пакру́ціш бязь дзірік.*

ДЗЯРЖАННЕ *н.* Трыманне. *Калі ўзяўся дзіржаць, дык дзяржы, ато пыганю́ с такім дзіржа́ньнім.*

ДЗЯРЖАЦЬ *незак.* Трымаць. *Як нывіва́юць, усігда дзіржа́ць кросны, як жа іначы наўеш? — ні наўеш.*

ДОСТАЧКА *ж.* Тонкая лучынкападобная планка, якая ўстаўляецца ў аснову, каб не блыталіся ніткі. ***Г** достычкым усігда прівязывыюцца ніткі.*

ЗАБАЛАЦЬ *ж.* Мулінэ. *Куплялі за́былыць кра́шыныю і пытыка́лі пасьцілкі.*

ЗАКЛІНАВАЦЬ *зак.* Змацаваць клінамі. *Ста́вы нада крепка зыклінува́ць, іначы ж яны езьдзіць будуць, якоя будзіць тканьнё.*

ЗАРУБКА *ж.* Зарубка па краях розных цапкоў, дошчачак, каб з іх не з'язджалі ніткі, прывязкі. *Ны чапёлкых можна зару́бкі, ну луччы дзірічкі прыкалоць.* Памянш. *зарубачка.*

ЗАРЭЗ *м.* Зарубка на блоках чапёлак. *Ны кацелкых усігда дзелыюцца зарезы, каб ніткі ні зыіджа́лі.*

ЗАТКАЦЬ *зак.* Заткаць. *Пакуль заткеш, глядзіш, каб усё роўнінька, правільна,— навозісься.*

ЗАТЫКАЛЬНІК *м.* Прыстасаванне пачаць ткаць. *Зытыка́льнік — ета кусок пылытна, ны палычкых зыв́язывыўся і тады пычыналі ткаць.*

ЗАТЫКАННЕ *н.* Пачатак ткацкага працэсу. *З зытыка́ньнім усігда возісься доўга.*

ЗАТЫКАННІЦА *ж.* Жанчына, якая пачынае ткаць. *Ну як, зытыка́ньніца, у цябе дзялы́ сяньня, ці агряшы́лыся ш чуўнаком?*

ЗАТЫКАЦЬ *незак.* Пачынаць ткаць. *Пакуля ныр́ядзіш, усё праверіш, падгоніш, тады садзісься зытыка́ць.*

ЗДЗЕЛАЦЬ НАРАД. Падрыхтаваць аснову для ткання з узорамі. *Я ўмела зьдзелыць любэй ныряд.*

КАЛЯЧОК *м.* Невялікая завостраная палачка, якая служыць для ўмацавання асобных дэталей ткацкага станка — надбудовы, блокаў. *Ны кылічка́х кацелкі дзіржацца.*

КАНЦЫ *мн.* Астаткі асновы, якія не датыкаюцца. *Канцы то туды, то сюды расходзюцца.*

КАРЫТЦА *н.* Выемка ў верхняй і ніжняй дэталях набіліц, куды ўстаўляецца бёрда. *Во відзіш, карыцца, каб бёрда дзіржалыся.*

КАЦЕЛАЧКА *ж.* Памянш. ад *кацелка*; маленькае колца ў блоку чапёлак. *Прыкалоць і разрезыць кацелычкі проста, ціжалей зарезы зьдзелыць.*

КАЦЕЛКА *ж.* Колца ў блоку чапёлак. *Зы кацелкі ніткі чыпляюцца.*

КВАДРАТЫ *мн.* Квадратныя ўзоры ў посцілках. *Квыдра́ты ткуць у чатырі ніты́ ды з ма́лінькімі чапёлкымі.*

КІДАЦЬ У БЁРДА. Працягваць скрозь бёрда ніткі асновы. *Калі хто пымыгаіць кіда́ць у бёрда, тады скарей дзела йдзець.*

КІДАЦЬ У НІТ. Працягваць праз ніт ніткі асновы. *Кідаць у ніт ціжалей, чым у бёрда.*

КІЁК *м.* Кій, на які надзяваюцца панажы, накручваецца палатно. *Пынажы нада на крепкій кіёк ныдзіваць.* Памянш. *кіёчак.*

КЛІН *м.* Клін. *Біс кліноў ставы ня скрепіш, стыяць ня будуць.*

КЛІНАВАННЕ *н.* Забіванне кліноў. *Ну што йта зы клінува́ньня, кылі рукі ні туды слу́жуць.*

КЛІНАВАЦЬ *незак.* Змацоўваць клінамі. *Клінуваць навука ні нада, толька глядзі, куды б'еш.*

КЛІННЕ *зб.* Кліны. *Кліньня нада зьвізаць ны вярёвычку і пылажыць акуратна.*

КЛІНОК *м.* Невялікі клін. *Клінкі як пызыбіваў, дык і верхнія палкі кряпчэй дзіржацца.*

КРАСЁННЫЙ *прым.* Красённы. *Другая век жжыла, а красённыга дзела ні знаіць.*

КРАСЁННЫЙ ПОСУД. Красённае начынне. *Дыткала, ставы рызыбралі, красённый посуд часьцю на клець, мелыч у клець складзеш ці павесіш.*

КРОСНЫ *мн.* Кросны. *Як аснуеш высімнаццыць губык, наўеш, дык кросны цэлыю зіму стыяць.* Памянш. *красенцы, кросенкі. Красенцы дыткала.*

КРУГАМІ. З узорамі ў кругі. *Мы ткалі і ўпроста, і кругамі, бувала, цэлыю зіму сядзім за кросымі.*

КРУЧОК *м.* Кручок, прылада для ўцягвання нітак асновы ў бёрда і ніты. *Крючок доўга іскаць ні нада: ат веніка пруцік атломіш і крючок зьдзелыіш.*

КУЖАЛЬ. *м.* Кужаль. *На кужыль прясьць марудна. Кужыль як адбеліш, харошыя пылатно.*

КУЖЭЛЬНЫЙ *прым.* Кужэльны. *Кужэльныю рубашку ня стыдна і ны празьнік надзець, асобінна вышытыю.*

ЛАВАЧКА *ж.* Перакладзіна ў ставах, на якую садзяцца ткаць. *Іна і лавычка, і ставы дзяржыць, скрипляіць, яе клінуюць крепка.*

ЛОЖАЧКА *ж.* Лыжкападобная палачка, якая служыць для снавання і для выраўноўвання нітак асновы. *Ложычку выстругыць ні цяжола, нада толька, каб гладзінькыя была, ёю прывядзеш, і ніткі роўнінька ліжаць.*

МАЛЫЙ НАВОЙ. Пярэдні навой, навойчык. *Малый навой сьперіду, ны малый навой пылатно нывіваіцца, як толька ткеш.*

МАРШЧЫНА *ж.* Няроўнасць на палатне. *Маршчыны буваюць, калі няроўна навіта. Глядзі, мысьцяріца, як пылатно бярецца маршчынымі ў цябе.*

МЕШКАВІНА *ж.* Грубое палатно для мяшкоў. *Пасьледнія ўремя мішкавіну пасьці ніхто ні ткаў.*

МОРШЧЫЦЦА *незак.* Моршчыцца (пра палатно). *У няўмелыя ткальлі ды біс пругоў пылатно моршчыцца.*

МЯШКІ *мн.* Грубое палатно для мяшкоў. *Як жылі адзіналішна, мяшкі ўсе ткалі.*

НАБІЛКІ *мн.* Набіліцы. *Абы-хто набілкі ня зьдзелы-*

*іць, праўда, цяперь іх саўсім ня дзелыюць*. Памянш. *на-білачкі. Дыстаеш увесь посыд, дык і нáбілычкі дыстывáй*.

НАВІВАЛЬНІК *м*. Гл. *навіваннік*. *Якей з мушчын нывівáльнік, ніхай хуць пысядзіць ны крыснáх*.

НАВІВАЛЬНІЦА *ж*. Гл. *навіванніца*. *Анька была сьпецныя нывівáльніца*.

НАВІВАННЕ *н*. Навіванне. *Ну цябе с тваім нывівáньнім, ня буду я ны крыснáх сядзець*.

НАВІВАННІК *м*. Той, хто навівае. *Сь цябе нывівáньнік, як зь мяне мышыніст. Маўчы ўжо, нывіваньнік, успомні, як ты летыся нывіваў*.

НАВІВАННІЦА *ж*. Жанчына, якая навівае. *Нывівáньніца сь цябе, можа, і нічога, а нырядзіць што путноя ты ніскалька ня ўмеіш*.

НАВІВАЦЦА *незак*. Навівацца. *Як жа яно будзіць нывівáцца біз бугроў, кылі ты ніскалька ні рызгáрныіш і ні раўнýіш*.

НАВІВАЦЬ *незак*. Навіваць. *С Пуўлюком лёхка було нывіваць, а ты дзіржаць ня ўмеіш*.

НАВІЦЦА *зак*. Навіцца. *Ны мяшкі дужа ні глядзіш, як наўецца, так і ладна*.

НАВІЦЬ *зак*. Навіць. *Ня будзім ужо табе масьціра выпісываць кросны навіць*.

НАВОЙ *м*. Навой. *Самый луччый бярёзывый навой, сасновый дзіржацца ня будзіць*.

НАВОЙЧЫК *м*. Малы, пярэдні навой. *Навойчык у адну стывінý удзівáіцца, а з другога боку зыклыдáіцца, там прорізь ёсьць*.

НАЖЫМАЦЬ *зак*. Націскаць (на панажы). *Ны пынажы ныжымáіш, і ніты ходзюць*.

НАКАТАЦЦА *зак*. Накруціцца на кій у час ткацтва (пра палатно). *Пыдажджы, пылатно ныкытáіцца, а дывай-ка мы прібярём у хаці*.

НАКАТАЦЬ *зак*. Накруціць на кій (пра палатно). *Ты то ныкытáў, ну неік дужа кріва*.

НАКАТЫВАННЕ *н*. Накручванне палатна на кій. *А ну цябе с такім ныкáтывыньнім, як рукі ні туды слýжуць*.

НАКАТЫВАННІК *м*. Той, хто накручвае палатно на кій. *Што, ныкáтывыньнік, нешта трубка рызыіжджáіцца*.

НАКАТЫВАННІЦА *ж*. Жанчына, якая накручвае палатно на кій.

НАКАТЫВАЦЦА *незак*. Накручвацца на кій (пра палатно). *Чаго ў цябе ні накáтывыіцца?*

НАКАТЫВАЦЬ *незак.* Накручваць на кій (пра палатно). *Ныкáтывыць пылатно ні быльшая мýдрысьць.*

НАКАЧАЦЬ *зак.* Гл. *накатаць. Месіцы зы два пырябышнылю трýбычку ныкычáіш, пыц стывáмі вісіць.*

НАКАЧЫВАННЕ *н.* Гл. *накатыванне. Айт, ныкáчывыньня тваё, пусьці, сыма зьдзелыю.*

НАКАЧЫВАЦЬ *незак.* Гл. *накатываць. Як быльшая трубка, ныкáчывыць ціжалей.*

НАКРУЦІЦЦА *зак.* Гл. *накатацца. Другей раз ладна трубка накрýціцца, а другей раз вісіць.*

НАКРУЦІЦЬ *зак.* Гл. *накатаць. Троху нукруціў ны кіёк і ладна, ні на вы́стыўку.*

НАКРУЧЫВАННЕ *н.* Гл. *накатыванне. Пыдажджы́ з накрýчывыньнім, я навой атпушчý.*

НАКРУЧЫВАННІК *м.* Гл. *накатыванnік. Віджу, віджу, накрýчывыньнік сь цябе пулучыўся.*

НАКРУЧЫВАННІЦА *ж.* Гл. *накатыванніца. Дывай, накрýчывыньніца, пымагу.*

НАКРУЧЫВАЦЦА *незак.* Гл. *накатывацца. Глянь, што там зычапілыся, пірістала накрýчывыцца.*

НАКРУЧЫВАЦЬ *незак.* Гл. *накатываць. Я ж зы цябе ня буду накрýчывыць, узяўся, дык круці.*

НА МЯШКІ. Для вырабу мяшкоў (ткаць палатно). *Ны мяшкі як вы́ткіш, ні звыляіцца. Етый кусок ны мяшкі.*

НАРАД *м.* Падрыхтоўка да ткацтва. *Перва ныряд дзелыюць, а тады ткуць.*

НАРАДЖАННЕ *н.* Гл. *нарад. Што-то ныріджáньня ў цябе зыцягнулыся надоўга.*

НАРАДЖАННІЦА *ж.* Жанчына, якая нараджае. *Полька — во хто была ныріджáньніца, іна ўмела і ў кругі, і ў хрясты, і цьвітамі, а кубікі ёй, што і ўпроста.*

НАРАДЖАЦЬ *незак.* Рыхтаваць кросны да ткацтва. *Адна ўсяк умеіць ныріджáць, а другая саўсім ня ўмеіць,— як ікая.*

НАРАДЗІЦЬ *зак.* Падрыхтаваць кросны да ткацтва. *Я люблю, каб цьвітамі нырядзіць.*

НІТ *м.*, часц. *ніты мн.* Ніт. *Ніты увярьху чыпляюцца зы чапёлкі. Сколька нітоў, столька пынажоў, ета ж усігда так.*

НІТКА *ж.* Нітка. *Нывівай, ды глядзі, каб ніткі ні бабчыліся, ато ўсё пылатно пойдзіць буграмі.* Памянш. *нітачка. У кросных адну нітычку ні так прапусьціш — і дренна, нада, каб кажныя лажылыся ны сваё места.*

НІЦІНКА *ж.* Тоўстая моцная нітка, якая ў якасці паса злучае ніт з блокамі (кацелкамі) чапёлак. *Ны кацелкі чыпляліся ніцінкі.*

НІЦІЦЬ *незак.* Сукаць ніткі. *Ніціць ніткі бальшога ўменьня ні нада.*

НІЧАЛЬНІЦА *ж.* Моцная, суканая нітка, з якой робяць ніты. *Нічыльніца нада, каб крепкыя была, іна ні на адзін год дзелыіцца.*

НІЧАННІЦА *ж.* Гл. *нічальніца. На нічыньніцу і прялі ўсігда адзьдзельна.*

НОГІ *мн.* Ніжняя частка вертыкальных слупоў у ставах. *Унізу ногі, а вышы неік у нас ніяк не завуць.*

ПАДЗЯРЖАЦЬ *зак.* Патрымаць. *Пыдзіржаць і мульчуган можыць, пысядзіць.*

ПАЗ *м.* Паз, выемка ў навоі, куды закладваецца цапок. *Пазы і ў навоіх, і ў набілкых.*

ПАЗОК *м.* Неглыбокі паз. *Пазок у навойчыку, цапок ны пылатно і ў пазок.*

ПАЛАТНО *н.* Палатно. *Пылатном вясною лі са́жылык як усьцелюць, усё бела.* Памянш. *палаценца. Адбяліліся пылаценцы, рубашкі будуць.*

ПАЛАТНЯНЫЙ *прым.* Палатняны. *Пылытня́ныя рубашкі беліцькія, чысьцінькія, касіць ныдзівалі.*

ПАЛАЧКА *ж.* Гл. *цапок. Па́лычка кладзецца ў навой.*

ПАНЕБНІЦА *ж.* Перакладзіна, на якой падвешваюцца ніты.

ПАПРАЦЬ КРОСНЫ. Паперыць аснову. *Заўтря зраньня пыпярём кросны.*

ПАПЯРОЧКА *ж.* Палка, пакладзеная ўпоперак ставоў. Памянш. *папярочачка. Апстругай гладзей пыпярёчычку, каб ні чыпляліся ніткі.*

ПАРТНЭЙ, ПАРТНЫЙ *прым.* Льняны. *Трубычка партнога пылытна, а тута пасьцілкі нада шыць.*

ПАСКАННІНА *ж.* Палатно з маніц. *Стырікі, бувала, у пысканьніні наверьх усё хадзілі.* Памянш. *пасканнінка. Губычкі дзьве пысканьнінкі як вы́ткіш, мушчыным на лета хырашо ны штаны ны ўсякыю работу, асобінна па плотніству, кыла лесу.*

ПАСКАННЭЙ, ПАСКАННЫЙ *прым.* З маніц. *На́ зіму суконныя, цёплыя ўремя ў пысканны́х штынах хадзілі.*

ПАСМА *ж.* Трыццаць нітак асновы. *Нада трі чы́сьлінкі па дзесіць — ета будзіць па́сма. Дзесіць разоў па трі ніткі — ета пасма.*

ПАСТАВІЦЬ КРОСНЫ. Падрыхтаваць ткацкі станок да ткацтва. *Нет, сёліта я яшчэ пыстáўлю кросны, большы, можа, і ня прідзіцца, а ету зіму нямножка вытку.*

ПАСТАВІЦЬ СТАВЫ. Гл. *паставіць кросны. Пыстáвілі стáвы, рысьпялі, і зыгырáджывылі хату цэлыю зіму, сыма я ліжала, а сістра — ці іна ж набегыіцца кажный дзень.*

ПАСЯДЗЕЦЬ *зак.* Гл. *падзяржаць. Пысядзі ны крыснáх, пасьпеіш зь вічарінкыю.*

ПАТКАЦЬ *зак.* 1. Паткаць (крыху). *Пыткáла ды пышла карові ўкінуць.* 2. Выткаць, скончыць ткаць. *Скольна ныпрялі, усё пыткалі.* 3. Паткаць (чым). *Аснувáла суконныя, а пыткала хлыпянкыю.*

ПАТЫКАННЕ *н.* 1. Працэс ткацтва. *Пытыкáньня так — у каго пулучáіцца луччы, у каго хужы.* 2. Уток. *У мяне раз ні хваціла пытыканьня кужылю, пыткала пысканьніныю.*

ПАТЫКАЦЬ 1. *зак.* Гл. *паткаць* 1. *Пуўчáсіка пытыкáла і пышла.* 2. *незак.* Ткаць (чым). *Пытыкаць луччы ўсяго тым, чым і снуеш.*

ПАЦЯГАВІЧ *м.* Невялікі кій, якім паварочваецца малы навой. *У навойчыку кароткій пыцягывіч. Пыцягывічым ныцягывыіцца аснова і пылатно.*

ПЕРАБІРАННЕ *н.* Гл. *нарад. Па-мойму, ня дужа ты многа ў пірібірáньні рызьбірáісься. Атыйдзі сь пірібіраньнім с такім, бісь цябе зьдзелыю.*

ПЕРАБІРАННІЦА *ж.* Гл. *нараджанніца. Ну ікая сь цябе пірібірáньніца, хрястоў аць цьвятоў ні атлічыш.*

ПЕРАБІРАНЫЙ *прым.* З узорамі. *Пірібірáныя пасьцілкі красівыя бываюць.*

ПЕРАБІРАЦЬ *незак.* Гл. *нараджаць. Пірібірáюць ны пальцы: трі нітычкі ўніз, трі ўгору ці шэсьць уніз, а трі ўгору.*

ПЕРАБОРЫ *мн.* Гл. *нарад. Глядзіш ны піряборы, глядзіш ныряд і пірібіраіш.*

ПЕРАБРАЦЬ *зак.* Гл. *нарадзіць. Іна сьпецна ўмела пірібрáць, луччы ўсіх пірібірала.*

ПЕРАМОТ *м.* Няправільна леглая ў аснове нітка. *Як снуюць, як нывіваюць, нáўкысь ляжыць нітка, пулучаіцца пірямот.*

ПЕРАТКАЦЬ *зак.* Гл. *паткаць 3. Чым піряткеш, тым і ладна, ні ны прыдáжу.*

ПЕРАТЫКАНКА *ж.* Пасцілка з узорамі. *Як вывісіла*

*сваe пірітыка́нкі, аж вочы рызьбіга́юцца.* Памянш. *пера́тыканачка. Красівыя пірітыканычкі.*

ПЕРАТЫКАННЕ *н.* Гл. *патыканне 1. Я так зымаріл ыся, што й пірітыка́ньня ні ў гылаве.*

ПЕРАТЫКАЦЬ *незак.* Гл. *патыкаць 2. Пірітыка́лі за́былыцьцю, яны стоілі дзьве капейкі маток.*

ПОНАЖ *м.* Понаж. *У восім нітоў ткалі, тады пы два пынажы́ ныжымалі, тады выходзюць рісункі.* Памянш. *панажок. Адзін пынажок зымянілі.*

ПОРТ *м.* Льняное палатно. *Сукно — ета сукно, з воўны, а порт — альняніна.*

ПРАЖА *ж.* Пража. *Раз пряжа гатова, то дзела скарей пойдзіць, галоўныя дзела — спрясьць.*

ПРАСЕСТ *м.* Частка палатна або асновы ад малога навоя да набіліц. *Прасест выткіш і ны навойчык накру́ціш.* Памянш. *прасесцік.*

ПРАСЕСЦЬ *ж.* Гл. *прасест. Мне каб сесьць — прасесьці трі выткыць, каб ня бегыць дужа.*

ПРАЦЬ КРОСНЫ. Перыць аснову. *У нас кросны хто пярець, хто таўкець, па-мойму, лuччы праць, тады неік гладзейшыя пулучаюцца.*

ПРАШЭСЦЬ *ж.* Гл. *прасест. Прашэсьць ат навойчыка ды набілык. Ныткала сяньня прашэсьць.*

ПРОРАЗЬ *ж.* Прарэзка. *У прорізі зыклыдаіцца кіёк ны пылатно.*

ПРУГІ *мн.* Х-падобна змацаваныя дошчачкі з завостранай металічнай аправай. *Пругі — каб пылатно напру́жывылыся, каб ня моршчылыся, каб ні зыіжджа́лыся ў кучу, тады пылатно крепкыя, тугоя.*

ПРУТОК *м.* Невялікая палачка, на якую надзяваецца цэўка. *Палычку апстругаіш, завойстріш, каб у чаўнок лезла,— во й пруток.*

ПРЫБІВАННЕ *н.* Прыстукванне бёрдам працягнутай у аснову ніткі. *Ныдыіда́іць прібіва́ньня ў хаці, усё стук і стук.*

ПРЫБІВАЦЦА *незак.* Прыстуквацца (пра нітку ў аснове). *Я б'ю, а яно кріва прібіва́іцца, ажно шчапінка г бёрду пріліпла, аткуль іна ўзілася.*

ПРЫБІВАЦЬ *незак.* Прыстукваць бёрдам. *Доўга стукыць, прібіва́ць — рукі атаб'еш.*

ПРЫБІЦЦА *зак.* Прыстукнуцца (пра нітку ў аснове).

ПРЫБІЦЬ *зак.* Прыстукнуць бёрдам. *Як жа, калі ні прібіць, пылытна ня будзіць.*

ПЯТЛЯ *ж.* Пятля. *Нітка можыць пятлёю зывізацца. Вярёўку пятлёю зывязыіш.* Памянш. *пяцелька. Сь пяцелькыю чуць рускулупалыся.*

РАДЖЭННЕ *н.* Гл. *нараджанне. Ні нада мне яе ряджэньня і сыма йна ні нада.*

РАДЖЭННІК *м.* Ахвотнік нараджаць. *Ты яшчэ ўсу́нься, ряджэньнік.*

РАДЖЭННІЦА *ж.* Гл. *нараджанніца. Сяньня наша ряджэньніца ўзілася.*

РАДЗІЦЬ *незак.* Гл. *нараджаць. Рядзіць як ікая прілума́іцца з мылалества. Рядзіць кросны. Я ўсяк рядзіла кросны, усякімі ўзорымі. Рядзіць пасьцілкі. Рядзіць пасьцілкі нада ўмець.*

САБАЧКА *м.* Маленькая палачка, якая злучае паналжы з нітамі. *Поныж прівя́зыіцца ны сыба́чку.*

САТКАЦЬ *зак.* 1. Выткаць. *Бувала, усігда глядзіш, каб большы сыткаць.* 2. Справіцца ткаць (з кім). *Я с табою ні сатку́, ты мылыдая і ўремя ў цябе большы.*

СКАТАЦЬ *зак.* Зматаць (пра палатно). *Скыта́іш — глядзіш, трубычка.*

СКАЦІЦЬ *зак.* Гл. *скатаць. Ны навойчыку пыря́дышна, можна скаці́ць.*

СКАЧЫВАННЕ *н.* Змотванне. *Якое ж тваё ска́чывыньня, яно ж у цябе ражном стаіць.*

СКАЧЫВАННІК *м.* Той, хто́ скручвае палатно. *Ты ска́чывыньнік луччы некуды.*

СКАЧЫВАННІЦА *ж.* Жанчына, якая скручвае палатно. *Другая мне ска́чывыньніца, паможыш як хваробі кашыль.*

СКАЧЫВАЦЬ *незак.* Скручваць. *Ці ты век пылытна ні ска́чывыла?*

СНАВАННЕ *н.* Снаванне. *Набегыісься, посьлі сньва́ньня аж ногі быляць.*

СНАВАННІЦА *ж.* Жанчына, якая снуе. *Во снува́ньніца, скора матку саўсім заменіш.*

СНАВАЦЦА *незак.* Снавацца. *Пычало снува́цца хырашо, а тута нешта ні туды нітка пышла.*

СНАВАЦЬ *незак.* Снаваць. *Ну як жа, усё сную́ць, і партноя, і пасьцілкі, і пысканноя — усё.*

СПУСКАЦЬ *незак.* Зматваць на кіёк (пра палатно). *З малыга новая пылатно спуска́юць ны кіёк уніз, там скруцюць, каб ліпела троху. Спускаць з навоя нада ўмець.*

СПУСЦІЦЬ *зак.* Зматаць на кіёк (пра палатно). *Спусьціць з навоя нядоўга, толькі глядзі, лі бёрда дужа ні атпускай, каб ні папу́тылыся.*

ССУКАЦЬ *зак.* Ссукаць. *Мой ссука́ў многа нітык, ён дужа сьпецна трысьціць.*

СТАВІНА *ж.* Адна палавіна ткацкага стана. *Адна стывіна́ зы саломыю, а другая ні знаю айдзе.*

СТАВІЦЬ КРОСНЫ. Падрыхтоўваць ткацкі станок да ткацтва. *Усе ставілі кросны, тады мала куплялі.*

СТАВІЦЬ СТАВЫ. Гл. *ставіць кросны. Як ста́віш ста́вы, дык на ўсю зіму: выткіш альляніну — пысканноя нывіваіш, а тады думыіш, каб пысьцілчонка была.*

СТАВЫ *мн.* Ставы. *Вы мыладэя, цяперь ні знаіця, як і пыдыйціць к тым стыва́м.*

СТОЎЧ КРОСНЫ. Стаўчы аснову. *Кросны мы сяньня стаўкём, ні зыба́вімся.*

СТРЫСЦІЦЬ *зак.* Гл. *ссукаць. За вечыр клубочык стрысьціў.*

СУВОЙ *м.* Сувой. *У харошыя хызяйкі усігда сувоі ліжалі ў зыпас.*

СУВОЙЧЫК *м.* Невялікі сувой. *Сувойчык кужылю і цяперь ба ні звыляўся. Етый сувойчык я аць сястры прінісла, дужа тонінькыя пылатно.*

СУКАНЫЙ *дзеепрым.* Суканы. *Сука́ныя ніткі ні звыляюцца.*

СУКАЦЬ *незак.* Сукаць. *Што ты бяресься, кылі ня ўмеіш сука́ць.*

СУКНО *н.* Сукно. *Сукно ткалыся ў сем па́сым, яно ж грубоя.* Памянш. *сукенца. Трубычку сукенца нада б зваліць, ны зіму́ суконныя што ні пашыіш, ні звыляіцца.*

СУКОННЫЙ *прым.* Суконны. *Сукно валілі, а посьлі ўжо шылі суконныю адзежу.*

СУРОВЫЙ *прым.* Не белены (пра палатно). *Суровыя пылатно нада бяліць.*

СЯДЗЕЦЬ *незак.* Сядзець (на аснове ў час навівання). *На кросных нада сядзець, дзіржаць іх, іначы ні найеш.*

СЯМУХА *ж.* Бёрда на сем пасмаў. *Сяму́ха толька ну сукно, там тросьці саўсім редкія.*

ТКАЛЛЯ *ж.* Жанчына, якая тчэ. *Сяньня тка́льля засядзілыся, норму пірівыпыўняіць.*

ТКАННЕ, ТКАННЁ *н.* Ткацтва. *Тка́ньня марудныя дзела, наседзісься зы зіму́, ды калі яшчэ некыму пірімя-*

*ніць. Ныдыідала тканьнё, усю зіму стукыіш, цяперя вам выгыда, ставоў ні знаіця.*

ТКАННІЦА *ж.* Гл. *ткалля. Ікая тады зь мяне была тка́ньніца, ну трошку ляпыла.*

ТКАЦЬ *незак.* Ткаць. *Ткаць пріўчаліся с самых малых гадоў.*

ТОЎЧ КРОСНЫ. Таўчы аснову. *Хто тоўк кросны ў ступі, а хто праў.*

ТРАСЦІНКА *ж.* Дошчачка ў бёрдзе. *Калі адна трасьцінка пулумаіцца, можна выстругыць лучынку і ўставіць.*

ТРОСЦЬ *ж.* Дошчачка ў бёрдзе, адлегласць паміж такімі дошчачкамі. *У тросьць укіда́лыся дзьве ніткі, штоб дзьве нітычкі ў тросьці.*

ТРУБАЧКА *ж.* Гл. *сувойчык. Я любіла, каб тру́бычка чаго-нібудзь ліжала пры зыпас.*

ТРУБКА *ж.* Гл. *сувой. Раншы пылатно трубкымі прыдыва́лі ны бызарі.*

ТРЫСЦІЦЬ *незак.* Гл. *сукаць. Трысьцілі ніткі ны ніты і ў сыныпря́тку.*

ТРЫШЧАНЫЙ *дзеепрым.* Гл. *суканый. Тры́шчыныя ніткі і цяперь, буваіць, пуд руку́ нада.*

УКІДАЦЬ У БЁРДА. Гл. *кідаць у бёрда. Укіда́іш у бёрда — ну крючок і прыця́гыіш, ну крючок і прыцягыіш.*

УКІДАЦЬ У НІТ. Гл. *кідаць у ніт. Як укідаіш у ніт, дужа пільна глядзіш.*

УКІНУЦЬ У БЁРДА. Працягнуць праз бёрда ніткі асновы. *Мне раз було: укінула ў бёрда і папутыла ніткі.*

УКІНУЦЬ У НІТ. Працягнуць праз ніт ніткі асновы. *Укініш у ніт, а тады за бёрда бяресься.*

У КРУГІ. З узорамі кругамі (ткаць). *У яе ў кругі ня дужа пулучалыся, ня ўмела рядзіць як следыіць.*

УПАПЯРОЧКА *ж.* Гл. *папярочка. Упыпярёчку зыцісаць нада, каб ліжала.*

УПРОСТА. Без узораў (ткаць). *Упроста любая выткіць, а ты нырядзіць сумей.*

УСКАТЫВАННЕ *н.* Гл. *накатыванне. Нада, каб і ўска́тывыньня було харошыя.*

УСКАТЫВАЦЦА *незак.* Гл. *накатывацца. Пылатно уска́тывылыся ны кіёк, як спускалыся з малыга навоя.*

УСКАТЫВАЦЬ *незак.* Гл. *накатываць. Уска́тывыў сукно і руку зыкытаў.*

УСКАЦІЦЬ *зак.* Наматаць на кій (палатно). *Нейкій ты як бязрукій, і пылытна ня ўскоціш.*

УТОК *м.* Уток. *Аснова можыць быць адна, а ўток другей.*

У ХРАСТЫ. З крыжападобнымі ўзорамі. *У хрясты прасьцей выткыць, чым у цьвяты, усе любуюцца.*

У ЦВЯТЫ. З кветкападобнымі ўзорамі. *Як выткy пасьцілкі ў цьвяты, увідзіш, што палучыцца. У цьвяты можна выткыць, што ніякыя куплёныя ні дыкажыць.*

ХЛАПЯНКА *ж.* Ніткі з пачасся. *Хлыпянкыю пытыкаюць пасьцілкі, якея ня дужа важныя, ці яшчэ што.*

ХРАСТАМІ. Гл. *У храсты. Якея ж тут кубікі, кылі ты відзіш: пасьцілка хрістамі.*

ЦАПОК *м.* Невялікая палачка, якая закладаецца ў паз навоя. *Цапок нада, каб гладзінькій, каб ні чыпляліся і ніткі, і пылатно.* Памянш. *цапочак. Выріж нескылька цапочыкыў, прінясі двору.*

ЦВЯТАМІ. Гл. *у цвяты. Як нырадзім пасьцілкі цьвітамі, пулучаюцца луччы ўсіх.*

ЦЭЎКА *ж.* Цэўка. *Дзірівянныя цэўкі, канешня, луччы, ну можна і з брылёўніку вырізыць, высушыць.* Памянш. *цэвачка. І цэвычкі тэя айдзе пыдзіваліся, і посыд пырыськідаўся, нічога німа.*

ЧАПЁЛАЧКІ *звыч. мн.* Маленькія чапёлкі. *Мой старік хырашо ўмеў чапёлычкі вырізаць.*

ЧАПЁЛКІ *звыч. мн.* Блокі для рэгулявання асновы. *Чапёлкі то па дзьве кацелкі, то пы адной кацелкі.*

ЧАЎНОК *м.* Чаўнок. *У харошыя мысьцяріцы чаўнок сам у руках ходзіць.* Памянш. *чаўначок, чаўначочак. У мяне быў дырагей чыўначочык, дужа ўдашный.*

ЧЫНЫ *мн.* Звязкі нітак пры снаванні. *Пасмы пірівязывыюцца ў снуваньні ў чыны.*

ЧЫСЛІНКА *ж.* Тры ніткі. *Ніткі шчытаюцца чысьлінкымі, трі ніткі — ета чысьлінка.* Памянш. *чысліначка. Ачшчытай нескылька чысьлінычык.*

ШНУР *м.* Шнур. *Шнурым кросны пірівязывыюць.*

ШНУРОК *м.* Гл. *шнур. Шнурок прі кросных усігда нада.* Памянш. *шнурочак. Сколька нада вазьмі, а астатнія шнурочыкі узноў зывяжы.*

ШПАР *м.* Гл. *паз. Шпар у навоі ня дужа глыбокій, каб цапок улез.* Памянш. *шпарок. У шпаркў крайкі аблумаліся, цапок ні дзяржыцца.*

ШПУНТ *м.* Шпунт. *Шпунт наглуха зыбіваіцца ў стывіне, яго ні выцягывыюць.* Памянш. *шпунцік. Тута ўжо і лішніга шпуньцікыў набіта, столька іх саўсім ні нада.*

*Г. М. Малажай*

# З ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА БРЭСТЧЫНЫ

Кафедра беларускай мовы Брэсцкага педінстытута падрыхтавала «Дыялектны слоўнік Брэстчыны», у якім змяшчаюцца рэгіянальныя словы, запісаныя ў розных мясцінах вобласці. У гэтай невялікай падборцы і прыводзяцца некаторыя матэрыялы слоўніка.

Прыняты наступныя скарачэнні раёнаў: Бар.— Баранавіцкі, Брэсц.— Брэсцкі, Бяроз.— Бярозаўскі, Ганц.— Ганцавіцкі, Драг.— Драгічынскі, Жаб.— Жабінкаўскі, Ів.— Іванаўскі, Івац.— Івацэвіцкі, Кам.— Камянецкі, Кобр.— Кобрынскі, Лун.— Лунінецкі, Лях.— Ляхавіцкі, Малар.— Маларыцкі, Пін.— Пінскі, Пруж.— Пружанскі, Стол.— Столінскі.

АБАРО′Г, АБОРЫ′Х *м.* Навес для сена. *У абарóгаві вэльмі многа сена.* Андраянавічы Пруж. *Аборых — ето як сено кладэм под стріхою.* Шчэбрын Брэсц.

АБДЗЕ′ЦЬ *зак.* Апрануць. *Абдзéнь цёплы бікéш.* Гута Лях.

АВО′ЗЬДЗЯКА *часц.* Вось. *Авозьдзяка пагглядзі, колькі многа грыбоў прынясла бабуля.* Зубелевічы Лях.

АКА′НСІЯ *ж.* Праца, сталы занятак. *У майго сына добрая акансія.* Бакуны Пруж.

АМЫРЫКА′НКА I *ж.* Ранні сорт бульбы. *Вжэ мы звэлы́ амырыканку, топіро то тэмп, то кандідат, а булы́ ш такы́і смáчныі картоплі.* Кустын Брэсц.

АМЫРЫКА′НКА II *ж.* Рамонак садовы. *Прынысы́ у букет шчэ пару штук амырыкáнок.* Хомск Драг.

АНАДО′С *прысл.* Пазаўчора. *Анадос было хорóшэ кіно.* Рубель Стол.

АНЕ′ВАЖ *часц.* Няўжо. *Аневаж з арміі прышов Коля?* Туляцічы Ів.

БАВЕ′Т *м.* Верхняя частка сукенкі, прыгнаная да стану. *Пошыю гэту сýкню з бавéтом.* Ботава Пін.

БАГРА'К *м.* Бадзяк. *Гэтые багракы́, шо ростуть ля хаты, вэльмы колю́чые.* Хабы Брэсц.

БАГУ'РОК *м.* Пагорак. *На рівному полю був тілько одэ́н багурок.* Арэхава Малар.

БАДЗЮРКЫ' *мн.* Зялёная ігліца. *Зымою коровы йідя́ть й бадзюркы́.* Забалацце Малар.

БАЛХВА', БАЛЬХВА' *ж.* Мулінэ. *Пыйду куплю собі балхвы́ і росшы́ю хвартуха́.* Ляхаўцы Малар.

БАЛЦУ'К, БАЛЦУ'Г *м.* Цягнік. *Балцуг рухнуўся з месца.* Баравікі Лун. *Я на балцу́ку йіду на робо́ту.* Дрэбск Лун.

БАРА'НЫЦЯ *ж.* 1. Аўчына. *Бара́ныці оддалы́ красы́ты.* Гутава Драг. 2. Аўчынная палоска-пракладка без воўны ў шве кажуха. *Загу́ску бара́ныцю тэ зробэ́в.* Заказель Драг.

БІ'КУСЫ *мн.* Расольнік. *Господыня подала́ шчэ тэ́плые бікусы.* Столін.

БІ'РНА *ж.* Бярозавы сок. *Люблю пы́ты бірну.* Пружаны.

БЛЁНТАТЫСЯ *незак.* Блытацца. *Чого́ ты блёнтаешся под нога́мы?* Горск Бяроз.

БО'ВЛІК *м.* Балотная лілея, жоўты або белы гарлачык. *Хлопцы нарвалі бога́то бо́вліков.* Чучавічы Лун.

БО'МБЕЛЬ *м.* Бурбалка. *Ніна, ходы побач, якіі бо́мбелі ў лужы з дошчу́.* Малеч Бяроз.

БРОКІ'ВА *ж.* Крапіва. *Нарву свіням броківы.* Малешава Стол.

ВА'ДРЫК *м.* Божая кароўка. *Усі думають, шо ва́дрык прыдска́зуе погоду.* Завялёўе Драг.

ВАЗДУ'ХІ *мн.* Лёгкія. *Вун вэльмі здаровы на вазду́хі.* Церабень Пін.

ВА'НТУХ *м.* Гультай. *От ва́нтух, учэ́тыся ны заста́выш.* Хадасы Кам.

ВАРАВА'ЦЦА *незак.* Саромецца. *Наша Галя вару́ецца свойго брата.* Баравікі Лун.

ВІД *м.* Твар. *Від у хлопца быв увесь у гра́зі.* Альшаны Стол. *Куст ободра́в ему від.* Церабень Пін.

ВІДМЭ'ДЫНЫ *мн.* Ажыны. *Відмэ́дыны добрэ туг рослы́, алэ ш ко́люцця.* Шчэбрын Брэсц.

ВІТРО'ВКЫ *мн.* Басаножкі. *Мні купэ́лі новы вітро́вкы на высокых ко́рках.* Кустын Брэсц.

ВКРЫ'ПЭЦЬ *м.* Кроп. *Пуйды́ нарвы́ вкрыпцю до карто́плюв.* Макраны Малар.

ВЛІ'ТУСЬ, ВЛІ'ТЮСЬ *прысл.* Летась. *Він окончыв школу ны влітусь, а позалітусь.* Журавок Ів. *То було шчэ влітюсь, колы баба дома була.* Кустын Брэсц.

ВОЖОГЫ' *мн.* Качарэжнік. *У вожогáх вы́мэть, пóпэлу насы́палосо.* Гальцы Стол.

ВОЛОЧЫ'ТЫ *незак.* Баранаваць. *Панас волочы́в нывку.* Жоўкіна Пін. *Наступыла пора волочыты пóлэ.* Крытышын Ів.

ВО'НПІТЫ *незак.* Брацъ пад увагу. *Шчоб ей одразу прыказаў, то вона б крохі вóнпіла.* Валішча Пін.

ВУТЮКЫ' *мн.* Качаняты. *Вутюкы од вýтвы ныдэ́ нэ отхóдять.* Гальцы Стол.

ВЫЗ *прыназ.* Паўз. *Чулі, як учора Максім у контóру ішоў. Хацеў выз плота прайсці, а там яма, дык ён з галавою туды.* Люсіна Ганц.

ВЫКЛАДА'НКА *ж.* Саматканае пакрывала. *Унясём варстáць у хату, хочу выкладáнку выткаць.* Купаўцы Лун.

ВЫ'СМАГТЫ *зак.* Вельмі захацець піць. *В лісы так всі вы́смаглы, шо лэ́дьво до колóдязя дотягнýлыся.* Кустын Брэсц.

ВЭ'СОЧ *ж.* Вышыня. *То ж хату зробэ́в, такая вэ́соч.* Брашэвічы Драг.

ГАЛГІТА'ЦЬ *незак.* Казытаць. *Ён вельмі баіцца, калі пачнеш галгітаць.* Лыскава Пруж.

ГАЛЁНЫ I *мн.* Карункі. *Трэба наложыць сподніцу з галёнамі.* Велута Лун.

ГАЛЁНЫ II *мн.* 1. Коржыкі. *Напэчы́, мамо, галёнов.* Кабакі Бяроз. 2. Здобныя булкі. *Баба вы́йняла с пэ́чы і положыла галёну на дошку.* Белаазёрск Бяроз.

ГА'МУЗОМ *прысл.* Гуртам. *Налецелі гамузом дай похапáлі усе баранкі.* Цераблічы Стол.

ГА'НДЗОР *м.* Графін. *Я купэ́ла хорошого гáндзора.* Востраў Лях.

ГАРАБЕ'ДА *прысл.* Трошкі. *З болóта трэба гарабéду сена прывéсці.* Міжлессе Бяроз.

ГА'РАХЫ *мн.* Кучары. *У ёгó гáрахы вьюцца сáмы.* Крамно Драг.

ГІ'НЧЫ *займ.* Іншы. *Гінчы раз бывае аш страшно, як нудно.* Навасёлкі Пруж.

ГЛЭ'ЗОВАТЫ *прым.* Ацеслівы (пра хлеб). *Якэ́йся вдався хліб глэзоваты.* Павіцце Кобр.

ГО'ЛГІТКІ *мн.* Казытанне. *Вельмі ж баюса голгіткаў.* Лыскава Пруж.

ГОЛУБЦЫ′ *мн.* Ачышчаная вараная бульба. *Наелася ў смак голубцоў з молоком.* Лахаўка Лун.

ГРАЦУВА′ТЫ *незак.* Акучваць бульбу. *Картоплі пэрэро́стають, трэба грацуваты.* Хмелева Жаб.

ГРЫМА′К *м. экспр.* 1. Кулак. *Шо ты вжэ грымакы́ стыскаеш? Йіды спукійно до хаты.* Кустын Брэсц. 2. Кухталь. *Ек дам грымака ў плэ́чы.* Орлавічы Драг.

ГЭ′БЫ *часц.* Быццам, як бы. *Гэбы высна стала, потыпліло.* Ботава Пін.

ДАЛО′ЎКА, ДОЛІ′ВКА *ж.* Падлога. *Не садзі на дало́ўку дзіця, а то холоднó.* Востраў Ганц. *Трэба нам долівку пырыстылаты.* Кобрын.

ДАЧЫ′НКА *ж.* Пляменніца. *Пайшлі, кума, да мае дачынкі.* Бакуны Пруж.

ДАШО′К *м.* Павець. *Літом мы спымо под дашко́м.* Макраны Малар.

ДРА′БА *ж.* Лесвіца. *Зробы́лы нову драбу, добрэ будэ лазыты на гору.* Ботава Пін.

ДУ′ДЫ *мн.* Макароны. *Наварылі смачных дудаў.* Ласасіна Пруж.

ДЫ′ХЛО *н.* Сонечнае спляценне. *В дыхло шось стало колоты.* Макраны Малар.

ДЭРЭВІ′НА *ж.* Бервяно. *Дэсэть чэловек нэ моглі подняті одну дэрэвіну і положы́ті на машыну.* Першамайская Бяроз.

ДЭ′ШЧО *займ.* Што-небудзь. *Мы попросылы, шоб дід дэшчо нам росказав.* Высокае Бяроз.

Е′РЫЦЯ *ж.* Яравая пшаніца. *Ужа на дворі потыпліло, можна сыятэ е́рыцю.* Арэхава Малар.

ЗА′БАЛАЦЬ *ж.* Мулінэ. *Маты вушывала забалаццю.* Баравікі Лун.

ЗАВУ′ЦЬХЫЙ *прым.* Пародзісты. *Наш буе́н* [бык] *завуцьхый.* Ялач Драг.

ЗАВЭ′РЫНЫ *мн.* Паркан. *Мы поставылы коло хаты новы завэрыны.* Трудавая Ів.

ЗАГУРТО′ХА *ж.* Качарга. *Загуртохую выгрыбы попыл.* Валкаставец Кам.

ЗАДО′ГАТЭ *зак. экспр.* Вымазаць, забрудзіць. *Коло роботы задо́гав рубашку за тэ́ждынь.* Брашэвічы Драг.

ЗАЗРО′НЫ *прым.* 1. Зайздросны. *Нэ будь такэю зазроною, будэ і в тэ́бэ хороша блюска.* Кустын Брэсц. 2. Скваппны. *От зазроны, ні крошкі не дасць, хоць ты вмыра́й.* Святая Воля Івац.

ЗА′ЛЬВА *ж.* Маладое шчаўе, пасеянае каля хаты. *Зальва густа пазыхо́дзіла, трэба прапалоць.* Падлаззе Лях.

ЗА′МУСЬКЫ *часц.* Быццам бы. *Я була замуськы на тым світы, як слабува́ла.* Макраны Малар.

ЗАПУЗА′ЦЕЦЬ *зак. экспр.* 1. Растаўсцець. *Наш дзядзько запузацеў, нічога не робячы.* Востраў Ганц. 2. Стаць цяжарнай. *Марыля ужэ, кажуць, запуза́цела.* Востраў Ганц.

ЗНЯЎДА′ЛЕЦЬ *зак.* Захварэць. *Я зусім зняўдалеў.* Кукава Ганц.

І′ДЛО *н.* Ежа. *А у нас топіро ідло якое хочыш.* Валкаставец Кам.

КА′ДЗЕ *прысл.* Нядаўна. *Яна ка́дзе зайшла у хату.* Калоднае Стол.

КАЛА′ШНЯ *ж.* Прыбудоўка да сенцаў. *У кала́шні ніколы жорна стоялы.* Тышкавічы Ів.

КАНЬ *ж.* Перагародка ў хаце. *Шчэ кань одна, да будэ спальня.* Тышкавічы Ів.

КРЫВЫ′ДЛА *мн.* Хромавыя боты, якія шчыльна аблягаюць нагу. *Крывыдла кавалеры нашы носылы.* Тышкавічы Ів.

КУ′РДЗЕЛЬ, КУ′РТЭЛЬ *м. іран.* Малы ростам чалавек. *Подывітэса, курдзель од зымлі ны одрос, а як задаецца.* Моладава Ів.

ЛА′ГВІЦЯ, ЛА′ГВЫЦЯ, ЛА′ГВЕЦЯ *ж.* Невялікая бочачка на сала. *Лагвіця зробляна з дубовых душчо́к.* Радастава Драг. *Сала насолыв цілу ла́гвыцю.* Оса Кобр. *У ла́гвеці лэжыть вжэ мало сала.* Сварынь Драг.

ЛА′НТУГ, ЛА′НТУХ *м.* Мяшок. *Ны звызлы́ мы вчора ла́нтугы, а тыпэр дошч пошов.* Кобрын. *У ла́нтуху поросятко вэзу.* Мікашэвічы Лун.

ЛАПУ′Н *м.* Верхняе суцэльнае бервяно ў сцяне. *Той лапун будэ в по́кутнюю стыну́, то тут він куро́ткі.* Харсы Брэсц.

ЛІКАДЗЁН *м.* Каляндар. *Купіў новы лікадзён.* Навасады Бар.

ЛОХАЧЫ′, ЛОХАЧЭ′, ЛОХАЧІ′ *мн.* Буякі. *Назбірала лохачоў і зрабіла настойку.* Святая Воля Івац. *Лохачэ — смачные ягоды.* Макраны Малар. *Ходылы гу́ртом у лохачі.* Трыліскі Ів.

ЛЫ′НДАВКА *ж.* Карусель. *Хлопцы зробылы лы́ндавку на лёду́.* Масевічы Малар.

ЛЯДА′КО *прысл.* Дрэнна. *Раней людзі жылі лядако́.* Задуб'е Ганц.

МАДУ′НКІ *мн.* Язмін. *У нас пад акном расце цэлый куст маду́нкоў.* Андраянавічы Пруж.

МАНУ′ЦЬ *незак.* Хлусіць. *Яго ні слухайце, ён вельмі мануць любіць.* Люсіна Ганц.

МІДВІ′ДНЫК *м.* Зараснік ажыны. *З мідвідныку ны выбратыся.* Скокі Брэсц.

МОЛОЖЭ′Й *м.* Атава. *Добрый моложэй вырос гэтого літа.* Какорыца Драг.

НАБОСА′К *прысл.* Басанож. *Хай набосак ідэ, раз носкі порваў.* Цераблічы Стол.

НАВО′ЗНАЧ *прысл.* Дагары (упасці). *Навознач упаў, шчо аж іскры посыпалыса.* Гальцы Стол.

НАГА′БАТЫ *зак.* Знайсці, назбіраць. *В лісэ я нагабала цылу кушілку грібів.* Гаравіца Драг.

НАГОЛОБУ′СЬКУ *прысл.* Гл. *набосак. Нэ накладай чэрэвыкі наголобуську, на дворі ужэ мороз, ногы помэрзнуть.* Радчыцк Стол.

НАЛЁДНІКІ *мн.* Канькі. *Налёднікі продаюца ў магазіні.* Давыд-Гарадок Стол.

НА′ЧЫЙ *займ.* Гл. *гінчы. Я люблю начый цвет.* Кобрын.

НЕЖЫ′Т *м.* Насмарк. *Проклеты нежыт зусім замучэв.* Радастава Драг.

НЕ′ЎКОЧ, НЕ′ЎКАЧА *прысл.* Калісьці, даўным-даўно. *Неўкоч тут лес велікі рос.* Сінкевічы Лун. *Неўкача мы жылі не ў сваім раёне.* Азярніца Лун.

ОБМА′НКА *ж.* Дзіцячая соска, пустышка. *Дай дзіцяці обманку, хай засне моцно.* Святая Воля Івац.

ОГО′ВТАЦА *зак.* Прывыкнуць. *Сама буду пасты курову, пукіль оговтаеца.* Хлевішча Кам.

ОДНУ′ТЬ *прысл.* Аднойчы. *Однуть увэ́чэры до нас збыралыса люды, як тут загрымыть. Одну́ть до нас прышла моя маты.* Бярозавічы Пін.

ОДЭГЭ′, ОДЭГЕ′ *часц.* Вунь. *Одэгэ стояла раній наша хата.* Дварцы Кам. *Одэге вона пушла.* Замшаны Малар.

О′КАП, ОКА′П *м.* Шчыток унізе франтона. *Шо вітэ ста́лы под о́капом.* Кустын Брэсц. *Зробэ́в новэі окапэ́.* Павіцце Кобр.

ОКОРЕ′НЫК *м.* Дзяркач. *Ны дэры пудлогу окоре́ныком, зробы нового і замітай.* Замшаны Малар.

ОПОСТЫ'ЛЫ *прым.* Абыякавы. *Опостылы стаў Рыгор до навукі.* Святая Воля Івац.

ОПЫЛЫ'НКА *ж.* Лёгкая хустачка. *Маты наложыла дівчыны опылынку.* Боркі Пін.

О'РАБ, О'РАП *м.* Рабіна. *Вылыкій ораб ріс под муім укном.* Кавалі Кам. *Осэнню всі орапы у чырвоных ягодах.* Скорбічы Брэсц. *Орап заготовляють на зыму.* Астрамечава Брэсц.

ПАВУ'ТА *ж.* Павуцінне. *Обмыты павýту з потолка.* Шчэбрын Брэсц.

ПАМАСТО'К, ПОМОСТО'К *м.* Ганак. *На памастку лежав собака.* Андраянавічы Пруж. *Трэба поладыты помосток.* Вайская Кам.

ПОБЕ'Л *м.* Мел. *Ты купі побелу, трэба побеліть печ.* Раздзялавічы Ганц.

ПОВО'РНІЦА *ж.* Хамут для пары валоў. *Панас, возьмі поворніцу і пóвода, запрагом волы да будом ораць поле.* Купаўцы Лун.

ПОПЫНДЮ'Х, ПОПЭЛЮ'Х *м.* Матыль. *У хату улытів попындюх.* Хацíслаў Малар. *Мэ наловэ́лы мніго попэлюхів.* Арэхава Малар.

ПУ'ТНЯ *ж.* Вядро, у якім трымаюць у хаце ваду. *Вытры добрэ коло путні, бо розлыла вóду.* Ляскавічы Кобр.

ПЭ'СТКІ *мн.* Гарбузікі. *Купі стакан пэсткаў.* Тартакі Бар.

РАЗБРА'ЖДЖВАЦЦА *незак.* Распранацца. *Вона разбражджваецца вэльмі хутко.* Дрэбск Лун.

РІ'ЗНА *ж.* Пілавінне. *Різну вы́сыпалы на дорозы.* Маларыта.

РО'ШЧА *ж.* Рост (пра расліны). *Картоплі ны мають рошчы, так і сыдять на місьці.* Гершоны Брэсц.

РЫ'ХТЫК, РЭ'ХТЫК *прысл.* Якраз. *Ты рыхтык маты.* Астрамечава Брэсц. *Він був рэхтык ёгó брат.* Завялёўе Драг.

РЭЗ *м.* Надзел зямлі. *Мой рэз папаў якраз у даліне.* Галоўчыцы Пруж.

РЭ'ЗКІ *мн.* Рэзгіны. *Гэты рэ́зкі ліпшы до соломы, а тыі короткі і мало возьмеш.* Дуброўка Драг. *Повісь рэ́зкі у клюні, кэб на дошчы́ ны гнылы.* Сулічава Драг.

САМІКАВА'ЦЦА *незак.* Раіцца. *Маладым заўжды трэба самікавáцца са старэйшымі.* Юндзілавічы Пруж.

СІ'ТЭ *займ.* Гэта. *Дай мні сітэ пальто.* Камянюкі Кам.

СКА'ВІЧОК *м.* Мяшочак на сыр. *Кіслое молоко улілі у скáвічок.* Запроссе Лун.

СОПЭ'ЛЬ *м.* Ёрш. *У гэтом месці одны соплé ловáюцца.* Валішча Пін.

СТЫГНЯ'КА *ж.* Кумпяк. *Удріж стыгня́ку гóстям.* Дарапеевічы Малар.

СТЫ'ПЫРЬЕ, СТЫ'ПІРЬЕ, СТЫ'ПЭРНЕ, СТЫ'ПЭРЬЕ *н.* Пер'е цыбулі. *Сты́пырье було зылёнэ.* Макраны Малар. *Быжы́ нарвы сты́пірья.* Дубіца Брэсц. *Нашчыпала жмэню сты́пэрня.* Камянюкі Кам. *Стыпэрье мы вжэ ны йімо.* Ляхаўцы Малар.

СТЭ'ЖЭР *м.* Падсцілка пад стог, стажар'е. *Ох, і вэлыкый стэжэр. На ёгó можна клáсты сорок копы́ц сіна.* Гальцы Стол.

СУДАША'ЦІ, СУДОША'ТЫ, СУДОША'ЦЬ *незак.* Сустракаць. *Вона пошла судашаці мáцеру.* Сухопаль Пруж. *Дэ ж мынэ́ мáты частоваты будэ, дэ ў мынэ маты судошаты будэ. Тато з міста йідэ, пойду судошаты.* Дуброўка Драг.

ТА'ЛЕЖ *м.* Талерка. *На столі стояв новый талеж картоплюв.* Трудавая Ів.

ТА'МАЧЫ *прысл.* Там, далёка. *Тáмачы вжэ хмара йідэ́.* Калоднае Стол.

ТАТОВЫ'НА *ж.* Лісце на бураках. *На бураках вы́росла вэлікая татовы́на.* Рудня Івац.

ТРЭПЫСНІ' *мн. экспр.* Лахманы. *На ёмý вісылы одны трэпысні.* Кулякі Ів.

ТУ'ТАЧЫ *прысл.* Зусім блізка. *Тутачы апаноўку подсунь, во чапляя.* Калоднае Стол.

УЖМЫ'НЫТЫ *зак.* Натрудзіць руку ў час жніва. *Ужмынıла рýку, як жала.* Гяршоны Брэсц.

УХЫ'ЛЯНКА *ж.* Вялікая хустка. *Ішов дошч і я упынýлась ухы́лянкыю.* Макраны Малар.

ФА'РБЫТЫ *незак.* Фарбаваць. *У нас фáрблят швэдры, панчохы, хусткы́.* Хмелева Жаб.

ФАРФАЛІ' *мн.* Клёцкі. *Нема лепшае яды, як фарфалі у молоцэ.* Любань Лун.

ХАВІ'Р *м.* Аер. *Поосушвалы всі болóта, той хавіру ны стало.* Судзілавічы Бяроз.

ХАМІ'ЛЬ *ж.* Прозвішча. *Як твоя хаміль?* Мікашэвічы Лун.

ХО'ДІК *м.* Палавік. *Вытрясы с ходіка пыл.* Якаўчыцы Кобр.

ЦЕ'ПАТЫ *незак.* Даіць. *Маты пушла цёпаты корову.* Замшаны Малар.

ЦЕПЕ'РСЯ *прысл.* Вельмі даўно. *Што ты раўняеш, то было цеперся.* Калоднае Стол.

ЦІВО'СЕ *прысл.* Даўно. *Цівосе ето было, ужэ і добрэ ны роскажу.* Пузічы Лун.

ЧАВУ'Х *м.* Шчаўе. *Послі роботы бабы пошлы по чавух.* Астрамечава Брэсц. *Мы сёгодні варылы чавух.* Пугачова Брэсц.

ЧУ'ХА *ж.* Тупы канец яйка. *Чуха об чуху будэм бітыса.* Валішча Пін.

ЧЫБРУ'ШКА *ж.* Божая кароўка. *Чыбрушка пувзла пу лыстко́вы.* Дубіца Брэсц.

ЧЫРЫМШЫ'ТЬ *незак.* Пяршыць. *Шото у горлы чырымшыть.* Вавулічы Драг.

ШАНДРІ'ТЫ *незак.* Чысціць да бляску абутак. *Чоботы заблышчёть, колы іх добрэ шандріты.* Заказель Драг.

ШЕ'ВЕЛЬ *м.* Казытанне. *Мой брат боіцца шёвелю.* Кажан-Гарадок Лун.

ШЕЛЕХТА'ТЬ *незак.* Казытаць. *Дуня шелехта́ла малую, а тая аж захо́дылася.* Баравікі Лун.

ШЕ'ХЛЯ, ШУ'ХЛЯ, ШЫ'ХЛЯ *ж.* Ліхаманка. *Весною я хварэла на шехлю.* Рудня Іванц. *Було етак холоднó, бы шухля трасла.* Бярозавічы Пін. *За́ра на шыхлю мало хто хворіе.* Моладава Ів.

ШПАЛЮ'ГІ *мн.* Козлы. *Шпалюгі нысы, роспылуем кругляк які на дро́ва.* Дубай Стол.

Ю'СТРО *н.* Люстра. *Дівчына стоіть коло юстра.* Сулічава Драг.

Ю'ХА, Ю'ШНЫК *м.* Халадзец. *Юха на вяселлі была перасолена.* Востраў Ганц. *Я пойду до города, куплю голову́ і навару юшныку.* Ботава Пін.

ЮЦ, ЮЦЬ *м.* 1. Страўнік. *Іжа попада́е зразу в юц, а по́сля в кышкэ́.* Брашэвічы Драг. 2. Від вантрабянкі. *Прыложы́ ка́мынём ю́ця.* Дарапеевічы Малар.

Я'ВО *часц.* Вось. *Яво лэжэ́ть твуя шёпка.* Гаравіца Драг.

ЯГНЮ'К *м.* Ягня. *Ягнюк побіг за овэчкою.* Мерчыцы Пін.

ЯДО'МКА *ж.* Адборная харчовая бульба. *Пад мастом ядомкі ёсць пудоў дзесяць.* Слабажаны Бар.

Я′ДРЫНА *прым.* Урадлівая (пра бульбу). *От ядрына бульба у тіткі Олі.* Боркі Пін.

Я′КА *ж.* Матыка. *Зробыў коваль гостру яку, аж высікае зілле з кóрыннем.* Дубраўка Драг.

ЯЛ *м.* Ёлка. *Пуд ялом сховався заіць.* Астрамечава Брэсц.

Я′СНЫНА *ж.* Пасвятленне неба перад узыходам сонца. *Всю нуч паслы кóны і ны хотілося спáты, а як стала яснына пырыд ранком, очы зліпаюцца, так спаты хочіцца.* Малеч Бяроз.

*В. В. Шур*

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЧАЯ ЛЕКСІКА ЎСХОДНЯГА ПАЛЕССЯ [1]

АБУ'РЫНЫ *толькі мн.* Мука невысокай якасці, прызначаная на корм жывёле. *Трэба було абурын змалоць да пачаць карміць кабанчыка, хіба ж картоплямі сала наросьціш.* Тульг.

АСЯНЧУ'К, ОСЕНЧУ'К *м.* Жывёліна, якая нарадзілася восенню. Буйн., Капц., Мялешк., Турб. *Догледаць худобу багато трэба: куры, корова, двое поросят-осенчукоў, стары кабан, не прыседаю цэлы дзень.* Стад.

БЕГУ'Н *м.* Падпасак. *Буў два годы за вовечкамі бегуном.* Ляск.

БІЦІ-БІЦІ-БІЦІ! *выкл.* Воклічы, якімі падзываюць маладых бычкоў. Стад., Буйн.

БО'НДА *ж.* Свежына, якую прыносяць суседзям. *Вазьмі занясі Міронісі бонду.* Коўч.

ВАРАНЫ', ВОРОНЫ' *прым.* Белай масці (пра коней). Стад., Капц., Брын., Ляск., П. Гара. *На вороных конях по мене ў сваты прыежджалі.* Буйн.

ВЕСЬНЯ'К *м.* Маладая жывёліна, якая нарадзілася вясною, П. Гара, Капц. *Бук-весьняк, а сено есь на поўны рот, відно, што до харчы хороша худобіна.* Брын.

ВО'Б'ЕДНІ *толькі мн.* Аб'едкі сена. *Мы на сечку пускаём воб'едні.* Бабр.

ВО'ГІР *м.* Жарабец. Альгом. *Як я шчэ падлеткам буў, то ў нас вогір буў, да коновал — аўстрэяка Мамон, спец важны на ету справу, споклаў его.* Рыб.

ВУ'ГЛІК *м.* Катух (для цяляці). Брын., Сял. *Отбіў целяці ў хляве вуглік, хай стаіць.* Капц.

ВУЦЬ-ВУЦЬ-ВУЦЬ! *выкл.* Воклічы, якімі падзываюць качак. Стад., С. Поле.

---

[1] Частка «Жывёлагадоўчай лексікі ўсходняга Палесся» апублікавана ў зб.: З народнага слоўніка. Мінск, 1975, с. 167—183.

ГНАЦЬ *незак*. Гнаць жывёлу на пашу. Буйн., Капц., С. Поле. *Заўтра чэрга, трэба гнаць тавар на цэлы дзень.* Стад.

ГНЕ'ДЫ *прым*. Гняды. Буйн., Капц., Бок., Махн., Пруд. К., Жах., Пруд. М. *Булі ў нас гнéдые коні больш, вороных мало прокідалосо.* Стад.

ГОДУНЕ'Ц *м*. Свіння ва ўзросце да аднаго году. *Годунец у мене хорошы, звесно, кормлю молоком і хлебом.* Ляск.

ДО'ЙКА I *ж*. Сасок. Глін. П. *Трэба вазелінам дойкі памазаць, а то патрэскаліся.* Капц.

ДО'ЙКА II *ж*. Даёнка. Стах. *Учора Галі корова з рук выбіла дойку.* Глін. С.

ЕРШУЧО'К *м*. Першае цяля ад каровы. *Посьле ацёлу карова дзень раўла, ето ж у ее ершучок.* Слаб.

ЗАЛЫГА'ЦЬ *зак*. Узяць на повад (пра кароў). Буйн., С. Поле. *З хлева худоба не хочэ йці, покуль не залыгаю, не вуведу на вуліцу.* Стад.

ЗАПА'РКА *ж*. Запараная сечка. Стад., Лельч., Капц. *Карові намешала цэбер запаркі з картоплямі.* Жах.

ЗАПО'Р *м*. Адкорм (пра свінней). *Ек кабан стаў трохі есьці, то дзержу его ў запоры, а то на дворэ рыць почынае.* Стад.

ЗАПУСЦІ'ЦЦА *зак*. Запусціцца (пра карову). *Запусцілася корова, зноў трэба дзецям у суседоў молоко браць.* Стад.

ЗАТО'ЙВАЦЬ *незак*. Няпоўнасцю аддаваць малако (пра карову). Капц., Брын. *Ек не я дою, то корова затойвае молоко, маці моя ўжэ не вудоіць усе.* Стад.

ЗБРЭ'ЗКНУЦЬ *зак*. Скіснуць. Буйн., Махн. *Збрэзкло молоко, трэба сьвінням вуліць.* Стад.

ЗДЫ'ХАЛО *н. экспр*. Худая жывёліна. *Таке здыхало на заготжыўёлу і браць не хочуць.* Стад.

ЗНАЧЫ'ЦЬ *незак*. Быць цельнай. Капц., Буйн., Махн., Лельч., Верб., Цераб., Бял., Шал. *Ужэ корова добрэ значыць, скоро молоко свое будзе.* Стад.

ЗНЯ'ЦЦА *незак*. Бегаць, паляваць (пра кароў). Капц., Махн., Буйн. *Моя целіца першою пашою зняласа.* Стад.

ЗЯ'ПА *ж*. Пыса. *Вол сечку перэбіраў, бач, уся зяпа ў ёй.* Стад.

КАБУ'СІК *м*. Кабан ва ўзросце да году. Буйн., Слаб. *Кабусіка ўжэ біць можна, гладзенькі, ек лялька.* Стад.

КАЛЮ'ЧЫ *прым.* Бадлівы. *Мая карова, мабыць самая калючая ў чэрэдзе.* Пруд. М.

КАНЧА' *н.* Невялікі конь. *Німа ніякого каньчаці, але і ето ні конь.* Слаб.

КА'ЧУР *м.* Качар. С. Поле, Махн., Мялешк., Турб. *Одного качура можна будзе зарэзаць.* Стад.

КВОХТУ'ХА, КВАКТУ'ХА *ж.* Квактуха, якая водзіць куранят. Капц., Брын. *Возьмі квактуху запры ў куратнік, а то грэбе з курэнятамі на городзі.* Стад.

КЛЯ'ЧА *ж.* 1. Кляча. Буйн., Махн., Капц., Сял., Глін. П., С. Поле, Турб., Дар. *Не конь, а кляча ето, ты бач, вон ужэ й себе носіць не будзе.* Стад. 2. *перан.* Фізічна слабы, замучаны цяжкай працай чалавек. *Спрацоваўса чоловек, змарнеў, нічого ў ём немашэка, одным словом, кляча.* Стад.

КНЫР *м.* Кныр. Буйн., Стад., Капц. *Людзі цяпер кныроў не дзержаць, ето ж трэба, на село одзін кныр.* С. Поле.

КРЭ'СЛО, КРЭ'СЛА *н.* Прамежнасць паміж заднімі нагамі жывёліны. Буйн., Альгом., Махн., Бок., Сял. *У твого поцьвінка крэсло веліке.* Стад.

КУМСА'ТЫ *прым.* Бязрогі. *Што ўжэ ў Юшкох бачыла кароў кумсатых багато.* Шал.

КУРОСА'ДНЯ *ж.* Седала. *Ужэ куры на куросадні седзяць.* Бок.

КУ'ТНІ *прым.* Апошні зуб жывёліны. Тон., Лельч. *Бувае, што і ў худобіны кутніе зубы боляць.* Стад.

ЛА'ДЗІЦЦА *незак.* Даглядаць жывёлу. *Каровы йдуць, пайду ладзіцца да ў клуб пойдзем.* Коўч.

ЛАША'К *м.* Малады конь ва ўзросце да двух гадоў. Стад., Буйн., Лельч. *Зноў лашакі ў гарод ускочылі.* П. Гара.

ЛАШАЧО'К, ЛОШАЧО'К *м.* Малады жарэбчык. Стад., Руч. *От жа ўдаўсе лашачок у жарабца — і крошкі сабраў.* Шал.

ЛЕДА'ЧЫ *прым.* Лянівы. *Ледача карова, не наедаецца да абеда.* Бок.

МАЛО'ДЗІВА, МОЛО'ДЗЬВО, МОЛО'ДЗВО *н.* Малодзіва. Стад., Бабр., Капц., Бок., Махн., Коўч., Тульг. *Сегоні корова оцеліласа, так я молодзьва надоіла багата.* Ляск.

МАЛО'ЧНЫ, МОЛО'ЧНЫ *прым.* Пра цяля, парася, выкармленае малаком. Стад., Жах, Бок., Дар., П. Гара. *Відно, вашые поросята молочные, бо вельмо гладкіе.* Св.

МО'НЯ *н.* Малако (у размове з дзецьмі). *Мамо, дай мне моні, я шчэ сёдні не ела.* Тульг.

МУ'СА *ж.* 1. Пыса. Буйн., Капц., Брын. *Целя от ражкі мусу отворачвае, нешто долегае.* Стад. 2. *перан. абразл.* Твар чалавека. *Бач, екі гонорысты, мусу наставіць і не гледзіць.* Стад.

МУША'СТЫ *прым.* Мышасты. Пруд. К., Капц. *Мушасты конь буў моцны, а гнеды зусім не цягнуў.* Шал.

НАВО'ТНЫ *прым.* Пра жывёліну, якая першы раз пасвіцца ў статку. *Вот жэ й навотна карова, а ходзіць добрэ, гледзіць тавару.* Слаб.

НАГУ'ЛОВАТЫ *прым.* Упарты. Буйн., Махн., С. Поле. *От жэ конь попаўса нагуловаты, што хоч ему робі, а вон свое.* Стад.

НАДВО'РНІК *м.* Кабан, які не знаходзіцца на адкорме. Стад., Брын., Жах. *У мяне одзін кабан кормнік, а другі надворнік, а на іх і не відно, шчэ й надворнік лепшы на від.* С. Печы.

НА ДЗЕ'НЬ *прысл.* Пра адпасванне жывёлы, калі яе ўдзень не пnative яганяюць у хлявы. С. Поле, Кап., Буйн., Махн. *У Стодолічах, мабуць, усе чэрэды на дзень на пашу гоняць, а ў Сініцком Полі больш на ранкі пасуць.* Стад.

НЕ'ВУК *м.* Неаб'езджаны конь, вол. Стад., Буйн., С. Поле. *З етага невука добры вол вырабіцца, бач, як вон шчыруе.* Рыб.

ПАБІ'ЦЦА *зак.* Пакрыцца. Капц., Пруд. К. *Кабыла дайно пабілася, а вон ее ў плуг запрэгае. Бач, як вона шчыруе.* Капц.

ПАДНАЛУЗО'НЫ *прым.* Упарты. *У ярме паходзіць, такі падналузоны робіцца, што не згоніш з места.* Коўч.

ПАДСВІНЯ'КА *м.* Парася трох-чатырох месяцаў. *Я купіла сабе падсвіняку вельмі гладкого.* Крушн.

ПА'ПЛІЦКА *ж.* Вялікая палка, з якой пастух пасе жывёлу. Буйн., Капц. Махн., Слаб., Жах. *Добрай папліцкой вуганяў тавар ж жыта, мог там короў поўбіваць.* Стад.

ПА'РАНКА *ж.* Запараная сечка, мякіна з бульбай. С. Поле, Брын., П. Гара. *Перэд оцёлом паранкі не даём, урэдно корові.* Стад.

ПАЦЫ'РКАЦЬ, ПОЦЫ'РКАЦЬ *зак.* Падаіць. *Пайду карову пацыркаю.* Коўч.

ПА'ША *ж.* 1. Паша. Буйн., Капц., Коўч., Махн., Мялешк., П. Гара. *Кругом нашого села пашы хапае: му па-*

*сом і на болоці, і ў полі, і ў лесі.* Стад. 2. Падножны корм. Капц., Стад., Ляск. *Овечка любіць толькі полёву пашу.* Дар.

ПЕРАГАРА'ЦЬ, ПЕРЭГОРА'ЦЬ *незак.* Знікаць (пра малако каровы). Бок., Махн., Капц. *Перэгорае молоко ў корову, бо не прыганяюць у вобед у хлеву і не дояць.* Стад.

ПЕРЭЯЛАВЕ'ЦЬ, ПЕРЭЯЛОВЕ'ЦЬ *зак.* Перастаць быць ялавай. Буйн., Махн. *Короўка перэяловела, а потом побегала.* Стад.

ПО'ВАД *м.* Доўгая вяроўка, якой залыгваюць жывёлу. С. Поле, Капц., Брын., Стад. *Трэба ўзяць повада да залугаць корову.* Куч.

ПО'РАЦЦА *незак.* Даглядаць жывёлу. Стад., Лельч., Махн., Бок., Мялешк. *Трэба йці порацца, тавар ідзе з пашы.* Буйн.

ПОРО'СНА *прым.* Паросная (пра свінню). Буйн., Стад., Альгом. *Зноў сьвіня поросна.* Бок.

ПСЕ'ЙКА *ж. ласк.* Карова. *Мая псейка малака багата давала.* Слаб.

РАЗБІРА'ЦЬ, РОЗБЕРА'ЦЬ *незак.* Апрацоўваць (тушу жывёліны). Ляск., Стад., Брын. *Убіць кабана я змагу, а разбіраць не.* Капц.

РАХМА'НЫ, РОХМА'НЫ *прым.* Паслухмяны. Капц., Махн., П. Гара, Бок. *Вол навек рохманы бувае, ето не бугай.* Стад.

РОШНЯ'К *м.* Добра выкармлены кабан гадовага ўзросту. Буйн. *От рошняка вукормілі, вон ужэ і ўставаць не будзе, такі гладкі.* Стад.

СА'ЛЬНІК *м.* 1. Адкормлены кабан. Буйн., Стад. *Уб'ю сальніка да палавіну прадам.* Слаб. 2. Чалавек, які добра ўмее калоць і разбіраць свінней. С. Поле, Буйн. *Колісь мого бацька сам бацюшко зваў сьвіней розбераць, вон добры буў сальнік.* Стад.

СВІНЮ'ШНІК *м.* Хлеў для свінней. Буйн., С. Поле. *Возьмі мача да вукінь гной з сьвінюшніка.* Стад.

СІ'ВУ *прым.* Сівы. Стад., Буйн. *У нас конь буў сіву.* Пруд. М.

СКАБА' *ж.* Рабрына. *Карова рогам нізнула да скабу, мабыць, перабіла.* Катл.

СКЛА'ДАНЫ *прым.* Худы, змардаваны. *Купіла порося неке складанэ, грошы отдала, корміць нема чого.* Стад.

СПАРЫЖАВА'ЦЬ, СПАРЫЖОВА'ЦЬ *зак.* Паралі-

завацьь. Альгом., Капц., Буйн. *Ето ж так худобіну спарыжовало, што й не ўстае.* Стад.

СПОКЛАДА'ЦЬ *незак.* Спакладаць. *Творнікоў коновал спокладаў спраўно й добрэ, цепер такіе майсьцеры рэдко буваюць.* Турб.

СПРА'ЎНЫ *прым.* Здаровы. Стад., Буйн., Капц., Сял., Брын. *Ек жуйку жуе, то вона карова спраўна.* Куч.

СПУСКА'ЦЬ *незак.* Губляць малочныя зубы (пра карову). Куч., П. Гара. *Карова зубы спускае, бо прыела.* Брын.

СТА'ЎНЯ *ж.* Стойла. *Зажані карову ў стаўню.* Катл.

СТРЫГУ'Н *м.* Стрыгун. Жах., Стад. *Хадзіў у Западну* (Заходнюю Беларусь), *прывёў кабылу й стрыгунка, у нас коней пасля вайны не было.* Бок.

СЫ'САЧНЫ *прым.* Такі, які ссе матку. П. Гара, Брын. *Сысачнае цяля дзяржым, куры, кабан, стара карова.* Капц.

СЫСУ'Н *м.* Сысун, Стад., Брын., П. Гара, Буйн., Жах., Ляск. *Купіла парасят у Мікашэвічах, а яны шчэ сысуны, есьці нічога не ўмеюць, ат сьвіні нядаўна патнімалі.* Капц.

СЫ'ТЫ *прым.* Сыты. *Сыты тавар цяпер у колхозі, багато сілосу й сена наробілі, комбікорм даюць.* Стад.

ТАВА'РАЧЭ М'ЯСО *н.* Ялавічына. Капц., С. Поле. *Я таварачого м'яса не люблю, ем толькі сьвінячэ.* Стад.

ТРО'ЛЬСКІ БУГА'Й *м.* 1. Вялікі племянны бык немясцовай пароды. *У Будзі жыў пан, трольскіх бугаёў дзержаў на прыўязі.* Стад. 2. *перан., іран.* Здаровы мужчына, які пазбягае фізічнай працы. *Ходзіць по селе трольскі бугай, нічого ў рукі браць не хочэ.* Стад.

ТРЫБУХА'ТЫ *прым.* Трыбухаты. *Сохвеіна корова вельмі трыбухата.* Стад.

ХАРЧ *м.* Харч. Буйн., Капц. *Хіба такі харч корова будзе есьці.* Стад.

ХРА'ШЧЫК *м.* Страва са свіных вушэй. *Мамо, звары храшчыкоў.* Коўч.

ЦЕ'ЛЕСО *н.* Тулава чалавека або жывёліны. Буйн. *Вон хоць і молоды кабан, але добры, бач, еке целесо доўге.* Стад.

ЦЕ'ЛЬБУХІ *толькі мн.* Вантробы. Ляск., Брын., П. Гара. *Бугай ек запорваў, то чуць цельбухі не вувернуў.* Стад.

ЦЕ́ЛА-ЦЕ́ЛА-ЦЕ́ЛА! *выкл.* Воклічы, якімі падзываюць цялят. Стад., Буйн., Капц., Махн., Мялешк.

ЦІВЕНЯ′ *н.* Кураня. *Кура цівенята вувела, дак кот половіну перэловіў.* Стад.

ЦЫ′ЦКА *ж.* Каровін сасок. Буйн., Капц., Махн., Ляск., Дар. *У корову цыцкі потрэскаліса, трэба салом помазаць.* Стад.

ЦЭ′БЕР *м.* Цэбар. Стад., Брын., П. Гара, Ляск. *Карова сена наесса, а потом з цэбра нап'ецца.* Капц.

ЦЮ′НІК *м.* Малое парася. *А ў нас такі хорошэнькі цюнік, біленькі і вішчыць.* Глін. С.

ЧВУР *м.* Звярыная сцежка. *Тут заечы чвур, трэба петлейку поставіць, заец можэ ўлезці.* Стад.

ЧКЭ-ЧКЭ-ЧКЭ! *выкл.* Воклічы, якімі падзываюць свінней. Глін. С.

ЧЫ′СТЫ *прым.* Спакладаны (пра свінней). *Ек кабанчык чысты, то возьму, кнырца не хочу браць.* Буйн.

ЧЭ′РЭВО *н.* Чэрава. Буйн., Махн., Ляск., Глін. П., Капц. *Бач, свіня гукаецца, тры дні нічого не рэжэ дак і чэрэво путсукало, зусім перэхлябіласа.* Стад.

ЧЭРЭДА′ *ж.* Статак жывёлы. Махн., Ляск., Капц. Глін. П. *Заўтра трэба чэрэду гнаць на пашу.* Стад.

ШАЛАМЯ′ *н.* Жарабя. *А шаламя ад кабылы нікуды не адстае.* Слаб.

ШУМА′ *ж.* Дробнае сена. *Хлеў за зіму апусцеў, засталася толькі адна шума.* Сух.

Ю′ЦЬКА *м.* Парася ва ўзросце трох-чатырох месяцаў. *Я яму юцька-юцька, а той юцька ў карыта й не глядзіць.* Слаб.

## Умоўныя скарачэнні

Брагінскі раён: Катл. — Катловіца; Ельскі раён: Бабр.— Бабруйкі; Жыткавіцкі раён: Бял.— Бялёў, Рыб.— Рыбгас; Калінкавіцкі раён: Пруд. К.— Прудок, Сух.— Сухавічы, Шал.— Шалыпы; Лельчыцкі раён: Буйн.— Буйнавічы, Лельч.— Лельчыцы, Руч.— Ручное, С. Печы — Сярэднія Печы, С. Поле—Сініцкае Поле, Стад.— Стадолічы, Тон.— Тонеж; Мазырскі раён: Бок.—Бокаў, Жах.— Жахавічы, Кам.— Каменка, Крушн.— Крушнікі, Махн.— Махнавічы, Мялешк.— Мялешкавічы, Пруд. М.— Прудок, Турб.— Турбінка; Нараўлянскі раён: Верб.— Вербавічы, Св.— Свяча; Петрыкаўскі раён: Брын.—Брынёў, Глін. П.—Глінка, Граб.—Грабаў, Дар.— Дарашэвічы, Капц.— Капцэвічы, Куч.— Кучкі, Ляск.— Ляскавічы, П. Гара—Паляжач Гара, Слаб.— Другая Слабодка, Сял.— Сялюцічы, Цераб.— Церабень; Светлагорскі раён: Коўч.—Коўчыцы; Столінскі раён: Альгом.— Альгомель, Глін. С.— Глінка, Стах.— Стахаў; Хойніцкі раён: Тульг.—Тульгавічы.

17. Зак. 170

# ІНДЭКС

# ЗМЕСТ

**ЖИВОЕ СЛОВО**

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Рэдактар Н. М. Тарасевіч
Мастак С. М. Дзідэнка
Мастацкі рэдактар В. В. Саўчанка
Тэхнічныя рэдактары
Т. В. Лецьен, С. А. Курган
Карэктар Я. І. Бойка

ІБ № 621

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 31.01.78. Падпісана да друку 24.04.78. АТ 12085. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Друк высокі. Друк. арк. 9,0. Ум. друк. арк. 15,12. Уч.-выд. арк. 12,4. Тыраж 1940 экз. Зак. № 170. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.